№2 (105)
/сакавік-красавік/ 2020

ДЗЕ

дзеяслоў

ЗМЕСТ

Леанід Дранько-Майсюк



...Я шчаслівы, бо адразу
Да сябе займеў дарогу
І таму сваю паразу
Я лічу за перамогу...

# Давыд-Гарадок – Менск

***З кнігі "Полька беларуская"***

### *ДАВЫД-ГАРАДОК*

Васіль нарадзіўся ў Давыд-Гарадку,
І я нарадзіўся ў тым краі...
Як толькі прыедзем – глядзім на раку
Гарынь... А яна памірае...

### *ЗАМІЖ УСТУПУ*

Мой вечны Давыд-Гарадок...
Не лодка на беразе – днішча...
Я знаю цябе назубок
Ад Мэльнікаў[1] і да Хабішчаў[2].

З далёкай хрушчоўскай пары
Малы, а ўжо так самавіта,

У родным “кода́цкім” двары
Я думаў пра князя Давыда.

А школьнікам з бацькавых слоў
Убачыў, нібыта ікону,
На лесвіцы даўніх вякоў
Правіцельку слаўную Бону.

І цешыла вочы Гарынь,
І Сешка[3], і рэкі другія,
Што зніклі ў балотную стынь
З Няпраўдаю і Чартарыяй[4].

А кветак... Сем сотак гарод
З душой гаварыў урачыста,
І маці гароду штогод
Душу аддавала ўсю чыста.

І там, на Царкоўнай гары,
І тут, дзе Вірок[5] мой вірлівы –
Спачатку юнацкай пары
Сябе адчуваў я шчаслівым.

І гонкага дуба[6] насок
Заўжды кіраваў немінуча
На белы, як мліва, Пясок[7],
На прыкрую[8] Шкодзіну кручу[9].

І песняй пра вішню жывы,
Па вуліцы йшоў я Альшанскай[10];
Хадзіў ад царквы да царквы –
Ад Юраўскай і да Казанскай.

...Гавораць, што ты занябаў,
Глядзішся і квола, і сонна
Не ў рэкі, а ў рэшткі канаў –
Сталіца былога раёна.

Райкам пад бальніцай зачах,
І ў райвыканкаме бальніца...
Згасае, як дзень, на вачах
Былога раёна сталіца.

Вось думка мяне прывяла
К будынку ў гародзе квяцістым,
Тут колісь газета была,
І ў ёй працаваў Вярцінскі.

Тут колісь... А зрэшты няхай
Былое ў былым застаецца;
Любы асяродак і ўскрай
Татарскай далінай[11] здаецца...

Хай кажуць пра твой заняпад,
Аднак жа ў любым агародзе
Вядзецца парадак і лад,
І добра, што гэтак... І годзе!

*5 трайня 1981 г. – 22 верасня 2015 г., аўторак, 09 г. 51 хв.; Менск.*

## ГОРАД БОНЫ І ДАВЫДА

Горад Боны і Давыда –
І не горад, а нібыта
Зааконнае святло,
Што Гарынню прыплыло;

Засталося, занялося
Вечнай ранiцай у лёсе
І ў душы, на самым дне,
Цемраю не стане, не...

Стане радасцю жаданай,
Назаўсёды мне адданай,
Лодку знойдзе і вясло,
Бо гарынскае святло!

Свята дасць, і ў гэтым свяце
Любу з Васілём у хаце
Зноў убачу маладых
І сябе навек ля іх.

*2 кастрычніка 2015 г., пятніца, 16 г. 56 хв.; Менск.*

## КАРОВЫ

І не калгас, і не кібуц,
А проста неба – і каровы
На небе воблака скубуць,
І золак грае пурпуровы.

Ці бачу сон, ці чую звон –
І ў той ідыліі свавольнай
Заўжды – з Лявоніхай Лявон,
А Леанід заўсёды з Вольгай...

Калі ж мінецца гэты сон,
Адчую раптам асалоду:
Не мёд салодкі быў спакон,
А быў салодкі рух да мёду...

І ўбачу дым, і каміны,
І на няшчылкай гонце сажу,
І пастуха з той даўніны,
Калі каровы скублі пашу.

*2 лістапада 1983 г. – 5 кастрычніка 2015 г.,*
*панядзелак, 09 г. 08 хв.; Менск.*

## ДОЖДЖ

Якое шчасце дождж...
Уцеха, асалода...
Душа тады найбольш
Дабром жыве і згодай.

І одумам, які
У думанні празрыстым,
Бо гэты дождж такі,
Як слова кветка, чысты.

*22 ліпеня 2019 г., панядзелак, 11 г. 47 хв.; Менск.*

## Е́СЦЭКА

Як ты адзін – тады і мёд салодкі,
Рака глыбокая на даўжыню вясла,
А моц уся тваёй сасновай лодкі –
Дубовыя какоры і смала.

Як добра, што душу не разумее
Душа, пясок даводзячы да шкла...
І радасна, што е́сцэка[12] надзея –
Дубовыя какоры і смала.

*23 ліпеня 2019 г., аўторак, 14 г. 05 хв.; Менск.*

## ПЕТУНІЯ Ў ЛІПЕНІ

У ліпені петунія
Маім багата сном,
Бо ў гэтым сне прытулена
Да Вольгі з Васілём.

Адкуль яна? Адтуль яна,
Дзе сняцца жонка й сын...
У ліпені петунія
І Вольга, і Васіль.

*30 ліпеня 2019 г., аўторак, 14 г. 53 хв.; Менск.*

## ЯК РАЗ І ДВА

Аблічча-воблікі, напоўненыя сілай,
Жыццём багатыя, аднак штоміг
Ператвараюцца ў партрэты на магілах
Сваіх.

Таго ператварэння рух няўхільны,
Як раз і два, таму й лічы да двух...
З калыскавай прасторы ў кут магільны
Той рух.

*4 жніўня 2019 г., нядзеля, 02 г. 25 хв.; Менск.*

## З РАДАСЦЮ, НА НЕРВЫ ЎЗДЗЕТАЮ

Вашай музыцы і модзе я
Нават грош не пакладу...
Па Кірылы і Мяфодзія
На Зыбіцкую іду,
Ды не ў вашу чараду.

На Зыбіцкую-Гандлёвую,
Дзе ад гвалту кроў гудзе,
Нібы шкло сівагаловае,
Цень майго юнацтва йдзе.

А вакол надвор'е райскае,
Нікне прах былой віны,
І парэнчы моста Лаўскага
Па-над Свіслаччу відны.

Вось чаму зусім без мэты я
Захацеў у дзень такі
З радасцю, на нервы ўздзетаю,
Проста выйсці да ракі.

*6 жніўня 2019 г., аўторак, 13 г. 19 хв.; Менск.*

### *ВУГЕЛЬЧЫК*

А прышлае пакуль не страчана,
Рыхтуйся прышлае сустрэць;
Наперадзе чакае спадчына, –
Багатая на слова смерць.

Каму адпішаш тую спадчыну?
Як і не быў, мінае свет...
А з печы, з попелу гарачага,
Ляціць вугельчык на загнет.

Вазьмі ў далоні схаладзелыя,
Не ведаючы, што наўкол:
Ці безгалоўе цэлы дзень ліе?!
Ці снегам замятае дол?!

І не шукай, не знойдзеш ісціны,
Аднак жа пасвятлей душой:
Вугельчык, што ў далоні сціснуты, –
Ён з роднай печы, не з чужой.

*11 жніўня 2019 г., нядзеля, 13 г. 13 хв.; Менск.*

### *ЛЮБА І ВАСІЛЬ*

Між Украінай і Расіяй,
А Польшчу маючы наводдаль,
Шукаў я словы, – толькі тыя,
Што беларускі мелі водар.

Я словы родныя знаходзіў
У цёмнай бацькавай адрыне,
У светлым матчыным гародзе,
На Прыпяці і на Гарыні...

І кожны раз лагодна, люба
І радасна, і васількова
Часцей гучала слова Люба,
Часцей Васіль гучала слова.

*14 жніўня 2019 г., серада, 02 г. 20 хв.; Менск.*

### *РЭШТА*

Я майстэрствам авалодаў,
А яно, хоць еж салому,

Як збуцвелая калода,
Непатрэбная нікому.
Падказаць магу я нешта
І для явы, і для казкі,
Ды нікому, бачу, зрэшты
Непатрэбныя падказкі.

Лепш за ўсіх па-беларуску
Ткаць я словы навучыўся,
Ды за гэта на закуску
Костка мне ў глінянай місе...

Калі раптам знікну з дому,
Будзе горка безупыну
Толькі жонцы, толькі сыну, –
І нікому больш, нікому.

*3 верасня 2019 г., аўторак, 11 г. 53 хв; Масква.*

## НЕ ТОЕ СЛОВА

Не тое слова ціснуў,
Калі быў малады, –
А прыкра, непамысна
І ў гэтыя гады.

Душа мая гатова
Змяніць яго, аднак...
Ах, слова, тое слова,
Ужытае не так.

*8 верасня 2019 г., нядзеля, 19 г. 57; Менск.*

## НЕДУША ПЕРАМАГЛА ДУШУ

Недуша перамагла душу, –
Адбылося тое, што й заўсёды...
Качкам родным хлеба накрышу,
Свіслацкай глынуўшы прахалоды.

Свет душы спрыяе толькі ледзь,
Недушу ўздымае як найвышай...
От жа дзіва, гэта зразумець
Здолеў я, на пенсію як выйшаў!

А спакон карціна тут адна –
Парабчанкаю душа рве жылле!

...Буракі палола дацямна,
А за працу ёй не заплацілі...

Недуша не жне і не арэ,
З нашай і чужое смокча нівы;
Чайкай-крычкаю валлё дзярэ,
Крадзе хлеб у качак палахлівых.

*4 лістапада 2019 г., панядзелак, 18 г. 13 хв; Менск.*

## ІСЦІ ПА ГАРЫНІ

Лагодным становіцца сонца,
І кроў, як раней, не кіпіць...
Шаленцам ці нейкім шалёнцам
Не хочацца восенню быць.

А хочацца ў бацькавай лодцы,
Якая пад плотам згніла,
Ісці па Гарыні бясконца
Услед за вадой – без вясла.

*5 верасня 2017 г., аўторак, 11 г. 46 хв.; Менск.*

## ІНАКШ НЕЛЬГА

Цябе згадае толькі свой,
Чужы ніколі не згадае...
Па-над блакітнаю царквой
Хмурынка свеціцца рудая.

Чужых навокал – не прайсці...
Сваіх – два чалавекі толькі,
Таму й пільнуешся ў жыцці
Святла ад Васіля і Вольгі;

Пільнуешся прасторы той,
Якая сэрца шчасцем раніць,
І Гарадок Давыдаў твой
Тваю не адпускае памяць.

Глядзі: стаіць над галавой
Заўсёды вечнасць маладая,
А над блакітнаю царквой
Хмурынка свеціцца рудая.

*6 лістапада 2019 г., серада, 16 г. 19 хв.; Менск.*

## *УРЭШЦЕ*

Я прайграў, – і з пройгры гэтай
Засталося толькі выпіць,
На Гарынь зірнуўшы гэтак,
Каб аж зазвінела Прыпяць!

Вынік радасці ўчарашняй
Сэрца ведае і знае...
Абмялела Прыпяць страшна,
І Гарынь перасыхае!

Лёс ідзе сваёй дарогай
У заўсёдным руху-спешцы...
П'янячыся перамогай,
Соладка прайграць урэшце.

Я шчаслівы, бо адразу
Да сябе займеў дарогу
І таму сваю паразу
Я лічу за перамогу.

*22 лістапада 2019 г., пятніца, 17 г. 14 хв.; Менск.*

---

[1] Мэльнікі – народная назва ў Давыд-Гарадку вуліцы Калініна і наогул мясцовасць на левым беразе Гарыні.
[2] Хабішча – урочышча на паўночным усходзе ад Давыд-Гарадка.
[3] Сешка – правы прыток Гарыні, цяпер возера.
[4] Няпраўда, Чартарыя – дзве назвы адной ракі, якая знікла.
[5] Вірок – яшчэ адна рачулка, якая знікла.
[6] Дуб – лодка.
[7] Пясок ("Пасо́к") – мясціна на правым беразе Гарыні.
[8] Прыкрая – крутая.
[9] Шкодзіна круча – мясціна на правым беразе Гарыні.
[10] Альшанская – народная назва Савецкай вуліцы.
[11] Татарская даліна – урочышча на поўдзень ад Давыд-Гарадка.
[12] Есцэка (давыд-гарадоцкае) – ёсць.

проза



Генрых Далідовіч



...чуецца покліч роднага вечавога звона...

# Каранацыя

***Раздзел з другой часткі рамана “Кліч роднага звона”***

*Светлай памяці Міколы ЕРМАЛОВІЧА*

## Уступнае, або Штрыхі да ідэалогіі, нашай гістарычнай памяці і свядомасці XX ст.

...У першай палове 1960-х Рыгор Семашкевіч паспрыяў мне, студэнту, стаць чытачом беларускага аддзела Дзяржаўнай бібліятэкі (“ленінкі”). Паколькі кожны стол у зальцы быў замацаваны за заўсёднікам-навукоўцам, то я з заказанай падшыўкай “Нашай Нівы” ўсядаўся на тое крэсла, што было часова вольнае. Заяўляўся мэтр-гаспадар – сыходзіў пад суровым позіркам таго, прыладкоўваўся каля стала ці падваконніка ў калідоры. Маё зайцаванне не мог не заўважыць амаль штодзённы наведнік – пажылаваты мацак, але ў акулярах з тоўстымі лінзамі. Мікола Ермаловіч.

Ён зацікавіўся, чаму я вывучаю менавіта тое выданне.

А мяне натхніў Рыгор Семашкевіч напісаць дыпломную “Станаўленне новай беларускай прозы пачатку ХХ стагоддзя” (мой допіс, прысвечаны 60-годдзю газеты і дасланы ў “ЛіМ”, не надрукавалі, даслалі П. Глебку на рэцэнзію, а той паклаў яго спаць у сваім архіве. Тэму дыпломнай не зацвердзілі дый неўзабаве ад мяне адабралі чытацкі білет). Паколькі завабіла і паэзія, яркая публіцыстыка, то за месяц з хвосцікам пасля заняткаў і да закрыцця бібліятэкі здолеў пагартаць нумары газеты толькі за гадоў пяць, а прачытаць цікавыя публікацыі за меншы адрэзак часу.

Але які быў той месяц! Я меў шанец слухаць начытанага і захопленага роднай даўніной рупліўца ў перапынку яго працы, праводзіць да вакзала, пасядзець на лаўцы ў скверыку. Тады веды па старажытнасці Беларусі нават у большасці нашай інтэлігенцыі былі павярхоўныя: яе гісторыя ў 1930 – першай палове 50 гадоў у школах не вывучалася. Што вось я пазнаваў у школе з падручнікаў? Тое-сёе пра нейкія Егіпет, Вавілон, Асірыю, Урарту, Грэцыю, Рым, а найменні “полаўцы” і “палачане” блытаў. Ды ўспрымаў такую гістарычную лінію: Русь – Маскоўская дзяржава, Расійская імперыя – СССР. З 1958 г. старэйшым сучаснікам ужо можна было пазнаёміцца з двухтомнай “Гісторыяй Беларускай ССР”, напісаную ў пражэктарным святле сталінскай “Гісторыі ВКП (б). Кароткі курс”, дзе, як і ў з’яўленым нарэшце школьным падручніку, на першай скрыпцы іграў Л. Абэцэдарскі. Ён выкладаў у нас на першым курсе. З яго лекцый мы павінны былі запомніць як табліцу множання: сённяшняя Беларусь – заходняя частка былой Русі, яе, тую часціну, у 1230–40-я заваявалі літоўскія феадалы, пазней – польскія. Дзякуючы падзелам Рэчы Паспалітай, наш народ быў выратаваны ад чужаземных прыгнятальнікаў і паланізацыі, ажыццявіў спрадвечную мару ўз’яднання з братнім рускім народам. Яно мела прагрэсіўнае значэнне: церпячы ад царызму, наш непісьменны край тым не менш далучыўся да вялікай культуры. Савецкая ўлада вызваліла ўсе народы, рабочых і сялян Расійскай імперыі, ад эксплуатацыі паноўнага класа, а ў нас разграміла контррэвалюцыю, беларускіх буржуазных нацыяналістаў, што хацелі прадаць наш родны край польскім панам, па-ленінску справядліва вырашыла нацыянальнае пытанне і ўпершыню дала нам дзяржаўнасць...

Дык вось, ад Ермаловіча на такое пачуў: гэты гісторык здольны, дасведчаны, але згадзіўся быць ідэалагічным наглядчыкам. А што да бальшавікоў, то яны, бясспрэчна да рэвалюцыі звярнулі ўвагу на нацыянальнае пытанне, як яны гаварылі, “у турме народаў”. Пасля прыходу да ўлады абвясцілі наконт яго сваю Дэкларацыю. Толькі зусім не патлумачылі, як яна будзе ажыццяўляцца. Час паказаў: гэта быў тактычны ход. З утварэннем асобных нацыянальных рэспублік бальшавікі неўзабаве злучылі іх у СССР. У ідэалогіі, у Канстытуцыі сцвярджалася ўсіхная самастойнасць і раўнапраўнасць, нават права выхаду іх з агульнага складу, а ў жыцці хутка ніякай самастойнасці рэспублік не стала: камуністычны дыктат і манаполія на ўладу, жорсткі рэпрэсіўны апарат сцвердзілі сталінскую, імперскую па-сутнасці мадэль беспярэчнага падпарадкавання іх, рэспублік, Цэнтру. Асабіста Сталіну, у каго, партыйнага лідэра, мо не мелася вялікіх канстытуцыйных правоў, але рэальнай моцы было болей, чым у Мікалая ІІ. Сфера ўжытку нацыянальных моў была строга рэгламентаваная, асабліва ў славянскіх Украіне і Беларусі. У час хрушчоўскай пабудовы “коммунизьма” прагучаў заклік для яго, светлага будучага, стварыць у СССР адну ўсесаюзную мову. На поўным сур’ёзе меркавалася кожнай рэспубліцы выдзеліць пэўную колькасць слоў для такога незвычайнага гібрыда. Пасля ўразумення абсурднасці павялася лінія на згортванне і з тых, вузкіх, сфер карэнных моў (у Арменіі, Грузіі іхняя мова па рэспубліканскім заканадаўстве была дзяржаўнаю. Калі ад Грузіі запатрабавалі апусціць гэты пункт, то там абураны народ выйшаў на маніфестацыі, і ранейшы статус мовы мусілі пакінуць). Затое асабліва паслужліва ўзяліся пад маркай інтэрнацыяналізму адусюль выжываць беларускую мову кіраўнікі нашай рэспублікі, каб вызначыцца і першымі ўбегчы ў

камунізм найперш з тэхнікай, бітонамі малака і кумпякамі. Наш люд недааценіў свой божы дар, не прадбачыў пагрозы сваёй будучыні. Не толькі пасля вайны, але і ў 1950 – 60-я гады вясковыя беларускамоўныя насельнікі масава хлынулі ў гарады, але не абеларусілі іх, як аблітовілі Вільнюс літоўцы: нашы сціплыя і выхаваныя не ў нацыянальным духу Ганусі і Петрусі засаромеліся ад таго, што яны "дзярэўня", пачалі ва ўсім перавучвацца на гарадскі лад. У гутарцы – на трасянку, з яе – на рускую з акцэнтам ці без яго, граматычна правільна, але абеднена, без сакавітасці багатага рускага слова.

Паступовa многія былыя вяскоўцы не толькі асвоілі прафесіі прыбіральшчыц і прадаўшчыц, слесараў, шафёраў ці будаўнікоў, але і "выбіліся ў людзі": атрымалі вышэйшую адукацыю, сталі спецыялістамі ў розных галінах, пачалі вылучацца на значныя пасады (з часам трапілі ва ўрад і ЦК), абараняць навуковыя званні. Як вядома, пры паласканні залатаноснага пяску застаюцца крупінкі каштоўнага металу, а пры пастаяннай адпаведнай прамыўцы мазгоў нацыі, вытрасання з іх гістарычнай памяці, роднай мовы і культуры сфармаваўся адмысловы тып вузкапрофільнага, без культурнага дапаўнення тып люду, названы ў нас "савецкімі беларусамі". У гэтай катэгорыі грамадзян, нават у інтэлігенцыі быў звужаны светапогляд, страчвалася арыентацыя ў каштоўнасцях, свядомасць фармавалася "з выканання задач партыі", г. зн. патрэб рэчаіснага дня. Беларусь успрымалася як пэўны, даволі развіты эканамічны рэгіён з дбайнымі працаўнікамі. З набыццём незалежнасці, прэзідэнцтва зноў жа найперш ў нас савецкі стыль мыслення, кіраўніцтва, пагардлівых адносін да нацыянальнага, савецкія сімвалы не толькі захаваліся, але і пасля невялічкага павароту на нацыянальную ідэю вярнуліся на кругі свае ды пачалі раскашаваць. Але грамадства ўсё ж змянілася. І са старэйшага пакалення, і многія маладыя зразумелі патрэбу перамен, убачылі: для аб'яднання, ажыўлення грамадства ідэалогія ў нас засела-зацыклілася на далейшым выкарыстанні ўслаўленні Перамогі 1945-га і прапаганды спорту. Гэта – бясспрэчна, але патрэбныя і іншыя сродкі, матывы. Хіба пра такую цяперашнюю Беларусь з лічаным беларускім марылі лепшыя сыны нашага народа, а хтосьці беручы ўдзел у паўстанні супраць царызму ды ідучы на верную пагібель? А нацыянальныя і сусветныя класікі літаратуры Янка Купала і Якуб Колас? Скажам, Купала да рэвалюцыі пакутаваў: "Над беларускай беднай хатай, Як полка вырвана з труны, Вісіць чужы сцяг, а трымае Хто? – Беларускія сыны" (полка – кавалак тканіны). І яшчэ з Купалы: "Ўсё саюзы ў беларусаў, Ўсё апекуны... А ўсё "истинным тым духам" Смярдзіць..." Звяртаючыся да землякоў-дэпутатаў, якія ў расійскай Думе дбалі не столькі пра родны край, а падыгрывалі царызму, ён клікаў да прыстойнасці, патрыятызму, клопату пра прыгнечаных: "Пасаромся, дэпутаце... Ты ж другой, кром Беларусі, Не павінен мець айчызны"...

...У гарбачоўскую перабудову крытыкі "сталінска-брэжнеўскай каманднай сістэмы" ўбачылі: менавіта нацыянальнае пытанне, патрабаванне большай самастойнасці рэспублік таксама сталі тым гаручым, што ў некаторых частках СССР успыхнула і напружыла, нават часткова падарвала трос прывязі да Цэнтра. А калі новаўладцы напужаліся і прыбеглі да сілы, стала ясна: яны не столькі за карэнныя рэформы, колькі за рэтуш былога. А з гэтым штосьці адно: дыктатура ці прывязь трэсне. Трэці выбар шляху будзе зацяжны і цяжкі. Аднымі з першых юрыдычна абгрунтавана і па-грамадзянску настойліва пакінулі саюз-імперыю вальналюбныя, з моцным пачуццём нацыянальнай годнасці прыбалты. Па ініцыятыве Б. Ельцына ў Віскулях была пастаўлена кропка ў распадзе СССР. Прэзідэнт Расіі стаў наватар: ад імя сваёй вялікай дзяржавы ўпершыню згадзіўся гарантаваць права кожнай рэспублікі на сапраўднае самавызначэнне. Такога раней нават Венгрыі, Чэхаславакіі, Польшчы і інш. не дазвалялі ды яшчэ ўмешваліся ў справы Афганістана... Але заўзятары СССР рэзка асуджаюць Ельцына за

“здрадніцтва”, а некаторыя – ужо нават і Леніна з паплечнікамі за тое, што пачалі дзяліць вялікую дзяржаву...

Ермаловіч, як і яшчэ адзін выдатны даследчык даўніны, В. Чамярыцкі, пачынаў сваю творчасць як літаратуразнаўца. Але абодвух павабіла багіня Кліо, яе сяброўка ў беларускай вышыванцы. Апошняя натхніла займацца дбайным вывучэннем старажытных усходнеславянскіх і суседніх летапісаў і хронік, даўно напісаных на іх аснове гістарычных прац ды заклікала да рыцарства, без ідэалагічных перакрутаў у іх асвятленні. Ермаловіч задумаў вялікае даследаванне з новым аналізам прыходу дрыгавічоў, крывічоў, радзімічаў і іхнюю сустрэчу з балтамі, пра ўзвышэнне Полацка, яго супрацьстаянне з Ноўгарадам і Кіевам, пра выйсце на арэну Панямоння і Літвы, утварэнне ВКЛ – г. зн., узяўся з чароўным ліхтаром самому прайсціся па нашых землях у пракаветным часе, пасля запыніцца ў IX-XIII стст. і сваімі вачыма зірнуць на іхнія былыя, цяпер паўзабытыя ці наўмысна прыхаваныя, а то і як след неацэненыя здабыткі.

Нават яшчэ сёння, скажам, пра такую выключную не толькі для нас (а і для сагаў вікінгаў, візантыйскіх, нямецкіх хронік) з’яву, як Полацкае княства, можна пачуць і прачытаць скептычна выкрутлівае: ды там князі не столькі дбалі пра яго дзяржаўнасць, колькі пра сваё дынастычнае права. Значыць, па-гаспадарску асвоеная немалая зямля, гандлёвая справа і сувязь з купцамі іншых краінаў, казна, вайсковая арганізацыя, суд, культура аніяк не сведчылі пра закладак яе, дзяржаўнасці? Як вядома, полацкае веча доўгі час мела вырашальнае слова, нават магло мяняць князёў або не вылучаць ім сродкі на пэўную справу. То няўжо яно пацярпела б, каб князь дбаў толькі пра сябе? У такога буйнага аўтарытэта па веданні ўсходнеславянскай старажытнасці, як Дз. Ліхачоў, чытаем чорным па беламу пра “полоцкий сепаратизм”: ён, дакараў вучоны, замінаў аб’яднанню Русі. Нават М. Карамзін, ухваляючы “необходимость самовластья – И прелести кнута” (А. Пушкін, першапачаткова) і гаворачы пра дачыненне варагаў да ўтварэння Русі, пра заняцце імі ў час паходу на Кіеў крывіцкага Ізборска, тым не менш мусіў рэалістычна зазначыць: “Смоленск, населенный также кривичами, и самый Полоцк *оставались еще независимыми и не имели участия в призвании варягов*”. Неабходна тлумачыць выдзеленыя мной радкі? Тым больш, што вялікі князь кіеўскі Уладзімір праявіў хрысціянскую міласэрнасць: вярнуў захопленаму Полацку незалежнасць і паслаў туды княжыць старэйшага з Рагнедай сына Ізяслава, каб ён дапоўніў яе, самастойнасць, сваёй дынастыяй. А сын Яраслаў пасля пераадолення спрэчкі з пляменнікам Брачыславам, а пазней і з яго сынам Усяславам да смерці быў з Полацкам не ва ўяўным, а раўнапраўным саюзе. Каб тое ўменне Яраслава без падману, па-сапраўднаму ў няпростыя часіны саюзіцца прыжылося, то мо зусім іншая была б тая, першая, на аснове Ноўгарада і Кіева, Русь. Але ўжо яго сыны гэтую здольнасць неразумна, са сваімі амбіцыямі, праігнаравалі...

У савецкі час кожнаму з нас самому спазнаць не прыдуманую, а сапраўдную старажытную гісторыю Беларусі, паўтаруся, было няпроста. На гістфаку (мая жонка завочна скончыла яго, то і я пры ёй прайшоў пэўны курс) хоць арыентавалі на гістарычныя крыніцы і цяперашняе іхняе месцазнаходжанне, на ранейшыя і новыя даследаванні іх. Радавому чытачу было б вельмі спадручна, каб, скажам, тады ў нас хоць перавыдалі тыя тамы з поўнага збору летапісаў, што датычаць нашага мінулага (як “Беларускія летапісы і хронікі”. Мн., 1997). Каб яшчэ перавыдалі хоць тагачасны пераклад на старабеларускую мову “Хронікі польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсёй Русі” (1582) М. Стрыйкоўскага – першага гістарыёграфа ВКЛ, які ўжыў ці не 15 тых летапісаў, што пазней па нейкіх прычынах зніклі. Такі спіс можна доўжыць і доўжыць. Хай бы тыя працы выходзілі і са звышідэйнымі каментарыямі, абы былі пад рукамі. Разумны ды дакумекаўся б да разумных высноў. Так рабілася ў іншых рэспубліках. У нас – не. Такіх перавыданняў не дапускалі. А забароненыя

працы з выразнай нацыянальнай канцэпцыяй (В. Ластоўскі, М. Доўнар-Запольскі, Ус. Ігнатоўскі і інш.) калі і можна было ўпамінаць, то толькі ў адмоўнай ацэнцы. Зрэшты, тады і ў Маскве, дзе больш дазвалялася, тым не менш не перавыдавалася “Гісторыя...” М. Карамзіна, з якой таксама можна было тое-сёе пазнавальнае зачэрпнуць. Яе, заказаную царом Аляксандрам І для ўслаўлення імперыі на чале з ім, лічылі не патрэбнай камуністычнай ідэалогіі з-за яе “дваранска-манархічнай накіраванасці”, паколькі там расповед пра гістарычныя працэсы вёўся ад аднаго вялікага князя, пазней цара, да наступнага і “не была адлюстраваная роля працоўных мас”. Сапраўды, глыбока не была асвечаная: князі заказвалі, аплочвалі летапісанне пра сябе, любімых (пры перапісе былога напісанага новыя ўладары часам загадвалі мяняць ацэнкі папярэднікам, каб узвысіць сваё імя. Аляксандр І, паколькі Карамзін пачаў пісаць дзяржаўную гісторыю не з яго, а з глыбокай першабытнасці, страціў да зацверджанага ім афіцыйнага гістарыёграфа інтарэс). Многае ў гісторыі сыходзіць, але многае і паўтараецца. Было, у СССР славілі выбітных з простага народа, але няўжо не найперш для таго, каб уславіць лад-рэжым і яго правадыроў? Хіба поспехі нават у спорце не падаваліся як перавага сацыялізму? Ці нечага было мала, ці нечага было замнога, але і ўсё лепшае ў СССР не ўтрымала яго. Толькі багата ў каго абуджае настальгію па “беднаватым, але вясёлым часе...”

Сёння, калі ўжо з’явілася нямала змястоўных і праўдзівых публікацый, кніг пра розныя часы Полацкай і Тураўскай зямель, ВКЛ, імя М. Ермаловіча гучыць ужо не так эмацыянальна (некаторыя аступененыя навукоўцы нават па-снабісцку пстрыкаюць яму за неакадэмічны стыль, за асобныя надумкі). А тады... Ён, інвалід па зроку, ужо з 36 гадоў пенсіянер з маленькім акладам і рэдкімі невялікімі ганарарамі, ды, запалонены багіняй Кліо, як на працу ездзіў з Маладзечна ў Мінск, а таксама і ў Вільню, Маскву, Ленінград, Львоў у бібліяткі, архівы. І, шчырэц, дзяліўся са знойдзеным, даверліва даваў чытаць іншым сваё, забракаванае ў рэдакцыях, пазней са здзіўленнем бачачы, што некаторыя тое-сёе канцэптуальнае адшчыквалі з яго напрацовак ды падавалі як імі спазнанае. Часам шчыраваў на літвечарынах і канферэнцыях. Паступова светлыя душой прызналі яго за “ходкую энцыклапедыю”, асочнікі партыйнай павуціны – “идеологически невыверенным”. Напрыканцы 1960-х ён азадачыў найперш археолагаў нібы нейтральным пытаннем: была Літва, але дзе тая, засведчаная ці не з 1009-га ў летапісах? І з некаторымі меркаваннямі прарваўся на старонкі часопіса “Полымя” і “ЛіМа”. Нават у БелСЭ, што пачала выходзіць з 1969-га і, як было напісана ў прадмове першага тома, мае на мэце “стварыць выданне, вартае народа, які мае багатую і слаўную гісторыю, гераічную сучаснасць і разам з усімі братнімі народамі СССР паспяхова будуе камуністычнае грамадства”. Тут галоўны рэдактар, П. Броўка, як гаворыцца, ва ўсёй красе. Энцыклапедыя была празмерна перанасычана артыкуламі пра марксісцка-ленінскую навуку, манаграфічнымі выкладкамі пра ўсе партыйныя з’езды КПСС і КПБ, пра нічым не знакамітых, апроч сваіх пасад, функцыянераў, але ўсё ж і такая патрэбна была. Уладны Броўка пры падтрымцы П. Машэрава абсек спрэчкі закасцянелых у ідэалогіі і з новым мысленнем гісторыкаў, літаратуразнаўцаў, змусіў шукаць “сярэдзіны”: інакш з 12-томнай энцыклапедыі не пабачыў бы свет і першы. 50 на 50 не выйшла, перамагла ярлыкова загартаваная і няўступлівая сталінская школа (саступіш, то што ад твайго застанецца?). Але многія з іх былі баязліўцы: калі кагосьці фальшыва абвінавачвалі, скажам, за нацыяналізм (В. Ластоўскі, Я. Лёсік), то сваё ганебнае аўтарства ўтойвалі.

Тым не менш свяжэй было ацэнена значэнне Полацкай зямлі (маскоўскі гісторык Л. Аляксееў не пагрэшыў, навукова дакладна вызначыў яе як “адно з самых стараж. усх.-сл. княстваў”, такім чынам прызнаўшы яго ўласны след па цаліку з зацемненых часоў). У ацэнцы ўмоў узнікнення, грамадска-палітычнай дзейнасці ВКЛ засталася старая схема, але па раздзелах “культура і асвета”, “гістарыяграфія” можна было пераканацца: не ў такой ужо беспрасветнай цемры

жылі нашы продкі і не былі ўсе дзікія, непісьменныя, а маглі і ў цывілізаванай Заходняй Еўропе бліснуць розумам і ведамі. Больш за два стагоддзі знаходжання нашых продкаў у складзе Рэчы Паспалітай таксама падавалася толькі як іхняя змрочная нядоля на захадзе сонца, таму яны падалі на калені, складалі рукі і малілі, каб яно, свяціла нябеснае, ашчаслівіла іх усходам...

Мусіць, каб не літоўскі гісторык П. Маргявічус, то не было б у БелСЭ ухвальнай ацэнкі дзейнасці такой буйнай асобы ВКЛ, як яго вялікі князь Альгерд (каля 1296–1377), які за 32 гады кіравання больш паўдзясятка гадоў адбіваў крыжацкую агрэсію, ужо з 1351-га супрацьстаяў Ардзе, а ў 1363-м разбіў тумены яе васалаў на Сініх Водах і наблізіў межы ВКЛ да Чорнага мора. Павялічыў тэрыторыю дзяржавы ўдвая і зрабіў яе значнай ва ўсёй Еўропе. Не дазваляў Польшчы пасягаць на Валынь і Падляшша. Яшчэ да гонару літоўскага гісторыка тое, што ён прызнаў тагачаснае дамінаванне славянскай культуры ў ВКЛ і дзяржаўнасць у ёй старабеларускай мовы. Бясспрэчна, нашы апалагеты сталінскай канцэпцыі больш распісалі б у цёмных фарбах іншае Альгердава. Той бачыў, што ўнук Дз. Данскога Іван I (Каліта; ? – 1340) “заложил основы политического и экономического могущества Москвы” (“Советский энциклопедический словарь”, М. 1979). Альгерд палічыў патрэбным не даць развіцца гэтым асновам і ўчыніў ваенныя паходы на Маскву. М. Карамзін іх ацаніў так: “Хищный Ольгерд устращал... всю Россию”, “Россия опасалась быть жертвою литовского завоевателя”. Зразумела, апалагеты не звярнулі б увагі на падкрсленае ў “Хроніцы...” (кніга XII, раздзел III) М. Стрыйкоўскага: Альгерд апярэджваў намеры Маскоўскага княства захапіць Віцебск, Полацк і Кіеў. Адным словам, палітычны канфлікт паміж старэйшым ВКЛ і маладзейшай Маскоўскай дзяржавай перарос у ваенны. І пры Альгердзе не вырашыўся. Але і таго хапае, каб сёння некаторым у Віцебску быць супраць помніка Альгерду, хоць той быў не толькі жанаты з віцебскай князёўнай Марыяй, але і пэўны час узначальваў Віцебскае княства і мацаваў яго. Адпаведна, мае высакародныя заслугі перад Віцебскам. Зусім не такія, як для беларускай зямлі П. Румянцаў-Задунайскі, А. Сувораў, І. Паскевіч. Слоў няма, гэта – вялікія палкаводцы. Ды яны спачатку сваім майстэрствам, сілай зброі скаралі, апустошвалі наш край, а потым, займеўшы тут мноства зямель і люду, задавольваліся сытым жыццём як памешчыкі-прыгоннікі...

Пра адну з самых буйных асоб ВКЛ усіх часоў, Вітаўта, змясціў нататку ў БелСЭ Ермаловіч. Але, што мяне здзівіла, сумесна з якімсьці суаўтарам. Калі я запытаў, чаму так, ён адчайна замахаў рукамі: ды “падсунулі без майго ведама”, каб той “многае перапісаў”. Пераказваць тое надрукаванае няма жадання. Тым больш, што сёння ўжо нашымі навукоўцамі, пісьменнікамі выразна асвечаны як подзвіг, так і драматычны лёс Вітаўта, які мог загінуць па задуме стрыечніка, бацькавага губіцеля Ягайлы, ды ратаваўся раз-другі ўцёкамі да крыжакоў. Хоць і перайшоў там у каталіцтва, хадзіў з крыжакамі разам у паход, перадаваў тым Жамойць, але не мог ніколі стаць ім паслугачом, падняў на іх меч, за што тыя найперш загубілі яго сыноў-заложнікаў. З-за крыжацкай пагрозы польскія магнаты запрасілі моцнага вялікага князя ВКЛ Ягайлу на каралеўскі трон, згадзіліся не толькі на яго прымірэнне з Вітаўтам, а і з тым, каб апошні стаў з 1392-га пажыццёвым гаспадаром ВКЛ. На той час быў асабліва неабходны гэты трывалы саюз. Паступова два гэтыя ліцвіны ўключыліся ўжо ў еўрапейскія справы.

Умацаваўшыся ў ВКЛ шляхам ліквідацыі ўдзельных княстваў і пасылаючы ў іх сваіх людзей, Вітаўт не абмежаваўся бацькоўскім клопатам пра абарону ад крыжакоў, а, як і дзядзька Альгерд, па сваёй дзяржаўнай логіцы апярэджваў пагрозу з усходу. Валодаючы аналітычным розумам, глыбока разлічваў, калі, дзе і што ўчыніць па ўзмацненні сваёй дзяржавы і аслабленні суседняй. Была магчымасць пашлюбіць дачку з маскоўскім вялікім князем і мець на яго ўплыў (як пазней на ўнука-бязбацькавіча) – скарыстаўся, але гэта не замінала яму пакласці вока на

Ноўгарад, заваяваць Смаленск, падтрымліваць цвярскіх, разанскіх князёў супраць зяця і яго сына. Больш – яго амбіцыі сягалі яшчэ вышэй: вырашыў умяшацца ў справы Арды, паставіць там вялікім ханам свайго стаўленіка Тахтамыша з тым разлікам, што той дасць яму ярлык на ўсю Русь. Бітва з ардынцамі ў 1399-м на Ворскле была прайграная і сарвала гэтыя грандыёзныя задумы. Але не ўсе: ход вайны з маскоўскімі сваякамі скончыўся тым, што Вітаўт прасунуў мяжу сваёй дзяржавы да ракі Угра. Нялёгкая была планіда Вітаўтавай дачкі, вялікай княгіні маскоўскай Соф'і. У пэўным сэнсе яна разрывалася паміж любімым бацькам і мужам Васіліем І, сынам Васіліем ІІ і баярамі, не раз мірачы іх. Пасля мужавай смерці некаторы час была на чале княства, разам з прыхільнікамі асаджвала ад прэтэнзій на ўладу швагра, яго трох сыноў, якія прагнулі пазбавіцца яе, ісці вайной на ВКЛ. Вымушаная была ўцякаць з Масквы і быць двойчы зняволенай. У перапынку выкупіла сына з татарскага палону. Пасля яго, "Гедиминовича", асляплення, улічваючы яе здольнасці, баяры зноў паставілі яе правіцельніцай. У 1451-м узяла на свае жаночыя плечы ўвесь клопат па адбіцці татарскага нападу на Маскву. Малодшая яе дачка была замужам за Аляксандрам – заснавальнікам княскага роду Алелькавічаў (Слуцкіх). Перад смерцю Соф'я прыняла манаства з сімвалічным імем Ефрасіння. Не тэма для цікавага рамана?

Ягайла і Вітаўт увекавечылі свае імёны сакрушальнай перамогай над крыжакамі (найвядомымі рыцарамі з многіх краін Заходняй Еўропы) у Грундвальскай бітве 1410 года. Пасля пазнейшых мірных пагадненняў некаторыя падуладныя крыжакам землі адышлі да Польшчы, а ў ВКЛ увайшла Жамойць, што пабольшыла яго землі і этнічны склад насельнікаў, і яно, паступова набіраючыся новых сілаў, станавілася магутнай і высокаразвітай шматнацыянальнай дзяржавай. Таму стары ўжо Вітаўт (яму набліжалася 80) рашыў не столькі для сябе, колькі для наступнікаў каранавацца на караля, каб ВКЛ далей аніяк не залежала і ад Ягайлы, і ад Польшчы.

"Сей князь, – напіша М. Карамзін, – тогда славнейший из государей северной Европы, был для нашего отечества ужаснее Гедимина и Ольгерда, своими завоеваниями стеснил пределы России на Юге и Западе; в теле малом имел душу великую; умел пользоваться случаем и временем, повелевать народом и князьями... К счастью России, которая без сомнения погибла бы навеки, если бы Витовтовы преемники имели его ум..."

Зразумець аўтара, рускага патрыёта, цалкам можна: ён сыходзіў з інтарэсаў сваёй Айчыны. Лічыў іх найвышэйшымі. І не жадаў хоць крыху ўлічыць: у Вітаўта таксама былі высокія інтарэсы для сваёй Радзімы, якім ён пасвяціў усё сваё жыццё з пакутамі, паражэннямі і перамогамі, са зламыснасцю нібыта саюзнікаў і трагічным сыходам...

Колькі гадоў таму ў адным польскім часопісе наткнуўся на цікавы факт: у 1920-я гады ў незалежнай Літве адбыўся сімвалічны суд, дзе разглядалася "справа" Ягайлы і Вітаўта ў іх адносінах да Крэўскай уніі 1385 года (дарэчы, цалкам першаснага варыянта той дамовы хтосьці не пажадаў захаваць, магчымыя падробкі-ўстаўкі, што пазней дало магчымасць некаторым дзеячам, навукоўцам трактаваць тую унію не як акт інтэграцыі, але інкарпарацыі ВКЛ). На тым судзе, паколькі Віленшчына была ў складзе ІІ Рэчы Паспалітай, суддзі вырашылі: Ягайла – здраднік, Вітаўт, які пэўны час супрацьстаяў стрыечніку і польскім магнатам, адстойваў самастойнасць ВКЛ, – герой. Аўтар таго матэрыялу ў часопісе правёў паралель таго суда з публікацыямі ў літоўскім друку пасля выхаду Літвы з СССР і заўважыў: цяпер там некаторыя гісторыкі, публіцысты лічаць героем Ягайлу: той вёў сваіх падданых на дэмакратычны Захад...

Пасля 1410-га ВКЛ ачуньвала. У Маскоўскай дзяржаве ішлі ўзбуйняльныя працэсы (С. Барадзін, "Дмитрий Донской": "Всюду сидели соперники. Каждому

лестно вокруг себя собирать Русь, каждого надо убедить, а убеждение одно – меч"). Так пераканалі Ніжні Ноўгарад, Мурам, Волагду, узяліся абмяжоўваць у правах Пскоў і Ноўгарад. Безумоўна, досведныя людзі разумелі: гэтыя дзяржавы мірна не ўжывуцца. Тым больш, што маскоўскія баяры ўсё часцей і гучней загаварылі пра "единоверцев" у ВКЛ, каб і імі папоўніць сваю дзяржаву. Ажыўленне варажбы, памежныя сутычкі прывялі да таго, што Іван III, які мірным шляхам запыніў ардынскае іга і аб'явіў сябе вялікім князем "всея Руси," у 1492-м паслаў польскаму каралю і вялікаму князю ВКЛ Казіміру IV дзёрзскае патрабаванне, каб змяніць межы ў яго карысць. Дачуўшыся, што апошняга не стала, не стаў чакаць там новых выбараў, перамоў і накіраваў войска на "перакананне" звыклым спосабам.

Тая вайна не вырашыла спрэчак пра новыя межы. Але, здаецца, была спроба з абодвух бакоў пашукаць і мірныя шляхі. Праз перамовы і шлюб новага вялікага князя ВКЛ з дачкой Івана III. Ды гэта, як і тое, што Алена, стаўшы вялікай княгіняй ВКЛ, а потым і каралевай Польшчы, заклікала бацьку спачатку не пачынаць новай вайны, а пасля спыніць яе, не ўчулася яму. Той павёў яе ў 1500–1503-м (выйгрышна, з далучэннем многіх зямель ВКЛ). У 1507–08 гадах вайну прадоўжыў Васілій III (як напісана, яна "скончылася безвынікова", але гэта не зусім так: у час яе моцна пацярпелі Падняпроўе, Тураў, Мазыр, Слуцк, Менск). 1512–22 гады. Васілій III, правёўшы тайныя перамовы са Свяшчэннай Рымскай імперыяй (дзяльба: яму – беларускія і ўкраінскія землі, Вене – некаторыя польскія), Лівонскім ордэнам, крымчакамі, наводзіць 80-тысячнае войска, тры разы штурмуе Смаленск, накіровае ўдары на Віцебск, Полацк, Оршу. Невядома, як склалася б гэтая ваенная аперацыя, каб не паражэнне ў 1514-м асноўных сілаў Васіля III пад Оршай. Пасля гэтага яго саюзнікі адпалі, вайна то затухала, то зноў успыхвала і закончылася тым, што Смаленск застаўся за Маскоўскім княствам.

Названыя войны маюць дзве яркія ідэалагічныя асаблівасці. Нашчадак татарскага Мамая, чалавек еўрапейскай адукацыі, любімец на вайсковай службе ў імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі, пераможац татар у Клецкай бітве 1506-га М. Глінскі стаўся адным з першых нашых "інтэгратараў": пайшоў на змову з Іванам III, у час паходу таго на нашы землі ўзняў у ВКЛ мяцеж (1508), каб самому стаць на чале яго і павесці за сабой насустрач апекуну. Тая інтэграцыя не ўдалася, братам Глінскім дазволілі выехаць да новых гаспадароў; пазней Міхаіл браў удзел ва ўзяцці Смаленска і спадзяваўся, што яго паставяць там на чале. Здрадніку не даверылі такі стратэгічны горад на мяжы, а калі ён паспрабаваў збегчы на радзіму з пакаяннем, то зняволілі болей чым на 10 гадоў. У 1526-м яго пляменніца Алена становіцца другой жонкай Васілія III (маці І. Грознага) і вызваляе дзядзьку. Пасля смерці маскоўскага князя (1533) той спрабуе пры пляменніцы-рэгентшы заверхаводзіць, але супернікі-баяры вядуць яго ў кайданах з Крамля зноў у турэмныя сутарэнні. З іх ён ужо не выйшаў. Яго брат быў забіты каменнем у час бунту ў Маскве. Пляменніца, відаць, была атручаная, пакінуўшы 7-гадовага сына Івана круглым сіратой. Цяжкая і ў многім бясслаўная жыццёвая дарога ды вартая рамана пра трагічны лёс не выратоўцаў Радзімы, а яе губіцеляў. Другая ідэалагічная асаблівасць таго часу. Васілій III не без далёкіх намераў першы раз ажаніўся з пляменніцай апошняга візантыйскага імператара. А калі далучыў Пскоў, Смаленск, Разань, Масква была аб'яўлена "трэцім Рымам" – нашчадніцай Візантыйскай імперыі (у 1453-м пала пад турэцкімі ўдарамі), сусветным палітычным і праваслаўным цэнтрам. У Еўропе палічылі гэта за самапрэтэнзію, але яна дала прыцягальную ідэю Рускай цэнтралізаванай дзяржаве, перакрыла былыя Вітаўтавы спробы аб'яднання ўсходніх славянаў у складзе ВКЛ. Хоць яно, скарыстаўшыся смерцю Васілія III, спрэчкамі тамашніх баяр і антымаскоўскай пазіцыяй крымцаў, у 1534-м пачало вайну за вяртанне страчаных зямель, але за некалькі гадоў вялікага поспеху не дабілася. Многія межы не памяняліся, толькі Гомель зноў вярнулі ў ВКЛ.

Бачачы, што ВКЛ значныя сілы накіроўвае на Усход, з 1474 па 1569-ты 75 разоў на яго нападалі крымскія татары (было, даскоквалі ажно да Вільні; нават сто тысяч насельнікаў зводзілі ў палон; часам, каб адкупіцца, аддавалі ім палову свайго бюджэту, што называлася "ардыншчына"). А яшчэ зусім не ў госці і не адзін раз, перастаючы пасланнямі злаваць турэцкага султана, наляталі па Мінск і Магілёў паўднёвыя стэпавыя казакі. У Лівонскую вайну (1558–83) цар Іван Грозны прывёў на землі ВКЛ велізарную армію (звесткі розныя: ад 60 да 200, 300 тысяч), у 1563-м захапіў Полацк і пачаў пабудовай крэпасцяў амацоўваць акупацыю. Рэсурсы ВКЛ былі вычарпаныя. Не знаходзілася іншага выйсця, як цяпер для паратунку згадзіцца на аб'яданне з Польшчай у адну дзяржаву. Пасля цяжкіх перамоў, сварак, а ўрэшце і пэўных саступак ВКЛ І ліпеня 1569 года была зацверджана Люблінская унія пра ўтварэнне федэратыўнай Рэчы Паспалітай ("дзяржавы Двух народаў" ці Карона і Літва). Уладанні ўласна ВКЛ звузіліся прыкладна да памераў сённяшняй Беларусі і Літвы. Полацк быў вернуты ўжо пры новым польскім каралі і вялікім князі літоўскім С. Баторыі ў 1579-м, а затым вызваленыя і астатнія захопленыя землі ВКЛ.

Рэч Паспалітая праіснавала болей за 200 гадоў. Немалы час. Але гэты перыяд гісторыі ВКЛ як федэратыўнай часткі навукоўцамі БССР даследаваўся мімаходзь. У БелСЭ – кароткія нататкі пра панскі прыгнёт, паўстанне казака С. Налівайкі (у магілёўскіх запісах за 1595-ты налёты таго названыя "навалай", "з маскоўскага нацкоўвання" і "нарабіла гэтая саранча новазбудаванаму і заселенаму гораду бед нязносных і крыві праліла нямала". У БелСЭ той атаман – народны герой. Як і Разін ды Пугачоў. Апошнія два, дзекабрысты, як не раз чулася па некаторых расійскіх тэлеканалах, цяпер падаюцца дзяржаўнымі злачынцамі). Яшчэ за тую эпоху падкрэслівалі бесталковасць польскай шляхты і апалячванне нашай, пра заняпад беларускай мовы, літаратуры і культуры, пра мары ўкраінскага і беларускага народа "ўз'яднання з Расіяй".

Рэч Паспалітая заяўляе свае правы на Балтыйскае мора і прыбалтыйскія землі, што сутыкае яе з узмацнелай Швецыяй у вайне 1600–29-х гадоў. У перапынку (1609–18) – барацьба за Смаленск, у расійскую "смуту" інтэрвенцыя ў Маскву, цяпер ужо на падтрымку Ілжэдзмітрыя II і спробы заняць маскоўскі трон польскім каралевічам Уладзіславам. У верасні 1610-га не толькі, як прынята лічыць, палякі, але і выхадцы з літоўска-беларускіх зямель узялі Маскву (у "Анталогіі даўняй беларускай літаратуры", Мн., 2003, змешчаны дыярыуш нашага земляка С. Маскевіча пра той няпросты для Маскоўскай дзяржавы перыяд, калі ў ёй да ўсяго яшчэ было казацка-сялянскае паўстанне І. Балотнікава, бунты данскіх казакоў і дапамога ім запарожскіх). Як шырока вядома, тая інтэрвенцыя была адбіта, смута пераадолена.

Пасля передыху суседняе царства пачынае наступ на Смаленск (1632–34), але церпіць вялікую няўдачу са стратай усёй артылерыі (ваяводы пакараныя смерцю). Новая вайна 1654–67-х, савецкімі гісторыкамі названая "вызваленчай", а ў энцыклапедычным даведніку "Беларусь" (Мн., 1995) "феадальнай захопніцкай вайной рус. самадзяржаўя за землі Смаленшчыны, Беларусі, Украіны, Літвы", ужо цяжка, нават вельмі сталася для названых, назначаных для ашчасліўлівання краёў (скажам, з магілёўскай хронікі за 1659-ты: "Пасля здачы горада Быхава ўвесь люд у горадзе быў высечаны пад корань"). Ёй, той вайне, папярэднічалі бітвы на Украіне 1648–51-х, калі Б. Хмяльніцкі, а таксама тыя, хто з ягонымі прысланымі войскамі падтрымаў яго на поўдні Беларусі, рашылі выйсці са складу Рэчы Паспалітай і далучыцца да Расіі. Земскі сабор "даў згоду" на гэта, але цар Аляксей Міхайлавіч адмовіўся паклясціся на Бібліі, што будзе захоўваць вольніцу ўкраінскіх казакоў, неўзабаве рушыў на ВКЛ больш чым 80-тысячнае войска адначасова з 20 тысячамі запарожскіх казакоў, і яны "сплюндравалі" яго землі і

маглі ісці на Варшаву (на Польшчу рушыла Швецыя). Была разгорнутая вялікая кампанія па прыёму ад насельнікаў прысягі і пераходу ў расійскае падданства. І нямала, спадзеючыся на лепшае жыццё, прысягнула. Нават гарадамі. Цар упэўнена прызнаў сябе вялікім князем літоўскім, запатрабаваў, каб яго ці ягонага сына выбралі і каралём польскім. Хто прысягнуў яму, быў незачапаны. Але не меў права на выбары, сходы. Непрыхільных, нават неахвотных стрыгчыся па-новаму, а таксама маладых, майстравітых дзясяткамі тысяч пагналі ў палон. Хто застаўся ў Маскве і нават заснаваў свае слабоды, каго саслалі ў іншыя мясціны, а хтосьці пацярпеў ад бясконцых прастораў, бездарожжа, халадэчы і камароў у Сібіры (ва ўпомненай “Анталогіі” змешчаны і дыярыуш нашага патрапіўшага ў палон земляка А. Каменскага-Доўжыка пра яго змусовыя сібірскія ажно да акіяна “землеправходніцкія” і са зборам ясака з мясцовых плямён пакутніцкія прыгоды). Вайна Аляксея Міхайлавіча клалася цяжарам і на плечы маскавітаў, узніклі спрэчкі сярод казакоў, да ўсяго, як пісаў гісторык Б. Кастамараў, “московские ратные люди... успели своими насилиями и бесчинством поселить раздражение против великороссов, а безрассудное поведение московского правительства заставляло все более и более терять к нему доверие”. Многія падданыя адмаўляліся ад дадзенай прысягі. Як ніколі самаарганізавалася сялянства. Яно стварала свае атрады (па выразе царскіх афіцэраў, “шиши”) і давала адпор, а то і граміла невялікія атрады рабаўніцкага царскага воінства. Пасля міру Польшчы са Швецыяй вольныя вайсковыя сілы былі пасланыя на дапамогу ВКЛ і выцеснілі агрэсара. Пасля міру з Расіяй за ёй засталіся Смаленшчына і левабярэжная Украіна. “Вызваленне” скараціла насельнікаў ВКЛ з 2, 9 млн. да 1,4 млн. З іх многія сяляне апынуліся ў цяжкай галечы.

Паўночная вайна 1655–60 гадоў Швецыі супраць Рэчы Паспалітай уцягнула ў вір не толькі іх, але і іншыя краіны, што мелі свае ўзрослыя інтарэсы: Данію, Аўстрыю, Галандыю. У гэтым спляценні была варожасць Рэчы Паспалітай і Рускай дзяржавы, апошняй і Швецыі. Як гаворыцца, ігралі мускуламі, была праверка моцы. Уласна Польшча пахіснулася, упершыню спазнала вялікую чужаземную, шведскую, акупацыю. Ёй дорага каштавала тое, каб засяродзіцца, сабраць сілы і вызваліцца. У гэтай сітуацыі ў ВКЛ знайшоўся яшчэ адзін “інтэгратар”: багаты і ўплывовы Януш Радзівіл (1612–1655) з прыхільнікамі выступіў за тое, каб разарваць унію з Польшчай і заключыць яе са Швецыяй (ёсць версія, што за гэта быў атручаны).

У новым часе вызначалася і новая атмасфера паміж манархамі заходне-ўсходняй і паўночнай Еўропы. Яна працягвала награвацца. Цэнтрам нагрэву стала панаванне на Балтыйскім моры і па яго рэгіёнах Швецыі. Рэфарматар Рускай дзяржавы Пётр І раздзімае агонь. Тайна змаўляецца з каралём Даніі, каралём Польшчы і вялікім князем ВКЛ Аўгустам (ён жа і саксонскі курфюрст) ды настройвае іх супраць Швецыі. Пачынаецца Паўночная вайна 1700–21-х. Першая сутычка самога Пятра І з не менш амбітным, чым ён, Карлам ХІІ пад Нарвай, прыносіць поўнае паражэнне. Пераможац разбівае саксонцаў, нападае на Польшчу (неўзабаве ўжо вырашае, каму ў ёй быць каралём) і на ВКЛ. За кароткі час Пётр І рэарганізуе армію, зноў супрацьпастаўляе яе шведскай. Арэнай іх шматгадовых бітваў становяцца ў асноўным беларускія землі, пасля ўкраінскія, пазней прыбалтыйскія. Урэшце рэшт перамагае Руская дзяржава і становіцца гегемонам-імперыяй, што пачне многім суседзям дыктаваць сваю палітыку. “Воинствуя, мы разили” (М. Карамзін). Моц Рэчы Паспалітай падарваная. Асабліва ВКЛ. У ім з 2,2 млн. насельнікаў засталося не больш 1,5 млн., мноства яе вёсак, гарадоў і мястэчак разрабавана, а то і выпалена ваюючымі бакамі, многія замкі і іншыя помнікі культуры знішчаныя ці вельмі разбураныя. ВКЛ стала ахвярай палітыкі, сцверджання вялікімі дзяржавамі сваіх глабальных інтарэсаў ваеннымі сродкамі, не лічачыся са становішчам слабейшых пракормных краінаў. Віцебскі летапіс Панцырнага і Аверкі, Магілёўская хроніка Т. Сурты і Ю. Трубніцкага, дзе

ёсць раздзелы пра час прыходу Аляксея Міхайлавіча і яго сына Пятра, шведаў навяваюць жудасны настрой ад людскіх "невыносных павіннасцей", пабораў, забойстваў, разбурэнняў таго, што будавалася стагоддзямі. Як біблейскі лямант у пустыні чытаеш плач з Магілёўскай хронікі: "О, горад, горад Магілёў! Першы летапісец, не могучы знайсці ніякай звесткі, адкуль бы горад назваўся Магілёвам, растлумачыў, што ёсць гэта магутны леў, але ў год тысяча семсот восьмы Марс, завастрыўшы свае клыкі і зубы, аблупіў з цябе аздобную львіную шкуру і абвалок цябе чорным і грубым мяшком, які і ў будучым не забудуць, і з гэтага часу не можаш называцца магутным ільвом, хіба магілаю фартун тваіх грамадзянаў, пра што будзе ніжэй..." (раней і тут пераклад з польскай В. Таранеўскага).

Усклікаць гэтае "О" мог неаднаразова Віцебск (паводле летапісу, у 1602-м яго "высеклі казакі", у 1708-м капітан Салаўёў "выпаліў увесь... замкі... ратушу і крамы... чатыры касцёлы і дванаццаць цэркваў", а таксама плакалі Быхаў, Орша, Слуцк, Навагрудак, Гродна... Войскі супернікаў наступалі-адступалі вялікімі, малымі сіламі, і кожны камандзір падраздзялення патрабаваў ад бяспраўных насельнікаў мукі і зерня, мяса, сена, коней, а то і вуздэчак да іх, адкупных грошай...

Пётр І пакінуў Расію разварушанай, з незакончанымі рэформамі, але з моцнай арміяй. Пасля там пачалася эпоха палацавых пераваротаў, жанчын-імператрыц. Пры першых трох правілі суперніцкія вяльможныя групоўкі. Кацярына ІІ давяла жаночую эпоху амаль да 70 гадоў, але здолела паставіць вяльмож на месца і вылучыць патрэбных. Яна намагалася болей за папярэдніцу, Пятрову дачку Лізавету, апякаць навуку і культуру, падацца асветным манархам. Паводле "Гісторыі Расіі..." В. Ключэўскага, дарадцы штурхалі яе найперш да наступальнай палітыкі – "турэцкага і польскага пытанняў". Раілі захапіць ВКЛ. Яна запытала: што гэта нам дасць? Быў адказ: можна "отобрать у поляков на 600 верст плодороднейшей земли с бесчисленным православным населением". Кацярына, піша гісторык, "не могла прикинуть такой грубо прямой постановки дела к шаблонам своего политического мышления и повела народно-психологический вопрос извилистым путем дипломатии". Закулісным шляхам дабілася абрання польскім каралём і вялікім князем літоўскім аднаго са сваіх улюблёнцаў С. Панятоўскага, падпісання пад яе дыктоўку Дагавора ("вечнага трактата") паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй, што фактычна азначаў падначаленне заходняга слабейшага суседа. Зразумела, многія і ў Польшчы, і ў ВКЛ не пагадзіліся з такой роляй, паднялі паўстанне супраць свайго змоўнага ўладара. Бунт "усмирил" А. Сувораў, за што стаў генерал-маёрам, а Кацярына, паколькі, бачыце, яе не ўважылі, павяла далей "звілістую пуцявіну дыпламатыі" ужо да грубай "пастаноўкі справы" – да сілавога першага падзелу Рэчы Паспалітай.

Што да ВКЛ, то яго шматнацыянальны люд быў жывучы. Хоць і запынены ліхалеццямі ў матэрыяльным і культурным развіцці, але паступова пачаў залечваць раны, абудоўвацца, множыцца і дасягаць даваеннага ліку насельнікаў і нават да 1760-га пакрыху пераўзыходзіць. Ды ў 1772-м зноў і ўжо страшней дыхнула палітычная "магіла фартун". Пасля першага падзелу ВКЛ Кацярына ў розных граматах сама рэальна вызначае тэрміны гэтай акцыі – "присоединение", "приобретение" і інш. Вопытная інтрыганка, загадвае дзейнічаць асцярожна. І пасля другога, трэцяга падзелу, калі Рэч Паспалітая перастала існаваць як дзяржава, захоўвае на былых землях ВКЛ яго асноўны закон – Статут 1588 года, дазваляе вольнае веравызначэнне (без права праваслаўным пераходзіць у каталіцтва). Але Статут дзейнічае больш намінальна: імператрыца скасоўвае шляхецкую вольніцу, Магдэбурскае права на самакіраванне, уводзіць адміністрацыйную сістэму па расійскім узоры, дзе прысланы генерал-губернатар з прывезеным ім чыноўніцкім апаратам – яе намеснік. Першы з іх на чале Полацкай, Магілёўскай губерній і паказаў прыклад, як правіць адпаведна: яго дом станавіўся выдатнасцю горада, саноўнік прыймаў седзячы на троне, больш шыкоўна, чым Радзівілы, наладзіў тэатр, аркестр, даваў пышныя балі як высокі

знак сваёй значнасці ды ўладнасці (“мишурные цари”, паводле Г. Дзяржавіна, які прыязджаў з праверкай). Губерня была падзеленая на “уезды” (паветы), дзе запраўлялі камісары са складу расійскіх афіцэраў, паветы дзяліліся на драбнейшыя адзінкі. Вось туды і маглі патрапіць на службу тутэйшыя. Соцкім, сотнікам ці, самае вялікае, старастам-войтам. Ужо ў 1777-м у Магілёве шляхта падала скаргу на самаўпраўства губернатара і яго чыноўнікаў над ёй як над “іншаземцамі”. Таго сенат адхіліў ад улады, але сваёй пастановай грозна перасцярог вольнадумных: “единожды навсегда пресечь” самавольныя сходы і далей “никаких между собой скопов и советов без ведома начальников своих не чинить и общественных прошений не отваживаться подавать”.

Кацярына праз давераную асобу П. Вяземскага перадае розныя сакрэтныя наказы для таго, каб дзейнічаць не зброяй, а словам “покорить сердце”, каб паміж далучанымі і расійскімі землямі “исчезла грань инородия”, каб тыя “абруселі і да далучэння прывыклі”. Адпаведна, трэба пасылаць туды для вярхоўнага кіраўніцтва “не руссопетов и тому подобное”, а тых разумных, да каго будзе давер (“Спадчына”, 1991, № 2). Ужо за першым падзелам было прадпісана справаводства “производить на российском языке”. Неўзабаве асвета, навучанне дзяцей пачало праводзіцца па цэнтралізаванай расійскай сістэме (абавязковае вывучэнне рускай геаграфіі, гісторыі). І яшчэ адно грубае парушэнне законаў ВКЛ: калі ў яго час іншаземцам не дазвалялася не толькі займаць буйныя дзяржаўныя пасады, але і набываць зямлю, то цяпер усё ўраз было перайначана. Ужо ў час Кацярыны пачалася канфіскацыя маёнткаў тых уладальнікаў, хто ёй не прысягнуў, хто браў удзел у паўстанні Т. Касцюшкі і г.д. З 1772-га па 1796-ты многія беларускія дзяржаўныя абшары больш чым са 180 тысячамі насельнікаў (“душ”) “уз’ядналіся” з расійскімі дваранамі як... бяспраўныя прыгонныя. Імператрыца-дабрадзейка шчодра, больш па дзясятку тысяч люду адорвала любімцаў і военачальнікаў, якія вызначыліся “по наведению в Польше тишины и порядка”. Павел І працягваў абагачаць тысячамі душ верных яму дваран. Толькі ў Віцебскай і Магілёўскай губернях з 1772 па 1796 г. сталі ўладарамі-памешчыкамі буйных маёнткаў 85 наезджых. Хто і які сярод іх быў “брат па даўніне і веры”, “гаспадарнік”, зычлівец, можна меркаваць па вобразе памешчыка Траекурава з аповесці А. Пушкіна “Дуброўскі” (прататып героя вядомы даследчыкам літаратуры). Памешчыкі маглі прадаваць людзей як тавар, давалі сялянам свае прозвішчы (Арлоў і інш), маглі ў насмешку паселішча назваць Глупікамі, а то і больш абразліва, царскія пісары рэкрута Каваля запісвалі Кавалёвым... Паколькі шматлікі люд пачаў гнеўна бурчэць супраць таго, што трапіў не проста ў новае, але ў больш цяжкае ярмо, Аляксандр І запыніў вышэйназванае адорванне іншых хіжых да нажывы.

Аляксандр І бачыць, што “ўз’яданне” ідзе спрэчна і што расце пагроза Напалеона. У гэтых умовах спрабуе наладзіць кантакт з дзеячамі былой Рэчы Паспалітай наконт палёгкі яе лёсу. Перамовы не вядуць да пэўнай згоды. Вядомы М. Агінскі (не толькі як кампазітар, але як і дзяржаўны муж, змагар з Суворавым) з аднадумцамі падаюць імператару мяккі праект аднаўлення ВКЛ па ўзоры Фінляндыі. Вайна з Напалеонам запыняе гэтыя захады. Пасля перамогі “выратавальнік Еўропы” Аляксандр І дзеля свайго ўзвышэння як ліберальнага манарха аднаўляе разгляд “польскага пытання”, робіць такія-сякія крокі насустрач, але яго пачалі настойліва адгаворваць прыдворнікі. Іхняя пазіцыя прыкладна сфармуляваная М. Карамзіным: “Пусть иноземцы осуждают раздел Польши: мы взяли свое”. Як успаміналі рускія мемуарысты пачатку 19 ст., цар паціскаў плячыма: чаму? У нас жа сваёй зямлі безліч! Дагледзьце хоць яе! Ды не. Мікалай І ужо не ліберальнічаў: не толькі ніякіх Статутаў ВКЛ, а Польша – Прывісленскі край, Літва і Беларусь – Паўночна-Заходні Расійскай імперыі. Па-сапраўднасці вызваленчае паўстанне 1830–31 – “польская интрига”, такой жа думкі пра паўстанне 1863–64 гадоў быў і яго сын Аляксандр II, які ненавідзеў

Мураўёва-вешальніка як пярэваратня (той у свой час далучаўся да дзекабрысцкага руху), заўзятага праціўніка сялянскай рэформы 1861-га, але затым, пасля расправы таго з паўстанцамі і ім спачуваючым, абсыпаў ушанаваннямі. Падлюка, але наш...

Пасля закрыцця "не нашего" Віленскага ўніверсітэта, пры сістэме асветы ў імперскім духу на беларускіх землях не толькі перапынілі вузкае дзеянне Статута ВКЛ, але ўсё больш пачалі перапыняць памяць пра тую дзяржаву, падаваць яе як чужародную і варожую з'яву. Яшчэ жывая, "гарманічная і з усіх славянскіх моў найменш змененая" (А. Міцкевіч) беларуская мова ў вёсках падавалася як "наречие", невялікая праслойка выхадцаў з вёсак у горадзе саромелася яго, перавучвалася размаўляць па-панску (господски). А. Міцкевіч стаўся адным з тых, хто дазволенаю польскай мовай ажыўляў народныя паданні пра даўніну на Наваградчыне, выкарыстоўваў розны мясцовы матэрыял эпохі ВКЛ, паэтыку беларускіх народных песень, што ўсё разам абуджала гістарычную памяць. Не без яго ўплыву зноў, пасля вельмі доўгага перапынку пачало трапляць беларускае слова на старонкі кніг пад пяром В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча і іншых. Не ўсімі быў неўхвалены і забыты подзвіг К. Каліноўскага з яго "Мужыцкай праўдай" і сімвалічным запытам: каго любіш?..

...Як расказвалі, член рэдакцыйнага савета БелСЭ Л. Абэцэдарскі чытаў некаторыя артыкулы пра ВКЛ з новым поглядам і зусім не жадаў, каб ягоная на гэты конт пазіцыя была абвергнутая. Неўпадабанае ім не друкавалася ці перапісвалася. І на будучае ён нанёс апераджальны ўдар у БелСЭ (т. 4, 1971) сваім артыкулам "Залатога веку" тэорыя", дзе, без перабольшвання, па-пракурорску асуджаў: гэтая канцэпцыя выкарыстоўваецца "бурж.-нацыяналіст. фальсіфікатарамі гісторыі Беларусі для сцвярджэння, быццам бы ў складзе Вял. Кн. Літ. (14–16 стст.) бел. народ дасягнуў найвышэйшага за ўсю сваю гісторыю матэрыяльнага дабрабыту, а ўздым тагачаснай беларускай культуры быў абумоўлены вызначальным уплывам заходнееўрапейскай цывілізацыі", "Ілжыва ідэалізуючы далёкае мінулае бел. народа, яны ікнуцца проціпаставіць яго сучаснасці, каб абняславіць выдатныя дасягненні Сав. Беларусі, яе грамадскі і дзярж. лад". Звычайна пад важнымі, а то і спрэчнымі артыкулам даюцца спасылкі на дакументальныя, аўтарытэтныя крыніцы. І пад гэтым адна-адненькая была. На апублікаванае... самім аўтарам, такое ж фальсіфікацыйнае...

Той жа М. Ермаловіч непахісна быў у ліку тых, хто сцвярджаў: а Зямля круціцца.

У той час пад эгідай аддзела агітацыі і прапаганды ЦК КПБ распаўсюджваліся для ідэалагічных апрацоўшчыкаў свядомасці балванкі з паметай "для служебного пользования", дзе вызначаліся "негативные явления" і называліся імёны "недоброжелателей социалистического строя, идеологически незрелых элементов". Я сваімі вачыма не раз чытаў там амаль такое: "так называемый историк из Молодечно Н. Ермолович, не имеющий никаких ученых степеней, в своих изысканиях выражает националистические взгляды на так называемое Великое княжество Литовское".

У 1973-м, пасля службы ў арміі ды настаўнічання, пераезду ў Мінск, я пачаў даволі часта зноў бачыцца з Ермаловічам (ён ухваліў у друку маю другую кнігу прозы: "Экзамен вытрыманы") і не мог не папярэдзіць яго пра ярлыкі ў ацэнцы ім нават яшчэ ненадрукаванага. "Ды ведаю, – не напужаўся ён. – За мной сочаць у Маладэчне. "Мастацтвазнаўцы" пад розным выглядам стараюцца дапасці да майго пісьмовага стала, то я, каб не ўкралі, асобныя экзэмпляры рукапісаў хаваю па-за Маладэчнам. А залаты век наш у ВКЛ быў! У нас можна замаўчаць, абылгаць, але з гістарычных прац нават дарэвалюцыйных рускіх гісторыкаў відно: болей 500 гадоў існавала вялікая еўрапейская шматнацыянальная дзяржава менавіта з нашай сарцавінай. Не была святая, ваявала і заваёўвала. І з ёй па многу разоў за адно стагоддзе ваявалі, знясільвалі, выбівалі яе люд. Але былі прадуманыя

прававыя законы, падтрымлівалася народная ініцыятыва ў форме самакіравання (Магдэбургскае права), удасканальваліся рэформы для гаспадарання, узнікла такая ўнікальная з'ява, як мястэчкі, была развітая асвета і адукацыя, выявілася нямала асоб з вышэйшай адукацыяй, буйных дзяржаўных і канфесійных асоб, выдаўцоў, вучоных самых розных профіляў, дойлідаў, літаратараў, дзеячаў культуры. Выхавалася свая эліта, без якой нідзе не бывае развітога грамадства. Толькі яна ў сілу цяжкіх абставін пачала паланізавацца, а пазней русіфікавацца, што прывяло яе да уніфікацыі, а восль літаратуру і культуру да заняпаду".

Сапраўды, зазірнем у Энцыклапедыю "Вялікае княства Літоўскае" (у мяне 2-е выданне за 2005, 2007 гады). Толькі некалькі дакументальных фактаў, што сведчаць не пра суцэльную цемрач на нашых землях. Кракаўскі ўніверсітэт: за 15–16 стст. там атрымала адукацыю 430 выхадцаў з ВКЛ, каля 70-ці стала бакалаўрамі, магістрамі і нават дактарамі. А яшчэ нямала хто вышэйшую адукацыю набыў у іншых вядомых універсітэтах Еўропы. Віленская акадэмія (самая старэйшая вышэйшая навучальная ўстанова ў былым СССР): паводле прыкладных падлікаў, там толькі з 1583 да 1781-га 4076-ці выпускнікам прысвоілі навуковыя ступені. На той час гэта было не так ужо і мала. Некаторыя з іх сталі сусветна вядомыя. Менавіта навучэнец гэтай установы К. Семяновіч (1600? – пасля 1651) запабег у далёкую будучыню, дадумаўшыся да шматступеннай сістэмы ракетабудавання, С. Полацкі ў Маскве навучаў... царскіх дзяцей, заснаваў друкарню, меў вялікую бібліятэку, удасканальваў сілабічную паэзію, стаўся пачынальнікам рускай драматургіі. Асобныя яго творы патраплялі пад анафему за "лацінізм", а некаторыя ацэньваліся як энцыклапедыя хрысціянскай сімволікі, гісторыі, антычнай міфалогіі, тэалогіі. І тыя тысячы высоаадукаванага люду былі не толькі з магнацкіх сем'яў Радзівілаў ці Сапегаў, але і з асяроддзя купцоў, мяшчан. Пасля закрыцця Віленскага ўніверсітэта (1832) і забароны навучацца за мяжой ужо столькім атрымаць вышэйшую адукацыю не было магчымасці. Значыць, і сваёй эліты было мала. А для яе самародкаў, як паэт і мастак П. Багрым, распрацоўшчык праекта падводнай металічнай лодкі К. Чарноцкі (1791–1847), было шмат, але ўлады не дбалі пра іх адукацыю, развіццё. Дар першага самавука за ўдзел у сялянскім бунце змарнавалі ў рэкрутах, другога – за непрыняцце царскага рэжыму 18 гадамі ў крэпасных адзіночках і на ссылцы. Нават у БелСЭ, т. 12, мусілі прызнаць факт: "Пануючыя класы Расіі, баючыся росту свядомасці і паліт. актыўнасці нар. мас, перашкаджалі шырокаму распаўсюджанню пісьменнасці, а тым больш сярэдняй адукацыі. У 1860 на Беларусі на 10 тыс. сялян вучылася толькі 19 чал.".

...Нам з А. Грачанікавым яшчэ ў часы БССР удалося не паддацца націску, пагрозам у ЦК КПБ выключыць нас з партыі з "воўчым білетам", супрацьстаяць цэнзуры і ў часопісе "Маладосць", дзе Анатоль Сямёнавіч быў галоўным, а я намеснікам, надрукаваць доўгашуфлядную "Старажытную Беларусь" М. Ермаловіча. Гэтая рэзанансная, падтрыманая шырокай грамадскасцю публікацыя паспрыяла ў акадэмічным выдавецтве "Навука і тэхніка" пабачыць свет яго даследаванню "Па слядах аднаго міфа" пра працэс станаўлення ў 13 ст. ВКЛ. У першы паўдзясятак гадоў незалежнай Беларусі, калі мне пашанцавала з ім пабываць у многіх гарадах і вёсках Беларусі, неаднаразова выступаць на розных вечарынах, яго сустракалі як заслужанага рупліўца і аратая на гістарычнай ніве і як яшчэ аднаго адраджэнца ў ліку вялікіх. А Мікалай Іванавіч азадачыў мяне: напішы раман пра ВКЛ. У гісторыкаў па-строгаму даты, лічбы, імёны, перамогі, паражэнні, вынікі. А ў вас, празаікаў, прастор. Прырода, думкі і пачуцці, каханне герояў, розныя інтрыгі ды дзеі... Бярыся. Дам нямала featurednaй літаратуры, сваю картатэку. Здай новы экзамен.

Я, ужо стрэляны верабей, добра ведаў, што чакае. Нават з выбарам тэмы. Цаліна ж для прозы. Нават з першым і паспяховым ворывам аповесцямі і раманамі В. Іпатавай, К. Тарасава, Л. Дайнекі, эсэ В. Чаропкі. Які выбраць адметны час?

Якую незвычайную падзею? Якога ў героі буйнога вялікага героя, палкаводца, дзяржаўнага дзеяча? А пасля выбару – вунь якая цяжкая праца. Спачатку па зборы і асэнсаванні матэрыялаў, потым – па кампаноўцы мастацкага і дакументальнага. Ды па нялёгкім працэсе выбару мовы, што вялікая загвоздка для аўтараў на гістарычную тэму: многія нашы чытачы і сучасную беларускую мову ведаюць павярхоўна, а пра старaславянскую ці старабеларускую літаратурную няма чаго і казаць. Зрэшты, і большасць рускамоўных "Слова аб палку Ігаравым" чытае не ў арыгінале, а ў перакладзе. Ды трэба было садзіцца за вывучэнне летапісаў, даступных гістарычных даследаванняў розных часоў, хронік ордэнаў мечаносцаў, Лівонскага і Тэўтонскага. Але час спрыяў. Можна было спазнаць свежае з 1991-га "Наваградскіх чытанняў" з удзелам вядомых вучоных і мясцовых краязнаўцаў, прысвечаных гісторыі ды археалагічным даследаванням горада, часу яго ўзнікнення і першакрыніц на гэты конт, 740-годдзю каранацыі Міндоўга. Нямала чаго яшчэ неапублікаванага зведвалася з паседжанняў Міжнароднага круглага стала "Беларусь у Вялікім княстве Літоўскім", што адбыліся ў Мінску 6-7 красавіка 1992 года і сабралі зацікаўленых знаўцаў-энтузіястаў. Падмогай станавіліся ўжо з новым светапоглядам першы том (1993) "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" (там М. Ермаловіч стаўся сябрам рэдкалегіі), падручнік для студэнтаў ВНУ "Нарысы гісторыі Беларусі ў 2-х частках" (Мн., 1994–95), з 1989-га часопіс "Спадчына", шматлікія новыя публікацыі ў іншых выданннях, а таксама асобныя кнігі сталых і маладзейшага веку гісторыкаў (В. Чамярыцкі, А. Грыцкеіч, У. Арлоў, В. Насевіч, А. Краўцэвіч, Г. Сагановіч і інш.), а таксама даследаванні па даўняй этнаграфіі, архітэктуры, філасофіі, юрыспрудэнцыі

Матэрыялаў, а з імі і задум для твору сабралася нямала. Але ўсяго, хоць пакрыху, не ахапіць. Розных тэм – на дзясяткі раманаў. У выніку павабіла ўзяцца мо і за самае няпростае: засяродзіцца на афіцыйна больш-менш засведчаным, але з мала захаванай дакументальнай асновай. Вылучыў для мастацкай распрацоўкі самы пачатак ВКЛ са сталіцай у Навагародку. Той пачатак мог стацца, як вылічыў М. Ермаловіч па Густынскім летапісе, прыкладна ў 1246-м. У той час, як там зазначалася, памёр, вяртаючыся з мангольскай стаўкі, бацька Аляксандра Неўскага Яраслаў, а язычнік Міндоўг хрысціўся ў "веру ад Усходу". Гэтае хрышчэнне было для яго ўмова, каб стаць князем у праваслаўным Навагародку і далучыць да яго тую частку Літвы, дзе ў яго была наймацнейшая ўлада. Значыць, факт пераходу Міндоўга на княжанне ў Навагародак неаспрэчны, і можна, як гаворыцца, не проста на вока змеркаваць, калі гэта адбылося. А вось дакументальнага апісання той сітуацыі, вельмі пажаданых падрабязнасцей і для гісторыка, і для празаіка ў захаваных летапісах няма. Адпаведна, гісторык можа толькі меркаваць пра тое, а празаіку даецца творчае права на верагодную фантазію.

Зразумела, апісанне асобных падзей 13 ст., развагі, гутаркі, учынкі герояў сягалі і па-за Навагародак, і ў папярэдняе 12 ст. Трэба было найперш разабрацца: а чаму менавіта выскачыў з малавядомасці невялікі, адлучаны ад ракі Навагародак? В. Чамярыцкі выявіў: у 1795-м у Львове на лацінскай мове была надрукаваная першая манаграфія пра Навагародак. Там пісалася, што ён як горад мог быць заснаваны яшчэ ў 9-10 стст. Магчыма. Мо і таму, калі Я. Мудры ў 1044-м закладаў старожу-крэпасць супраць Літвы, то заснаваў яе не на Нёмане, а ўжо ў існым гарадку, толькі, можа, яшчэ не так умацаваным, якім ён быў у 13 ст. А з кім тая, летапісная, Літва межавала на поўдні, дакладна запісана ў Галіцка-Валынскім летапісе: "Войшелк... учини собе монастырь на реце Немне, межи Литвою и Новымьгородком". Часам ва ўзвышэнні ці падзенні гарадкоў ёсць свая заканамернасць або заканамерная выпадковасць. Вось і пра Маскву 17 ст. пацiскалі плячыма: "Кто думал-гадал, что Москве царством быти, и кто же знал, что Москве государством слыти?" (цытата з В. Ключэўскага).

Ужо не толькі па ўяўленні, а і на аснове меркаванняў новых даследчыкаў на ўпомненых навагрудскіх чытаннях можна было развіваць празаічную версію пра час станаўлення вакол Навагародка княства і пра паходжанне яго першых князёў, пра прышэсце Міндоўга ў сталец яго пасля вядомага па летапісах Ізяслава. Дэталёвае штудзіраванне першых двух тамоў "Сочинений" С. Салаўёва (1820–79), "Старажытнай Беларусі" М. Ермаловіча, нямецкіх хронік паспрыяла разуменню, чаму менавіта да Навагародскага княства мірна, па сваёй ахвоце пахінуліся Слонімскае, Ваўкавыскае і Гарадзенскае княствы, што адыграла вельмі важную ролю. Скажам, С. Салаўёў падлічыў: з 1055-га, пасля смерці Я. Мудрага, на Русі (а да яе гісторык дзяржаўнай школы ўслед за іншымі адносіў і Тураў, і Полацк) па 1228-ты, г. зн. за 173 гады, адбылося 80 міжусобных і часам зацяжных, на два дзясяткі гадоў, войнаў. Недацэньвалі князі Русі стол перамоў, часта не за ім вырашалі свае правы і дамаганні. Войны тыя даследчык размеркаваў па княствах. На Тураўскую зямлю іх прыпала 4. Але яе насельнікі-дрыгавічы толькі адбіваліся ад нападнікаў, а паміж сабой не ваявалі. Гэтым яны захоўвалі свой людскі, эканамічны патэнцыял і згоду на далейшае мірнае супрацоўніцтва.

М. Ермаловіч, П. Лысенка ўважліва прааналізавалі т. 2 поўнага збору летапісаў, дзе ёсць звесткі пра смерць вялікага князя кіеўскага Юрыя Даўгарукага і пра заняцце ў *1158* годзе Турава Гюргем (Юрыем) Яраслававічам – прапраўнукам Я. Мудрага. І з чаго той пачынае? З непадпарадкавання новаму вярхоўнаму. Той раз, другі наводзіць вялікую сілу, але не можа ўзяць Тураў і Пінск. Князь Юрый анезалежвае Тураўскую зямлю, заводзіць на ёй сваю княскую дынастыю. У т. 11 БелСЭ за 1974 не палічылі ягоныя заслугі важнымі і не змясцілі пра яго асобнага артыкульчыка. Належна ацанілі ўжо ў Энцыклапедычным даведніку "Беларусь" (Мн., 1995; галоўны рэдактар Б. Сачанка). Новая кааліцыя паўднёвых князёў мо і змагла б утаймаваць бунтара-незалежніка. Ды надыходзіць год *1169-ты.* Ён досыць шырока адлюстраваны і ў летапісе, і ў даследаваннях вучоных розных часоў. На Русі – змоўныя тагачасныя "Віскулі" па новым ператрусе вялікай, але змучанай ад нападаў полаўцаў і міжусобных войнаў даўняй дзяржавы. За дамовай ва Уладзіміры – сапраўдная грамадзянская вайна: унук Манамаха, сын Ю. Даўгарукага Андрэй Багалюбскі не проста, як некалі бацька з Уладзіміра-Суздальшчыны, нападае на Кіеў, але наводзіць на яго воінства на чале больш чым з 10-цю князямі і спустошае "матерь городов русских". Цэнтр Русі замацоўваецца на Поўначы, а з гэтым фармуецца і новая эпоха ўсходнеславянскіх земель. У дрыгавічоў на поўдні побач з Туравам (пад ім Слуцк і Клецк) узвышаецца Пінск, вышэй на поўнач асамастойваецца шэраг вышэйпералічаных княстваў, што адчулі прыцягненне да Навагародка. З'яўленне крыжакоў, іхні канфліктны вузел з Полацкам, нашэсце Батыя ствараюць новыя абставіны і нечаканыя новыя спрыяльнасці для яго... Гэтыя, а таксама іншыя немалаважныя фактары я не мог абмінуць і пастараўся адлюстраваць у першай частцы рамана "Кліч роднага звона". Яна выйшла ў 1997-м у выдавецтве "Юнацтва".

У другой частцы названага твора выпала ўвасобіць маё ўяўленне пра першыя 15 гадоў ВКЛ, калі супраць яго ўжо ўтварылася кааліцыя непрыяцеляў і калі ўсчатыя імі войны не толькі змусілі прайсці выпрабаванне, але і апынуцца перад дылемай: быць ці не? Зразумела, маладой дзяржаве хацелася ўтрымацца. А для гэтага неабходныя былі эканамічныя, а таксама ваенныя і палітыка-дыпламатычныя сродкі. Паўстала патрэба Міндоўгу яшчэ раз памяняць веру і каранавацца на каталіцкага караля. Чым бліжэй набліжаўся я да апісання сцэны ўзвышэння Міндоўга ў адзін шэраг з еўрапейскімі манархамі, тым больш адчуваў трывогу: у розных крыніцах былі згадкі пра тое як пра выпадак, але нідзе не мелася хоць невялікіх падрабязнасцяў.

М. Карамзін зазначыў коратка і непрыязна: "Хитрый язычник (Міндоўг. – *Г.Д.*),

видя беду, принял веру латинскую и заслужил покровительство легкомысленного папы, Александра IV, давшего ему сан королевский”. Тут аўтар нават дапусціў агрэхі: Міндоўг ужо не быў у язычніцтве, а пакінуў праваслаўе, а яго каралеўскую карону асвяціў папа рымскі Інакенцій IV. Гісторык С. Салаўёў адрозніваўся скрупулёзнай дакладнасцю, мясцінамі такім мноствам розных дробязяў у тэксце і каментарыях (які князь з якім ваяваў, у каго і якія былі пляменнікі, ваяводы, пасаднікі, тысяцкія, сотнікі і г.д.), што часам ажно галава кружылася: табе патрэбны два-тры гузікі, а на цябе іх высыпалі ажно мех. Але і дэталёвец не парадаваў цікавымі звесткамі пра Міндоўгаву каранацыю: ён толькі добрасумленна пераказаў вядомыя кароценькія ўпамінанні з лівонска-тэўтонскіх хронік. Іх нямецкія аўтары – вялікія дапытнікі, але яны больш засяроджана апісвалі свае побыт і дзеі, а пра тую падзею 1253-га ўпаміналі толькі мімаходзь. Як пра з’яву, якую ім тады было выгадна падтрымаць. А што да С. Салаўёва, то неабходна аддаць яму належнае ў яго аб’ектыўнасці. Яго сімпатыі былі выразныя, не да ВКЛ з каталіцкім валадаром. Ды ён улічваў, хто ў 1250-я і на пачатку 1260-х вызначаў аблічча, духоўны воблік усходнеславянскіх зямель і мог іх абараніць. То ўзняўся над чалавечымі пачуццямі, аддаў перавагу рэалістычнаму гістарычнаму мысленню: “Почти в одно время Восточная Европа лишилась трех знаменитейших своих владетелей: в Руси Северной не стало Александра Невского, в Южной – Даниила, в Литве – Миндовга”.

Карацей, я рашыў так: сцэну каранацыі Міндоўга пакуль што апушчу, працягну пошук хоць якіх нязнаных паведамленняў пра яе, а раман павяду далей. Іначай выб’юся з каляіны. Другая кніга “Кліча роднага звона” (без сцэны каранацыі Міндоўга), як і першая, была надрукаваная ў часопісе “Полымя” і выдадзеная ў выдавецтве “Юнацтва”.

У 2019-м у Варшаве набыў у перакладзе з англійскай мовы на польскую 846-цістаронкавы першы том ілюстраванага, дапоўненага картамі, даведачным матэрыялам даследавання “Oksfordzka historia Unii Polsko-Litewskiej. Powstanie (утварэнне) і rozwoj (развіццё). 1385–1569” выкладчыка ўніверсітэтаў у Лондане і Кракаве Роберта Фроста. Там багатыя крыніцы з польскай, літоўскай і расійскай гістарыяграфіі (адпаведна, і тон тых пераважна гучыць), ёсць з лівонска-тэўтонскіх хронік, менш украінскага і толькі крышачку з беларускага (на жаль, нават упамінання В. Ластоўскага, М. Ермаловіча няма). У многім ацэнкі ВКЛ і славяншчыны ў ім, зразумела, на аснове замежных матэрыялаў і ў разуменні навукоўца расійскай дзяржаўнай школы М. Любаўскага (і яму прысвечана даследаванне). Кансультантам па беларускіх справах, мабыць, быў Г. Сагановіч (яму выказваецца падзяка).

У названым выданні неаднаразова ўпамінаецца імя Мендога-Міндаўгаса. Паводле крыніц, якімі карыстаўся, гэты аўтар таксама не мог распісаць акт каранацыі таго дзяржаўнага дзеяча з шчаслівым і заадно з трагічным завяршальным лёсам. І, мусіць, ніхто ўжо тое не выявіць дэталёва. Ці не занатавалі, ці навагародскі летапіс з тым запісам знік. Што ж, Арыстоцель супакойваў пісьменнікаў: дакладны гістарычны аналіз дае найперш пералік падрабязнасцей, а мастацкае адлюстраванне пранікае ў самую сутнасць справы, у дух эпохі. Але з даследаваннем Р. Фроста пазнаёміцца варта. Каб: 1) паглядзець там змешчаную карту з вызначэннем месцазнаходжання летапіснай Літвы на акрайку Аўкштайціі, Жамойці і ў асноўным на сённяшняй беларускай зямлі, з межаваннем з Навагародкам, 2) пераканацца, што аб’яднанне Навагародка і Літвы было мірнае, без ніякіх слядоў ваенных дзеяў, чыіхсці заваёў, 3) кіруючае ядро ВКЛ дамовы пра неаднаразовыя уніі з Польшчай не разглядала як сваю інкарпарацыю (іначай не было б столькі іх, дамоваў, 4) паняцце “ліцьвін” азначала не толькі літоўца ці беларуса, а жыхара тагачаснай Літвы, пад якой разумелася не нейкая частка, а ўсё ВКЛ, 4) Русь у ВКЛ – праваслаўныя насельнікі яго або тая Русь, якую хацеў бачыць на аснове ўсходнеславянскіх зямель Вітаўт, але што не ўдалося ні яму, ні

ягоным наступнікам. Бывае, паўтараюцца і застарэлыя паняцці той Русі. Праўда, сям-там аўтар зазначае, што ў нас, у Беларусі, навукоўцы тагачаснае разуменне руская мова ў ВКЛ падаюць як старабеларуская, а некаторыя разглядаюць тую дзяржаву як беларуска-літоўскую.

...ацалелая ад гарматных абстрэлаў рэштка Навагародскага замка не напамінае, што яна не са звычайнай забудовы, а з княскага дзядзінца і каралеўскай рэзідэнцыі?.. Пранікае гэта ў свядомасць, напаўняе душу чымсьці паўнацэнным, дарагім, святым, як і памяць пра сваіх прадзедаў? Чуецца хоць ва ўяўленні покліч роднага вечавога звона?..

## Навагародак. 1253. Чэрвень-ліпень

Кожны год зіма веснавее, а вясна лецее нібы з паўторам, але ўсё ж па-свойму адметна. Здаўна люд пасля новага сонцавароту радуецца ажыўленаму нябеснаму свяцілу, прыгрэўку, але асцерагаецца заранняй адлігі і вялікага разводдзя, шчодрага цяпла ў красавіку: у травені такое звычайна не ўтрымлівалася, нібы з пакараннем за паспешнасць маглі наляцець па-старому знобкія вятры, хлынуць сцюдзёныя зацяжныя дажджы і вярнуць стынь, прыгнятаць вельмі патрэбныя крапіву, шчаўе, маладую траву, лістоту на кустоўі і дрэвах. Бывае і інакш: дажджлівы, халодністы красавік, травень цёплы, нават прыпёклівы і доўга сухі, а за ім і чэрвень такі ж. Тады таксама многае калі і ўзыходзіць, то марудна расце, кволіцца, а то і вяне. “Да Міколы няма дабра ніколі”. Але сёлета і не рана сышоў снег, і веснаванне не зацягнулася. Холад, нават чаромхавы, патрымаўся нядоўга, крыху паліло, але не астуджала паветра і зямлю. У час абкінуліся светла-зялёным вэлюмам бярозы ды перасталі сачыцца, густа зазелянелі, а потым раптоўна ажоўціліся дзьмухаўцы. Як і трэба, закукавала зязюля на Юр’е, то запасвілі быдла, вылецелі і змаглі падсілкавацца агаладалыя пчолы, паднялося і пачало налівацца на колас жыта, пад раніцу вільгатнець расою. Затым – радасная пара сяўбы з надзеяй на добры ўрод. Калі люд пасля сышоў з поля, абчысціў і паставіў у дрывотню ці застаронак гумна саху з металёвым нарыльнікам, барану, то ўжо добра прыпарыла, а настоенае вадой неба абрынулася грымотнай і ўліўной навальніцаю. Добра ўзышло і ўзялося пасеенае, увачавідкі шухнула трава на лугах і паплавах, аселіцах. Зараіліся пчолы. Значыць, пры спрыяльным кветкаванні маладыя здаровыя іхнія сем’і наносяць соладу і напоўняць соты мёдам. Для многіх гаспадароў па ўсіх навагародскіх весях наступіў яшчэ адзін важны клопат – пострыг авечак. За гэтым для адных наблізілася часіна сенакосу, а для іншых, жанок, падлеткаў, – поліва, хадзіць у лес па суніцы. Мужчыны пачалі даставаць і агледжваць косы, усюды самыя знаныя – першымі кляпаць. Па наваколлі паплыў рознагучны звон: у кожнага выходзіла свая мелодыя ад малатка і бабкі. Як здаўна заведзена, пачынае закошваць прызнаны касец. Ён не проста можа лёгка ўкладваць траву ў пракос больш чым за сажань (2 м). Так здольваюць і некаторыя іншыя. Яму ж, запачаткаванаму, апрача павагі і вялікі іспыт: трэба акінуць позіркам увесь луг, агледзець, куды нахілена трава, закасіць пасярэдзіне, а потым спраўна падбіць з іншага боку, каб астатнія цугам хадзілі адзін за адным. Апошнія цягнуцца ў касецкай шыхце няўдаліцы (не ўмеюць як след накляпаць і натачыць касу, могуць не раз запусціць кончык яе ў дол) ды яшчэ не абвусеныя дзецюкі ці, як яшчэ кажуць, мальцы, каго

бацька, грамада аднак ужо ўзвысілі да пачэснага чыну касца. Вось тут, каля недалёкай ад Навагародка Валоўкі або Валовы, сёння заверхаводзіў смерд з былой Ізяслававай вотчыны, а цяпер з Міндоўгавай асабістай воласці Бусел – немалады ўжо, але яшчэ моцна жылісты, высакаваты, плячысты, густабровы і даўганосы, як і ўсе, у лапцях, зрэбных партах і цяпер у неперапаясанай (каб лішне не грэцца і не ўпацець) доўгай кашулі, саламяным капелюху. Ён некалькі хвілін сузіраў шырокі і доўгі прырэчны травастой, аддаленага адзінокага бусла на ім, а потым па-касецку з запалам падбадзёрыў усіх:

– Ну што, дзецюкі-няўломцы! З Богам!

Цьфухнуў тры разы на вялізныя далоні з нездароўча загнутымі ніжнімі пальцамі і, падбіраючы на лугавым ускрайку мяккую, без расы гнуткую, не кожнаму паддатлівую казянюху, ступіў-зачасціў у няблізкі простар да кустоўя, алешын і рэчкі, пакідаючы пасля сябе выгаленую роўнядзь і два шнуры слядоў. Люба было пазіраць, як у яго лёгка ды хораша спраўлялася каса ўжо з густой мурожнай травою, укладвала яе налева ў валочак. Калі ён адышоўся за сажань, услед за ім даў волю касе таксама ўжо знаны касьбіт Ліс.

Сенакосяць (як заўсёды, спачатку князю, баярам, наймальнікам, а пасля сабе) усюды моўчкі, толькі зноў жа ў свой тон чуецца мянташка ды супадае мелодыя шахкання кос. Ажыўляюцца пазней, як пачне прыпякаць сонца, знікаць раса і калі руплівцы прытомлена, але паважна сыйдуцца ў адно месца на беразе ці то Нёмана, ці то Валоўкі або Свіцязі і тады амаль аднолькава пасля засяроджанасці даюць волю гарэзнасці. Настойваюць, каб упацелыя няздары і малойцы паказалі касу (лішне затачылі наклёп або не), далоні (ці нацерлі мазалі да пухіроў). А калі пачнуць скідаць саламяныя капелюхі, кашулі, споднікі, то так і сыплюцца жарты-кпіны з нечыіх цел (з лысін, сухарэбра, крываватых ног, мужчынскай вартасці. Асабліва дастаецца хлопцам, у каго павук пачаў плясці цёмную павуціну пад жыватом і каму не меней жанчын сорамна за свае "цялесы"). Звычайна для купання выбіраюць глыбокае месца, нават з вірам, дзе іншым часам па адным асцерагаюцца лезці ў ваду: ахвотніка апаласнуцца можа не толькі паказытаць за пяту і дзіка зарагатаць Вадзянік, але і схапіць за нагу ды завалачы пад корч на пагібель. Вадзяны гаспадар можа падаслаць і служку-русалку – яна, па пояс у вадзе, вышэй аголеная і неймаверна вабная распушчанымі валасамі, поклічнымі вачыма і грудзьмі, завабіць у абдымкі нават самага не паддатнага на жаночыя спакусы хлапчыну і навечна зацягне на дно. Не адзін "цудам выратаваны" баяў пра такія дзівосы. Усе ведалі: пры мностве люду Вадзянік і русалкі затойваюцца, таму купаліся смела. Адплата тых будзе камусьці аднаму. То цяпер старыя мелі ўцеху спаважна апаласнуцца ў асвяжэлай за ноч вадзе, маладыя – некага апырскаць з-пад далоні, самому прысесці, падскочыць з крэктам, а потым з прыемнасцю гальцануць, паплыць, аддаваць вадзе прытому, а самому набіраць ад яе новай сілы. Потым лавілі мянькоў у норах. Здараліся і няшчасныя выпадкі. Калі хтосьці яшчэ пры поце адразу нырае. Тады яму зводзіла ногі ці нават спынялася ягонае сэрца альбо трапляў галавой у корч. Юных, хто баяўся вады, прывучалі да яе па-свойму: хапалі за рукі і ногі, разгойдвалі ды шпурлялі чым далей ад берага. Той лапатаў, па-сабачы гробся на сухое і... перасільваў страх ад глыбокай вады). Абсыхаючы, сталыя і разважныя ўжо не толькі скалілі зубы, але і заводзілі гутарку пра свежыя туташнія навіны ці нечакана

ўспаміналі пра свае паходы ў саюзе з Данілам Галіцкім на мазавецкія абшары, пра нядаўнюю сечу на яго зямлі з ягоным пляменнікам з уграмі (венграмі), пра яшчэ свежыя ў памяці бітвы ўжо з ім пры туташніх, дрыгавіцкіх гарадах (жыло яшчэ і некалькі тых, хто маладзенькі з такім жа па ўзросце баярынам Усяславам тры дзясяткі гадоў таму хадзіў на далёкую Калку, быў люта біты, зведаў жах ад "безбародых і вузкавокіх нехрысцяў"). Сёлета не маглі не загаманіць пра тое, што хутка "Мендог з Гаспадара-князя стане каралём". Цяпер вось тут, на беразе Валоўкі, без цівуна-назірача галасы загучалі розныя:

"Мендог лёгка веру мяняе. Сваю – на нашу, праваслаўную. Яе – на рымскую".

"А што рабіці? Дабра чужога многа хацеў. Нападаў знянацку, біў, хапаў колькі мог звесці. Але і яго моцна білі. І свае, каго крыўдзіў. Ды так, што мусіў да нас уцякаці, прасіці паратунку. Каб не наш князь, а потым Усяслаў, то мо і не ацалеў бы. А так у нас заўладзіў, Літву сваю да нас прывёў. Захацеў накінуцца на прыхадняў у белых накідках і з чырвоным крыжам, адагнаць іх да мора. Адзін раз крэпка тых пакалаціў, а на другі яму наўскідалі. Ды пастрашылі: яшчэ боляй дадзімо. І табе, і Наваградку твайму, калі суперак нас будзеце! То і перахрысціўся па-іхняму, а цяпер каралём з іх рукі будзе".

"Што князь вялікі, што кароль – адно. Так ці гэтак гаспадар над намі".

"Не адно. Усяслаў і Мендог шукаюць паратунку ад галіцкага Данілы. А каб з тым не былі лівонцы, германцы, то трэба з імі ладзіць. Гаспадару-князю ў іхнюю веру пераходзіць і не падымаць на іх меч".

"А Войшаль? Усяслаў? І яны пяройдуць у новую веру?"

"Чуў жа Усяслава на мендогавым перахросце: ён застаецца ў нашай веры. І далей будзе спаўняць тое ваяводава, што яму князь Ізяслаў наказаў. То Наваградка ў крыўду не дасць".

"Кажуць: крыжаке моцна б'юць прусінаў".

"Прусіня не хочуць ні так, як мы, ні па-новаму ахрышчвацца. Яны за сваю старую веру. І далей хочуць быці самі па сабе і не плаціці нікому подаць".

"Крыжаке не даюць спакою і не па-іхняму ахрышчаным. Як казаў Усяслаў, нападаюць на Плескаў (Пскоў), адабралі горад у Ноўгарада на зямлі эстаў".

"Сілу велькую маюць. То і трэба з імі лічыцца. Вот і Усяслаў з Мендогам стараюцца не мець іх за непрыяцеля. Ды каб яны Данілу з Галіча памагатымі не сталі".

"Эх, – глыбокі ўздых. – Мы – як тыя зайцэ. З ліха выскачылі, але ці не ўскочым у гора? Мо, людзі, ужо не будзе ў нас такога, як пры Ізяславе. Калі быў спакой, лад і дастатак".

"Цяпер на свеце многае змянілася. Цмокаў розных развялося. З усіх бакоў. То і трэба па-новаму дзеіць. Найперш Усяславу".

"Праўда, нялёгка яму. Ад думак усялякіх мо і сну няма, галава баліць. Адна радасць – жонка маладая і спраўная, дзеці харошыя".

"Не ўсё мы ведаем, не ўсё зразумеці нам".

"Кажуць, госці многа тавару featureзнага прывязуць. Частаванне ўсім будзець. Вунь колькі зімой ласёў, дзікіх свіней, аленяў набілі, засалілі ў бочкі, а ўвесну павэндзілі. Цяперака на свежыну цялят купляюць. Яйкі, сыр. Пірагі пачалі пячы. Бочкі з медавухай з падвалаў вынясуць".

"Але зноў Усяслаў будзе на сваім: сёння вып'е ў смак, а то і напіся.

Заўтра палячы дурны голаў. Ды каб на трэці дзень цвярозы быў, за работу ўзяўся. Іначай прывяжуць да ганебнага слупа людзям на пацеху. А таму, хто нап’ецца і які гвалт учыніць, – бізун! Усяслаў, як быў, так і ест строгі да латругаў”.

“Ласыя на дармавое! Перастаньце сліну наганяць! Што будзе, тое будзе. Пайшлі дадому”.

Праз дні два-тры, калі соладка вяленая трава пачала пры спрыяльным сонцы сухавата пахнуць, сенажаць ажывала: прыходзілі раскідаць пракосы, пераварочваць, зграбаць сена ў валкі жанкі, дзяўчаты, а сярод іх было нямала вясёлых, смехатлівых, задзірыстых. Маладыя кпілі, калі бачылі сям-там няскошаныя касмылі і прыпісвалі агрэхі маладым касцам-жаніхам, жартавалі з усякіх дробязяў свайго побыту, не зважаючы, што сталыя жанчыны бурчаць (“смех без прычыны...”), спявалі (песні звычайна былі весялейшыя, чым на жніве: там была не толькі радасць ад зажынкаў, але і скарга на строгую свякруху за тое, што рана падымае і шле на цяжкую працу, ці на сваю сірочую долю, на нявернага каханка). Валкі копілі толькі мужчыны. У недаступных для калёс мясцінах гэтыя копы складалі ў стагі, каб прыехаць па іх зімой, а астатняе перавозілі ў гумны ці ў азяроды цяпер.

Параіўшыся на Радзе, думцы рашылі праводзіць каранацыю на Купалу – на не самае важнае, як Дзяды, Каляды ці Вялікдзень, свята, але на адно з самых любімых людам і асабліва маладымі, да ўсяго ў цёплае надвор’е. Адгаворваў госць-пасол, знаёмы са славянскімі, язычніцкімі звычаямі біскуп Сільверт: бачыце, моладзь будзе чыніць сваё. Найперш бесаўскія ігрышчы. Дзеля іх з раніцы разыдзецца па наваколлі збіраць розныя зёлкі, а пасля полудня пакіне сухадольны Навагародак, сыйдзе да няблізкай ракі, будзе скакаць праз агонь, варажыць па апушчаных на ваду вянках, частавацца, вызначацца сямейнымі парамі (некалі хлопцы такой часінаю па-сапраўднаму выкрадалі дзяўчат, цяпер выкраданне па дамове загадзя), а хтосьці рушыць у пушчу шукаць прывідную чароўную папараць-кветку. Каранацыя ж ад усіх патрабуе ўвагі і пашаноты. Супакоілі папскага пасла: будзе строгі наказ маладым, каб кветкі сабралі напярэдадні, усе былі на каранацыі і пакінулі Навагародак толькі пасля яе. То застануцца. Тым больш, што ўсіх, старога і малога, будзе чакаць пачастунак. А падвышак Навагародка і Міндоўга якраз у такую пару надоўга застанецца ў памяці.

І без Сільверта спасцігнулі: каранацыя – сапраўды, незвычайная падзея. Яна шмат што мяняе, прыносіць новае: два былыя княствы сярод лесу і поля вядомеюць як адна моцная згодай краіна-дзяржава, яе прызнаюць ужо іншыя, нават старажытныя краіны-дзяржавы і айцы вераспавядання (у выпадку з Навагародкам і Міндоўгам – сам рымскі папа). Ёсць моцная асоба, якой можна ўручыць асвечаныя ў самім свяшчэнным горадзе сімвалы адзінаначальнай улады. А для ўсяго абшару, люду будуць свае новыя знакі дзяржаўнасці, што і ад сваёй даўніны, і для будучыні.

Кожнаму святу, любой важнай урачыстасці патрэбныя пашанотныя госці. Таму паслалі запросіны на гэтую дзею знаным манархам. Найперш – імператару Свяшчэннай Рымскай імперыі Конраду VI. У Чэхію, дзе ўжо немалы час каралявалі Пжэмыслы і дзе паспеў вызначыцца малады, амаль равеснік Войшалка Отакар. Таксама – у Венгрыю, каралю Бэле IV. Праўда, было няшмат надзеі, што тыя прыедуць ушанoціць Навагародак і Міндоўга. Несумненна, яны не маглі не ўведаць пра гэтага, грознага і ўжо ведамнага па многіх паходах і бітвах ваяўнічага князя з Літвы: ус-

лед за бацькам, старэйшым братам і іншымі родзічамі ён нагнаў нямала перапуду рабаўніцкімі нападамі нават на воддальныя землі. Апошнія паўтара дзясятка гадоў трымаў у напрузе лівонцаў. Усіх запрошаных, як даходзіла ў Навагародак, многае стрымлівала. Конрад прадаўжаў услед за бацькам Фрыдрыхам II, дзедам Генрыхам VI варагаваць з рымскім папам, каб не паступацца ўладай у Свяшчэннай Рымскай імперыі. Цяперашні папа Інакенцій IV, як і многія яго папярэднікі, лічачы сябе па блізкасці да Бога вышэй за зямнога імператара, знайшоў зачэпку, каб настроіць германскую знаць супроць іх, Гогенштаўфенаў ("Фрыдрых уніжае вас, распуснік, трымае для ўцехі цела паўсотню жанчын"), а ўрэшце, сапраўды, для многіх злыдуха аб'явіў антыхрыстам (а той такім – папу) . Нядаўна, як дайшла пагалоска, нават была з Рыма просьба да венграў, манголаў пайсці вайной на Фрыдрыха, скінуць таго і каранаваць з іншага роду імператара. Бэла больш за дзясятак гадоў варажнечыў з чэхамі за асобныя аўстрыйскія землі (на іх, аддаленыя, зусім чужыя, дзёрзка замахваўся і Даніла Галіцкі). Ды ён, Бэла, яшчэ не мог забыць, што Міндоўг з Літвы і Усяслаў з Навагародка ў 1245-м памаглі Данілу разбіць яго войска пры Карпатах на Сане. Праўда, цяпер, калі Батый выказаў давер Данілу, Бэла згадзіўся выдаць дачку замуж за Данілавага сына. Прытаілі варажнечу і злосць, парадніліся па разліку.

У блізкіх суседзяў, у Полацку, пасля смерці Брачыслава II заявіўся новы князь (Канстанцін. Як гаварылі, па бацьку са смаленскіх князёў, маці – полацкая баярыня, жанаты з маладзенькай дачкой А. Неўскага і полацкай Аляксандры). Запрасілі і яго. Зламыснага Данілу Галіцкага таксама: князь, хопіць збіваць нас з ног! Прыязджай, пасядзім-пагаворым, як мір ладзіць ды разам кумекаць пра іншае, сапраўды нам і табе пагрознае з Захаду і Усходу. Была загвоздка з запросінамі гасцей з польскіх зямель. Як было вядома, там яшчэ гадоў пад 230 таму выбітны князь Баляслаў падуладзіў сваім палянам многія суседнія землі і ў 1025-м дамовіўся з папам каранавацца на караля (раней ягоная дачка дзеля прымірэння з кіеўскім Уладзімірам Святаслававічам апынулася замужам за Святаполкам, і яны, маладыя, пэўны час княжылі ў скораным Уладзімірам Тураве. Баляслававa кемная красуня са сваім духоўнікам скарысталіся тым, што тураўцы прагнуць былой вольніцы, і, як нашэптвалі праціўнікі гэтага, "пачалі завабліваць іх у лацінства, пад дзясніцу Баляслава". Раззлаваны Уладзімір адклікаў Святаполка і зняволіў). Ды хутка пасля скону Баляслава злучанае сілай Польскае каралеўства дало трэшчыну, разлезлася па слабых швах. Ужо ў 1032-м германскі імператар Конрад II, не зважаючы на папскае благаславенне польскай каралеўскай дзяржавы, сілай змусіў Баляслававага сына Мечыслава (Мешку II) аддаць карону і стаць ягоным васалам. Гэта прывяло да азлосненых польскіх сварак (згодныя з такім – няўступлівыя) і звароту многіх насельнікаў у язычніцтва. Мечыславаў сын Казімір, жанаты з унучкай Уладзіміра і Рагнеды, дачкой Я. Мудрага (некаторыя памылкова называлі яе яго сястрой) не мог пазбавіцца васальства, але з падмогай цесця аднавіў многае дзедава, ужо цалкам перавёў сталіцу ў Кракаў. Пасля яго сын, Баляслаў II, у 1076-м верне страчаную каралеўскую карону. Праўда, ненадоўга. У спрэчцы тагачасных рымскага папы і германскага імператара ён выступіў за першага, за што (і за іншыя грахі) пацярпеў. Пры яго пляменніку-правіцелю імператар і папа дамовіліся ўвесці там senioratus: старэйшаму ўладару – вяршэнства, свой надзел і сталічную зямлю, яго малодшым братам, сынам – асобныя ўдзелы-воласці. Адпаведна, іхнія

дзеці, унукі драбнілі дзяржаву. Цяпер, у 1253-м, там мелася не менш 10-ці чужаватых адно да аднаго княстваў. Гэта было да спадобы і германскаму імператару, і папу. Для германцаў польская слабасць была толькі на руку: яна адкрывала шлях далей на Усход па новыя ўладанні. У тым стагоддзі на прыморскія язычніцкія землі прыбылі папскія місіянеры, выхадцы з многіх краін. Яны пачалі не толькі асвячаць тубыльцаў у рымскую веру, але і ўстаноўліваць свае законы, лад. Сустрэўшы нязгоду і адпор, рыцары-манахі ўзяліся будаваць свае крэпасці, замацоўвацца на правах дзяржавы. Ды паколькі манахі не мелі права жаніцца, мець сям'ю, дзяцей, а між тым гінулі ў баях, то трэба было новае папаўненне. Для воінства, каланістаў – асаднікаў-землеўласнікаў, рамеснікаў, розных службоўцаў. Ён, заваёўніцкі прыліў, пайшоў ужо найперш з недалёкіх германскіх земляў. Каб асесці на чужых прасторах, папа ды імператар здолелі дзеіць заадно. Да слова, ім нямала нагаварылі, што Міндоўг – "варвар з варвараў", цяпер з імі "воўк у авечай скуры", але тым не менш яны рашылі: лепш мець яго за саюзніка, чым за няўступлівага ворага.

З заходніх славянскіх земляў па суседстве, ладзе, гаворцы сама блізка да Навагародка і Літвы Мазовія. У яе весях, нават буйнаватых гарадах, такіх, як Плоцк і Чэрск, як спазналі ўжо не толькі купцы, але і многія навагародскія воі ў 1238-м, у час паходу туды, пагаворыш з кожным і без тлумача. Здзіўляліся: "І тут, за незразумелымі яцвягамі, многа чаго як і ў нас! "Дзеньдобры, жыта, студня, шчодры, кавалак, лыжка, далей, цыбуля, нагавіцы, зух, здрада". Толькі гэта яны крыху па-іначаму прамаўляюць, падпяваючы. А то ў нас "ліпень", а ў іх – "ліпец", "соль" – "суль", "дабранач" – "добраноц", "трэба" – "тшэба", "зуб" – "зэнб". Праўда, "бярэзіна" – у іх ледзь выгаварыць: "бжоза". Ці да якога слова дадаюць "сень": "мыцца" – "мыць сень".

Ды з поблізнай Мазовіяй не было асаблівай прыязні: там не забыліся пра ранейшыя грабежніцкія наскокі на іх гарады і весі не толькі суседзяў-яцвягаў, але і Літвы, Міндоўга, пра напад 1238-га. Хоць двойчы вайна ў тым годзе наклікалася не без Конрада Мазавецкага: ён перад гэтым запрасіў да сябе рыцараў-тэўтонаў і даў ім паўночны кавал сваёй зямлі. Каб яны ахрысцілі прусаў (у іх, як і ў яцвягаў ды Літвы, было па некалькі яшчэ да прыходу славянства пракаветных родаў, а пазней невялікіх ды ахвотных да нападаў на чужыя краі і грабяжу княстваў), а іхнія абшары перадалі яму. А потым учыніў рыцарам яшчэ адзін падарунак: саступіў ім спрэчны Дарагічын на рацэ Буг (тыя мясціны, дзе пераважна жылі яцвяжскія палексы, адзін час належалі Турава-Пінскаму княству, пазней былі перахопленыя Галіцка-Валынскім, ад яго ў час змагання Данілы Галіцкага за ўладу з чарнігаўцамі – Мазовіяй). Тэўтоны (а яны ўступілі ў звязак з пабітымі Жамойціяй у 1236-м рыжскімі мечаносцамі) сталі небяспечнымі суседзямі Берасцейскай, Галіцка-Валынскай зямель. Каб пазбавіцца ад такога, Даніла, як толькі выдаліў чарнігаўцаў з Галіча, увесну 1238-га "в силе тяжце" пайшоў на Дарагічын. Каб "абразуміць" Конрада, ён "по том же лете" паклікаў Навагародак і Літву разам пайсці на Мазовію. У тую пару Даніла і Ізяслаў ужо варажнечылі, але тут паразумеліся: навагародская Рада аніяк не жадала, каб крыжакі і Мазовія сталі ўладарамі палексаў, новымі і больш страшнымі пасуседнікамі Гародні. "Усяславе, – сказаў яму, ваяводу, Ізяслаў, – пойдземце адпомсціці тым за твайго славутага цёзку, а майго любімага прародзіча, палацескага князя". Некалі на яго разам з Яраслававым сынам Ізяславам прыйшлі і падзячлівыя яму, параднёнаму,

і мазоўцы. Яны памаглі на пэўны час выгнаць Усяслава з Палацеска"; Міндоўг падаўся, каб пажывіцца. Вайна супраць трох суседніх уладароў, змаганне з пляменнікам за ўладу ў Кракаве і страшная мангольская навала змусіла Конрада шукаць з усімі трыма пасаюзнікамі міру. Ізяслаў задаволіўся дарамі ды тым, што адсунута небяспека ад Гародні. Даніла і Конрад пажанілі дачку і сына, ужо разам сілай вызначалі, каму сесці ў Кракаве. Ім як наёмнік памагаў Міндоўг. Гэта прывяло Конрада да пасада ў сталіцы, але ў 1247-м ён нечакана памёр.

Як паказаў час, тэўтоны не збіраліся дзяліцца заваяваным з дабрадзеем, на падараванай Конрадам зямлі найперш для свайго амацунку заклалі крэпасць, біскупства; тое ж для сябе робяць і на некаторых, ужо скораных прускіх землях. Пасля смерці Конрада яго ўладанні дасталіся сынам: уласна Мазовія – Зямовіту (Даніла-цесць памагаў яму ў вайне з яцвягамі, і яна выйшла ўдалая), Куявія – Казіміру. З-за яцвяжскай здабычы браты пасварыліся (неўзабаве абдзелены Казімір захопіць і заняволіць Зямовіта з Данілавай дачкою). Дык вось у Навагародку думалі-думалі і рашылі запрасіць як Зямовіта, так і Казіміра. Тыя цяпер не былі ворагі крыжакам, нават пасобнікі: Зямовіт скараў, рабаваў яцвягаў, а Казімір, як і Міндоўг, не збіраўся памагаць іншым язычнікам, асабліва прусам, адбівацца ад "святой" дабрадзейнасці. Ды яшчэ супернічаў з заходнім суседам, Святаполкам Паморскім (хоць той найдаўжэй за ўсіх тамашніх князёў, ажно да 1249-га, упарціўся крыжакам у Паморʼі, за што тыя празвалі яго "сынам дʼябла").

Як і чакалася, ніхто з гэтых запрошаных не заявіўся. Конрад VI павыбачаўся, што не мае для паездкі часу, і прыслаў Міндоўгу падарунак. Як уведалі, Отакар паслужліва спаўняў волю папы, імператара і збіраў сілы для крыжовага паходу на прусаў. Ён абяцаў зазірнуць пазней, ужо да Міндоўга-караля, і таксама абмежаваўся гасцінцам. Як сказаў навагародскі пасланец, Бэла не зажадаў бачыцца з крыжакамі: ён, як і Конрад Мазавецкі, запрашаў іх да сябе на паслугу, але неўзабаве, зняверыўшыся, выправадзіў. Ад яго прыйшло толькі віншаванне. Даніла, як і чакалі, у гневе накінуўся з кулакамі на пасла: "Бегма прыбягу! Каб паразганяць вас усіх па пушчы! А то і паланіць, прывесці ў Галіч на ланцугу і памясціць у порубным палацы! На лёдзе дом будуюць! Не! Хто высока нос задзірае, той на лобе гуз набівае!" Каб не сталася ніякіх непрыемнасцей ад таго, на поўдні, за Слонімам, учынілі патаемны баявы заслон. Полацкі Канстанцін замуляўся, папрасіў час, каб падумаць, параіцца з ўладнымі полацкімі баярамі, а потым, перагаварыўшы, сказаў-адрэзаў: "Не. Не магу". Праўда, на развітанне сам-насам па-змоўніцку пасміхнуўся: "Зазірну. Уночы. Каб не толькі ордэнцы, але і нашы не ведалі пра гэта".

Што ж, на такія Канстанцінавы хітрыкі было нямала прычын. Яшчэ ў тым стагоддзі полацкі князь Валодша не ўгледзеў меч у іншаземных місіянераў у белым плашчы з чырвоным крыжам і неабачліва дазволіў ім прапаведаваць рымскую веру на язычніцкіх землях прыбалтыйскіх ліваў, сёлаў, куронаў, адкуль чэрпаў сабе даніну. Калі там ад выхапленага з-пад накідкі мяча палілася язычніцкая кроў і калі крыжакі рушылі нават на полацкія (хрысціянскія!) уладанні ў Латгаліі – Кукенойс і Герцыке ("вызваляем вас, туташніх, ад палацескага ярма!"), то полацкая знаць спахапілася і ў адказ падняла на крыжакоў свае капʼё і меч. Адбылося некалькі сутычак. Асцерагаючыся большага, зацяжной вайны з Полацкам і ягонымі суседзямі, тыя папрасілі міру, прыслалі багатыя дары. У 1210-м

падпісалі мірную дамову, найперш пра неперашкодны гандаль па Заходняй Дзвіне, іншых рэках. Пасля дамову не раз дапаўнялі.

(Некаторыя дарэвалюцыйныя рускія гісторыкі папікалі тагачасны Полацк за гэта: бачыце, тое пагадненне аберагала яго, але скіроўвала крыжакоў на падуладныя Русі пскоўска-наўгародскія землі. Мо і так. Ды знаны даследчык С. Салаўёў адводзіў гэты папрок, дакорліва зазначаў: "В то время, когда немцы утверждались в Ливонии, отнимая двинские страны у Полоцка, новгородцы и псковичи продолжали бороться с чудью". Значыць, нават не шукалі з Полацкам пагаднення. – *Г.Д.*).

Ды ў той час Полацк моцна стрыножвалі смаленскія князі. Яны працяглы ўжо час супрацьстаялі вялікім князям Паўночнай Русі, паклалі вока на Ноўгарад, не хочучы, каб там мацаваліся князі як з Поўначы, так і з Поўдня, у 1216-м развязалі вайну супраць Суздаля і, зразумела, хіжа касавурыліся на блізкага крывіцкага суседа, Полацк. Скарыстаўшыся тым, што смаленскі князь ваюе воддаль, Валодша ў 1216 годзе пачаў збіраць сілу на крыжакоў (яны парушалі мірны дагавор, але заяўлялі, што яго не шануюць палачане), каб "скінуць набрыдзяў-ашуканцаў у мора". Ды перад самым выступам ён раптоўна і таямніча, мо і ад крыжацкай атруты, памірае. Паход сарваўся. Абрадаваныя крыжакі ўсё ж абачліва не падаюцца ўверх па Дзвіне, смялей ідуць на эстаў, а заадно нацэльваюцца на Пскоў, Ізборск, Ноўгарад.

Смаленскі Мсціслаў, не змогшы перашкодзіць чарнігаўскаму Міхаілу сесці і ў Ноўгарадзе, знайшоў суцяшэнне ў тым, каб у 1222-м рушыць на Полацкую зямлю і захапіць у ёй некалькі гарадоў (гэта ў той час, калі полацкія дружыны маглі б спатрэбіцца для помачы былому ўдзельнаму полацкаму князю Вячку ў яго бітве з крыжакамі на зямлі эстаў). Каб не распыліць сілы яшчэ і ў новай сутычцы з лівонцамі, Полацк тады ж, у 1222-м, падпісаў з Рыгаю новую мірную дамову, а ў 1229-м згадзіўся, каб Мсціслаў ад імя яшчэ моцнага Смаленска, Віцебска і Полацка заключыў з Рыгай, востравам Готланд больш шырокае гандлёвае пагадненне і такім чынам землі пры Заходняй Дзвіне і Дняпры сталі "вечнымі" абшарамі міру і згоды. Але... У 1220-я з'явіліся незвычайныя "знамения" – прыметы не на дабро. Праўда, першая тады не здалася страшнай (прышэсце чужынцаў. Манголаў. Яны як нечакана прывалілі, пужанулі Паўднёвую Русь, так і раптоўна зніклі). Другая – камета, што з тыдзень з'яўлялася ў цёмным небе і нібы паліла яго. Прымхлівыя, да слова, у Ноўгарадзе ўбачылі ў гэтым нейкую вялікую бяду-злыбеду. Яна і здарылася: пасля бою на Калцы запанавала спустошлівая сухмень. Ад яе ў многіх мясцінах зямля засмылела амаль прысакам, загарэліся лясы і балоты, ад атрутнага дыму задыхаліся людзі, падалі мёртвыя птахі. Па нядоўгім часе неба над Ноўгарадам і недалёкімі суседзямі зацямнілася і "разверзлось на потоп": хлынулі зацяжныя, ад паловы жніўня да снежня, залевы, ад чаго пагніло сена ў стагах і збажына на корані. Далей – болей. Ліхалецце падоўжылася. 3 мая 1230-га нечакана скаланулася, затрэслася зямля ад Чорнага мора па Ноўгарад (у Кіеве нават калоліся, развальваліся мураванкі). Праз дзесяць дзён – зацьменне, рознакаляровыя воблакі на небе і віхуры. 14 верасня чамусьці паласой накінуўся нечуваны мароз. Ён асабліва заярыў у Смаленску і Ноўгарадзе. Як раней дажджы, знішчыў новую збажыну. У Ноўгарада здаўна свайго хлеба не хапала, то прыкупліваў яго ў суседзяў. А тут многія засталіся без жмені мукі. Пачаўся голад, успыхнулі хваробы, мор. І большыя, чым у 1215-м. Тады маразы не былі такія моцныя

і доўгія, ды князь Яраслаў зміласцівіўся: праз нейкі час дазволіў падвезці непрыхільным да яго наўгародцам харч (пазней князі Паўночнай Русі амаль так утаймовалі яшчэ адных натурыстых, Пскоў: не дапускалі да яго солі або прадавалі яе па вельмі высокай цане). Цяпер зімняя лютасць учыніла большую шкоду, і галадоўе цягнулася два гады. Калі перад няшчасцем наракалі, што павысіліся цэны (бочка з чатырма чвэрцямі жыта па 3 ноўгарадскія грыўні), то ў бядоту толькі за адну чвэрць (210 л) нават па сем і больш грыўняў нельга было знайсці зерня. Тым больш, што ў многіх хутка не стала не толькі грыўняў (грыўня – вялікае багацце), але і меншага плацежнага па кошце – нагат (іх магло быць і 20 у грыўні), кунаў (да 3-х у нагаце), а затым і самага простага – нават шматкоў не толькі гарнастаяў, куніц, але і вавёрак (самага простага і ўжывальнага натуральнага з продажу-куплі. Дый паспрабуй абяссілены даклыпаць да лесу і здабыць таго ўвішнага звярка). Люд еў кару, мох, усіх дазвання дамашніх, звычайна не ядомых жывёлін, нават у самым апошнім адчаі... людзей (за гэта каралі). Бацькі сілком аддавалі дзяцей у прыслужнікі багатым, нават замежным купцам, а то садзілі ў лодкі і адпіхвалі іх на плынь Волхава ў свет белы – недзе сардэчныя людзі затрымаюць лодку і прытуляць гаротную малечу. А ў гэты час у Чарнігаве і сталіцы Паўночнай Русі Уладзіміры нібы не чулі пра ўсё гэта, вырашалі... каму княжыць у заўсёды непакорлівым, але зараз за штосьці пакаранаму самім Богам Ноўгарадзе. Ці Яраславу, брату вялікага князя Георгія, ці іхняму швагеру, Міхаілу. Поўначы альбо Поўдню. У Ноўгарадзе голад выкасіў больш за 40 тысяч люду, і ён, горад, "уже кончался" (з летапісу). "Но великодушная дружба иноземных купцев отвратила сию погибель... сведав о бедствии новогородцев, немцы из-за моря спешили к ним с хлебом, и думая более о человеколюбии, нежели о корысти, остановили голод..." (М. Карамзін. Ён думаў, што "немцамі" маглі быць купцы з Готланда ці з германскіх зямель). Для помачы галодным і дзеля міру з варожым вялікім князем Паўночнай Русі не адзін дзясятак суднаў з зернем прыслалі волжскія булгары. Як Кіеў і Чарнігаў не спяшаліся памагаць Ноўгараду, так, здаецца, і Полацк – з-за супернасці Смаленску (бежанцаў там і там прыймалі). Смаленск страціў болей за 30 тысяч насельнікаў і далей ужо не мог пасягаць і на Ноўгарад, і на Полацк. Пасля смерці там князя новым полацкая дружына прывяла туды свайго вылучэнца...

...Пазней княскія шляхі-дарогі прывядуць у Ноўгарад сына вялікага князя Паўночнай Русі Аляксандра (яшчэ не Неўскага). Ён ясней убачыў крыжацкую небяспеку, то ўлічыў ранейшыя промахі Ноўгарада і Пскова, пачаў шукаць саюзу з амацнелым Полацкам і, значыць, яго падмогі. Зарука гэтага – жаніцьба ў 1239-м яго з дачкой полацкага князя Брачыслава. Ужо налета жаданая помач адтуль будзе ў яго бітве са шведамі на Няве, дзе загартаваная полацкая дружына білася спраўна, а сярод іншых герояў вызначыўся як "муж храбры" палачанін-асілак, княскі лоўчы Якаў. А крыху пазней, казалі, Полацк і Віцебск падсаблялі Аляксандру ў яго наспелай сутычцы з крыжакамі на Чудскім возеры. Крыжакі, зразумела, не маглі не пабойвацца такога цеснага згодніцтва Ноўгарада і Полацка, таму так настойліва шукалі прыяцеляў як на язычніцкіх, так і на славянскіх землях.

Цяпер Полацк не толькі з-за сваіх прыбалтыйскіх страт не жадаў садзіцца за адзін бяседны стол з крыжакамі і весяліцца з імі. Была і яшчэ адна балючая загвоздка для іх. З-за яго, Навагародка. З-за рэўнасці: пад 200 гадоў таму (1066?) полацкі Усяслаў скарыстаўся тагачасным спрыяль-

ным момантам і загарэўся далучыць Навагародак. Ён замысліў баявую дзею не без мары, каб злучыць крывіцка-полацкую і дрыгавіцка-тураўскую землі ў адзін моцны злітак, як такое было пры ягоных продках, братах Рагвалодзе і Туры. Не ўдалося. Як і пазней яго сыну, менскаму князю Глебу (той у 1110-я намерыўся адвадзіць Смаленск ад Копысі ды Оршы і такім чынам выйсці да Дняпра, захапіць Навагародак, каб узяць у свае рукі нёманскае вярхоўе, Слуцк, а праз яго раку Случ мець доступ да Прыпяці. За вялікія намеры яго і пакаралі па-вялікаму. Смерцю ў Кіеве. Яго сыны ўжо нават не пасягалі на тое, на што нацэльваліся бацька і дзед). Іншыя Усяслававічы за настойлівасць не толькі застацца самім па сабе, але і ўзвысіцца, таксама цяжка пацярпелі ад вялікіх князёў кіеўскіх і імі пакліканых памагатых (нават сваіх лютых ворагаў, полаўцаў). Многіх пераможаных полацкіх князёў не толькі зняволілі, але і вывезлі ў Візантыю "на одум і суд імператара" – праўдзівей сказаць, на пагібель ад чужых рук. Але з часам многае і мянялася сярод славянскіх ворагаў-сяброў і зноў ворагаў (не навіна, калі амаль кожны князь за сваё жыццё неаднойчы то варагаваў, то мірыўся з іншым князем). Полацкая зямля з ацалелымі ў схованках на Літве і некаторымі вернутымі з Візантыі князямі ўстояла як княства са сваім ладам. Пад канец мінулага стагоддзя саюзілася... з даўнімі супернікамі-непрыяцелямі. Кіеўскімі уладарамі. Супраць узмацнелага Смаленска. Гэтае таварышаванне мірна прынесла полацка-ізяслаўска-лагойскім князям свой плён – княскі пасад у Навагародку. У ім апынуўся нашчадак Усяслававага сына Георгія-Святаслава Андрэй. Пасля тут акнязіўся ягоны пляменнік Мікула, за ім – Ізяслаў Мікуліч. Праўда, Андрэй пачынаў як васал гарадзенскага князя, чый продак раней займеў Гародню яшчэ ад грознага ўнука Я. Мудрага Уладзіміра Манамаха ў пасаг за дачку (Выйграваў бітвы ці прайграваў, але толькі Усяслаў Чарадзей заставаўся на княскім полацкім пасадзе доўгажыхаром. Амаль 60 гадоў. Пасля ягонага адыходу і ў Полацкай зямлі, як раней, пры ім, пасля яго ў іншых усходнеславянскіх княствах, не абыйшлося без частай супернай змены ўладароў. Да ўсяго трэба было знаходзіць пасады новаму княскаму папаўненню).

У другой палове мінулага стагоддзя адбыліся таксама, на першы погляд, звычайныя перамены. У канцы 1150-х у Тураве заявіўся новы князь, Юрый (Георгій) Яраслававіч. "Ізгой" (паводле гісторыка С. Салаўёва. Значыць, нічога свайго не меў, жыў з чужой ласкі. – *Аўтар*). Але гэты небарака быў не бязродны і не пазашлюбны, а праўнук сына Яраслава Мудрага Ізяслава, некалішняга тураўскага князя. З часоў таго Ізяслава (зацятага ворага бабулінага, Рагнедзінага, Полацка; на яго наводзіў вояў з Мазовіі) Тураў меўся ледзь не за кіеўскае прадмесце, шанец для ягонага князя пры спрыяльнасці скокнуць з яго на вялікакняскі пасад. Паколькі Юрый адзін час быў надзейным дарадцам у іншага і ўладнага Юрыя (Даўгарукага), то той рашыў акняжыць яго і заадно мець свайго чалавека ў Тураве. Вылучэнец быў удзячны і зажадаў трывала асесці ў вядомай і не малой Тураўскай зямлі (яе прасцягі раскінуліся ад Дняпра, мясцінамі абапал Прыпяці і па Бугу па Дарагічын (цяпер Польшча. – *Аўтар*). С. Салаўёў пазначаў, што ў некаторы час Тураву належала больш за 10 немалых гарадоў). Але падзеі пайшлі сваім ходам: Даўгарукі паміраe, а новы вялікі кіеўскі князь патрабуе ад тураўскага поўнай пакоры. Калі яму перадаюць поўную адмову ад такога, ён збірае з розных бакоў вялікую сілу і ідзе вайной. Узрадаваныя явай вольнасці, тураўцы і блізкія суседзі, як

кажуць, сталі гарой на абарону стальца, князя, непадлегласці. Адбылося нечуванае ў тым часе на ўсходнеславянскіх землях: ажно 10 тыдняў цягнулася аблога, але горад выстаяў не столькі як такая ўжо непрыступная крэпасць, а моцай духу абаронцаў. Але Юрый не толькі залечваў раны, заадно збіраў новыя дружыны. І ўжо для нападу: убачыў суперніка ва Уладзіміра-Валынскім княстве. Вось і апярэдзіў таго. Пасля бітвы без пераможцаў ужо тымі ў адказ зноў быў асаджаны Тураў. Толькі ўжо не на такі доўгі час. І на гэты раз са стойкасцю дружын і насельнікаў. Яны ведалі, *што* і *для чаго* абараняюць.

Юрый у 1162-м падпісаў з вялікім кіеўскім князем мір, што было прызнаннем незалежнасці Турава. Але і ў тым жа годзе таямніча (без запісу ў летапісах) скончыўся цяжкі шлях тураўскага князя. Засталіся шэсць яго сыноў. Як і належала, ім патрэбны былі ўдзелы. Значыць, трэба было дзяліць зямлю на кавалкі. У Тураве застаўся княжыць Святаполк, Глеб падаўся ў Дубровіцу (цяпер Украіна. – *Аўтар*), Яраслаў – у Пінск, Іван, Яраполк і Расціслаў – у іншыя гарады (пазней, пасля смерці братоў, некаторыя будуць вяртацца ў сэрцавінныя Тураў і Пінск. І што важна, ніколі не паднялі адзін на аднаго меч).

Яшчэ пра адных нашчадкаў Яраслава Мудрага. Яго ўнук па сыне Усеваладзе Уладзімір Манамах прагнуў не толькі аднавіць дзедаву моц, але і нарэшце скарыць няўступлівы Полацк, а таксама яго няўрымслівага сына – Менск. Але як часта бывае пасля смерці валявога ўладара, нават ягоныя дзеці ці не разумеюць, ці свядома запыняюць бацькавыя помыслы і ўсё па-свойму пераварочваюць. Пасланы ў далёкі Суздаль Манамахаў сын Юрый не задаволіўся ім, замарыў пра большае. А паколькі замахнуўся ажно на сам далёкі Кіеў, то яго абазвалі “князем з доўгімі рукамі”. Дзеля спаўнення мроі тройчы дзёрзка трос стары стольны град. І, зразумела, гэты Даўгарукі войнамі знясіліў яго. Юрыяў сын Андрэй з Багалюбава ўз’юшыўся яшчэ зласней: сабраў з розных мясцін і навёў на яшчэ здольны змагацца Кіеў больш за дзесяць незадаволеных, пажадных да спажывы князёў. І не толькі ўзяў сталіцу, але... У 1168-1169-х злучаныя раці (прывялі свае дружыны і маладыя турава-пінскія князі) не проста захапілі Кіеў ды пажывіліся там. На месцы яго, вялікаснага і некалі багатага, пакінулі шмат руінаў, папялішчаў. Ніколі так усходнія славяне не нішчылі “матерь Руси”. Тады многія разумныя людзі анямелі ад такога жаху і трывогі-запыту: якая-такая новая Русь будзе на Уладзіміра-Суздальскай зямлі, дзе і холад, няўдобіцы, і аснова не славянская, а ўгорска-фінская?!

Гэты, учынены сваімі, перазлом Русі змяніў яе дзяржаўны шлях. Пры яго невыразнасці тыя, хто не ўхваліў пераварот, падсвядомасцю адчулі: новая дарога будзе з запрудамі, выбоінамі, то можа яшчэ іначай пракладацца. Праз новыя войны і ліхалецці. Праз падзенне гэтых пераможцаў і ўзвышэнне іншых. Бывае, меч перамагае, але не заўсёды ўсё дасканала вырашае. Тураўская зямля задыхала на ўсю грудзіну, сыны і першыя ўнукі Юрыя Яраслававіча ў стальцы, ва ўдзелах правілі-гаспадарылі ў згодзе. Але вялікія перамены праз дзясяткі тры гадоў падрыхтуюць і новую небяспеку. Адтуль, дзе прачуваў іхні дзед. Без кіеўскай дзясніцы напрыканцы мінулага стагоддзя асабліва пачало ўздужвацца сярод іншых Галіцка-Валынскае княства. Яго ваяўнічы валадар Раман (Данілаў бацька) разгарнуў вялікія захопы поблізных і багатых земляў. Адабраў у тураўскага Глеба Дубровіцкае княства, у ягоных братоў – Берасце, Дарагічын (захапіўся ісці і далей за яго ды там быў забіты). Са стратай вялікай улады і падацей Тураўскі пос-

туп, рост перашчыкнуліся. Ён пачаў чэзнуць, як старое, абрэзанае, толькі з адной галінай дрэва. У новым стане разварушыўся, заруплівіў, як кажуць, да сёмага поту і натхніўся геройскай адвагай Пінск. Зажылі самі па сабе дрыгавіцкія Слонім, Ваўкавыск, Гародня, Навагародак, а яшчэ раней, пры Юрыі Яраслававічы, – Слуцк і Клецк, што меліся тым за паўночную старожу-апору. Пінск мог умяшацца ў дзеі, побыт названых гарадоў-княстваў, але каб не кідацца туды-сюды і не растрасацца, палічыў за лепшае засяродзіцца на супрацьстаянні новаму, але не менш агрэсіўнаму, чым бацька, галіцкавалынскаму валадару. Дзеля гэтага меў пошапт з Літвой, як і Навагародак ды Слонім, прапускаў яе ватагі рабаваць запрыпяцкія абшары. Абядняў іх чужымі рукамі. Навагародак і Тураў-Пінск моцна засябравалі ў час нядаўняй мангольскай навалы: тады многім уцеклым паўднёвапалескім князям, баярам далі навагародскі прытулак. Зараз з пінскім князем Міхаілам мацуе стасункі пасланы ў Слонім, Ваўкавыск і Гародню бацькавым намеснікам Войшалк.

Адасоблены ад бурных падзей, не пацярпелы ад бясконцых міжусобіц (асабліва ў мінулым веку), ад манголаў зацішны Навагародак мог спакойна і спрыяльна расці, большаць і заможнець. Яшчэ яго князь Мікула стаўся ўжо нароўні, скажам, з гарадзенскім князем з роду манамахавага зяця і заадно паціху ўхіляўся ад моцнай полацкай апекі. Яго сын Ізяслаў (а век ягоны быў за восемдзесят, яму прыйшлося перажыць двух сыноў) сабраў яшчэ багацейшую казну, займеў моцныя дружыны і за доўгае сваё княжанне без гвалту, толькі словам важкім пабратацца з суседнімі князямі ў дрыгавіцкіх гарадах. Больш – тыя спакваля самі прызналі ягонае вяршэнства як у гэты час самага мудрага і баяздольнага. І ён, не злоўжываючы, асцярожна, не будучы вялікім князем, спаўняў сваё вялікакняскае. А важкасць яго падмацоўвалася яшчэ і тым, што з Літвы-суседкі князь Даўгерд, а потым яго сын Даўспрунк, а за ім яшчэ болей ягоны брат Міндоўг адышлі ад даўніх, з часоў Брачыслава і Усяслава Чарадзея, сумесных повязей з Полацкам і пагарнуліся да Навагародка, што рос, як казаў Даніла, у буйнага драпежніка. І вось нашчадкі полацкіх Ізяслава-Брачыслава-Усяслава (Міндоўгаў дзед, бацька зазначалі свае карані ад прыхаванага ў іх полацкага княжыча) ладзяць... Навагародска-Літоўскае каралеўства!.. То як тут не будзе стрэмчыць Канстанціну і яго баярам?!

Яшчэ Рада вырашыла перадаць запросіны на каранаванне ў панічлівы пасля няўрымслівых, нацэленых на вялікае Усяслававага сына Глеба і яго нашадкаў Менск (зламыснікі цешыліся: "Ускочыў і асеў"), а таксама самым блізкім паўднёвым і, галоўнае, мірным суседзям, з кім даўно ўжо вялі выгадны гандаль: тыя з менш залесеных і больш тлустых зямель – збажыну, жывёлу, мёд, а яны ім – вырабы розныя, асабліва тыя, што па Нёмане прыбывалі здалёку ў Гародню. Гэта – слуцкаму князю і князю ўдзельнага Клецка, дзе які ўжо час уладзілі сваякі былога тураўскага князя Юрыя Яраслававіча. Тураў пасля ўзлёту заняпаў, Клецк і Слуцк сталі менш з ім знацца, але захавалі паважлівасць. Зразумела, не маглі абыйсці ўвагай і яго – нядаўнюю, у новым часе моцную дрыгавіцкую сэрцавіну. Ды Тураў, што тады вельмі рэдка было, не замінаў іншым гарадам на дрыгавіцкай зямлі мець, мацаваць сваё княства. Зусім спакойна дазволіў палескаму Пінску і са змяшанымі насельнікамі Навагародку зраўняцца з ім, а пасля асамастоіцца. Няхай усе прыедуць, паглядзяць. Мо і пабольшае ў Навагародка прыхільнікаў...

Без вялікай надзеі на прыезд яшчэ паклікалі смаленскага і чарнігаўскага князёў. Як кажуць, уважылі цяпер не зусім дабрабытныя і ў сіле, але старажытныя і выбітныя землі.

Вось, калі коратка, так крыху больш за свае 200 гадоў Навагародак з дрыгавіцкага паселішча, потым з кіеўскай стаянкі-старожы перад мяжой з Літвою стаўся невялікай крэпасцю, валасным гарадком, падрамаў, як цяпер Гародня, а тады, менш стагоддзя таму, пры спрыяльным лёсаванні пайшоў ушырыню і ўвышыню: у войны, пры пасляваенных зменах-пераменах у свеце і ў суседзяў горад-асяродак удзельна-васальнага, а затым сталец вольнага княства, а з 1246-га і адной з Літвою дзяржавы (пра пачатак ВКЛ менавіта ў той год доказная думка М. Ермаловіча на аснове Густынскага летапісу і іншых дакументаў. Там запісана, што тады Міндоўг са сваімі баярамі хрысціўся ў праваслаўе. Гэта было ўмовай, каб стаць князем у правасланым Навагародку. – *Г.Д.*). Той-сёй з сённяшніх насельнікаў дзіцем-разявакам сустракаў першага навагародскага князя – яшчэ васала іншага гаспадара. Усходнія, паўднёвыя блізкія і нават далёкія суседзі, з кім раней мала зналіся, зайздросцілі: Навагародку вельмі пашанцавала. Не без таго. Ім нават віхура з віхур XIII ст., мангольскае нашэсце, паспрыяла: абмінула, але зняможыла непрыязных суседзяў, што дазволіла дамагчыся таго, што цяпер маюць.

Перад каранацыяй гасцям наладзілі прагулянкі са шчодрымі пачастункамі, а з рыжскімі верхаводамі адасобіліся і яшчэ тое-сёе перагаварылі па тым, што трэба падпісаць у іхняй новай дамове. Зразумела, магістр Інфлянцкага ордэна і рыжскі біскуп жадалі не толькі нічога не прапусціць, але і выйграць. А яны, навагародска-літоўскія радцы, трымалі вуха востра, каб асабліва не саступіць. То трэслі кожнае слова супольнага дагавора, што будзе засведчаны подпісам Міндоўга-караля і яго “двара”, магістра са світай. Калі па-новаму склалі яго, магістр настояў на тым, што трэба падпісаць яго не пасля каранацыі, а да яе. Ясна: не давяраў. Міндоўг і Усяслаў згадзіліся: дамову трэба падпісваць. Гэтая ім падыходзіла.

Вось некаторыя прыезджыя сабраліся ў прасторнай думніцы новага, шыкоўнага, на першым паверсе з каменю і цэглы, на другім драўлянага Міндоўгавага харама (крыжакі назвалі яго *Palast* (палац), а плошчу перад ім – *Platz*). З тутэшніх – Міндоўг, Войшалк, прыезджыя з падуладных Міндоўгаваму бацьку Нальшчан, Дзевалты і Упіты. З іх найперш выдзяляюцца нальшчанцы-князі: Даўмонт (ягоная жонка – сястра Міндоўгавай), Міндоўгаў брат у трэцім калене князь Гердзень. Гэтыя двое не зусім чужыя (Гердзень жанаты з Даўмонтавай цёткай), але з-за варажнечы нават не размаўляюць. Гердзень сябруе з Войшалкам і цяпер стаў побач з тым (некаторыя даследчыкі мяркуюць, што сынамі Гердзеня маглі быць пазнейшыя вялікія князі ВКЛ Віцень і Гедзімін. – *Г.Д.*). Муж Міндоўгавай сястры князь Лугвен. Каля іх неяк няўтульна, няёмка пасміхаючыся, пачуваўся Міндоўгаў любімы пляменнік Транята з Жамойці: заявіўся тут быццам тайна, зразумела, супраць волі свайго князя Выкінта. Хоць, можа, той і прыслаў, каб прасачыць увесь ход падзеі. Выкінт са сваім і заадно Міндоўгавым пляменнікам, Таўцівілам (цяпер шваграм Данілы Галіцкага), гады тры таму змовіўся з Данілам, падкупіў лівонцаў і сабраўся ісці вайной на Міндоўга – ужо вялікага князя Літвы і Навагародка. Жадаў разарваць гэтую, як палічыў, пагрозную для яго злучнасць і на чале Літвы паставіць Таўцівіла (у Рызе былі згодныя, бо той карысліва ахрысціўся ў каталіцкую веру). Уведаўшы пра гэта, яны, Міндоўг і Усяслаў, спешна перакупілі лівонцаў, падакляравалі, што Міндоўг таксама пяройдзе ў каталіцызм і, паколькі Даніла тады не змог націснуць на іх з поўдня, лёгка адбілі Выкінтаў і Таўцівілаў наскок. Нават пагналі тых да іхняга

стальца Тверымет, аблажылі яго, але потым сышлі, парабаваўшы жамойцкія паселішчы і павёўшы з іх палон. Выкінт прагадаў. Каб не яго гонар, не настрой супраць узвышку Міндоўга і схільнасці таго да Навагародка, то маглі б быць разам. А так цяпер застаўся сам-насам з крыжакамі. З яшчэ не "прымучанай" усходняй Яцвязіі прыехаў Юндзіла, з суседняй Дайновы – Трайдзень. Абодва прыяцелі Навагародка: першы ўхіліўся ў другую вайну Данілы пайсці з тым на Гародню, другі, як і яго бацька, мірна ладзіць і з Літвой (абодва прапускалі яе ў набег на Мазовію), і Навагародкам (лівонцы адмовіліся дапусціць Юндзілу на гэтую сустрэчу. Як ворага тэўтонаў).

Не паасцераўся прыбыць пінскі князь Міхаіл (яго пад пагрозай вайны Даніла змусіў пайсці з ім на Слонім і Ваўкавыск (не без таго, каб перасварыць), але піняне ў час бою ў вялікую завіруху сышлі). Але Міхаіла, як і гасцей-назіральнікаў з Менска, Ізяслаўля (Заслаўя), Лагойска, Клецка, Слуцка і Турава, тут не было. Яны з Юндзілам далучацца пазней. Купкай пасталі ваўкавыскія, слонімскія, гарадзенскія баяры. З Чарнігава і Смаленска аніяк не адгукнуліся на запросіны: мо і раўнавалі, што яны ў заняпадзе, а нейкі Навагародак вунь як выскачыў. Бы Піліп з канапель. Былі і тутэйшыя з ім, Усяславам: старэйшына віжавой службы Голуб, новы дворскі Лецка.

З іншаземцаў – сам лівонскі магістр Андрэас (Андрэй) С(Ш)тукланд, яго памочнік Штырэ, з Кульма святары Сільверт і Генрых, біскуп рыжскі Альбрэхт II (з імі было з дзясятак непрысутных тут манахаў-прыслужнікаў), сталы перамоўца з Усяславам пра ўмовы пераходу Міндоўга ў каталіцтва і каранавання комтур Штэрн. З імі – "наскі лацінец": Віт. Дамініканец – манах каталіцкага "жабрацкага" ордэна, заснаванага іспанцам Дамінікам дзеля змагання з ерасямі. Родам з саксонскіх земляў, прапаведаваў на прускіх, з Міндоўгавым пасвячэнні ў каталікі апынуўся тут. Ён нястомна ездзіў па многіх навагародскіх весях, апантана заварожваў рымскай верай, настойваў, каб Міндоўг пачаў спаўняць паабяцаныя каталіцкія дзеі. Каб на справе ўзяўся будаваць у Навагародку *castellum* (лац., каталіцкі храм; касцёл) і каб непадалёку, у Любчы, для яго, Віта, была *residentio* (лац, месцазнаходжанне) як для будучага біскупа. З іншаземцамі заявіўся і новы чалавек. На днях, калі ўжо добра знаёмы Штэрн падвёў таго, пажылога і прытомленага, але з жывымі вачыма захопленага ведамі чалавека, да Усяслава, то рассыпаўся ў пахвале: "*Vir doktus* (лац., вучоны муж). Гэр Генрых фон Летланд. Кладзесь высакароднай душы і светач вялікага розуму. Дбайны *Schuler* (вучань) вялікага біскупа Альберта, пакліканы музай Кліо (гісторык), *Aufklarer* (асветнік)".

Сапраўды, па тым, як потым гэты Генрых, спасцігнуўшы цяжкую царкоўную мову і разумеючы крывіцкую гаворку ды могучы зробльшага гаварыць на ёй, распытваў пра навагародскую даўніну, пра іхнія звады з Данілам Галіцкім, можна было пераканацца: ён у многім спазнаны і славакрасамоўнік. Знаёмыя купцы падказалі: гэты неспакусны жыццёвымі ўцехамі, з ладам сапраўднага манаха аднасобец ужо амаль паўстагоддзя знаходзіцца ў Рызе, шмат дзе бывае, нямала чаго бачыць і чуе, дарадца магістра і епіскапа, апраўдвае і самыя непрывабныя крыжацкія дзеі ды ўслаўляе іх пяром (ён стане вядомы пад імем Генрыха Латвійскага). Усяслаў, здаўна маючы павагу да людзей разумных і адукаваных, тым не менш загарэзаваў: "Адкрый мне, мудрэц, некаторыя таямніцы. Чаму, скажам, адзін чалавек заяўляецца на свет лева-, а другі праварукі?" – "На гэта

воля Божая. Ён утвараў свет дзвюма рукамі", – непарушна адказаў той. Новы таму запыт: "І мы нядаўна зімой ратаваліся ад непрыяцеля тым, што палівалі сцены, насыпы крэпасці вадой. Але не халоднай, а кіпнем. То чаму вар замярзае, лёдзіцца скарэй?". Той сумеўся. Моўчкі паціснуў плячыма. А тады з лёгкай усмешкай: "І на гэта воля Божая". – "І яшчэ, гэр Генрых, пра адно. Вельмі важнае. Не будзе тваёй крыўды, калі скажу мо і непрыемнае табе?" – "Не". – "Ваш націск на язычнікаў яшчэ можна неяк апраўдаці. Святлом веры, пісьменнасці, навукі рознай, новага ладу, як і мы, праваслаўныя, кажам, "у цемры язычніцтва". А вашы напады на хрысціянскія землі? Войны з Палацескам, Ноўгарадам? Уварванне ў Пскоў? Не звычайны захоп для спажывы?" – "А чаму Палацеск і Ноўгарад за столькі соцень гадоў не ахрысцілі нават падуладных язычнікаў? І чаму яны нам замінаюць у гэтым?" – "Скажу пра Палацеск. Ён не лічыў божай благадаццю асвятляць упартых куронаў, ліваў, латгалаў... мячом. Язычнік усюды, калі бачыць хрысціянскае дабрадзейства, сам прыходзіць да Бога. А вы... Найперш не імкнецеся прыдбаць для Свяшчэннай Рымскай імперыі новыя маркграфствы, як раней Брандэрбургскае на землях палабскіх славянаў? А заадно не прыціскаеце тут праваслаўную веру, як прыціснулі яе ў Царградзе?!" – "Канстанцінопаль, уся Візантыя ва ўсім, па веры таксама, закасцянелі. Ім патрэбен свежы подых". – "І яшчэ, гэр Генрых. Вы не можаце не бачыць: туташняе, для вас *Osten* (Усход), – густаляснае, яшчэ амаль усё драўлянае, а то і ў паўзямлянках ваколле. Чорнахлебнікі. Так. Любім, як і вы, белы хлеб. Як у нас гавораць, булкі, сухарыкі. Але яны, з пшаніцы, для нас вельмі дарагія. То ўжываем іх толькі на свята. Ды гэтыя ўсходнія краі, як сам пабачыў, не маленькія, не бедныя, тут жывець працавіты, здольны люд. Ён прыглядзеўся ўжо да вас, пачынае памалу вучыцца ў вашых навучаных розным умельствам людзей. Але ён моцна трымаюцца за сваю даўніну, дзедаўскія звычаі: лічыць гэта дарам божым. Адрачэнцаў лічыць пустадомкамі, а то і вырадкамі. Наш апошні князь Ізяслаў – любімец, вялікі гонар для ўсіх. Мы жывем па яго запавеце. Праваслаўныя хочуць так, як прывыклі ўжо, па-свойму Богу служыць. То насцярожаныя да вашага мяча пад плашчом з крыжам. Хіба пуцявіна да аднаго Бога толькі праз вайну і забойствы? Хрыстос так не дзеіў. Скажу табе, гэр Генрых, праўду: не ўсе хвалілі і нашага Ізяслава, калі ён пасылаў нашу дружыну на Конрада Мазавецкага, а потым на помач Данілу Галіцкаму супраць уграў. Мы ваявалі за некага. Ды біліся спраўна, каб той не быў нашым ворагам. Але калі ён, няўдзячны, пайшоў на нас, то не трэба было нікога прасіць, нікому не загадваць, каб адбіць хіжага нападніка!.."

Гэты муж вучоны ад такога пачутага ўжо не столькі запытання, колькі ад не зусім прыхаванай халоднасці, хвіліну-другую памаўчаў, пільна зазіраючы ў вочы, а тады непрыязна: "А хіба кіеўскі Вальдэмар не хрысціў Ноўгарад агнём і мячом?" – "Хрысціў. Але пазней ужо такога насілля не рабілі". – "Таму вакол ды ў вас саміх яшчэ столькі паганства".

Генрых уздыхнуў: "На жаль, *illustissime* (лац., высокашаноўны) ваявода, – гэта – *discussion*, а то і, як у вас кажуць, брань (бітвы) яшчэ не на адно стагоддзе. Але і на яго існуе, яшчэ будзе воля Божая. Як яна была і на тое, каб воінства Хрыстовае канстанцінопальскую гардыню супакоіла, Лацінскую імперыю пад скіпетрам папы рымскага там учыніла".

Учыніла. У IV крыжовым паходзе. Але цяпер даходзяць весткі, што сённяшнія суправіцелі вольнай ад братоў-рыцараў Нікеі Іаан IV з Міхаілам збіраюць сілу вярнуць страчанае і аднавіць Візантыйскую імперыю, што,

зразумела, было б падпорай для ўсяго праваслаўнага свету. А не толькі рыцарам, але і ўсім германцам, як расказваюць бывалыя людзі, рыхтуюць адпор на сэрцавінных землях старажытнага Рыма – на італійскім паўвостраве.

– Ваявода, маю да цябе просьбу, – перавёў не зусім прыемную гутарку на іншае прапаведнік крыжацкіх дзеяў. – Я пішу хроніку Ліфляндыі ці, па-вашаму, Лівоніі. Туды выпадкам, у буру марскую, недзе век таму занесла карабель брэменскіх купцоў. Яны здолелі паразумецца з тубыльцамі, не адзін дзясятак гадоў вялі з імі гандаль. Але ўсё змянілася, калі туды па волі германскага імператара і папы прыехалі каталіцкія святары. Я ўжо стары чалавек, мо і не паспею пра ўсё тое напісаць. То пачаў хроніку з таго часу, калі *Woldemaro de Ploceke* (так Генрых па-свойму назваў і Полацк, і яго князя. Пазней даследчыкі княскае імя ўспрымуць як Уладзімір. Ды полацкія князі так сваіх сыноў не называлі. У знак адмысловай помсты наўгародскаму князю, скарыцелю Полацка і забойцу Рагвалода Уладзіміру Святаслававічу. Храніст мог мець на ўвазе існага тады Валодшу. – *Аўтар*) дазволіў першаму нашаму біскупу Мейнарду прапаведаваць у ліваў і іншых, адкуль ён браў сабе даніну. Далей апісваю, якімі няўдзячнымі былі лівы і колькі рыцараў пабілі. Першага біскупа давялі да смерці, другога проста разарвалі на кавалкі. А Вальдэмаро здрадзіў свайму слову, пачаў стаяць за язычнікаў. За гэта трэці біскуп, мой шаноўны настаўнік Альберт, мусіў абараняцца, паклікаў на помач рыцараў і абразуміў палацескага князя. З Божай міласцю адабраў ад яго Кокенгаўзен (Кукенойс), потым і Герцыке. А яго самога прымусіў не спакушаць язычнікаў сваёй падмогаю і пайсці на мір...

У апошнім пачутым былі для Усяслава дзве рэчы: разуменне і загадка. Першае – ад таго, што ў падуладным Полацку Кукенойсе жылі латгалы, селы і крывічы, то Валодша не хацеў, каб скрыўдзілі іх, яго нядаўніх даннікаў. А тайніца была ў тым, што Валодша нібыта не паслухаў вернага яму кукенойскага Вячку і не прыйшоў таму на помач у цяжкі час. Назапашваў свае сілы для для будучай, вырашальнай бітвы з крыжакамі? Вячка ад злосці ці адчаю кінуў-рынуў усё, спаліў Кукенойс і сышоў у Ноўгарад, каб адтуль разам з эстамі далей да апошняга біцца з крыжакамі і ў 1223-м не здацца ў палон, а загінуць у лютай бітве. А Полацк не менш за Вячку адданага, вельмі патрэбнага Усевалада з Герцыке таксама не ўбярог. Гэтага мо і з-за пагрозы ўварвання Смаленска.

– Я, ваявода, – прадоўжыў Генрых, – хачу апісаць кожны год святога служэння Альберта, цяжкіх войнаў у імя Госпада нашага, святой Дзевы Марыі, Лівонскага Божага дому (біскупства) і яго дачкі (таксама біскупства) у эстаў. Тым больш, што "многія маці ілжыва прысвойвалі і падманам вабілі да сябе гэтую дачку, і адна з іх – маці Русі, усягды бясплодная і бяздзетная, прагная скараць краіны не для ўзраджэння да веры Хрыстовай, а дзеля подацей і здабычы" (выказ Г. Латвійскага з яго "Хронікі Лівоніі". – *Аўтар*). Я хачу напісаць і пра наш саюз, пра сённяшнюю каранацыю. То мне трэба многія звесткі і пра ваш край. Які горад з якога часу, хто і калі быў у ім князь. Калі і як узвысіўся ваш Навагародак. – І паскардзіўся: – Цяжкая вашая славянская гаворка. Дзе патрэбна адно слова, у вас іх некалькі. А назовы... Мне больш запамінаецца, як я вычытаў у вікінгаў, скажам, *Palltesjuborg*. Але ж у вас яшчэ: Полотеск – Полотьск і...

– Полацак, – з усмешкай падказаў Усяслаў. – А нам, гэр Генрых, цяжка выгаварыць тое, што табе ясна. Люд просты называе сваё па-свойму, а пісцы,

асабліва манахі і папы, пішуць на свой царкоўны лад: Слуцак – Случеск, Клецак – Клеческ, Піньск ці Пінск – Пінеск. А колькі і як пішуць пра горад на Віцьбе! – Зноў пасміхнуўся: – "Лягчэй" за ўсіх нашаму суседу Мендогу. Ён у сваёй Літве меў толькі невялікую крэпасць, дзе быў рэдка. Ужо ў сталым веку не мог чытаць і пісаць. Калі што якое патрэбнае да яго з далёкіх зямель, то перадавалі свае пасланні нам, у Ноўгарадак ці Навагародак, Наваградак. А мы – яму... Ужо ў нас навучыўся царкоўнаму пісьму.

Усяслававы ўспаміны перапыніў чужаземны голас.

– Meine Herren! – Першы, ускідваючы руку, парушыў маўчанне, лагодна ўсклікнуў звычайна стрыманы, а то і насцярожаны, нават недаверлівы Штырэ, сёння ў бліскучым, без наносіцы і ашыніцы шлеме-капелюху, у белым доўгім плашчы, змацаваным каля падбародка залатой фібулай, пад плашчом паношаны скураны рудаваты панцыр са срэбранымі зашчэпкамі, пад ім – мяккая льняная беленькая нацельніца, са скуранога шырокага паса звісае меч у хараша аздобленай срэбрам похве, рудыя парты ўвабраныя ў боты са шпорамі.

Тыя, хто знаўся з крыжакамі, пачалі звыкацца: так, як цяпер пачулі, яны звяртаюцца да людскога гурту. Гэта тое, што ў Мазовіі "панове". У Навагародку, як і ў даўнім Полацку, – "грамада", "гаспадарства" ці "спадарства". Адсюль – "Herr", "пан", "гаспадар" або "спадар", вялікі князь – "Вялікі гаспадар" ці "Вялікі спадар". Як чулі ад бежанцаў, на Русі святаслужнікі да хрысціян звяртаюцца са словам "братие", а вялікага князя ўзвышаюць дадаткам "господине", а тыя звяртаюцца да падуладных паводле таго, дзе яны знаходзяцца: "люд владимирский", "люд суздальский", "люд...". Таксама было чутно, што некаторыя баяры з Русі, пабываўшы ў Полацку і Навагародку, запазычылі тутэйшы зварот і ўжываюць яго крыху змененым ладам: "вялікі гаспадар" – "великий государь"(пазней і "спадар" прыжывецца па-свойму: "сударь"). Калі былі ў Мазовіі, некаторыя навагародцы пацяшаліся: "Усе ў вас паны. Усе нібы роўныя. То хто зямлю арэ, косіць?!" – "Лічы, усе самі. Апроч самых багатых і вяльможных. Як у вас баяры. А ў нас іх на германскі лад называюць шляхтаю. А стаць шляхцічам можна толькі за "znacne zaslugi dla kraju". Хто – "bohater na wojnie". Але гэта яшчэ не значы быць роўным з тым, хто стаў і абагацеўся раней. Каторай шляхце тэж "potrzeba" самой брацца за плуг, касу", – быў адказ. Чуючы гэта, Усяслаў пасміхнуўся сам сабе: паводле мазавецкага, ён – "вяльможны шляхціч!", хоць часам не з-за "патрэбы", але для радасці целу і душы прыкладае сілу рук да плуга і касы.

Штырэ далей праз перакладчыка, схіляючы галаву:

– Мне прыемна перадаць слова нашаму старэйшаму брату, магістру Андрэа фон Штукланду.

Той, сярэдняга росту, з вялікай галавою і кароткай шыяй, плячысты, з прыплюшчаным, халаднаватым і пры ўсмешцы позіркам, што не хавае ў вачах тайнага карыслівага помыслу, амаль у такім жа ўборы, што і яго памочнік, толькі з пазалотай на спражцы пояса і мячы, ступіў крок наперад. Міндоўг люта ненавідзеў апошніх лівонскіх магістраў: адзін з іх у 1214-м загубіў яго бацьку Даўгерда, калі той вяртаўся з Ноўгарада, дзе прасіў помачы ад крыжакоў (не далі; помсцілі за яго набегі на пскоўска-наўгародскія землі). Іншы магістр (перад Стуклaндам) моцна разбіў яго самога і зборныя язычніцкія дружыны ў 1247(8)-м, а ў 1250-м ужо гэты крыжацкі валадар з немалой сілай прыйшоў да Навагародка на "перамовы". Пасля нервовай слоўнай перапалкі яго з невялікай світай упусцілі ў горад, а вось іншых – не.

Тыя абурана стукалі шчытамі і навершам мячоў у вароты пасада, але калі да іх са схованкі наблізіўся Усяслаў з загартаванымі ў сечы на Сане воямі ў рыцарскіх даспехах, то сціхшэлі. “Я ваявода навагародскі, – спакойна сказаў ён ім. – Прашу, братове, за мной. Пакажу ваш прытулак. Абарону вашага магістра бяру на сябе”. Абурыліся, але паслухаліся. Прайгралі без бою. Чулі ўжо пра яго як здатнага палкаводца. Пазней вылучаны для перамоў Штэрн паводзіўся з ім пачціва. Цяпер магістр і Міндоўг – “браты”: як уведалі ў Навагародку, не ў далёкім Рыме, а ў бліжэйшых Рызе і Вендэне (магістрава рэзідэнцыя) па волі папы лівонскія майстры зрабілі кароны на сённяшнюю святочнасць. Магістр, помнячы тую Усяслававу рашучасць, гэтыя дні нібы не заўважаў яго. Быццам чужога і малазначнага чалавека.

– Я перадаю вам вітанне імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Конрада VI, – не столькі з прыязнай усмешкай у вачах, колькі з яе паблуканнем на жарсткаватых вуснах прамовіў пераможац не ў адной бітве з язычнікамі. – Ён ад усёй душы віншуе вас з такой вялікай падзеяй, як набытак прызнанай рымскім папам дзяржаўнасці. Такое – ды яшчэ ў невялікіх зямлёй, людзьмі, набыткамі краях – бывае. Але не часта. Дый вялікасць Рыма пачыналася з малога. З трысняговых халупін. З таго, што вы прамінулі ўжо. Мы, браты-рыцары, рады, што змаглі пасобіць вам у гэтым. Цяпер многія могуць убачыць: мы паважаем нашых сяброў і памагаем ім у добрых, угодных Богу дзеях на далейшае новае, большае. Я, – зірнуў на Міндоўга, – хацеў бы, каб сёння на каранацыі сказаў слова наш сабрат. Асоба вялікага розуму і многіх ведаў. Ён амаль паўвека ўжо словам мудрым служыць нашаму воінству Хрыстоваму, спазнаў язычнікаў, праваслаўных славянаў, можа пра нас многае патлумачыць вашаму люду, начутанаму пра нас самага ўсялякага. Скажам, што мы – псы з воўчымі галовамі. Праўдзівае слова павінна добра паспрыяць не толькі нам, але і Міндоўгу-каралю, ужо вядомаму ў Рыме Ноў-Гардзену (Навагародку). Згодзен, Гаспадар вялікі, каб прамовіў Хайнрых фон Летлянд?

Міндоўг – за апошні час апаўнелы, але яшчэ зусім не стары, з зыркім, нават молада пад’юшчаным на прыгожых жанчын позіркам, цяпер без княскай кароны, з неакрытай кучмай рыжых, з адценнем спелага жыта валасоў на галаве і на барадзе, без святочнага княскага карзна, толькі ў беленькай кашулі і шоўкавай сіняй, са срэбранай вышыўкай безрукаўцы, у рудых партах і ботах, з чырвоным пасам на паясніцы і адвіслым жываце, сёння нібыта ніякаваты – адразу згадзіўся:

– Яго слова будзе нялішняе. Толькі не варта гаварыць надта мудрона і доўга. Люд прыйдзе не толькі паслухаць, але і паглядзець. Ды, – усміхнуўся, – апынуцца каля бочкі з медавухай, да пірагоў.

– *Naturlich* (слушна), – ад Міндоўгавага жарту ўжо лёгкая, паблажлівая ўсмешка мільганула ў блакітнаватых вачах і магістра. – А цяпер, як у вас кажуць, – запнуўся, а потым вымавіў завучанае па складах, – “спа-дары”, нам трэба нашу ўчарашнюю вусную *Bedingung* (умову) замацаваць пісьмовай. Каб у нас замацавалася *Gemeinschaft* (садружнасць). Гэта будзе *Akt. Dokument.* Як у вас кажуць, “гра-ма-та”. А дакумент-грамата абязуе. І замацуе *Zusammenarbeit* (супрацоўніцтва).

Ён махнуў рукой – з-за яго моцнай спіны вынырнуў невысокі і тоўсты рыцар-манах у цёмнай апратцы, трымаючы прадаўгаватую і невысокую аксамітную бурачковую скрыніцу. Зняў з яе накладніцу, паклаў на блізкі стол, а з сярэдзіны дастаў адну, другую бела-жаўтаватыя пергаментныя балонкі з тасьмамі. Магістр узяў толькі адну.

– Тое напісанае па-лацінску, – патлумачыў пра адкладзенае. – А гэта на мове праваслаўнай царквы, з устаўкай вашых слоў. Каб усе вы ведалі, пра што мы дамовіліся з Ноўгардзенам і Міндоўгам. Прашу, князь, твайго грамацея. Цёзку нашага Хайнрыха.

З Міндоўгавага асяроддзя выйшаў па-свойму адораны навагародзец – сярэдняга веку, любіцель да незвычайнага, падарожжаў мужчына, родам з купецкай сям'і. Змоладу асвойчыўся з Нёманам, Дняпром, Заходняй Дзвіной, патрапіў у Рыгу. Там спазнаўся з германскімі купцамі, а пазней сышоўся з дачкой аднаго з іх. У праваслаўі іменаваўся Сымонам. Цяпер, у рымскай веры, – Генрых (па-тутэйшаму Гэнік). Ён разам з мовамі некаторых балтаў-язычнікаў спазнаў і лацінскую ды германскую (расказваў: "Германцы гергечуць па-рознаму, не ўсе адзін аднаго добра разумеюць"). Раней гэты Гэнік быў не ў вялікай пашане, ды зараз, пры такіх блізкіх стасунках з Лівоніяй, вельмі спатрэбіўся. Яму нават дароўвалі часамі завельмі вялікі поцяг як да германскіх він, так і да сваёй медавухі. Учора быў цвярозы і пры тайных утрусках Дамовы падказваў, якое і дзе ўжыць патрэбнае для дакумента царкоўнаславянскае, тутэйшае слова, каб захаваць дух таго, чаго жадае Навагародак. Запішы або прапусці, скажам, толькі адно невялічкае "не" – і ўсё перакруціцца. Крыжакі ведалі гэта выдатна, але і ў Навагародку прывыклі ўжо не вельмі давяраць іхняму вуснаму слову. Асабліва прамоўленаму пры выпіўцы вялікай.

(Даследчыкі зазначаюць: пісары-славяне з полацка-смаленскіх зямель яшчэ раней, у 1229-м, увялі асобныя словы жывой народнай мовы з адзнакамі сённяшняй беларускасці ў агульнапрынятую царкоўнаславянскую ў Грамаце Смаленска, Віцебска з Рыгаю і востравам Готланд пра ўмовы свабоднага і ўзаемакарыснага гандлю. Змест той Граматы і каментарыі да яе апублікаваныя ў "Анталогіі даўняй беларускай літаратуры". Мн., 2003. – *Г.Д.*).

Усе, хто не трапіў на ўчарашнія перамовіны, навастрылі вушы. Тутэйшы мовазнавец непарушна ўзяў прадаўгаватую балонку, на міг зірнуў на ўсіх са цвярозай засяроджанасцю і пачаў чытаць уражлівым, басавіта-зычным голасам: "Дагавор магістра Лівонскага Дома ў Рызе Андрэаса фон Стукланда з Міндоўгам, каралём Літовіі, Навагародка, Услоніма, Ваўкавысі, Гарадзена ды інакіх земляў.

Ва імя Госпада нашага Езуса Хрыстуса амэн. Брат Андрэас фон Стукланд, магістр братоў Дома Лівонскага ў Рызе радзі ўсіх хрысціян, як ныня жывушчых, так і ў градушчым, жалае вечнага спасу ў Госпадзе. Па радзе і жаланію, паручэнію найсвяцейшага айца і гаспадара нашага, папы Інакенція IV, а тож магістра Тэўтонскага Дома ў Прусах Папе фон Остэрна, біскупа кульмскага Генрыха, біскупа рыжскага Альбрэхта II, а тож усіх братоў вазвялі ўпярвыя ў каралеўскі сан Міндоўга – Вялікага гаспадара Літовіі, Навагародка і іных вышэй названых земляў. Гэта спарадкавана радзі міра паміж намі, святла праўды і радзі суполу служэнію Усявышняму.

Кароль Міндоўг абязуе не ўступаць у змовіны з ворагамі воінства Хрыстовага, асабліва язычнікамі, і не памагаці ім ваеннай сілай. Магістр Андрэас абязуе не ўступаці ў змовіны з яго ворагамі і не памагаці ім ваеннай сілай.

Магістр Лівонскага дома ў Рызе Андрэас, кароль Літовіі і інакіх зямель Міндоўг. А такжа прысутныя сведкі.

Садзеяна ў Навагародку ў год Господзень 1253, месяца юнія (чэрвеня)".

Пісар пакланіўся і хацеў аддаць грамату Міндоўгу. Той кіўнуў на

блізкі накрыты зялёным аксамітам стол паперадзе магістра, біскупаў. На стале – драўляны кадоўбчык з папірусавымі пёркамі, бронзавы таўсматы паўглечык. Магістраў пісар узяў паднесеную балонку і паклаў яе перад магістрам. Побач з той, што была на лацінскай мове. Адкінуў з паўглечыка вечка, абмакнуў пяро ў чарніла, рыснуў ім на асобным шматку і падаў магістру. Той першы на адной і другой балонках узаконіў дамову сваім подпісам. За ім пачалі сведчыць гэта шанавітыя госці.

З учарашніх утрусак Дамовы найбольш спрачаліся пра адзін вылучаны прыезджымі сказ пра тое, што магістр пры пагрозе ворагаў Літоўска-Навагародскаму каралеўству прыйдзе яму на помач, а Міндоўг па просьбе магістра паможа таму ў паходзе на язычнікаў. Зразумела, крыжацкія мячы былі б пасобныя для адпору таму ж Данілу Галіцкаму, але ісці ў адным шэразе з крыжакамі, скажам, на ўпартых язычнікаў ці з іх нават на варожую Жамойць... Не! Каб не запляміцца душой ад чарніла на такой Дамове, апусцілі той сказ. Толькі не зацяліся пярэчыць, што пазней іхняе злучанае каралеўства для прастаты можна будзе называць коратка: “Літва”, “Litowia”. Адпаведна, усе насельнікі яе – “ліцьвіны”. Але сталіца сваёй назвы не зменіць: Навагародак.

Альбрэхт, Сільверт і Генрых былі супраць, каб на каранацыі прамовіў навагародскі епіскап Кірыла: “Скажа нам насуперак. Пасее смуту”. Той, зразумела, не мог ухваліць пераход Міндоўга ў каталікі, не заявіўся на пераахрышчэнні таго (“захварэў”). Але цяпер Усяслаў угаворваў, каб і прыйшоў, і слова ветліва-вітальнае сказаў. “Это позорище (відовішча) не православия, понеже (паколькі) латинское. Аз (я) не буду хваліці веру лацінскую! Цёмнамысліе іхняе! – Азласнела ўпёрся той. – Ізмыслілі блазну (падман): выбраны самім Хрыстом на чале апосталаў Пётр не толькі першы прызнаў навучыцеля Сынам Божым і Збавіцелем свету, але і першы рымскі біскуп ды блаславіцель папства. А папа ад імя Пятра – пастыр усіх хрысціян. Біскупы – наступнікі апосталаў. Як і ізмыслілі, што імператар Канстанцін Вялікі прызнаў папу ўладыкаю Рыма і намеснікам Хрыста на зямлі. І каго толькі не выбіралі папам! Не токма адданага душой Богу, святыням, алі і алчных да ўлады вялікай, багацця зямнога. І тых, хто кроў людскую праліў, жыве ў блудні. Дажа тых, хто ні дня не быў светаром! Недарасля! Дажа пераапранутую жанчыну-грэхаводніцу! Перапісалі, падправілі ў сваю карысць запісы першых сабораў. А індульгенцыі – одпуск грахоў за плату! А разбойніцкія ад імя самога Бога крыжацкія паходы, разрух хрысціянскага Царграда! А нейкая “інквізіцыя”, што стане вышэйшым суддзёю ад папы! А здзеся гэты чужаземец Віт! Ён самога Хрыста смее называці Езусам Хрыстусам, а то – Езу! Не Спасіцелем, а Збаўцам! Апостала Иоанна... “Янам”! Як і язычніцкага Купалу! І ахрышчвае дзяцей па-свойму: Ян! Янка! Яніна! Не! Пакланюся ілжывым – анафема мне ад мітрапаліта. А патрыярх ніколі не прызнае епіскапам”. – “Не хвалі, святы ойча, не кланяйся, – прасіў ён. – Як я, грэшны, разумею, Іоан, Іаан – чужэй для нашага люду, чым Ян. І, наколькі ведаю ад князя Ізяслава, некалі ў Кіеве пры Яраславе і пасля яго быў тысяцкі Ян. І нічога, Яго хвалілі. Імя – імем, а дзеі – дзеямі. Таму, святы ойча, прызнай: мы не парушаем першую боскую запаведзь. Верылі і верым: Бог адзін. Тое, што чынім, не насуперак ні Богу, ні люду. Бог, Хрыстос, святы дух былі і будуць у пашане. Але і вы, святыя, не можаце без нас, зямных і грэшных. Але ў зямнога ўладара, калі ён дбаіць пра люд, пра дзяржаву, клопат вялікі не толькі пра душы людскія, але і целы іхнія. Здаровыя,

дбайныя людзі – апора дзяржавы. І каб ахлебіць яе, і каб у ліхую часіну адстояць. То трэба ўсё рабіці, каб захаваць чым болей люду, не аддаць яго ў чужыя рукі. Цяпер мы мусім разлучыць сілы крыжацкія і Данілы Галіцкага". – "Так яно то так. Алі, Усяслаў, напісана з павучаннем: некалі на ізраільцян рушылі раці халдзейскія. Ізраільцяне папрасілі спамогі ў Егіпта. Бог праз прарока глаголеў іудзеям: "Понеже не уповаете на бога создавшего вы (вас), но надежю всю возложившие на египтян, халдея же отважю от вас, но от египтян пленени будете; на них же уповаете, от тех погибнути вы велю". Так і выходзіла. Толькі Бог пашкадаваў любімы народ, спасіцьме. Як тут кажуць, крыжаке – не проста халдзеі. Оўцы ў воўчай скуры і з мячом пад ёй. Псы акаянныя!" – "Мы, святы ойча, не столькі "уповаем" на іх, колькі спадзяемся, што Бог нас зразумее і таксама не адпіхне. Ён сярод іных людзей, плямёнаў, дзяржаў даў жыцце і нам, дрыгавічам, нашаму Навагародку. То і наша ўсіхная, твая, княская і мая ваяводская, турбоць – пра таксама, кажу, яго стварэнне. Пра люд наш. Іначай каго страцім, астатніх саступім у няволю. Нашчадзь не даруе нам за нясмеласць, за розум наш слабы і недалёкі". Святар здаўся: "Умееш ты, ваявода, і ваяваці, і словам пераканаці. Алі глядзі, каб не ўблытацца, як муха ў павуціну!"

Пасля лівонцаў абедзве граматы падпісалі Міндоўг і тыя тутэйшыя, хто падпаў пад яго ўладу. Пасля на вачах усіх лівонскі праўуца змацаваў балонкі тасьмамі-шнуркамі, зверху іх наклеіў воск, а па ім гэпнуў пячаткаю. Граматы падалі магістру і Міндоўгу. Усміхаючыся, абодва абмяняліся імі, моцна паціснулі адзін аднаму рукі, накладаючы паверсе далонь левай. Усе прысутныя ўхвалілі сяброўскі поціск у чатыры рукі воплескамі.

– Будзе *ad acta* (лац., падшыта да справы)! – задаволіўся Стукланд.

Са святароў звычайна на перамовах ці проста сустрэчах не даваў спакою сваімі турботамі настойлівы Сільверт. Сёння ён зацішыўся. Вось ад яго адышоў увабраны ў яркую бела-чырвоную, з пазалотай апратку, з вялікім крыжам на грудзіне біскуп Альбрэхт.

– *Pax vobiscum* (лац., мір вам)!

Усе ў адказ ветліва хітнулі галовамі.

– Маю кароткае слова да князёў і баяраў, – загаварыў далей праз перакладчыка. – Хачу паўтарыць тое, што гаварыў учора ў вузкім коле. Найсвяцейшы ойча Інакенцій IV рады, што святло рымскай веры сягае далей на Усход, што вось у вас будзе пад яе апекаю кароль, каралеўства. Гэта – вялікі давер і гонар, аказаныя вам.

Для ўражання памаўчаў, а тады:

– Але вы можаце далей пайсці нам насустрач. У вас ужо які час шчыра прапаведуюць нашы святыя айцы. Віт – у Навагародскай зямлі, Хрысціян – у Літве. Яны навучыліся дрыгавіцкай гаворцы, ідуць да кожнага з адкрытай душою. І што ж? У Літве не ўся знаць ахрышчаная нават па візантыйскім каноне. З яе ўслед за князем Міндогам у каталікі пасвяцілася зусім мала. Просталюдзіны амаль усе ў паганстве. Яны вельмі ўпартыя, не хочуць прыймаць ніякае хрысціянства. У Навагародскай зямлі ўжо нямала хрысціянаў па ўсходнім абрадзе, але замнога яшчэ і язычнікаў. Тут спакойнае патаканне паганству не на карысць святлу Божаму. Таксама зусім невялічкая купка тых, хто цяпер асвяціўся рымскаю верай. – Моўнік прыклаў руку да грудзіны, папрасіў: – Князі і баяры, лепшыя мужы скора каралеўства Навагародска-Літоўскага, ахвотней далучыцеся да каталіка Міндога. Гэта будзе так угодна Богу нашаму! Гэта так уславіць

дзень сённяшні! Мы са святым ойчам Сільвертам маем права правесці абрад пасвячэння вас у веру самую праведную.

Зазірнуў кожнаму ў вочы – усіхнае зацятае маўчанне ў адказ.

– А ты, сын Міндогаў? – Альбрэхт запыніў позірк на Войшалку. – Калі будзеш каталік, то пасля бацькі да цябе пяройдзе каралеўскі сан! Пры тваіх вядомых міралюбных заслугах як вялікакняскага намесніка на землях Услоніма, Ваўкавыі, Гарадзена найсвяцейшы ойча блаславіць цябе!

– Як бачыш, святы ойча, бацька мой, дзякуй Усявышняму, яшчэ ў здравіі і сіле крэпкай, – непарушна прамовіў той. – Яго юны отрак, а мой зводны брат – з калыскі каталік. Ён, лічу, і стане бацькавым пераемцам. Я жадаў быці праваслаўным манахам, толькі інтарэсы Навагародска-Літоўскага гаспадарства перапынілі мой намер. Вярнулі мяне з манаскай абіцелі да мірскіх дзеяў як вялікакняскага намесніка на поўдні дзяржавы нашай.

– Жаль, – уздыхнуў угаворац. Перавёў учэпісты позірк на Усяслава: – Баярын-ваявода, далёка ведама моц як твайго мяча, так і твайго цвёрдага слова, учынку мужнага. Не стрымлівай большае разуменне важнасці новага для вас. Пакажы прыклад у гэтым і сваім воям, і міранам. Падмацуй для ўсіх думку: ты не пакідаеш хрысціянства. Толькі пераходзіш у больш абноўленае. І за табой могуць многія пайсці. І заслужыш пахвалу самога папы, а таксама імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі. Думаю, станеш тут першым знатным дваранінам новага складу. Графам. Першы тут займееш свой родавы герб. Гэта – вялікае прызнанне. Вялікі гонар. Зраўняешся з еўрапейскай знаццю.

– Я, святы ойча, як кажуць, нямала ламаў галаву: трэба нам збліз з Рыгай ці не? – падаў голас Усяслаў. – Кожны чалавек асцерагаецца новага, нечаканага. А тут... Нямала з кім перагаварыў, нямала каго паслухаў. І рашылі на Радзе: працягнутай руцэ Рыгі пададзім сваю... Толькі мне, ваяводу, прыходзіцца найперш дбаці пра сілу, моц духу кожнага нашага воя. Усе яны, як і іхнія бацькі, а ў некаторых і дзяды, ахрышчаныя па візантыйскай веры. Прымаюць караля-католіка, але самі за веру сваю. Пакідаць яе ім – не патакаці. Прымус да перахросту можа толькі нашкодзіць. Ад смуты. А яна нідзе і нікому дабра не прыносіла і не прынясе. Да слова, ад яе ў тым веку вялікі Кіеў паў...

Сказаў апошняе не зусім праўдзіва, больш для важкасці прыкладу: Кіеўсталіцу абрынулі не рознавернікі. Праваслаўныя ўладзіміра-суздальскія князі ў змове з іншымі князямі. Каб самім абсталічыцца.

– Жаль, – паўтарыў Альбрэхт. І да Міндоўга: – Цярпліва чакаем, што ты як кароль ужо споўніш сваё слова. Пачнеш сваю каралеўскую сцязю з таго, што адразу возьмешся будаваць у Навагародку каталіцкі храм. І не малы, і не драўляны, а мураваны. Большы, чым тутэйшая праваслаўная царква. Мы паможам як след аздобіць храм. Тым, хто асвяціцца рымскай верай, няхай ім будзе твая Privileg. А найсвяцейшы наш ойча мае намер у падмогу табе пасвяціць святых айцоў Віта і Хрысціяна ў біскупы.

(У адной з лівонскіх хронік пазней будзе пазначана: за час каралявання Міндоўга за ім перайшло ў каталікі каля 500 чалавек. – *ГД*.).

На ўчарашняй сустрэчы таксама ўсплыла веравызначальная спрэчка. Гэты Альбрэхт зажадаў, каб падуладная знаць сёння давала прысягу Міндоўгу-каралю, цалуючы каталіцкі крыж. Яны заўпарціліся: так, Бог адзін, што праваслаўны, што каталіцкі, бо хрысціянскі, але ён – не двоеверац. Ды сем гадоў таму яны, калі Міндоўг з язычнікаў асвяціўся ў праваслаўную веру і навагародскае веча прызнала яго Вялікім гаспадаром Навагародска-

літоўскага гаспадарства, прысягалі яму, цалуючы візантыйскі крыж. То хіба тая прысяга не застаецца ў сіле? Няўжо цяпер не даволі таго, што навагародска-літоўскія хрысціяне, язычнікі ў знак паслушэнства апусцяцца перад Міндоўгам-каралём на калені? Гэта не падмацуе ранейшую прысягу? Зразумела, няхай хрысціяне-католікі ўшануюць караля ўганараваннем свайго крыжа.

Не такая ўжо вялікая плошча ў пасадзе пасярод царквы, будынін, двароў баяр і рамесніцкіх старэйшын, гасцёўні для прытулку далёкіх гасцей, асобных (без грымоткіх кузняў і непрыемна пахкіх) майстэрняў, з рынкам са сталамі, ганебным слупом і порубам для зламыснікаў сёння не магла змясціць мноства люду з блізкіх і далёкіх весяў. Адпаведна, каранацыю не маглі не праводзіць па-за пасадам, на блізкім лузе са старым дубам, дзе раней, за закладнікам навагародскай старожы Яраславам Мудрым, было адно з самых шанавітых свяцілішчаў з нязгасным святым агнём. Зніча таго ўжо даўно няма тут, але людская памяць, пашанота да гэтай мясціны захавалася.

Тыя, хто, лічы, дасвеццем першы патрапіў на пасадскую плошчу, паспелі тое-сёе прадаць (яйкі, тварог, сыр, раней плеценыя кошыкі і карзіны, сёлета рана ўзніклыя чарніцы і грыбы-лісіцы; раней збывалі і маладую розную жыўнасць, але сёлета гэта ўжо скупіў нават у далёкіх паселішчах княскі дворскі), нешта абмяняць або купіць (металёвыя нарыльнікі і нарыдлёвіцы, сякеры і нажы, шылы ды іголкі). Раней, да манголаў, прыбывала шмат розных тавараў з Кіева (адтуль па Прыпяці ў Тураў і Пінск, далей у Слонім, а з яго ў Навагародак), па "Брачыслава-Усяслававым шляху", праз Менск, з Полацка, а цяпер з іншаземнага дабра пераважае германска-лівонскае. Германцы заславіліся сваімі добрымі жалезнымі вырабамі для збройні, сталяркі, кавальства, лекамі рознымі, посудам, тонкім сукном. Іхнія купцы мянялі сваё на скуры, мёд, воск, авечую кудзелю і льняное палатно, жыта, грыбы і яшчэ болей ахвотна бралі плату ацалелымі з даўніх часоў старымі чужаземнымі манетамі (у патаемнай княскай казне "на чорны дзень" у куфрах з кіеўскімі, мазавецкімі, угорскімі залатымі, срэбнымі рознымі рэчамі і зліткамі са здабытых у паходах пярсцёнкаў, завушніц, ашыйніц і дыядэм захоўваліся і ў свой час набытыя соліды, дырхемы, дэнары – да слова, срэбранікі імператараў Траяна, Пія, Марка Аўрэлія, бронзавікі Аўрэліяна і інш. Нешта з гэтага яшчэ задоўга да князя Ізяслава магло быць прывезена купцамі з памежжа былой Рымскай імперыі, з Дакіі, у суседнюю Валынь, з яе – у Кіеў, з яго – сюды: гандлёвыя пуцявіны іншаземцаў здаўна не абміналі і блізкі Нёман). Свае са сваімі па дамоўленасці мяняліся рэчамі або разлічваліся, як і ў сівыя часы, скуранымі шматкамі, лапкамі альбо мордачкамі гарнастаяў, куніц, вавёрак, ведаючы, што і колькі за гэта можна купіць. Бралі і ў доўг (напавер, "на чэсць", ці "па рысе" і "рэзі" – дошчачкамі, дзе былі пэўныя пазнакі і што палавініліся. Адна доля ў прадаўца, другая – пакупніку. Пры разліку лясткі складвалі і глядзелі: супадаюць ці не).

Ды вось гучна забумкала гарадское вечавое біла. Значыць, усе павінны былі пакінуць шумныя рынак, плошчу і выходзіць за пасадскую браму. А за ёй спыніць гандаль і тыя, хто не змог патрапіць у горад. Паказаліся конныя княскія цівуны, іхнія пешыя прыслужнікі з кап'ём у руцэ і пачалі падспешваць запыніць продаж і абмен, гавэнду знаёмцаў, бадзянне

цікаўных і зладзеяватых, калек, баюноў-пацешнікаў. Усе – на Сход! На відовішча вялікае! На Каранацыю!

Вознікі, усё ходкае людства, некаторыя з немаўлём на руках, рушылі з горада. За яго агароджай прыезджыя пакідалі падводы, асядланых коней пад назіркам слуг ці сямейнікаў, ішлі далей, на прасторны, як акінуць вокам, луг, шчодра асвечаны яркім сонцам на блакітным, з рэдкімі белымі кучомкамі небе, ужо крыху на ўзвышаных мясцінах з паджаўцелай травою. Падаваліся да недалёкага высокага і разлапістага адзінокага старога дуба, не толькі з ацалелай, але і з новенькім зрубам крыніцы, дзе ўжо сышлося нямала люду. Паміж натоўпам і дубам высіўся амаль у чалавечы рост памост са свежых гладкіх дошак. Цяпер на ім, абапал чагосьці накрытага радном, нібы замёрлі два непарушныя вoі з кап'ём і мячом. Адчувалася: сёння гэты поплаў, як ніколі, зведае шматлікі чалавечы гурт. Ні на ніводнае веча не прыходзіла столькі людзей: на яго дапускалі не ўсіх, толькі сталых і паважаных.

Праз некалькі хвілін з горада выехалі пашанотны за чыннасць сцяганосец, Міндоўг, госці са святароў і вышэйшага рыцарства, тутэйшая знаць, крыжацкі белаплашчавы і чырвонакрыжны атрад, дзе кожны быў са шчытом за спіной, у бліскучым, нібы гаршковым шлеме з бухматым пер'ем, акрыты новай брыгандзінай пад плашчом (у рыцараў век кальчугі адыходзіў, замест яе, а часамі і паўзверх, было новае акрыццё з амацаваных заклёпкамі да тканіны металічных пласцін, нагруднік і наспіннік звязваліся па баках; змяніліся металічныя навершы коп'яў, даўжэлі і цяжэлі мячы, асабліва бастарды, іначай рабіліся нажы і кінжалы для ўцэлу ў чалавечае цела паміж пласцінамі ў даспеху). Замыкала коннае шэсце, як яшчэ нядаўна казалі, дружына, а цяпер харугва на чале з Усяславам. З сталых, выбітных у сечах вояў і маладых, але ўжо навучаных у муштры, здольных для зацятага бою дзецюкоў. Усе таксама ў новых даспехах. Нешта падабралі ў паходах, нешта купілі ў крыжакоў (іхнія ўмельцы мелі лепшае начынне, больш спазналі сакрэты выплаўкі жалеза, сплаву яго з іншымі металамі, загартоўкі; Даніла Галіцкі ў апошняе дзесяцігоддзе многае пераймаў ад венграў, крыжакоў і ад манголаў). Толькі Усяславава воінства не харашылася пер'ем на шлеме. Паколькі па няпісаным, але здаўна запомненым усімі законе нельга было зачапіць сваіх велічных, а то і святых птушак, бусла ды жураўля, прылётнага з паўднёвых стэпаў арла або сокала, то не будзеш жа важнічаць несамавітай пярынай з ястраба альбо пеўня!

Гаманісты люд заціх, сам пачаў расступацца на бакі і цікаўна агледжваць засяроджаныя твары конных гасцей і сваёй знаці. Каля памоста цывільныя спешыліся – падбеглі слугі і павялі іхніх коней за аброць воддаль за натоўп, а ў гэты час сцяганосец першы па бакавой лесвічцы падняўся на дашчаны ўзвышак і пасярод яго, каля насупленых вояў, уставіў дрэўка бел-чырвона-белай харугвы ў высакаваты слупок з жолабам і стаў-замёр побач, апусціўшы руку на навершша мяча ў металёвай, аздобленай срэбрам похве (гэта быў сцяганосцаў меч, уручаны яму яшчэ князем Ізяславам). Апушчаная без ветравею харугва ўжо зведала не толькі сонца, вецер і дождж, крыху выцвіла, яна ўжо і натхняла ў баях. З ёй хадзілі на Конрада Мазавецкага, потым на помач Данілу Галіцкаму ў яго бітве на Сане з пляменнікам, венграмі, палякамі і крыжакамі, з ёй давалі адпор і Данілу ў неаднаразовых сутычках-баях, нават войнах з ім. Адным словам, яна сталася для Навагародка святой (колер ёй выбраў князь Ізяслаў па

падказцы навагародскага светара: чырвань на белым – Хрыстова кроў на абгорнутым прасціраддле).

Крыжацкая дружына развярнула і запыніла коней злева ад памоста. Навагародская – справа. Некаторыя госці, тутэйшая знаць (з ёй і Войшалк) пасталі побач з першымі ў шэрагу каля памоста (сярод іх Міндоўгава дачка Данута поплеч з Усяслававай Любкай). Прысутная з імі Міндоўгава Марта (нават паўнаваты зялёны сарафан не мог схаваць яе новай цяжарнасці) перадала няньцы маленькага сына і перайшла да мужа. Яны з магістрам, біскупамі, лівонскім вучоным, а таксама айцец Кірыла, Усяслаў рушылі да ўзвышкавага насцілу. Каля лесвічкі з парэнчкай Міндоўг запрасіў рукой першымі ўзыходзіць наверх гасцей, але тыя замахаліся: не-не, ты ёсць ты, падымайся першы. Той падтрымаў пад локаць пышна золатавалосую, незвычайна белатварую і з далікатным чырванцом, а сёння паблеклую, без пыхі, а з хваляваннем і мітуслівасцю ў блакітнаватых вачах, з пачуццём вінаватасці і больш чым калі з выявай касавокасці Марту, памог ёй узысці наверх. Апошнім закончыў шэсце на памост Усяслаў. Як было і ўмоўлена, адразу закрочыў на пярэдні край дошак, павярнуў галаў направа і кіўнуў – сюды накіраваліся два ўмелістыя музыкі ў саламяных капелюхах, у зрэбных, толькі добра выбеленых кашулях з чырвонай вышыўкай на грудзіне і поясе, у нагавіцах і новенькіх лапцях. Звычайна яны на гульбішчах забаўляюць люд ігрой на дудзе або дудцы з некалькімі трубкамі, што ад іх здольнасці выводзяць вясёлую і натхнёную мелодыю, і яна хораша стасуецца да гукаў гусляў і жалеек, званочкаў, малога біла. Цяпер гэтыя забаўнікі неслі па іншай, доўгай, з адной трубой дудзе. Пасталі збоку Усяслава і задзьмулі – далёка панёсся іхні сугучны, моцны і зацяжны гук-поклік: увага! Глядзіце ўсе і слухайце!

Дудары сышлі. Усяслаў акінуў позіркам добра бачную паблізу і менш воддаль вялікую людскую зборню. Усе – як тыя, хто разумеў, што і дзеля чаго сёння робіцца, так і іншыя, для каго гэта было нейкай прыдумкай-забаўкай, – застылі ў сцішку, чакаючы незвычайнай дзеі. Старыя, пажылыя (з барадамі – значыць, дзяды), маладзейшыя (з вусамі – бацькі), бязвусныя мальцы, жанкі і дзяўчаты, дзеці. Тая жыццёвадзейная аснова, на кім трымаецца гаспадарка, моц княства. Паколькі нямала іх з розных краёў – аддаленыя палешукі з лясных і балотных мясцін, бліжэйшыя суседзі з узгоркавых палёў, “занямоне” (так у Навагародку называлі тых сваіх і літву, хто жыў на іншы бок Нёмана), – то ўсе цяпер пасталі зямляцкімі купкамі. Мужчыны, апроч росту і колеру валасоў, адрозніваліся ладам капелюхоў і брылёвак, а некаторыя тым, што былі не ў зрэбным і лапцях ці ў поршнях-хадаках, не ў суконнай шэрай світцы, а ў каляровых ботах і шаўковай кашулі, абвязанай на паясніцы шырокім поясам, хтосьці яшчэ меў паверсе хораша выраленую з мяккай скуры, пафарбаваную і вышытую пэўным узорам камізэльку, нехта абцягнуты шоўкам жупан і нават яшчэ кунтуш. Паколькі ў гэтае святочнае ўбіраліся рэдка, то яно, набытае раней, часам пераходзіла ад дзядоў да ўнукаў. Летнія, лёгкія жаночыя апраткі былі болей стракатыя. Каптурамі, наміткамі, хусцінкамі, пярэднікамі (“хвартухамі”) у пажылых, скіндачкамі, стужкамі, вянкамі з кветак у маладых і ва ўсіх нагрудніцамі, андаракамі. Рознымі колерамі і ўзорамі на іх. Толькі ва ўсіх яны мелі найбольш святочны белы, шэры, блакітна-сіні колер, зрэдзь з чырвонымі абшыўкамі. Вось усе, здаецца, паранейшаму з даверам, надзеяй на лепшы патомны час пазіраюць на яго, Усяслава, чакаюць ягонага слова. Ён – у пунсовай, зверху зашпіленай доўгай

накідцы, ружовай шаўковай нацельніцы, гладкай скуранай без рукавоў нагрудніцы крыху ніжэй шырокага скуранога паса са срэбнай зашчэпкай, у рудых партах, увабраных у мяккія боты, – па звычцы агладзіў ужо не малойцаву чупрыну, а парэшту сівых валасоў за глыбокімі залысінамі, убеленыя сівізной некалі чарнявыя вусы і бараду. Выпрастаўся: хоць яму падабралася да паўвеку, але няхай усе бачаць у яго рослай, плячыстай постаці яшчэ зухаватую мужчынскую дужасць. Падняў руку.

– Грамада! – звыкла ўсклікнуў, каб голас быў чым далей чуцен. – Сем летаў таму наша веча во каля гэтага старога сведкі, – паказаў рукой на высозны дуб, што заслаў лёгкім ценем памост, – споўніла наказ нашага слаўнага князя Ізяслава. Згадзілася быць укупе з суседкай Літвой і прызнала нашым вялікім князем Міндоўга. Гэты невялікі адрэз часу паказаў: замысел князя Ізяслава спраўдзіўся. Кажуць, не склееш дзве адрэзаныя лусты. Ды ў нас усё склеілася. Пазаможнелі, памацнелі. Адбіліся ад непрыяцеля нашага. Нас пачалі не толькі далёка ведаць. З намі пачалі лічыцца.

Перавёў дыханне і далей:

– Тое веча рашыла, каб у раптоўную пагрозу многае важнае адразу ж рашалі вялікі князь і Вялікая Рада нашага супольнага гаспадарства. Мы і рашалі так нашы як мірскія, так і ратныя турботы. І сённяшняя наша дзея па ізволе Рады. Чаму? Зноў напомню асобнае з наказу незабыўнага князя Ізяслава. Ён вучыў: як бы цяжка ні было, не дазваляйце сабе апусціці галаву і рукі, папусціцца страху, адчаю ці абыякавасці. Галавой думай, разважай і выбірай самае разумнае, а рукамі рабі. Не вам гаварыць: нашы набыткі даюцца нам нялёгка. Кожны дзень можна чакаці бяды. І самага страшнага – новай вайны. Каб спакойна араць, касіць, жаць, гадаваці дзяцей і ўнукаў, нам патрэбен мір, мір, мір! Па ласкавай волі Божай нас абышлі ўладары паўсвету манголы. І далей трэба Бога прасіці, каб і зноў быў міласэрны да нас: нам самім не будзе ад іх паратунку.

Грамада! Пры такой вялікай пагрозе радуе, што ў нас спакой з Палацескам, лад з Туравам і Пінскам, згода ва ўсім, узаемнасць са Слонімам, Ваўкавыссю, Гародняй. Толькі моцна клапоціць тое, што зноў і зноў акрыквае, не перастае трэсці на нас мячом неадступны, назойлівы, як ліпкі авадзень, Даніла з Галіча. Паверце майму слову: не адчэпіцца. Як толькі збярэ новую сілу, адразу наваліцца. З ім мы трымалі і будзем трымаць вуха востра. Мы пільна сочым і за іншымі краямі. Не маглі не ўбачыць: каля Варажскага (Балтыйскага) мора расце ў грозную сілу Лівонія. Так ці гэтак, а інтарэсы нашы могуць ціхамірна не размінуцца. Сутыкнуцца – зноў жа вайна. Яе, яшчэ адной, мы не хочам. Як спазналі, не прагне яе з намі і Лівонія. Мы нямала перагаварылі, кожны адстойваў сваё і ўрэшце паразумеліся. Дамовіліся: мы не нападзем на яе, не будзем памагаці ў гэтым іншым. Лівонія не пойдзе з мячом на нас і не стане падсабляць у гэтым нашым непрыяцелям. Яна, Рым прызнаюць Міндоўга каралём сярод іншых каталіцкіх каралёў, а наша гаспадарства – каралеўствам у сям'і тых, каго апекуе папа рымскі. Цяпер ён – і наш бацька-заступнік, суддзя. Не бойцеся: ні паднявольнымі, ні даннікамі не будзем! Кожны з нас сам па сабе. І паверце, – падняў уверх руку з указальным пальцам, – не будзе ніякай прынукі, каб праваслаўныя пераходзілі ў каталікі. Не мы дзялілі хрысціянства, вызначалі "самых праведных", кароль і Рада будуць прызнаваць усіх хрысціян, іхніх светароў, даўнія абрады, святы. Я гавару праўду, бо застаюся праваслаўным і буду аберагаці аднавернікаў. Вялікі магістр, біскуп, – Усяслаў павярнуў галаў, паказаў вачыма на тых, – про-

сяць апрасціці назоў дзяржавы нашай: “Літва”, “Літовія”. То мы будзем “ліцьвіня”. Лічу, варта іх паслухаці, ушанаваці Міндоўгаву вотчыну. Але Наваградак-Навагародак застанецца Наваградкам-Навагародкам. Скажу і пра іншае праўдзіва: веча склікаць будзем толькі ў самую ліхую часіну. Вялікая рада застаецца ў сіле, а законам ад яе імя будуць каралеўскія граматы. Па-новаму, указы. Значыць, наш кароль не будзе рашаць усё толькі адзін. Але кароль – не проста князь. Асвечаны самім намеснікам Госпада на зямлі ўладар. То прывыкайма: кароль і каралева – “Ваша вялікасць”. Сёння яны прысягнуць нам на Святым пісанні як нашы заступнікі, а мы ўсе прысягнем ім як верныя паслухмянцы. На каленях. Караляванне будзе пераходзіць ад бацькі да старэйшага сына-католіка. У іншым разе гэта будуць вызначаць Вялікая рада і біскуп, адобрываць папа. Як ваявода прашу ўсіх быць вернымі нашай дзяржаве, клятве яе каралю. Калі ўладар і люд заадно, то гэта моц з моцаў дзяржавы! Нікому яе не ўнізіць! Не скарыць!

Усе слухалі ўважліва. Толькі вось першынец Міндоўга і Марты, прачнуўшыся, падаў плаксівы голас, перапыніў прамоўцу.

– За бацьку просіць, – ужо з жартам выгукнуў Усяслаў.

Жарт тым, хто пачуў яго, спадабаўся і ажывіў усмешку. Нянька, супакойваючы малое, адышлася. Усяслаў звычайна не даваў волі языку, асабліва ў пустамелістай балбатні, ды сёння перад гасцямі і сваім людам разышоўся, нават не без вышуквання красамоўнасці:

– Закончу, грамада, так: усе мы ад князя да смерда і нявольніка – лісце на дрэве. Лісце ў сваю пару распускаецца, разам з коранем жывіць яго і ў сваю часіну ападае. Гніе, удобрывае зямлю. А дрэва застаецца, доўжыць свой век, прыносіць новаму люду карысць. Мы ад Бога маем сваё даўняе родавае, дрыгавіцкае і з крывіцкім дамешкам Дрэва. Летаў сто таму наш Навагародак выдзеліўся як сталец новай галіны на ім. Яна амацнела ад прышчэпаў да яе нашых паўднёвых суседзяў-дрыгавічоў. Нядаўна – ад літоўскага парастка. У цеснай повязі з больш даўнімі галінамі Турава і Пінска мы можам, больш – мы павінны наша Дрэва яшчэ болей дагледзець, паспрыяць яму набірацца новых сіл. Як спрыялі яму тураўскі князь Юры Яраслававіч, продкі нашага Ізяслава Мікуліча і ён сам. Іхнія старанне, набыткі – і наш скарб. Боская, людская спадчына. Без яе люд наш будзе бедны. Найперш душой. А бяздухія на людзей годных мала падобныя. Так, насельнікі. Жылі, клапаціліся пра кавалак хлеба, памерлі – і ўсё. Прах. Праз калена другое-трэцяе іх, а з імі ўсё былое, людское, забылі. Нібы тут і не было ні іх, ні іхняга нічога вартнага. Мусім прызнацца: не так ужо і даўно гэтак і было. Але летаў каля ста таму дзяды, бацькі нашы спазналі волю, а сябе – не проста людзьмі, а языком (народам. – *Аўтар*). Князі нашы пачалі прывучаць, каб люд болей дбаў не толькі пра спажыву на кожны дзень, але і пра большае. Пра новы ўсіхны наш скарб. Для патомнага часу. Для нашых унукаў і праўнукаў. Каб яны ведалі, што і як набылі іхнія прадзеды і што ім трэба аберагаць і доўжыць. Цяперака гэтая наша дзея паказвае, што мы дараслі, каб споўніць запавет князя Ізяслава. Пачуйце, хто можа чуць! Зразумейце, хто здольны зразумець! Пустазелістую траву злыдзень сее, яе варта выполваць. А боскую трэба даглядаці. То самі пабудуем каралеўскую дзяржаву сваёй гадоўлі!

Грамада! Каб больш з некім паладзіць, трэба больш яго ведаць. А каб стаць дружбакамі, разам вялікі гарнец солі з’есці. Цяпер нам прыйдзецца больш знацца з Лівоніяй. Перад гэтым мы дамовіліся, каб тут сказаў сваё слова ад яе знаны прапаведнік воінаў Хрыстовых, у многіх навуках

спазнаны муж. Ён жыве ў Рызе ўжо каля пяцьдзесят летаў. Добра ведае даўніну ўсяго свету. Калі, дзе, хто і як садзіў, падкормліваў і мілаваў сваё Дрэва. Паколькі ў Лівоніі верхаводзяць германцы, то мы можам больш пачуць і пра іх. Можна сказаць, і на яго вачах ахрышчаваліся прыморскія староверніккі, станавілася як дзяржава Лівонія. Знаецца з Палацескам, Ноўгарадам, быў у сталіцы паўночнай Русі, дзе перамаўляўся з яе вялікім князем Аляксандрам. То варта паслухаці яго пра ўсё гэта, пра што мы не ведаем. Каб нам лепей уясніці саміх сябе. То – госць наш. Генрых фон Летланд.

Да Усяслава падышоў сярэдняга росту, суталаваты крыжацкі натхніцель у круглай, павіслай на вушы чорнай нагалоўніцы, даўгаватай цёмнай, без ніякай акрасы накідцы паверсе суконнай нагрудніцы, у кароткіх, вузкіх партах. Ніжэй каленяў вузенькія светла-шэрыя ваўняныя нагавічкі (ням. *Puntschuoch* – панчохі), увабраныя ў чорныя *Schuhe* (ням. туфлі). Пазней у навагародскіх заможных дамах прыжывецца нямецкая назва хатняга лёгкага абутку – *Pantoffeln*. Пантофлі.

– Добра, баярын, сказаў пра лісце, Дрэва і скарб-спадчыну, – пахваліў.

– Гэтае мудроўе пачутае ад князя Ізяслава, – Усяслаў не быў схільны пахваляцца.

– І пра траву добра.

Тут Усяслаў змаўчаў.

– Грамада чынная двух пасямееных суседзяў! – схіліў галаву ў знак пашаноты і пачаў сваю казань Генрых. – Дзень добры вам усім!

Запрыязніўся слухачам: з крыжацкай Рыгі, а гаворыць па-славянску.

– Ужо не адзін дзясятак гадоў чую і пра ваш, дрыгавіцкі, як гавораць, лясны і балоцісты край. А цяпер вось і тут. З купцамі вашымі знаўся, меў гонар глаголець з князем Міндогам, ваяводам Усяславам, то ўжо крыху ўведаў пра вас. Дрэва ваша цяпер з літоўскай прышчэпкаю. Віват вам з раством каралеўства! Жадаю, каб гэтае дзіцятка было здаровае, расло, набіралася сіл і праславілася як моцная і асветная дзяржава!

Пачутае ад разумнага ваяводы вашага падказала мне маё слова для вас. Паколькі сюды хрысціянства прыйшло з Візантыі, то ў вас ад яе і паняцці многага. Скажам, пра тое, што Бог утварыў свет, Адама і Еву 6761-(адно), як вы гаворыце, лета таму. Гэта значыць, за 5508 гадоў да Хрыста. Ест і інакія падлікі. – Прымоўк, паспачуваў: – Не кожны можа запомніць такі цяжкі падлік.

“Праўда, – у думках згадзіўся з гэтым Усяслаў. – Нават многім баярам, а то і князям у такім вялікім летазлічэнні даўняга і новага памагаюць разабрацца найболей навучаныя царкоўнікі. Просты люд не ведае глыбокай даўніны, называе яе адным няясным словам – “некалі” або “колісь”. А пра яшчэ і нядаўняе кажа: “Мой бацька быў яшчэ падшыванец, калі ў нас Зяслаў князем стаў”, “Маці казала, што Н. ужо замуж выйшла, калі я толькі нарадзілася”. Не ўсе старыя ведалі, колькі пражылі, называлі свой ці нечы ўзрост адвольна: “немаўля” і “дзіця”, “падлетак”, “ужо хлопец (дзяўчына)”, “паджылага веку”, “стары (старая)”. А многія не толькі ад войнаў, але і ад цяжкай працы, нястачы і хвароб старэлі хутка, паміралі ранавата”.

Як меркаваць па сабе, да кожнага новага дня кліча незвычайны будзільнік. Певень. “Пяе певень, пяе другі...”, а ў показках пра даўніну гэты фарсісты пявун падае свой знак пра позні і ранні час тры разы. Да яго прыслухоўваюцца як гаспадары, так і злодзеі. Кожны на сваё. Першае, нібы дрымотнае кукарэканне – развітанне з днём, поўнач, другое спахоплівае –

ноч адыходзіць, досвітак, трэцяе заклікальнае – днее. Злодзею ўжо трэба схавацца ў сваёй хаціне, а гаспадару – выйсці з яе і раніцу пачаць на працы. Калі ён, Усяслаў, першы раз прывячаў лівонскага госця, то здзівіўся, што той пасля ночы павітаўся: "Guten Morgen!" "Добрай раніцы!" Патлумачыў таму: "У нас няма такога вітання". У нас раніца – ужо дзень. І для князя, і для кожнага людзіна. То – "Дзень добры". А ўдзень прачынаецца толькі гультай". Не ўсе ведалі добра, які сёння дзень, тыдзень. Месяц, пару года вызначалі па адлізе, прылёту птушак, зеляніне, сенакосе, паспелым жыце, пажоўклых дрэвах і траве, па першым снезе, марозах і завірухах. І так год за годам.

(Мо і так. Але былі і знаўцы часамеру. Вось летапісец Нестар запісаў пра славутага сучасніка: "В лето 6609. Преставися (памёр) Всеслав, полоцкий князь, месяца априля в 14 день, в 9 час дне, в среду". – *Аўтар*).

– Першы ўсходнеславянскі летапісец Нестар з Кіева пачаў апісваць даўніну продкаў з часоў візантыйскага імператара Міхаіла, – гаварыў Генрых. – Недзе з 850-х гадоў, калі ў Заходняй Еўропе ўжо замест Рымскай імперыі былі новыя імперыі і дзяржавы, – прадоўжыў Генрых. – У нас, хрысціян па рымскай веры, прасцей. У шостай сотні гадоў па Хрысту вучоны манах Дыянісій вылічыў: Збавіцель роду людскога нарадзіўся 25, па-вашаму, снежня на 753 годзе закладу Рыма. То Хрысту сёлета было б 1253 гады. Не хачу сказаці ніякай хулы, але ніхто не ведае добра, ці па-праваслаўнаму 5508 летаў, ці болей ад таго, як Бог да сына Хрыста ажывіў свет, вылепіў Адама, а з яго рабрыны вымайстраваў Еву. Але ў Візантыі асмеліліся сцвердзіць: ад стварэння свету да патопу прайшло столькі, ад патопу і Ноя да Аўраама яшчэ столькі дадалося, потым мінуўся такі час ад Аўраама да Саула, ад яго да пазнейшых іудзейскіх прарокаў, цароў... А тыя, як напісана ў Святым пісанні, жылі па 900 і болей гадоў...

Хто з вас хрысціянін, той чуў, як праз грэх першыя людзі страцілі рай, завялі сабе падобных, як праз першае братазабойства завялося дабро і зло на свеце. Спачатку Адамава нашчадзь пачала разыходзіцца, шукаць сярод гор даліны, сярод паўпустынь стэпы, нізіны, лугі, ваду і жывілася боскімі дарамі. Спажыўнымі раслінамі, ягадамі, арэхамі і інакімі пладамі, яйкамі дзікіх птушак. Падбіралі ўсё ядомае – ішлі далей. Малалікіх зганялі болей людныя роды. А потым, калі распладзіліся, гатовага пачало не хапаць. А злавіць рыбу, тым болей птаха, звера было няпроста. Прыйшлося дбаць, як выжыць. Трэба было думаць, разумнець. То ўзяліся з сабраных яек выводзіць птушак, прыручаці самых паслухмяных дзікіх зверанят (цялят, ягнят і козак, аслянят, а на ахову жытла ваўчанят). Завяліся мяса, млека, а вось смятану, тварог і сыр, мабыць, зведалі праз немалы час. Лаўчыліся лавіці рыбу, паляваць на дарослую жыўнасць. Мо і сотні або не адна тысяча гадоў пайшло на тое, каб навучыцца рабіць з каменю, дрэва (а іх не ўсюды хапала), касцей матыку, нешта падобнае на нож, тапор, лук, стралу. Яны ўжо самі на абробленым полі садзілі, паляпшалі дзікія цыбулю і часнок, усялякія прыправы, сеялі дзікія ячмень і пшаніцу, мелі ступкі і таўклі ў іх зерне на шурпатую муку. Мо выкапалі першыя рвы для адводу вады і пачалі ўжываць самародную медзь. Колькі было родаў ад Адама і Евы першабытнікаў, як называліся, на якой боскай мове гаварылі – толькі адзін Гасподзь і ведае. Як і тое, чаму ён пазней даў асобным плямёнам розныя мовы. Тых, хто аблюбаваў паніззе Тыгра і Еўфрата ў Месапатаміі, дзе не было зімы і таму круглы год было цёпла ды ўродна, захапілі прышлыя. Яны засталіся ў памяці: шумеры.

Прышэльцы аселі і пачалі гаспадарыць болей абдумана. Скажам, з чароту рабілі не толькі вуды і жытло, але і пасудзіны розныя, лодкі. Нават невялікія судны, што дазволіла нешта вывозіць на продаж ці абмен, а патрэбнае прывозіць з іншых мясцін. Значыць, заявіліся людзі падарожныя, купцы. Больш скарысталіся такім боскім дарам, як гліна. Прыдумалі падмогу рукам – ганчарнае кола, а для зямельных работ – не толькі матыку, а і саху (у вялікую ўпрагалі быкоў). У поце чала абраблялі зямлю, сеялі, даглядалі пасевы (ужо капалі каналы для вады, рабілі водазборы. А калі рэкі разлівался, то прыдумлялі, як запыніць ці адвесці паводку). З імі пабольшала розных рамёстваў. З прывезеных дрэва, медзі, срэбра. А калі займелі метал, то змыслілі пілу. А ёй скумекалі адрэзаць з тоўстага камля суцэльны пласт-круг і з яго вырабіць такую важную рэч, як кола. Усё новыя набыткі клікалі сем'і, радню збірацца ў невялікія паселішчы, а некаторыя з іх спакваля перарасталі ў буйныя. Шумеры адны з першых пачалі закладаць гарады. Падумаць толькі, – Генрых са здзіўленнем пацiснуў плячыма і ўзвысіў указальны палец, – каля чатырох тысяч (!) гадоў да Хрыста ўжо заявіліся гарады-дзяржавы. Іх у Месапатаміі стала не меней дзесяці. Яны завялі свой лад: як па-вашаму, князь, веча, дзе многае рашалі воі, бо гарады-дзяржавы не ладзілі, люта біліся за ўродую зямлю, за ежу і ваду. Між войнамі ўжо не па звычаі, а па ўстаноўленым законе моц меў сход старэйшын. Здаўна завялася, расла вялікая няроўнасць. Было многа бедных. Багатыя цешыліся ў палацах. Людскія нялады разбіралі суддзі. Шумеры шанавалі ці не сто багоў, галоўныя былі багі неба, зямлі і вады. Ім служылі жрацы. Мо і з іх самыя кемныя затлумачылі, як стаўся свет, першы чалавек (па-іхняму, Адам – “гліна”, “прах”). Расказалі, што быў патоп. Перадаваліся з роду ў род і іншыя паданні. Пра свае войны, герояў, цароў і пра суседзяў, нават далёкіх. Шумеры прыдумалі, як усё захаваць у памяці. Дзеля гэтага ляпілі з гліны амаль вось такія тонкія пліткі, – Генрых падняў перад сабой, сутыкнуў кончыкамі паўсагнутыя чатыры верхнія пальцы, – і на іх, часам зусім маленькіх, сырых, малявалі задуманае. Калі нагу, то гэта значыла ісці або стаяць, цёмнае неба – ноч. Пчала – насякомае альбо руплівы чалавек. Каб так расказаць пра многае, то трэба было безліч гліняных штуковін. Іх, ужо сухія, складалі ў вялікія скрыні і вазілі. Яны доўга захоўваліся. Ды біліся. Але, чуў я, у старых сховах і нямала іх ацалела. Толькі наўрад ці хто цяпер разбярэцца ў тых даўніх прамудрасцях. Як і ў пазнейшых, калі на плітках ужо не толькі малявалі, а выціскалі розныя знакі-клінкі. Умельцы навучалі, каб і іншыя ўмелі чытаць такое і самім пісаць. Складалі для гэтага павучанні, слоўнікі. Гэтую шумерскую вынаходку ўжывалі і суседзі. Ды не адну сотню гадоў. А потым іншыя прыдумалі прасцейшы спосаб для пісьма. Ён і цяпер нам усім служыць.

“Дзівосы з дзівосаў! – зноў, як і раней уразіўся Усяслаў. – Як змаглі так асвойтацца, змудраваць пракаветнікі? Яны ж вынайшлі столькі ўсяго, каб выжыць! Ды яшчэ паклапаціліся, каб праўнукі не толькі ведалі пра іх, усё іхняе, але і дабіліся большага! Ці ў іх прарасло, дало плён тое, што нейкім зернем заклаў у першага чалавека Тварэц свету?”

– Тварэц свету, – нібыта пачуў, падхапіў ягоныя думкі Генрых. Зноў загаварыў, як плот гарадзіў: – задумаў так, што ўсё яго (неба, сонца, месяц, зоркі, зямля, моры) вечнае, а людзі, усё іхняе мае свой пачатак і свой канец. Шумер не ўстояў, яго захапіў Акад. А на яго нахлынулі на калясніцах качэўнікі з сірыйскай пустыні. Амарэі. Ды род людскі доўжыўся. У Месапатаміі і за ёю падалі голас новыя плямёны і дзяржавы. Сёння

толькі самыя дапытныя знаўцы могуць сказаць, калі, дзе, колькі яны былі, шумелі войнамі і хто з іх у каго (бывала, не адзін раз) выйграваў, а каму саступаў. Хто здольваў акрыяць, але ўрэшце рана-позна таксама паў. Як ведама мне, адзін час усіх трымалі ў страху Вавілонія і Асірыя, а потым – Мідзія, Вавілон (стаў імперыяй, а на яго мове гаварыла і пісала не адна дзяржава), Егіпет, Лідзія (яна была ў Малой Азіі ці, паводле шумераў, Анатоліі, амацавалася пасля падзення там дзяржавы хетаў і Фрыгіі. Тыя мясціны вызначыліся конегадоўляй і былі багатыя на срэбра, золата, самародую медзь, свінец, вохру. Невыпадкова там упершыню здолелі выплаўляць жалеза, а лідзійцы паперадзе ўсіх пачалі чаканіць залатыя манеты). У розны час і па-свойму заявілі пра сябе Фінікія, іудзейскія царствы, плямёны, што жылі ў Аравіі, на сірыйскай і палесцінскай землях, Грэцыя, дзяржавы пры Каўказе. Былі яны і далей, дзе ўзыходзіць сонца. Ды і я не ўсёвед. Толькі чуў, што ест. Намнога большай імперыяй, чым вавілонская, стала Персія. Нават, як тады гаварылі, сусветнай уладарыняй. Але як у вас добра кажуць, цягаў воўк авечак – пацягнулі за ногі і воўка. Знайшоўся драпежнік і на Персію. Аляксандр Македонскі.

Даўно ўжо няма тых і самых моцных, забыліся іхнія мовы. Але і для нас, сённяшніх, засталіся, як хораша сказаў баярын Усяслаў, іхнія многія скарбы. Вавілон (“вароты Бога”) упарадкаваў законы, як правіць дзяржавай. Мудрагельцы мо і ў повязцы з егіпецкімі намыслілі рознае лічэнне. Падлік памеру поля, каб ведаць, колькі трэба несення. Колькі трэба зямлі на плаціну, колькі можа павезці судна, колькі чаго змесціцца ў карзіне, у бочцы. Назірк за Месяцам і Сонцам памог вылічыць месяц, а ў ім чатыры тыдні, а ў тыдні – сем дзён. Мо ўжо вызначылі: дванаццаць месяцаў – год. Гэта падказала дапытным палічыць даўніну і з яе вывесці свой і нечы час. Праўда, поўнай яснасці ў іх не выйшла: часта ўпаміналі нечае праўленне і колькі яно цягнулася, а нечае непрыемнае прапускалі. То падлік мінулага часу выходзіў няпоўны, з пропускам. Мы не можам не сказаць паважлівае слова пра невялікую Фінікію – краіну адважных і цікаўных мараходаў. Яны асмельваліся пускацца ў вельмі далёкае плаванне (за тры гады абагнулі Афрыку. – *ГД.*), для сябе або за плату егіпцян, іудзеяў для іх назіралі, дзе і што ест. Добра асвоілі Міжземнае мора. У Тартэсе (яшчэ да н. э. зніклы горад у сённяшняй Іспаніі. – *ГД.*) набывалі для вырабу бронзы зліткавае волава, прывезенае з акіянскага Алавянага краю, як тады лічылі, заходняга жылога краю Зямлі (брытанскі востраў. – *ГД.*). Мо ўздоўж акіянскага мацерыковага берага заплывалі аж у вусце вашага Нёмана, дзе куплялі застылую жоўтую смалу (бурштын; вядомы і сухадольныя яго шляхі). Па беразе Міжзем'я засноўвалі свае калоніі (Карфаген і іншыя). Яны навек застануцца ў памяці яшчэ і тым, што іхнія знаўцы-моўнікі болей за тысячу гадоў да Хрыста падправілі цяжкі стары і склалі новы кароткі алфавіт (азбуку) з зычнымі і галоснымі літарамі, што ажывіла, падняло пісьменнасць ва ўсіх суседзяў. Той алфавіт таксама падпраўлялі. І грэкі, а іх пры хрысціянстве для сябе – браты-славяне. Іхняя вынаходка цяпер служыць праваслаўнай царкве і дзелавой пісьменнасці ў вас. Рым на фінікійска-грэцкай аснове склаў свой, лацінскі, алфавіт. Фінікійскі моўны досціп спатрэбіўся і іншым алфавітам.

Чынная грамада! У дахрыстовым свеце ўспыхнула і доўга свяцілася такая яркая зорка, як Егіпет. Яго люд намнога пазней за Месапатамію абсяліў Ніл, заклаў гарады, а потым дзяржавы пры верхнім і пры ніжнім Ніле (пра той першы егіпецкі час мала хто ведае яснага). Пазней, мо за тры тысячы гадоў да Хрыста, Верхняя дзяржава заваявала Ніжнюю і

злучыла Егіпет з адной сталіцай (мо на чале яе першым быў Менес, з яго пачаліся фараонаўскія роды-дынастыі). Тая дзяржава пратрымалася даўжэй за многіх суседзяў. Праўда, як той конь-скакун, Егіпет не адзін раз спатыкаўся, ламаў нагу і падаў. Ад сваёй смуты (Поўнач і Поўдзень не адно стагоддзе супернічалі, фараоны пакідалі непрыхільную сталіцу і перабіраліся ў новую) і ўзмоцы суседзяў, ад азіяцкіх плямёнаў, Мітані, асірыйцаў, персаў, Македонскага... Але і не адзін раз пасля чужой падножкі і няволі ажываў. Ужо новым Егіптам. Хадзіў вайной у блізкія і далёкія краі, што давала яму вялікую здабычу, нявольнікаў. Мудрая жанчына-фараон Хатшапсут найперш па-свойму скарысталася гэтым, сталася спраўнай гаспадыняй усяго Егіпта, заклала розную вялікую будоўлю. Праўда, мела не просты нораў, часам чыніла тое, што не трэба было рабіць, то пасля яе смерці нават сын ёй за многае не дараваў, тое-сёе ейнае разбурыў і пачаў чыніць па-свойму. Пазнейшыя фараоны, хоць і трацілі многа часу і з казны на войны, доўжылі знаходзіць выдаткі таксама на дойлідства, рамёствы, спрыялі тым, хто тварыў па-новаму. Не толькі з вымыслам няіснага, а блізка да таго, як тады былося-жылося, як выглядалі людзі. І сёння, да слова, як жывыя, выявы фараона 18-й дынастыі Эхanатона і яго жонкі Неферціці, іхніх дзяцей. Хоць... Можна заўважыць: на твары некаторых ест нездаровае. Яно – след таго, што бацькамі станавіліся самыя блізкія родзічы. А што да таго Эханатона, то яго пасля таксама зняславілі. З-за ягоных змен-перамен. Найперш з-за таго, што ён пайшоў на нечуванае: прызнаваў аднаго Бога, як і бацька, асякаў знатных дармаедаў і пасягальнікаў на супраўленне, жрацоў (а яны мелі вялізную сілу). Пасабляў, узвышаў здольных з просталюдзінаў. Пасля смерці яго новую сталіцу, ухваленыя ім навіны ў дойлідстве і іншых рамёствах пабурылі, нават памянялі яго імя. Як і не раз было сярод вялікіх людзей, Эханатон завельмі апярэдзіў свой час.

Знаўцы цвердзяць: з новай, 19-й, дынастыі годна вызначыўся Рамсес II. Ён не толькі ўтрымаў Егіпет яшчэ ў моцы ды росквіце, але і стаў адным самых уганараваных правіцеляў да часу Аляксандра Македонскага. І вайной 1312 дахрыстовага года з моцнымі хетамі з Малой Азіі. Тая сеча адбылася не так, як раней: пабеглі-ударылі. У ёй было загадзя прадумана, дзе сутыкнуцца ды кудой туды ісці, хто рушыць першы, а хто пабудзе ў засадзе. Пазней тую бітву ў многіх дзяржавах вывучалі. Не столькі для таго, каб пахваліць тых палкаводцаў і вояў, хто ўславіўся подзвігамі, колькі для іншага. Каб як след скарыстацца яе задумай і ходам для сваёй перамогі. Рамсес праславіўся і яшчэ адным нечаканым ходам: запрасіў у Егіпет хецкага цара на перамовы. Той прыехаў, яго пышна, як роўнага ім, сустрэлі. І яны падпісалі мір. Гэта таксама на вякі была навука для многіх дзяржаў, як можна, трэба ўратавацца ад доўгай і спусташальнай вайны. Ды, бывала, не ўсе і не ўсюды былі мудрыя, каб скарыстацца гэтай навукай. Таму і чакала іх цяжкая расплата. З 20-й дынастыі Егіпет, хоць і меў такія-сякія ваенныя ўдачы (скажам, скарыў іудзеяў і вывеў іх у палон) слабее, што вабіла пажаднікаў да яго заваёвы. Паблізу 300 гадоў да Хрыста Егіптам правілі Пталамеі. Яны пайшлі ад палкаводца Аляксандра Македонскага. Апошняя правіцелька – хітрая, але няшчасная Клеапатра. Яна намагалася жаночымі чарамі спакусіці рымскіх Цэзара і Антонія, каб ўратаваць уладу і Егіпет. Але, як у вас кажуць, дарма. Доўгі, з пярэрвай і ўпадкам, егіпецкі век (ад часу каменя да медзі, бронзы і жалеза, золата) незадоўга да хрысціянскага часу Рым бязлітасна абарваў.

Сам Егіпет паў, але засталіся яго велізарныя заслугі. Вось хоць коратка з самага, здавалася б, простага: там не столькі палепшылі саху, колькі скемілі пераўтварыць яе ў плуг. Зладзілі павозку на колах. Навучыліся рабіць простае і каляровае шкло, фаянс, глазуру-паліву. Як казалася, набудавалі мноства храмаў і яшчэ больш зладзілі выяў багоў-звяроў і птушак (галоўным быў бог Сонца), уладароў. Склалі свой каляндар па разліве Ніла ў адну і тую ж пару, сонцавы і вадзяны часамер. Вызначылі: у сутках – 24 гадзіны. У годзе – тры яго пары па чатыры месяцы, месяц – 30 дзён. Яны не толькі налаўчыліся лічыць: 1, 10, 100..., але і ўвялі лічбы ў вялікую навуку. Кажуць, іхнія лекары вынайшлі не менш за 250 лекаў ад розных хвароб. А жрацы ведалі самыя вялікія таямніцы свету, але ўтойвалі іх. А пісьменнасць з іхнім папірусам! Яшчэ, як ніхто да іх, спазналі неба, гадалі пра лёс па зорках.

Трэба асобнае слова пра егіпецкія для многіх дзівацтвы. Скажам, пра іхнія ўборы. Егіпцяне добра ведалі: яшчэ да іх у безмарознай Месапатаміі, дзе былі непатрэбныя кажухі ды іншыя цёплыя рэчы, не толькі вынайшлі свой апратак. Знаць яшчэ клапацілася, каб выглядаць файна і молада. Скажам, праціралі цела кіслым малаком, хлебным квасам. Мо з-за гарачыні, мо і з-за завядзёнкі і жанчыны стрыглі валасы на галаве, а на людзі выходзілі з начэпленымі сваімі або чужымі валасамі і з украсамі. Як я ведаю, каб валасы былі мяккія і здаровыя, у вас іх мыюць настоем з крапівы. У Егіпце гэта ўжо рабілі. І яшчэ ўсялякія хітрыкі. – Пасміхнуўся: – Але ўсяго не буду расказваць, а то на мяне накінуцца вашы мужчыны. Дадам толькі, што апратку ўхарошвалі як выкрайкай, так і аздобай. Скажам, нашывалі на яе скураныя лапікі, а ўладарам – узоры з срэбра і золата. У Егіпце завялі свой крой адзетку, аздаблялі яго складкамі, вышыўкай і кутасікамі з вынайдзеных новых, не з металу, нітак. І ткалі так, што ўмелі на маленечкім кавалку ўціснуць іх безліч і праз гэтае палатно не магла прасачыцца кропелька вады. Цяпер самыя лепшыя майстры не могуць спазнаць таго сакрэту і паўтарыць такое ткацтва. У гэтае шчыльнае палатно, вымачанае нечым, таксама цяпер невядомым, загортвалі пасля смерці апрастанае лекарамі і нечым змазанае чалавечае цела. І яно (мумія) не распадалася да касцей, цвярдзела як камень і ляжала сотнямі, а то і за тысячу гадоў. А пахаваць маглі ў залатым саркафагу (дамавіне) з мноствам скарбу ўсялякага (пазней, як усюды такое бывае, зладзеі пабураць многія заховы вядомых людзей і ўкрадуць самае не толькі дарагое, а выдатна зробленае).

Чаму я столькі гавару пра Егіпет? Мне пашанцавала пабыць там, то цяпер, пасля Візантыі, пры арабах (яны заваявалі яго ў 636-м), той, стары, Егіпет нібыта прывід, казка. Многага, кажуць, не засталося ці яно ляжыць пад пяском, даўняя мова забытая, часам былое сваё спазнаюць там, дзе яно патлумачана на мову грэкаў (іхні муж вучоны Герадот яшчэ ў V веку да Хрыста зведаў позні Егіпет і напісаў яго гісторыю). Але ж засталіся жыватворны Ніл, пустыні, многія ацалелыя пабудовы, роспісы і надпісы, выявы даўніх багоў і людзей. І... стары цуд з цудаў. Піраміды. Гэта, – Генрых ускінуў рукі ўверх, – па ахопе ўшыркі, як у старым невялікім горадзе, з кантамі на чатыры бакі свету, высозная, звужаная ўверсе пабудова. Падыходзіш да яе і лічыш: там, дзе апала памазка ці яе садралі, усё з накладак-пластоў цэглы. Не! Пласты (а іх, кажуць, 200!) з незлічона шчыльна складзеных велізарных каменных глыб. Піраміды будаваліся так даўно, што цяпер ніхто не ведае: каменне здабывалі паблізу ці валаклі здалёку. Як і ніхто не можа патлумачыць, як тыя людзі з

простымі прыладамі адколвалі такія роўныя кавалы і ўсцягнулі іх адзін на адзін уверх, па-вашаму, аж на 330 сажняў (165 м. – *Аўтар*)! Дзіва з дзіваў! Як і загадка: нашто такая аграмадзіна? Толькі як пахавальніца фараонаў-багоў? Знаўцы старога Егіпта гавораць рознае. Адны: яшчэ да першай егіпецкай дзяржаўнай суполкі піраміды пабудавалі для сябе багі. Як свой стан на зямлі сярод дзікіх першабытнікаў. Каб назіраць за ўсім і вучыць патрэбнаму. Некаторыя з паўшэптам: правіцелі і жрацы, хто знаўся з багамі і меў ад іх навуку, у сутарэннях пірамід схавалі многія сакрэтныя веды неба і зямлі. Да тых сакрэтаў дапускаліся толькі лічаныя даверaныя. А цяпер тыя сховы з таемнасцямі забытыя ці зноў жа вядомыя толькі лічаным пасвечаным...

“Не навіна, – пачутае абудзіла Усяслававу думку. – У кожнай сям'і ёсцека свае таямніцы ад іншых. Нават – ад сваіх, крэўных. У мужа – ад жонкі, у яе – ад яго, у бацькоў – ад дзяцей, а ў іх – ад тых. А што казаць пра розных пакаёвых і дваровых, люд рамесны, купцоў, баяр, дворскага, лоўчых, віжавую і судовую службу, епіскапа, князя! Праўда, Ізяслаў перад смерцю даверыў мне ўсе свае патаемнасці, сакрэты казны таксама. І я не ўсё гавару ўсім. Нават пакуль што і Міндоўгу. Значыць, не дзіва, што і ўладцы, жрацы Егіпта, як і іншых, хавалі сваё патайное. Як павучаў Ізяслаў, каб спраўна правіць людам, трэба: ты ведай пра ўсіх усё, абдумвай убачанае і пачутае, гавары не пра ўсё і гні, рабі задуманае”.

– Ест цікавае адтуль іменна для вас, – усміхнуўся Генрых. – Цар Верхняга Егіпта меў карону белую, Ніжняга – чырвоную. Калі злучыліся, то фараон насіў бела-чырвоную.

Як чулі, многія названыя мной і не ўпомненыя дзяржавы ў свой час магутным крыллем зоркага і драпежнага арла накрыла ценем Персія. Стала вялікая і магутная, як лічылася, непераможная навечна дзяржава. Раней і ў той час многіх (Асірыю, Лідзію, Мідзію) трэсла загадкавая і сёння Скіфія з паніззя Волгі, Дона і Каўказа, куды нібыта прыйшла з нетраў Азіі, дападала аж да Егіпта. Нават перапужала ўладарную Персію. Персы адбіліся ад скіфскага наскоку, а потым лавінай у сем соцень тысяч (!) самі падаліся на тых. На адкрыты бой дзёрзкія і не слабыя качэўнікі не выйшлі сцяною. Адыходзілі ўглыб стэпаў, пакідалі пасля сябе закапаныя ці атрутныя калодзежы, выпаленую травяную зямлю. Персідскае воінства мусіла вярнуцца не проста ні з чым, але і са стратамі ад перапраў праз бурлівае мора, высільвання ад няспыннага бадзяння і голаду (на скіфаў знайшлася іншая сіла, аланы; скіфская качэўная дзяржава пала, пакінула пасля сябе памяць толькі каменнымі бабамі, курганамі, а ў іх файнымі залатымі вырабамі; аланы таксама не ўстоялі). Персідскі арол агледзеў новую спажыву – багатую і па многім свежую Грэцыю.

*(Заканчэнне будзе.)*

# паэзія



Уладзімір Някляеў



...Быць свабодным можна дзе заўгодна,
Калі вольным духам не аслаб.
Я нідзе не быў такім свабодным,
Як на райскай выспе з назвай Раб...

## Кніга лёсаў

***Паэма***

***1***

На Нямізе ў краме антыквара
«Кнігу лёсаў» я знайшоў... Я марыў
Мець яе. Спытаў пра кошт – і хмара
Праплыла па скамянелым твары
Антыквара... З цёмнай даўніны
Глянуў ён: «Бяры за паўцаны».
«А цана якая?..»
Медальён
Расчыніў перада мною ён
І дастаў палову спарыша:
«Паў-душы», – сказаў.
«Не ўся душа?» –
Я перапытаў. І антыквар:
«Не!» – сказаў. І рассмяяўся ў твар.

***2***

З кнігай у акладцы скураной,
Што прапахла цёмнай старыной,
Я пайшоў па вуліцы пустой –
І адчуў дыханне за спіной.

Павярнуўся – анікога. Быў
Позні вечар. Першы змрок клубіў.
«Хто тут?» – я спытаў. І з цемнаты
Антыквар падаў мне голас: “Ты,
Толькі падзялёны надвая:
Ты – як ты, і ты яшчэ – як я”, –
Цяжка выдыхаў ён у цішы,
І вакол яго клубіла пара...
“Сам у кнізе лёсаў запішы, –
Цьмяна доўжыў голас антыквара, –
Я – як той, хто ў схове ў спарышы,
Хто з грахом смяротным на душы,
Ты – як той, каго спасцігне кара!..”

«Хто з нас хто?!.»

«Ты з кнігай. Значыць, ты
Той, хто з кнігай... Там не ўсе лісты
У пачатку. Я павырываў”.
«А нашто?»
«Бо ты пачатак знаў.
Аж да сёння. Чый ты брат. Чый сын”.
«Тут мой лёс?»
“Твой лёс. І не адзін”.
“Твой таксама?”
“Так. Адзін на двух”.
“Ты мой дух?”
“Ну, калі хочаш, дух.
Загадай старонку”.
“Лёс – гульня?”
“Што ж яшчэ? Усё – гульня. Да дня,
Калі ўструбіць судная труба.
Загадаў?..

Ты выбраў лёс раба!”

***3***

Быць свабодным можна дзе заўгодна,
Калі вольным духам не аслаб.

Я нідзе не быў такім свабодным,
Як на райскай выспе з назвай Раб.

Зіхацела мора сінявока,
З гор сцякала сонца, як алей,
І ад райскіх ружаў ды лілей
Беларусь, як сон, была далёка –
За жыццё і смерць была далей.

Я з каханай быў. Апошнім шалам
Захліснула сэрца!.. Божа мой,
Колькі шалаў нада мной лунала,
Як было мне ўсіх каханых мала,
Як сышліся ўсе яны ў адной!

Вось яна стаіць пад сонцападам,
Маці і сястра звярам і гадам –
Пад нагамі плешча акіян,
І лаза са спелым вінаградам
Абвівае мармуровы стан.

Хто яна?.. Тэфіда?.. Афрадыта?..

У паветры скрозь была разліта
Жарсць – і з неба, і з марскога дна
Мы глядзелі жарсці вочы ў вочы:
Наталіцца не хапала ночы,
Налюбіцца не ставала дня.

Губы спелі на яе радзімках,
Рукі млелі на яе клубах,
І перапляталіся ў абдымках,
І пераліваліся ў крывінках
Жарсць кахання – і кахання жах.

Міт стаў явай?.. Ява стала мітам?..
З ёй, Тэфідай, з ёю, Афрадытай,
Кожна раз я паміраў нібыта –
І нібыта ажываў наноў...
Скрозь зямля абдымкамі спавіта,
Скрозь нябыт сплятаецца з нябытам,
Прарастае семенем у кроў!

То яна плыла, як аблачына,
Лёгкая, з нябеснымі вачыма,
То цяжэла, падала на дно...

Ды разняць абдымкі немагчыма:
Птушка ты, ці рыба, ці жанчына –
Семені з крывёю ўсё адно!

«Ты мой ра-а-а-б, – яна ўзвывала. – Раб!» –
Над вадой і сушаю сцябала
Бізуном, каб раб яе не слаб,
То жанчынай, то змяёй ставала,
Рыбаю і птушкаю была!..

Так мяне каханая кахала,
Покуль кроў раба не ўзвіравала,
Покуль Воля бунт не падняла.

*4*

Прыйшла і назвалася Воляй.
Сказала, павёўшы брывом:
"Я стану тваёю спатоляй.
Са мной ты нідзе і ніколі
Не будзеш рабом!

Я стану тваёю каханкай.
З табою і ноччу, і днём
Я буду, як з громам маланка,
Як іскра з лятучым агнём!

Запальваць па свеце пажары,
Ганяць над пажарамі хмары,
Патопы тварыць на зямлі
Ты згодны са мною на пару?..
А хоць і не згодны – пайшлі!"

*5*

Мы доўга йшлі па выспе. З выспы кроў
Сцякала ў мора. Кроў гаспадароў,
Якіх рабы, пабраўшы зброю іх,
Жанок цяжарных і дзяцей малых
Мячамі секлі, дзідамі калолі
Бязлітасна!..
Рабы не праглі волі,
Бо не было свабоды ў іх крыві...
Раба хоць тройчы вольным назаві –
Ён застанецца, як гарбун з гарбом,
Рабом з душой раба. З таўром на ім, з кляймом!

Быў бунт. Сляпы. Без мэты. Без прычыны.
Пад чалавечы крык і рык звярыны
Калолі, каб калоць, і секлі, каб сячы,
І не было куды схавацца, уцячы,
Бо ўсюды – выспа Раб, зямля Айчыны!..
І Воля прывяла мяне ўначы
Да берага, дзе плакалі жанчыны,
І паказала: "Гэту – засячы!"

*6*

"Хто вольны, – сказала, – той вольны.
У ім толькі дух неспатольны,
Які не трывае ярма.
А ты закахаўся. Дарма.
Каханне – такая турма,
Дзе сам ты – турэмшчык няўмольны.

Скажы: у абдымках каханкі
Каму ты належыш? Сабе?..
Абдымкі яе, як кайданкі,
І ўсе пацалункі, як ранкі,
Як клеймы ў раба на ілбе.

Каханы ты, брат, або сын,
Дзе двое – нявольны адзін.
Хай волю здабудзе з табою
Твой меч пад тваёю рукою,
Што Воля табе здабыла!" –
Сказала і меч падала.

*7*

Быў крык наўкол і енк, і плач сірочы,
Што чуўся з неба і з марскога дна,
І глянулі мы жарсці вочы ў вочы:
Нам наталіцца не хапала ночы,
Нам налюбіцца не ставала дня!..

«Ты хто: Тэфіда?.. Хто ты: Афрадыта?..» –
Узяўшы ў рукі меч, пытаўся я,
Яна казала ціха: «Я твая...» –
І ў вочы мне глядзела так, нібыта
Уся зямля абдымкамі спавіта,
Паўсюль нябыт сплятаецца з нябытам
І прарастае семенем у кроў!..

«Любоў яе завуць... Яе завуць Любоў...» –
На бераг хвалі коцячы паволі,
Данесла мора да маіх вушэй,
А Воля крыкнула: «Сячы яе! Бо воля
Вышэй за ўсё! І за любоў вышэй,
Якая ў табе волю зрабавала!»

***8***

І ўзняў я меч!..
«Чакай...» – Любоў сказала. –
Я валасы папраўлю, каб сячы
Табе зручней было, – і па плячы
Адкінула ад шыі валасы,
І на калені стаўшы, іх згарнула, –
Цяпер сячы...» – і прамянём касым
Лязо мяча над ёю бліскануля,
Ніба маланка бліснула з-за хмар,
Сярод якіх мільгнуў знаёмы твар,
І скуль пачуўся голас антыквара:
«Звяршаўся лёс! Цябе спасцігла кара!
Цяпер ты можаш выбраць іншы лёс!..»

І кнігу лёсаў кінуў ён з нябёс.

*Снежань 2017, Крэва, лістапад 2019, Мінск.*

Артур Клінаў



...калектыўнае ўяўленне мас –
вось чым ёсць аб'ектыўная рэальнасць,
на якой цяпер будуецца ўлада...

# Локісаў

***Фрагмент з рамана***

Локісаў вяртаўся ў Мінск з пачуццём прыкрасці і моцнага раздражнення. Ён збіраўся знікнуць у глушы, перасяліцца ў некрануты вырай, але зараз усё больш разумеў: там, дзе жыве чалавек, знайсці рай амаль немагчыма.

Боскі сад яшчэ можа вытрываць аднаго. Адзін моцна не нашкодзіць. Аднак як толькі прыходзіць другі, яны тут жа пачынаюць плесці сетку стасункаў. У выніку з'яўляецца трэці, затым аднекуль чацвёрты, а потым яшчэ і яшчэ. І вось ужо рай увесь аплецены павуціннем скандалаў і сварак, даносамі, подласцю, абжорствам, пыхай, хлуснёй. І што гэта, як не пекла? Нездарма Стваральнік вырашыў не чакаць, а выгнаў з раю, калі людзей яшчэ было двое. А і Е сядзелі на трубе.

Неўзабаве паказаўся паварот на Вілкуны, праз кіламетр – на Вяйшноры. Локісаў настолькі занурыўся ў свае думкі, што не адразу заўважыў наперадзе міліцэйскі газік, дакладней, убачыў, але не надаў значэння. А калі зразумеў, што да чаго, уцякаць ужо было позна. На абочыне дарогі махаў жазлом Міхалыч – учорашні мядзведзь у пагонах, побач у “казле”, перакрываўшым дарогу, сядзеў і другі касалапыч.

– Так, так, ягамосць едзе, – падышоў першы да вадзіцельскага акенца.

Локісаў адразу заўважыў відавочную змену. Учора абодва трымаліся на падтанцоўцы: «Чаго ізволіце, гаспадзін пракурор?» Сёння Міхалыч выдаваў сабе за гаспадара раёна.

– А што ўчора падпісалі, ужо забылі? – працягнуў ён. – Так, так. Нехарашо. Але я вам напомню. Называецца гэты дакумент строгай адчотнасці “падпіска аб нявыездзе”.

– Ды ладна, Міхалыч, – пачаў Локісаў наўмысна па-сяброўску. – Вы ж самі разумееце, што ўсё гэта несур’ёзна.

– Чуеш, Сямён, ягамосць шуткуе! Кажа, дакумент несур’ёзны!

– Так, так, барын наш вядомы шутнік! – адгукнуўся той, вылазячы з “казла”.

Локісаў заўважыў, што Сямён трымаў у руках нешта дзіўнае. Гэта было не жазло, не міліцэйскі дручок, не тэчка, не пісталет, не агурок, не плаўлены сырок «Дружба» ці што там яшчэ можа быць на ўзбраенні ў міліцыянта. Ён трымаў у руках штосьці вельмі падобнае да рагаціны на мядзведзя.

– А гэта навошта? – ужо з лёгкай трывогай у голасе спытаў Локісаў і хацеў быў выйсці з машыны, як раптам пачуў: «Сядзець!»

– Сядзець! – грозна паўтарыў Міхалыч. – З машыны толькі па маім загадзе!

Локісаў застаўся ў машыне, але благія прадчуванні накацілі на яго і непрыемнымі дробнымі сутаргамі сканцэнтраваліся ў паясніцы.

– Так, так, значыцца, перашкаджаем следству? – ужо спакайней прамовіў Міхалыч. – Дазнанне па справе забойства грамадзянкі Турміловіч яшчэ не скончана, а галоўны падазраваны спрабуе знікнуць. Што ў такіх выпадках робяць, а, Сямёныч?

– Ясна што, – адгукнуўся той, з відавочным задавальненнем перакідваючы рагаціну з рукі ў руку. – Падазраванага ў каталажку кідаюць.

– І праўда! – з яшчэ большай асалодай падхапіў Міхалыч. – Мера прысячэння “падпіска аб нявыездзе” замяняецца мерай прысячэння “змяшчэнне пад варту”. Ці па-простаму – арыштам!

– Ды ладна, кіньце. Пастроілі дурня і хопіць! Не будзеце ж вы насамрэч мяне арыштоўваць! – Локісаў яшчэ паспрабаваў пераканаць сябе ў тым, што гэта немагчыма.

– Э, не! Тут яны не правы! Дурня мы яшчэ не строілі. Як пачнем строіць дурня, яны гэта адразу заўважаць, – працягваў Міхалыч, чамусьці звяртаючыся да Локісава ў трэцяй асобе, быццам яго тут і не было зусім. – А паколькі яны яшчэ і прадстаўляюць вялікую абшчэсцвенную апаснасць, то суправадзіць іх да месца часовага ўтрымання мы павінны на спецтранспарце і з выкарыстаннем прылады ў выглядзе двух кольцаў з замкамі, злучаных паміж сабой ланцугом, якое ўжываецца органамі аховы парадку з цэллю абмежавання свабоды дзеянняў затрыманага або, кажучы па-простаму – наручнікаў.

– Міхалыч, змена заканчваецца, – зноў адазваўся Сямён, – канчай тут сваёй ерундыцыяй трэсці, давай па-простаму.

– Пачакайце, пачакайце! Я недзе ў кіно бачыў, вы спачатку павінны зачытаць мне мае правы! – ці то жартам, ці то ўсур'ёз вымавіў Локісаў, па-ранейшаму адмаўляючыся верыць у рэальнасць таго, што адбываецца.

– Зараз я табе зачытаю! – раптам змяніў тон Міхалыч. – А-ну, выйшаў з машыны з паднятымі рукамі! Толькі ціха, без брыкання!

Локісаў пабарвянеў ад гневу і крыўды, але ўсё ж сябе стрымаў і падпарадкаваўся. Павольна адчыніў дзверы і выйшаў з паднятымі ўгару рукамі.

– А цяпер лычом да машыны! Слыш, да машыны, я кажу!

Аднак толькі ён павярнуўся, як рагаціна ўпілася ззаду ў шыю і балюча прыціснула яго твар да яшчэ гарачага капота.

– Чуеш, сука! – прахрыпеў у шаленстве Локісаў, не маючы магчымасці нават паварушыць галавою.

– Ты чуў, Сямён? – данёсся з-за спіны задаволены голас. – Так! Пішы ў пратакол! Гучна лаяўся матам!

– Ды я цябе, суку, урыю! Ды я цябе, казла, з органаў звольню! Дай толькі да Мінска дабрацца! – працягваў хрыпець Локісаў.

– О! О! Яшчэ лепш! Як запяяў! Пагроза супрацоўніку міліцыі пры выкананні службовых абавязкаў! Пратакаліруй, Сямён, пратакаліруй!

– Ды я цябе! Ды я ўсіх вас, гніды, мянты паганыя!

– Ну-ка! Ну-ка! – Міхалыч падсунуў лыч да самага твару Локісава, быццам чакаючы ўбачыць, як з ягонага рота вылеціць чарговае злачынства. – Опанькі! – Раптам яшчэ больш ўзрадаваўся Міхалыч. – Па дупе хлопанькі! Сямёныч, дык ён жа п'яны! Упраўленне транспартным сродкам у стане алкагольнага ап'янення! А гэта ўжо пазбаўленне! Пішы, Сямёныч, пішы!

Не ў змозе больш стрымліваць сябе, Локісаў ударыў касалапыча абцасам па калені, перакруціўся, абедзвюма рукамі ўхапіў рагаціну, адштурхнуў, пхнуў яшчэ раз што ёсць моцы Сямёна і пабег па дарозе.

– Ах ты, падла! А вось гэта ўжо сур'ёзна! – даляцела яму ўслед. – Пабег і супраціўленне пры іспалненні! Сямён, давай, давай за ім! Чаго разваліўся!

– Ды ну нах!.. Лепш на "газоне"!

Локісаў бег па дарозе наперад, як той заяц ляціць у святле фар, у разгубленнасці не цямячы, што можна збочыць і кінуцца ў ратавальны лес. Ззаду, гучна мацюкаючыся, Сямён з дапамогай чарцей мучыў паўжывы акумулятар "казла" ды грузна тупацеў, відавочна губляючы сілы, Міхалыч. Локісаў прабег яшчэ троху, як раптам з лесу, быццам даўно пільнуючы яго, з засады выскачылі мужыкі з такімі ж рагацінамі, як у Сямёна. Цяпер ён сцяміў, чаму касалапычы сёння так асмялелі. Яны былі тут не адны, а з вялікай групай падтрымкі. Насамрэч два мянты на мядзведзя – ці не задужа адвагі? А з гэтым натоўпам, што нёсся насустрач, усё станавілася на свае месцы. Зараз за імі была вялікая перавага. Праляцеўшы яшчэ па інерцыі некалькі метраў, Локісаў спыніўся. Бегчы далей не было сэнсу.

– Ах ты, сука! – наваліўся ззаду Міхалыч. – Ну, гніда, за ўсё адкажаш!

Локісаў не супраціўляўся. Падаспеўшы следам Сямён кінуўся круціць яму рукі. Пстрыкнулі на руках за спінай бранзалеты, нехта сілай прыціснуў яго твар да гравійкі.

– Ногі, ногі таксама давай! Калі разлютуецца, адны кайданкі не ўратуюць!

Хтосьці пачаў зводзіць яму ногі, і Локісаў адчуў, як і на іх ляснулі бранзалеты.

– А цяпер ластаўку! – прасіпеў задыханы Міхалыч так, быццам абвясціў: наступны танец мазурка!

Адразу ж нехта злучыў рукі з нагамі, пстрыкнулі яшчэ адны кайданкі і, выцягнуўшыся паўколам, Локісаў застыў у вельмі нязручнай паставе, так што нават не меў магчымасці паварушыцца. Ад любога руху бранзалеты ўсё тужэй сцягвалі шчыкалаткі і запясці.

– Ну вось! Іншая справа! Цяпер дакладна не рыпнецца! – пераможна прахрыпеў Міхалыч. – Ну што? Ці зручна вам, вашамосць? А цяпер запрашаем у замак! То бок пад замок! Ха-ха-ха! – Здавалася, ён так быў задаволены зробленай працай, што зноў быў гатовы вярнуцца да іхніх ранейшых стасункаў. – А цяпер паедземце ў клетку! Не мядзведжую, праўда, але таксама надзейную. Эй, хлопцы! Нясіце яго ў машыну.

Локісаў адчуў, як некалькі моцных мужчынскіх клюшняў падхапілі яго і панеслі да «газіка». Цяпер ён дакладна адчуваў сабе зверам, якому спуталі лапы і, падвесіўшы на дрыне, цягнулі да вогнішча, каб садраць шкуру, растрыбушыць ды засмажыць.

– Ну-ка, ну-ка, прытармазіце! – зноў пачуўся голас Міхалыча. – Дайцека я яму ўмажу наўздагон! Вось табе за суку! А гэта за непадчыненіе!

Локісаў адчуў некалькі нямоцных, але балючых удараў па рэбрах. Міхалыч біў ды прыгаворваў:

– А гэта вам, барын, за эксплуатацыю мясцовага сялянства! А гэта за Зіну! А гэта за Альбярціну! А гэта за Бандэру! А гэта за Майдан!

Неўзабаве рукі панеслі яго далей, ляснулі дзверцы, і Локісаў цяпер ляжаў на бруднай падлозе міліцэйскай машыны, якая смярдзела дзівосным букетам з водару старой гумы, бензіну, мачы ды заржавелага жалеза. Зноў грукнулі дзверы, і ў змроку застаўся толькі чэзлы пучок святла, што прабіваўся аднекуль зверху праз каламутнае закратаванае вакенца.

* * *

– Слыш, мужык! Гэта ты гаспадар Замка? Мяне як барбосы ў акварыюм валаклі, строга-настрага наказалі, цыц там, будзеш чаліцца з сапраўдным Локісам. Так што глядзі, не бузі, матам не крый, сядзі ціха. А то ўмомант пачыкае!

Локісаў расплюшчыў вочы і ўбачыў побач з сабой мужычка-дахадзягу, якога жыццё за пяцьдзясят з лішнім гадоў стаптала да ніжэй сярэдняга росту. Зрэшты, знешнасць яго магла быць падманлівай. Мяркуючы па спітым твары, Бахус катаваў яго не на жарт, а таму і састарыцца ён мог заўчасна. Але ён дакладна быў не з бамжоў. Локісаў не адчуваў таго характэрнага паху, які звычайна сыходзіць ад людзей, якія начуюць на вуліцы.

– А я думаў, ты не такі! Я вашага брата па-іншаму рысаваў. Амбалам павінен быць і бровы калматыя, як у Ільіча, – мужык склаў пальцамі дзве фігі і прыставіў да вачэй. – Вось такія! Ну, як у Лёнькі Брэжнева. Памятаеш такога? Ці малы яшчэ быў? З Лёнькі б Локіс выйшаў. Дарагая Індзіра Гандзі! Во, жытуха была! Не жыццё, а пацеха! Ці вось гэты, – працягваў мужык, – як яго? Актор, па яшчыку паказвалі, ну што ў

Расіі льготную хату без чаргі палучыў, як жа яго... Дзіпардзье. Вось гэты таксама на мядзведзя падобны. Асабліва як вушанку нацягне. А ты не! – ён прысунуўся бліжэй, быццам жадаючы пераканацца. – Не, не падобны! Ці вось гэты яшчэ...

Зморшчаны прыпухлы твар працягваў нешта казаць, але Локісаў яго ўжо не слухаў. Ён спрабаваў зразумець, як такое магло здарыцца. Не, турэмная камера не была для яго нечым новым. Па маладосці яму даводзілася начаваць у ізалятары. Аднак тады хоць было ясна, за што. Пару разоў ён нарываўся на хапун падчас апазіцыйных акцый. Бывалі залёты і па хуліганцы, але гэта ўжо ў зусім юнацкія гады. Бралі яго за даўгі хаер і “вызывающчы знешні від”. Некалькі разоў трапляў ён па п’янцы, за распіццё ў недазволеных месцах. Пару выпадкаў было за бойку, адзін за крадзеж, якога ён не ўчыняў. Бралі яго і за супрацiў. Аднойчы ён адарваў міліцыянту пагон. Білі балюча, але адпусцілі. А неяк ён засадзіў мянту ботам пад зад. Як цяпер Локісаў памятаў гэты агідны слёзацечны газ, які раз’ядае скуру на твары. Слёзы, соплі, удушша – і ўсё ў адным невялікім флаконе. Аднак зараз гэта было зусім іншае...

– Эй, ты што, не чуеш? Ну дык што ты думаеш пра Кіркорава?

– У сэнсе? – Локісаў адарваўся ад сваіх думак і убачыў, што мужык ва ўпор вытарашчыўся на яго, чакаючы адказу.

– Ну гэта, мядзведзь ён ці не мядзведзь?

– А ты сам як мяркуеш? – неахвотна адазваўся Локісаў.

– Я думаю, не, – алень! А вось баба ягоная Пугачыха, гэтая так! Ха-ха, пацеха! Міліён, міліён алых роз! Ён таму ад яе лыжы і навастрыў. Яна, мабыць, як дасць па рагах лапай мядзведжай! Вось і ў мяне такая ж. Як што, тут жа ў дыню! Я ёй: за што? А яна: сам знаеш! І зноў у дыню! Але бывае, яшчэ разок стукне, і ўсё. А сёння, чуеш, мянтоў выклікаць. Таму як дыспут у нас выйшаў паліцічаскі. Так што цяпер я таксама паліцічаскі. Вязень сумлення! Дарэчы, мяне Сяргеем клічуць. Можна па-простаму – Серы. А цябе і так знаю. Усе ўжо гавораць. А мянты, як сюды везлі, кажуць: ты ж, галоўнае, за мятлой сякі, матам не лайся. Граф надта ўжо мацюкоў не любіць, адразу звярэе. А ты, я гляджу нічога, спакойны, як “акадэмік”, адразу бачна аўтарыцет. А я думаў, калі...

Локісаў сядзеў у камеры ўжо некалькі гадзін. Мяркуючы па цемры за акном, на вуліцы была глыбокая ноч. Кайданкі, праўда, знялі праз паўгадзіны, як яго сюды прывезлі, інакш ні ног, ні рук ён бы ўжо не адчуваў. І так на запясцях засталіся вялікія сінякі, а яшчэ троху нылі рэбры. Аднак больш за ўсё Локісаў пакутваў ад невядомасці. Трэба тэрмінова нешта рабіць, каму-небудзь званіць, але як? І тэлефон адабралі. Яшчэ страшна хацелася паліць. А цыгарэты засталіся ў машыне.

– Чуеш, мужык, можа ў цябе цыгарка ёсць? – перапыніў ён Серага на паўслове.

– А як жа, маем, – той палез у кішэню і выцягнуў адтуль скамечаны пачак “Фэста”.

– А цябе за што сюды? – спытаў Локісаў, зацягнуўшыся.

– Ну, вось табе на! Я ж ужо гадзіну пра гэта разганяю! – пакрыўджана прамовіў Серы. – Ты што, не чуеш? Цёркі ў нас выйшлі за Украіну. Прыйшоў да мяне Лёнька, сусед. Ну, кірнулі. Сядзім, трындзім. Ён мне: Пуцін – пуйло! А я яму: а ты Бандэра! Далей – болей. Я яму кажу: пазыр у тэлевізар, паглядзі, як твае дзіцця распялі! А ён мне: вата, засунь свой

тэлевізар у дупу! Я яму: зараз я табе, шлемазел, тэлевізар у дупу засуну, і хрась яго па мордзе! А ён мяне хрась у адказ! Тут баба мая падляцела і не, каб свайму мужыку дапамагчы, а яна мяне, лярва, таксама па мордзе. Тут мне зусім крыўдна стала. Думаю, ах ты падла, ты ж мая жонка і таксама бандэра! Схапіў я чарку – і ў яе! А потым патэльню са шкваркамі – і туды ж. Тут яны кіпеш паднялі і давай рукі круціць, і мянтоў выклікаць! Ну, пачакай, пачакай, дарагая Індзіра Гандзі, міліён, міліён алых роз, выйду, я табе Данбас арганізую!

– А выйдзеш калі?

– Дык раніцай і выпусцяць, – упэўнена адрэзаў Серы. – Што ім тут мяне трымаць? Я ж не бандэра якая! Дарэчы, а ты за каго?

– Пачакай, мужык, пачакай, – мільганула ў галаве Локісава думка. – Я дам табе нумар, зможаш на волі пазваніць? Скажаш, – ён задумаўся, як растлумачыць усю бязглуздзіцу, якая з ім здарылася. – Добра, скажаш проста: трапіў у бяду, а патэлефануеш па нумары...

Локісаў задумаўся зноў. А і сапраўды, куды званіць? Прэса? Не іх фармат. Ён не якая-небудзь публічная персона, цікавая журналістам. Хельсінскі камітэт? А што ён ім растлумачыць? Нібыта лаяўся матам і супраціўляўся мянтам? І дзе тут палітыка? Ды і дзе ўзяць зараз іх нумар? Быў бы які-небудзь патрон на самым версе. Дык няма, як і ніколі не было. Прыяцелі? Усе нумары былі запісаныя ў тэлефоне. Калі ён пару і памятаў, то людзей, якіх не бачыў ужо стагоддзе, яшчэ з тых часоў, калі не існавала мабільных, а нумары запаміналіся, таму што даводзілася іх набіраць уручную. Патэлефанаваць былой жонцы? Аднак гэта яе толькі насмяшыць і ўзрадуе. Скажа: ну нарэшце ты трапіў туды, куды даўно заслугоўваў! Адзіныя, ад каго дакладна можна было б чакаць дапамогі – маці, брат і бацька. Але іх Локісаў ужо даўно пахаваў, таксама не засталося ў яго ні дзядзькоў, ні цётак. Ды нават калі б і знайшоўся які-небудзь выратавальны нумар, хіба гэты ўскалмачаны, п'яны, смешны чалавек, што сядзіць побач, здольны яго запомніць?

– Дык што, дарагая Індзіра Гандзі, каму пазваніць? – не вытрымаў Серы.

– Пазваніць? Богу! Ведаеш, нумар такі сямізначны, і запомніць проста: нуль-нуль-нуль нуль-нуль нуль-нуль. Добра, мужык, жартую! – выцягнуўся Локісаў на нарах. – Нікуды не трэба званіць! Адбой! Давай спаць!

* * *

– Ай-яяй-яяй! Ну што ж гэта вы, вашамосць? Нешта выглядаеце вы не вельмі. Можа, канапа была цвердаватая? А можа, нам каўкі папіць? Зараз распараджуся! – Лапіцкі падняўся з крэсла і выглянуў у калідор. – Міхалыч! Зрабі-ка нам кавы, ды памацней!

Локісаў сядзеў у тым самым шэрым кабінеце, на тым самым казённым крэсле ля закратаванага акна, што і два дні таму. Перад ім усё той жа прыпылены "павятовы" следчы даставаў з партфеля ды раскладаў на фользе чабурэкі, кілбаску, салёныя агуркі. Дзесьці за сцяной мітусіўся з кіпенем заўчарашні Міхалыч. Але нешта было іншым. Мабыць, ён сам і настрой Лапіцкага. Лапіцкі нібы свяціўся ды радаваўся сустрэчы, быццам перад ім даўні прыяцель, якога ён не бачыў ужо сто гадоў. У чабурэкі, што ляжалі на стале, Лапіцкі, напэўна, уласнаручна прыдзірліва тыцкаў пальцам, выбіраючы іх у самай лепшай на раёне кулінарыі, дзе заўсёды

“свежайшае мяско”. Здавалася, папрасі зараз “каньячку”, следчы тут жа выцягне з сейфа і паставіць перад Локісавым бутэльку “Арагві”.

– Што ж вы, ваша міласць, заслона і па першым акце яшчэ не апусцілася, а вы мелі ласку так неабачліва нас пакінуць? А я ж папярэджваў, можна сказаць, умаляў. Ня варта было гэтак рабіць, дачакаліся хаця б антракта. Не, нашы служыцелі правінцыйнай Мельпамены, канечне, кастаправы яшчэ тыя. Але іх жа і зразумець можна. Яны ж людзі. Яны вас, граф, баяцца. А таму рагаціны і прыхапілі. Калі што, не дай Бог. Хаця калі ўчора мне дэпешу прыслалі, я тут жа распарадзіўся кандалы зняць. Вы частуйцеся, частуйцеся! Адкушайце, не саромейцеся. Мабыць, макавай расінкі не мелі з учарашняй раніцы. Калі хочаце паліць, калі ласка, паліце. – Лапіцкі падсунуў папяльнічку і паклаў побач пачак цыгарэт.

Нічога не адказаўшы, Локісаў ухапіў чабурэк і пачаў моўчкі есці. Ён усё ніяк не мог зразумець, Лапіцкі сапраўды ідыёт або настолькі ўвайшоў у ролю, што ўжо не заўважае, наколькі ён смешны. Сёння яго гаворка была не проста старамодная, а саладжава-тэатральная, па-старарэжымнаму пафасная і быццам адмыслова прапісаная для нейкага зборнага бясполага героя з раманаў Фёдара, шаноўнага Міхалыча, усімі любімага Дастаеўскага.

– Праўда і вы, я мушу сказаць, – Лапіцкі дэманстратыўна здзьмуў пыл з папер і пачаў іх гартаць. – Ай-ай-ай! Ну не! Які канфуз! – спыняўся ён на асобных радках. – Ну так! Дапусцім! Немагчыма! Вой-вой-вой! Мувэтон! Дааа, – завяршыў ён працяжна. – Ну, ваша міласць, і наламалі вы дроў! Гэта ж які букет злачынстваў? Навошта вы, граф, чалавек высакародны і інтэлігентны, гучна дазволілі сабе ўжыць словы з адценнем паніжанай сацыяльнай адказнасці у публічным-та месцы?

– Гэта ў лесе-та? – перапытаў Локісаў, прагна дажоўваючы чабурэк.

– Ды хоць бы і ў лесе. Там жа была грамадскасць.

– Гэтыя панурыя мужыкі з дрынамі?

– Вось, заўважаю покліч крыві, – задаволеным голасам прамовіў Лапіцкі. – У вас прачынаецца арыстакратызм. Але яны ж перш за ўсё сяляне, прытым вашыя калісьці сяляне. Вы павінны быць для іх узорам высокай культуры. А чаму ж вы, граф, іх вучыце? Мацюкацца і брыдкасловіць? Добра. Ідзем далей. Ну, навошта вы, шаноўны, пагражалі расправай супрацоўнікам міліцыі? Міхалычу тры гады да пенсіі засталося, а вы яго разжалаваць хочаце. Куды ж ён пойдзе, калі вы яго са службы паперці ізволіце? Ён жа ні араць, ні сеяць, ні цвік забіць не ўмее.

– Можа, гардэробшчыкам у тэатр?

– Ды і туды не возмуць! А вы яго яшчэ і без пенсіі пакінуць жадаеце. Уяўляеце, якая ў чалавека крыўда? А вы яшчэ і гандонам цыраваным яго назвалі.

– Прыхарошваць-та не трэба, – Локісаў смачна сербануў з кубка. – Ніякага цыраванага гандона не было.

– Дык вось жа паказанні грамадскасці, – Лапіцкі працягнуў нейкую паперу. – З гэтым не паспрачаешся. Ну а гэта ўжо зусім абуральна! – узяў ён наступны аркуш, – П’яная язда за рулём! А гэта навошта? Канечне, я разумею, эх, тройка-піцца! Развярніся, душа!

Тут Локісаву сапраўды запярэчыць не было чаго. Цяпер ён вельмі шкадаваў аб гэтых няшчасных выпітых чарках.

– Можа, вы і выпілі ўсяго нічога, нейкія тры чаркі, – працягваў Лапіцкі. – Але тут закон суровы, і я яго абсалютна падтрымліваю. Ямшчык, не

гані! Пазбаўленне вадзіцельскіх правоў на кіраванне транспартным сродкам тэрмінам на два гады.

– Пачакайце, пачакайце! Чаму гэта пазбаўленне правоў на два гады? – раптам спахапіўся Локісаў. – Дык медыцынскага агляду ж не было!

– Вядома, не было, – абыякава азваўся Лапіцкі. – Вы ж ад яго ў грубай форме адмовіліся. Вось зноў жа на гэты конт паказанні грамадскасці, – і ён працягнуў яшчэ адну паперу.

– Так, зразумела! Што там яшчэ лясная грамадскасць на мяне паказала? – запытаўся з папрокам Локісаў.

– І вось гэта, васпане, самае галоўнае! Супраціў супрацоўнікам міліцыі! Вы іх збілі! – Лапіцкі глянуў у паперы. – Дарэчы, тут пішуць – жорстка. А гэта ўжо сур'ёзна. Нават не ведаю, што тут сказаць і як павярнуць гэтую справу! Тут ужо не на адміністрацыйны, а на крымінальны кодэкс цягне.

– Ай-яй-яй-яй! Бедныя супрацоўнікі Мельпамены! – саркастычна ўхмыльнуўся Локісаў. – Ну і што ж вы цяпер са мной збіраецеся рабіць?

– Дарэмна вы ўхмыляецеся! Аднак ёсць для вас і адна добрая навіна. На шчасце, мы не ў Амерыцы. І пакаранне ў нас не па сукупнасці злачынстваў, а па прынцыпе паглынання менш цяжкага большым. Так што лічыце, што вашыя мацюкі і пагрозы ўжо паглынуліся. А калі вы нарэшце прызнаецеся ў забойстве грамадзянкі Турміловіч, тое, што вы там у бойцы адтапталі міліцыянту нагу, ужо не будзе мець ніякага значэння. Ды і тэрмін пазбаўлення вадзіцельскіх правоў да таго часу, як выйдзеце на волю, ужо даўно скончыцца. Бачыце, як усё ўдала складваецца?

Локісаў памаўчаў, гледзячы Лапіцкаму проста ў вочы, глынуў з кубка, смачна сплюнуў назад кававаю гушчу, што патрапіла на язык, і прамовіў:

– Лапіцкі, няўжо вы сапраўды збіраецеся пераканаць увесь свет, што я Локіс? Выбачайце, – ён на імгненне запнуўся, – але ўсе вашы пярэваратні і вампіры існуюць толькі ў кнігах, якія вы так любоўна збіраеце.

Локісаў раптам злавіў сябе на тым, што ў апошняй думцы ён ужо не быў так упэўнены, як два дні таму. Следчы гэта адразу прымеціў і, павольна запаліўшы цыгарэту, працягнуў:

– Дарагі вы мой! А вы не заўважылі, што свет змяніўся? Вось вы лічыце мяне старамодным, а на самой справе састарэлі-та вы! Гэта вы засталіся ў дзевятнаццатым стагоддзі са сваім матэрыялізмам, гуманізмам, аб'ектыўнай рэальнасцю, верай у навуковы прагрэс і так далей. Як гэта ні парадаксальна гучыць, але матэрыялізму больш няма! Мы катэгарычна прыйшлі да высновы, што свет вакол нас не тое, чым ён на самой справе ёсць, а тое, што мы пра яго мыслім. Ён усяго толькі наша ўяўленне. Якім я свет уяўлю, такім ён і будзе. Вось памыслю, што я Вялікі Інквізітар – так яно і будзе.

– Паслухайце, – перабіў яго Локісаў. – Дык уяўляйце сябе кім заўгодна, хоць Мао Цзэдунам! Я асабіста ўяўляю вас іншым персанажам з Дастаеўскага. Але я ж не спрабую вас пераконваць у тым, што вы ідыёт! А наконт «увесь свет існуе толькі ў маёй галаве» – прынцып не новы. Я асабіста ведаў двух Фрэдзі Мэркуры, трох Сталінаў, Арыстоцеля і нават аднаго Бісмарка. А пра Элвісаў я ўвогуле маўчу.

– Я таксама быў знаёмы з тузінам вялікіх. Аднак уявіце вялікі чалавечы мурашнік, які калектыўна ўявіў сябе Сталінам. Куды вы яго? У псіхушку? Ці цэлы народ, які ўявіў, што ён жыве ў грамадстве ўсеагульнага Шчасця. Ці забыліся, у якой краіне вы нарадзіліся? Ррр – раве рухавік! СССР!

Сонца, Справядлівасць, Сацыялізм, рррр – рыкае і круціцца прапелер! Калектыўнае ўяўленне мас – вось чым ёсць аб'ектыўная рэальнасць, на якой цяпер будуецца ўлада! Калектыўны Сталін! Ну, не ўласнымі ж зубамі ён такую процьму народу пажраў. А вось вам больш цікавы выпадак. Вазьміце Паўночную Карэю. Калектыўны Кім Чэн Ын. Там жа таксама правіць людажэр, то бок самы што ні на ёсць сапраўдны канібал! Жывуць яны бедна, убога, а ён яшчэ час ад часу сваю пухнаценькую ручку ў гэты чалавечы мурашнік працягвае, схопіць жменьку – і ў рот. І жарэ іх, жарэ, жарэ! А гэта ж яны стварылі яго сваім калектыўным уяўленнем. І кожны з іх маленькі Кім Чэн Ын. Аднак толькі паспрабуйце сказаць ім, што яны няшчасныя. Яны вас тут жа з усёй шчырасцю і заўзятасцю распнуць! – Лапіцкі замоўк, грэбліва паморшчыўся, быццам уявіўшы сабе гэтую сцэну, затым устаў, падышоў да сейфа і сапраўды дастаў з яго бутэльку каньяку, праўда, не «Арагві», а «Версаля».

Локісаў ухвальна прамаўчаў. Чалавечых правоў яго ўжо пазбавілі, так што можна было выпіць і з раніцы. Аднак калі Лапіцкі паставіў дзве шклянкі, усё ж спытаў:

– Калектыўны Гітлер, калектыўны Мао – гэта ўсё зразумела, а як жа прынцып – за рулём ні-ні? Ці закон ужо нястрогі?

– Мне можна. Ды і хто тут мяне спыніць? Я сам тут закон.

– Дык вось, – працягваў Лапіцкі з пачуццём відавочнага задавальнення, што нарэшце ў гэтым дзікім краі знайшоў прыстойнага суразмоўцу. – Вядома, вы можаце запярэчыць, што ўяўленне мас – тэзіс таксама не новы, па меншай меры ў дваццатым стагоддзі вядомы. Але што істотна змянілася? А я вам, васпане, адкажу! Змяніўся спосаб ім кіраваць! Ніколі яшчэ не існавала настолькі вытанчаных, гэтакіх простых і дасканалых механізмаў. Цяпер дакладна не важна, які свет ёсць на самой справе. Забудзьцеся: ніякай праўды, хлусні, дабра, зла больш няма! Цяпер любая хлусня ва ўяўленні мас можа стаць праўдай! Ды што хлусня! Любая лухта, бяссэнсіца, татальны ідыятызм! Скажам, Хрыста ўкрыжавалі праклятыя бандэры. Скажаце, абсурд? А я вам кажу – не! Магчыма!

– З Хрыстом не ведаю, а пра ўкрыжаванае бандэраўцамі немаўляці нешта я ўжо чуў, – вымушаны быў прызнаць Локісаў.

– Вось! – радасна падхапіў Лапіцкі. – І няважна, было гэта ці не на самой справе! Галоўнае, паверылі! І чым больш бязглуздая карцінка, тым з большай радасцю ў яе паверыць! Бо ім жа сумна ў сваім шэрым убогім бязбожным жыцці. А тут уключаеш чарадзейную скрыню, а там такія цуды прадстаўляюць!

– І што, можа і цудадзейная машынка па кіраванні сусветам у вас маецца? – з іроніяй пацікавіўся Локісаў, пацягнуўшы руку па чарговы чабурэк. – Спадзяюся, конскіх сілаў у ёй хопіць?

– Дарэмна іранізуеце. Конскімі сіламі, шаноўны граф, ужо даўно ніхто не мерае. У мяне тры тысячы душ – роўна столькі, колькі жыве ў пасёлку.

– Добра. Разлівайце, калі ўжо вы тут гаспадар, і тры тысячы душ за вамі, – Локісаў кіўнуў на бутэльку. – Ход вашай думкі зразумелы. Аднак зараз мяне цікавіць іншае. Пазаўчора вы мне зманілі, сказалі, што падобных выпадкаў тут не бывала з дзевяцьсот пятага года. Але ж яны бывалі, і не раз!

– О! Я бачу, вы тут ужо абжываецеся. І часу дарма не губляеце. Пра што ж вы яшчэ паспелі даведацца? – Лапіцкі наліў па траціне шклянкі.

– Яшчэ я даведаўся, – Локісаў крыху памарудзіў, як бы перасільваючы сябе, – што пярэварацень тут ніколі не пераводзіўся.

– А! Вось! – радасна ўсклікнуў Лапіцкі, ляснуўшы па стале далонню так, што гранёныя шклянкі падскочылі, ледзь не расплюхаўшы каньяк на паперы. – Што ж вы запнуліся? Давайце, давайце, пераконвайце мяне, што Локіса не існуе! І дзе ж ваш матэрыялізм? Значыць, усё ж такі ёсць? Яшчэ троху – і вы не толькі ў гэта паверыце!

– Добра, уявім сабе, чыста гіпатэтычна, што пярэварацень, і нават не адзін, тут маецца, – працягваў Локісаў. – Таксама дапусцім, перыядычна ён ці яны кагосьці зжыраюць. Дык вось і шукайце іх! Рабіце аблавы, расстаўце пасткі, мабілізуйце лясную грамадскасць, паразвешвайце на платах прыкметы, звярніцеся да насельніцтва праз раённую газету, стварыце агентурную сетку альбо завярбуйце аднаго з іх. У рэшце рэшт, дазнайцеся, хто завінаваціўся Зінцы з гастранома. Высвятліце, каму адключыў ваду ці нахаміў брыгадзір з ЖЭСа. Знайдзіце агульныя прыкметы для ўсіх ахвяр. Павінен жа быць нейкі прынцып, хто ім асабліва смачны. Можа, яны жаруць толькі самых кепскіх? Тупых? Прагных? Дурняў? Самых тоўстых? Можа, зладзеяў? Ці праведнікаў? – Локісаў усё больш і больш распальваўся. – А можа, яны любяць толькі былых камуністаў? Ці старшыняў калгасаў? Альбо людзей у акулярах? Або дачнікаў? Шукайце! Капайце! Рабіце што-небудзь! Толькі мне адно незразумела: прычым тут я?

– Таму што менавіта такі, як вы, мне і патрэбны! – як ні ў чым не бывала, стрымана адказаў Лапіцкі. – Што мне за шчасце злавіць нейкага мясцовага Локіса? Якога-небудзь трактарыста Казіка, які пражывае з жонкай і трыма дзецьмі ў двухпавярховай хрушчоўцы на вуліцы Камсамольскай. Не тая фактура! Чым я парадую ўяўленне мас? Сем'янін, станоўча характарызуецца калегамі па працы, п'е па пятніцах і суботах, па нядзелях ходзіць у касцёл, цешча жыве ў вёсцы Вяйшноры, трымае курэй і карову. Слабавата! Тут кожны пра сабе такое можа сказаць. Ды і не павераць, што ён Локіс, хоць бы трактарыст Казік быў тройчы людажэрам. Паспрабуй пераканаць наш народ. А вы ідэальны кандыдат! Арыстакрат, інтэлігент, мастак, акуляры на носе. Ужо толькі за гэта вас павінны не любіць. А яшчэ прамы нашчадак графскага роду, які тут усе баяліся і ненавідзелі. Ды і па астатніх параметрах вы падыходзіце.

– Што вы маеце на ўвазе?

– Ну як жа, ваша міласць, я ў гэтыя дні таксама часу дарма не губляў! – Лапіцкі адсунуў шклянку, адкрыў шуфляду і паклаў на стол пачак раздрукоўвак. – Я дэталёва праштудзіраваў вашае дасье, вось асобныя выпіскі са справы – вы, вашамосць, аказваецца чалавек вельмі нядобранадзейны. – Перагарнуўшы некалькі аркушаў, ён працягнуў: – Аказваецца, вы бэнээфавец, граф! Для нашых людзей гэта нават горш, чым Локіс.

– Ну і што з таго? Так, я быў сябрам партыі БНФ некалькі гадоў. Цяпер ужо не.

– Значыць, не любіце ўладу?

– Якое гэта мае дачыненне да справы? – раздражнёна перапытаў Локісаў.

– Да справы ніякага. А вось для людзей важна. Ну добра, чытаем далей, – Лапіцкі перагарнуў яшчэ старонку. – Неаднаразова затрымліваліся пасля несанкцыянаваных мітынгаў і дэманстрацый. Таксама меліся прыводы ў міліцыю і за распіццё ў падваротнях. А вось гэта! Ай-яй-яй!

Аказваецца, ваша міласць рэцыдывіст-мацяршчыннік! Некалькі разоў вас штрафавалі за нецэнзурную лаянку ў публічных месцах. – Следчы памасліў палец аб чабурэк і ўзяў наступны аркуш паперы. – Ну, а вось гэта проста жах! Тут некаторыя цытаты з вашых выказванняў. Я нават не наважуся вымавіць гэта ўслых.

– Глянуць можна?

– Не! – адрэзаў Лапіцкі. – Гэта можа паказаць на людзей, пры якіх вы гэта прамаўлялі. Карацей кажучы, вашамосць, – падсумаваў ён, – зараз разумееце, хто лепш за ўсіх падыходзіць на ролю пярэваратня? Трактарыст Казік з трыма дзецьмі альбо шляхцюк-бэнээфавец з сумнеўным дасье. Варта мне толькі намякнуць что вы Локіс, а ўжо астатняе яны і самі дамалююць.

У кабінеце запанавала маўчанне. Следчы, цалкам задаволены сабой, уважліва, не адводзячы вачэй, глядзеў на Локісава.

– Ведаеце, таварыш Лапіцкі, – нарэшце, вымавіў той, – разлівайце па трэцяй, бо пасля таго, што я скажу, чацвёртую вы ўжо не нальяце.

Следчы паклаў паперы ў шуфляду, напоўніў шклянкі і з цікаўнасцю падрыхтаваўся слухаць.

– Я намалюю карціну падзей, як я яе бачу ў вашым раёне, – пачаў Локісаў здалёк. – Відавочна, што на даручанай вам тэрыторыі вось ужо шмат гадоў арудуе банда. А можа, гэта і не банда, а адзін ці некалькі так званых “пярэваратняў”, але яны адзін аднаго не ведаюць. А можа, наадварот, цэлае падполле, або ЗэГэ – злачынная групіроўка «Локіс». Аднак важна не гэта. Значэнне мае тое, што вы, Лапіцкі, бяздарна завалілі сваю працу! Не толькі ніводнага не злавілі, а нават на след банды не выйшлі. Не, я вас, вядома, разумею. Лавіць пярэваратня ў гэтых мясцінах няпроста. Бо пярэварацень пры дзённым святле – звычайны трактарыст Казік з трыма дзецьмі і цешчай, ідзі дакажы, што ён Локіс. Не, вы вядома стараецеся, літаратуру чытаеце. Дарэчы, ваша шыкоўная падборка пра ваўкалакаў – лайно! А вось тое, што вывучаеце Дастаеўскага, ухваляю! Фёдара Міхайлавіча трэба чытаць, каб зразумець псіхалогію пярэваратня. Але і гэта няважна! Проста ўся ваша метадалогія ад пачатку няслушная. Замест таго, каб пачаць з простага пытання: «Хто забіў Лору Палмэр?», а ў нашым выпадку касірку Зіну, вы пачынаеце ствараць нейкія хімеры пра калектыўнае ўяўленне мас. Ну, за ўяўленне!

Локісаў залпам выпіў, паморшчыўся, закусіў чабурэкам і з яшчэ большым запалам працягнуў:

– Таму ў вас нічога і не атрымліваецца! І гэта вас ужо не першы год бесіць! Столькі намаганняў, а выніку няма! Ужо і наверсе, мабыць, не ўхвальна пазіраюць, пагаворваюць: «Што ж гэта Лапіцкі столькі гадоў банду злавіць не можа! Слабак! Не, не Жаглоў! Ці не зняць нам яго з пасады гаспадара акругі ды не адправіць загадваць свінафермай?» А тут раптам прыходзіць удача. Прыязджае ў пасёлак нехта Локісаў, ды яшчэ такое супадзенне (дарэчы, ці насамрэч супадзенне?) – загрызаюць грамадзянку Турміловіч. «Ба! – кажаце вы. – Вось яна – элегантная перамога!» Бо па ўсіх параметрах падыходзіць, застаецца толькі справу скляпаць. Толькі ў адным вы, Лапіцкі, пралічыліся! З’есці я вам сябе не дам, Кім Чэн Ын вы наш мясцовага разліву! А цяпер адвядзіце мяне ў камеру! Я лічу, на сёння наша гутарка скончана.

– Брава, брава! Выдатная прамова! – млява папляскаў у ладкі Лапіцкі. – Аднак вы маеце рацыю! Піць сёння, бадай, больш не будзем! – Ён узяў са

стала недапітую бутэльку “Вэрсаля” і замкнуў яе ў сейфе. Потым падышоў да дзвярэй і крыкнуў: – Міхалыч! Прынясі затрыманаму асабістыя рэчы, тэлефон і што там яшчэ ў яго было?

– Як! Вы мяне адпускаеце? – здзіўлена паглядзеў Локісаў на следчага.

– Машына стаіць каля гатэля, яе туды перагналі. Але ездзіць не раю, правы застануцца ў нас. Зрэшты, ваша справа, тут палова людзей без правоў ездзіць. Аднак за межы пасёлка ні-ні! Следства не скончана. Я думаю, гэта вы зразумелі. А што гэта вы так на мяне здзіўлена глядзіце? Трымаць вас у камеры няма ніякага сэнсу. На свабодзе вы будзеце больш карысны.

– А што ўсе вашы пратаколы?

– Не знікнуць! Калі будзе патрэба, выкарыстаем. Толькі не яны мяне зараз цікавяць. Калі вы Локіс, трэба даць вам магчымасць сябе праявіць.

– Лапіцкі, але папярэджваю, я буду змагацца!

– Вось! Менавіта тое, што мне трэба! Вы на правільным шляху. Ведаеце, калі Локіс сябе праяўляе? Калі звярэе. Менавіта гэтага я ад вас і чакаю! Ну а так, у любы час! Звaніце, ваша міласць, заходзьце! Па любым пытанні звяртайцеся. Дапаможам!

Локісаў, крыху памарудзіўшы, паклаў у кішэню прынесены Міхалычам тэлефон.

– Лапіцкі! – ён раптам азірнуўся ўжо на парозе кабінета. – Слухайце, як жа я адразу не здагадаўся! А ўсё ж сыходзіцца! Таму і злавіць пярэваратня так доўга не можаце. А калі Локіс – гэта і ёсць вы?

* * *

Машына, як і казаў Лапіцкі, сапраўды стаяла на плошчы каля гатэля. Локісаў дастаў пачак цыгарэт, які па-ранейшаму ляжаў на пярэднім сядзенні, і з асалодай зацягнуўся. Зараз неабходна было ўсё вельмі добра прадумаць, распрацаваць беспамылковы план уцёкаў. А ў тым, што бегчы трэба, ён ні секунды не сумняваўся. Ён нават быў гатовы зрабіць гэта зараз жа, але тое, з якой лёгкасцю яму вярнулі ключы ад машыны, выклікала падазрэнні. Тут таіўся нейкі падвох. Локісаў нават прыадчыніў капот, каб пераканацца, ці ўсё на месцы, але і акумулятар, і рухавік, і іншыя агрэгаты былі цэлыя. Прысеўшы за руль, ён павярнуў ключ запальвання – машына завялася, як звычайна.

Значыць, справа была ў нечым іншым. Аднак у любым выпадку бегчы проста зараз здавалася небяспечна. Днём яго машына на плошчы праглядалася з усіх бакоў. Локісаў спінай адчуваў, што і цяпер за ім назіраюць. Трэба было хаця б дачакацца ночы, а пакуль здзейсніць які-небудзь манеўр, што адцягне ўвагу, напрыклад, зноў засяліцца ў гасцініцу.

У вестыбюлі гатэля было гэтак жа пуста, як надоечы. За стойкай рэцэпцыі адна, гэтым разам без аховы, клявала носам Разалія. Аднак, пабачыўшы ў дзвярах Локісава, яна адразу страпянулася, быццам яе ўключылі ў разетку, разгублена паглядзела на госця, але тут жа пагасіла хвілінную слабасць , пераключыла рэгістр і з нацягнутай усмешкай спытала:

– Што-небудзь, грамадзянін граф, забылі?

Локісаў зразумеў: тут відавочна яго не чакалі.

– Так, ведаеце, спадабалася мне ў вас, Разалія Францаўна, – адказаў ён з крыху вымучанай усмешкай. – Вось вырашыў пажыць яшчэ пару дзён.

– Ай-яй-яй! Што ж вы не папярэдзілі? – Вочы ў Разаліі забегалі.

Відавочна, яна ведала, дзе Локісаў правёў ноч, але не разлічвала, што яго адпусцяць. – Трэба ж было хаця б пазваніць, забраніраваць месца!

– Забраніраваць месца? А што, нечаканы наплыў турыстаў?

– Ага, менавіта! Наплыў, наплыў! – узрадаваўшыся падказцы, тут жа падхапіла Разалія. – Столькі да нас нават у сезон не прыязджала! Усе нумары пазаймалі! І нават люкс!

– Ого! І нават люкс? – з'едліва паўтарыў Локісаў. – І дзе ж яны? – Ён дэманстратыўна акінуў поглядам пусты вестыбюль. – Напэўна, пайшлі абедаць у бар праз дарогу?

– Не, не ў бар! Паляўнічыя яны! Цэлая група! На дзіка пайшлі. Вось з раніцы ўзялі стрэльбы і пайшлі! Сказалі, да вечара вернуцца.

– Што, з дзіком?

– Ну, гэта ўжо як пашанцуе! Кабан, ведаеце, зараз таксама не дурань! Вунь гэтым летам прыйшоў і ўвесь мак у агародзе пажор. А я толькі і рада! Бо каб ён не зжор, дык ёсць тут у нас два здыхлякі-наркаманы. Кожнае лета, што ні зраблю, ноччу прыйдуць і парвуць. Я ўжо і дрот нацягвала, і пастку на ваўка ставіла, усё роўна здыхлякі прыйдуць і парвуць. А апошні раз дык і сярод белага дня! Бярэмя маку схапіў – і па вуліцы, як з гусаком бяжыць! А сам танюсенькі, ножкі – запалачкі, бяжыць, спатыкаецца, ледзь нясе! А я яму наўздагон – граблямі. Добра, не патрапіла, а то да смерці б забіла. Так што чым здыхлякі, лепш няхай кабан ужо пажрэ! А таму выбачайце, грамадзянін граф, свабодных месцаў няма!

Локісаў у задуменні пакруціў у руках рэгістрацыйны лісток, перавярнуў яго, пачаў маляваць немудрагелістыя геаметрычныя фігуры. Трэба было нешта вырашаць. Калі ўцёкаў сёння не адбудзецца, начаваць яму больш няма дзе.

– Скажыце, Разалія Францаўна, – напаўголасу прамовіў Локісаў. – Магу я вам даверыцца?

– У якім сэнсе? – спалохана прашаптала Разалія.

– Не ў гэтым, не турбуйцеся! – Локісаў схіліўся бліжэй да яе твару і таксама перайшоў на шэпт. – Проста ў гэтым пытанні нашы інтарэсы абсалютна супадаюць. Вы зараз тут адзіны мой саюзнік. Вы не хочаце, каб я жыў у вашай гасцініцы, я – таксама. Толькі паабяцайце, што прадмет нашай размовы не стане вядомы нікому ні ў бібліятэцы, ні ў гастраноме, ні ў касцёле.

– Што ж тут незразумелага? Прадмет – нікому. А з Надзькай-бібліятэкаркай я і так не сябрую, бо толькі і ўмее, што нос задзіраць, а паглядзіце на яе гаспадарку, там і здыхлякам няма чым...

– Добра, – перапыніў Разалію Локісаў. – Ці ёсць тут якая іншая дарога з пасёлка акрамя гэтай шырокай гравійкі праз лес? Можа, якая маленькая, зусім непрыкметная?

– Значыць, так, – тут жа ўхапіла сутнасць прадмета Разалія. – Мы з вамі, гаспадзін граф, на востраве. З двух бакоў тут мяжа, нашы мясціны клінам заходзяць у Літву. Дарога туды раней была, але зараз усё, тупік. Так што калі туды, то толькі пехатой. Але самі без правадніка не суньцеся, нават і не думайце!

– А што, ёсць праваднікі? – здзівіўся Локісаў.

– Ну як вам сказаць, – сумелася Разалія. – Раней дакладна былі, многія туды хадзілі, а зараз небяспечна стала, ведаеце, Шэнген горш за дзікага звера на мяжы лютуе. Але вы папытайце ў людзей, можа, хто і правядзе.

З трэцяга боку, – працягвала яна, – балота вялікае, тут без праваднiка таксама нiяк нельга. Рызыкоўна! Ды i сэнсу няма. Бо калi i пройдзеце, то за iм яшчэ большае балота, а за тым – зноў мяжа. А з чацвёртага боку шмат дробных багнаў i лес. I акрамя гравiйкi праз яго нiчога не iдзе, бо там i праклaсцi няма па чым. Так што праз лес толькi пехатой. Але аднаму i без стрэльбы не раю. Багны яшчэ можна абысцi, а вось дзiкага звяр’я там шмат. Асаблiва ў апошнiя гады многа ваўкоў расплaдзiлася. Раней, як людзi тут жылi, меней iх было. А зараз для ваўкоў раскоша. Туды ўжо i днём нават кагалам па грыбы не ходзiм. Бо ўсяго метраў дваццаць ад дарогi адыдзеш, адразу патылiцай адчуваеш: нехта на цябе з гушчару пазiрае. Так што туды толькi з стрэльбай i дакладна не ноччу!

– Тааак, зразумела, – задуменна працягнуў Локiсаў. – Добра, Разалiя Францаўна, – сказаў ён пасля нядоўгага маўчання. – Вы мяне пераканалi! Давядзецца заначаваць у вас.

– Ды як жа так! – здзiўлена падняла бровы Разалiя. – Месцаў жа няма!

– А чорт яго ведае як! Прыйдзецца скарыстацца “званком другу”! – раздражнёна адказаў ён i, пакорпаўшыся ў кiшэнях, выцягнуў вiзiтоўку Лапiцкага.

Абанент адказаў адразу, быццам даўно чакаў. Локiсаў не паспеў яшчэ нiчога сказаць, як у трубцы пачуўся iранiчны голас:

– Рады вас чуць, ваша мiласць!

– Перастаньце радавацца, – суха асек яго Локiсаў. – Лепш вырашыце пытанне з начлегам! Раз ужо вы гэтую кашу заварылi, то паклапацiцеся i аб маiм расквартараваннi! Не адбываць жа мне хатнi арышт на вулiцы. Дамоўцеся з гасцiнiцай, бо тут нейкi ўсерэспублiканскi злёт паляўнiчых намецiўся! Апроч таго, – дадаў Локiсаў, – я хачу не абы-якi нумар, а свой ранейшы на другiм паверсе з вiдам на плошчу! – i працягнуў слухаўку Разалii.

Па тым, як змяняўся выраз яе твару падчас размовы, Локiсаў зразумеў: пераконваць Лапiцкi ўмее. Скончыўшы размову, Разалiя моўчкi i холадна працягнула фармуляр.

– Але павiнна вас, грамадзянiн граф, папярэдзiць, – суха прамовiла яна, калi Локiсаў закончыў. – З сённяшняга дня ў нас выраслi тарыфы.

– На колькi?

– Зараз гэты нумар каштуе мiльён! – Разалiя вытрымала паўзу i дадала: – Старымi.

Локiсаў здзiўлена падняў на яе вочы.

– Ды вы што! За ноч кошты выраслi больш чым удвая? Гэта ж амаль сорак сем баксаў!

– Ну што ж тут зробiш! Мы хоць i дробны бiзнес, але жывем у дэмакратычнай дзяржаве! А таму цэнаўтварэнне ў нас вольнае. I ў гэтым пытаннi Лапiцкi нам не ўказ! Я ж вас сiлай не прымушаю тут сялiцца. Не падабаецца, iдзiце ў iншую гасцiнiцу. Блiжэйшая ў райцэнтры. Павернеце зараз направа, потым па гравiйцы праз лес да асфальту, затым налева, а там яшчэ трыццаць кiламетраў. Ды i наогул! Усё даражэе! Вы бачылi, колькi каштуе каўбаса ў краме праз дарогу? Як што папрыстойней, то адразу сто восемдзесят тысяч!

– Добра, давайце ключы!

* * *

Локісаў разумеў: варыянт самавывазу адмяняецца. Можна, вядома, паспрабаваць яшчэ раз нахабна ламануцца па гравійцы, але ён быў амаль упэўнены: там будуць чакаць. Заставаліся тры магчымасці. Расстарацца на ствол і пешшу праз воўчы лес. Знайсці праваднікa і, забіўшы на зверствы Шэнгена, рвануць за кардон. Альбо звярнуцца па паслугу да “сябра” – Давіда Якаўлевіча.

Першыя два варыянты былі складаныя і непрадказальныя. Што знайсці ствол, што добрага практыкуючага кантрабасіста ў мястэчку, дзе ўсе і так шарахаюцца ад яго, здаваліся задачамі з няпростых. Хаця Локісаў здагадваўся, з кім можна пагаварыць. Ён быў амаль упэўнены, што Васіль, яго былая давераная асоба, час ад часу някепска граў на кантрабасе начныя накцюрны.

Аднак нават калі ён і пагодзіцца, тут жа паўстане пытанне, а што далей? Іміграцыя ніяк не ўваходзіла ў яго бліжэйшыя планы. Локісаў у прынцыпе ніколі не жадаў з’ехаць на той бок зямлі назаўжды. Калі ён задаваў сабе пытанне чаму, то і сам не мог даць на яго ўцямнага адказу. У нейкім сэнсе ён таксама нарадзіўся мядзведзем. Можа, не такім бурым, як мясцовыя мянты, а хутчэй гімалайскім – выкшталцоным, інтэлігентным, з белай манішкай пад шыяй. Але, як і кожны мядзведзь, ён быў прывязаны да сваёй тэрыторыі і бярлогі, якой бы няўтульнай і непрыкаянай яна не была.

Ён ведаў, існуе тып людзей, якія ў адрозненне ад яго сапраўды ўзніклі ад малпы. Такім усё роўна, дзе жыць, галоўнае, абы паболей сонца. Гэткія персанажы лёгка ўступаюць у кантакты, заводзяць новыя сувязі і знаёмствы, усміхаюцца ўсім, размаўляюць на ўсіх мовах, ядуць усё без разбору, спяць абы-дзе і абы з кім, і праз год-два на новым месцы яны ўжо як свае. Локісаў так не ўмеў. Толькі ў сваёй бярлозе ён адчуваў сябе ўтульна. І калі ненадоўга даводзілася з’язджаць на другі край зямлі, ён заўсёды з ціхай радасцю вяртаўся дадому.

Тым больш бегчы за мяжу зараз здавалася яму абсурдам. Ён хацеў схавацца ад часу і людзей на краі зямлі. А замест гэтага яго чакае поўная перазагрузка – лагер для перамешчаных асобаў, камунальны барак і агульны пакой, дзе паўсюль яго будуць атачаць незнаёмыя людзі, прытым такія, што пайшлі не толькі ад малпы, але яшчэ і ад свінні, казла і янота. Думка, што кожную раніцу ён будзе бачыць ля сваёй падушкі нечыя брудныя капыты, была нясцерпнай. А яшчэ і новы падганяла-фельдфебель Ч, што пакрыквае на ўсіх на каравай еўраангельскай.

Вядома, калі б у яго пашпарце стаяла свежая шэнгенская лапа, можна было б вярнуцца назад, схлусіўшы на пераходзе, што памежнік забыўся паставіць яму штэмпель аб уездзе. Але адкрытай візы ў яго цяпер, як на злосць, не было.

Таму ідэя дастаць валыну і ісці пешшу праз лес яму больш падабалася. Галоўнае – выбрацца з выспы і дайсці да вялікай трасы. Там бы ён аўтаспынам дабраўся б да якога-небудзь горада, а з яго на аўтобусе на Мінск.

Аднак самы просты і надзейны спосаб – вырашыць пытанне з дапамогай Замка. Зараз іх інтарэсы цалкам супадалі. Яго людзі хацелі, каб Локісаў назаўжды адсюль знік. Цяпер ён быў гатовы ў гэтым пытанні ім саступіць. Заставалася толькі дамовіцца, каб яны вывезлі яго, не важна,

ноччу ці днём, у багажніку машыны. Праўда, у закладніках пакідалася ўласная машына. Але Локісаў любіў вырашаць праблемы па меры іх паступлення, таму спачатку трэба выбрацца з пасткі, а ўжо потым думаць, што далей рабіць.

Апроч таго, Замак мог дапамагчы і з другім варыянтам. Дастаць валыну пэўна ж не будзе для іх праблемай.

Пахадзіўшы па пакоі, памеркаваўшы, як выбудаваць размову, Локісаў дастаў візітоўку Давіда Якаўлевіча і пазваніў. Пайшлі доўгія гудкі, але ніхто не адказаў. Ён трохі напружыўся, пакурыў, пачакаў пятнаццаць хвілін і набраў зноўку. Аднак і гэтым разам не было адказу. Маўчанне на тым баку не прадракала нічога добрага. Заставалася надзея, можа гэта выпадковасць, усялякае ж можа здарыцца. Але сядзець і чакаць у нумары Локісаў больш не мог. Ён накінуў паліто і адправіўся пешшу ў Замак.

* * *

Па дарозе заімжэў дробны дождж. Вяртацца Локісаў не стаў. Бязлюднымі вуліцамі пасёлка ён наблізіўся да Замка і ўвайшоў у шэры праём яго брамы. Парк у такое надвор’е падаваўся яшчэ больш неабжытым і занядбаным, чым напярэдадні. У агляднай перспектыве не было відаць ні душы. Нават пляцоўка для аўтамабіляў, дзе мінулым разам стаяў “Фальксваген Пасат”, пуставала.

Локісаў падышоў да брамкі ў агароджы, што атачала палац, але цяпер яна была намёртва зачыненая. Ён паспрабаваў яе тузануць, памахаў з-за плота парасонам, некалькі разоў настойліва пагрукаў нагой, аднак з таго боку панавала ціша. Падобна на тое, што нехта знарок удаваў, быццам унутры нікога няма, так што нават прыбраў са стаянкі машыну.

Агароджа была даволі высокая, не менш за два з паловай метры. Локісаў падставіў скрыню ды ўжо паспрабаў было пералезці, але дождж узмацніўся, і караскацца па мокрых слізкіх дошках а, галоўнае, незразумела навошта, яму расхацелася. Для таго, каб вартаўнікі яго заўважылі ды зноў выклікалі Давіда Якаўлевіча, ён зрабіў дастаткова, а зараз можна было прагуляцца ў бок вежы Данжона, што стаяла на тым беразе возера, а заадно абследаваць парк.

Па дарозе Локісаву патрапілася яшчэ некалькі будынкаў, якія належалі да Замка. Частка з іх раней, відаць, былі гаспадарчымі пабудовамі палаца – стайнямі, кватэрамі для прыслугі, частка з’явілася пазней, калі тут месціўся псіханеўралагічны дыспансер. Адзін з дамоў з невялікімі закратаванымі вокнамі вельмі нагадваў барак для цяжка псіхічна хворых. Побач стаяў змрочны гмах з высокім цагляным комінам – ці то кацельня, ці крэматорый, а, можа, і тое, і другое адначасова. Усе будынкі шчыльна абступалі зараснікі дзікага кустоўя, а іх дзверы і вокны былі наглуха забітыя, так што патрапіць унутр без манціроўкі здавалася немагчымым.

Акрамя таго то тут, то там Локісаў знаходзіў у парку шматлікія рэшткі скульптурных кампазіцый. Усе гэтыя пустыя пастаменты паходзілі, відавочна, з савецкай эпохі. Аднак толькі на некалькіх з іх заставаліся фрагменты фігур. На пастаменце, што стаяў пры дарозе, цудоўна захаваліся нечыя гіпсавыя ступні, з якіх тырчалі два металічныя штыры. На іншым, па цэнтры вялікай закінутай клумбы, баба без галавы трымала ў адной

руцэ немаўля, у другой, узнятай да неба, голуба міру. Спадніца кабеты была пафарбаваная ў чырвоны, а блузка – у сіні. Немаўля, голуб і, мабыць, адсутная галава заставаліся белымі. Локісава ўразіў дзіўны падбор фарбаў. Верагодна, у гэтым меўся нейкі тэрапеўтычны эфект: відаць, гэтыя колеры павінны былі ўздзейнічаць на псіхаў заспакаяльна.

Не дайшоўшы да Данжону, Локісаў зразумеў, што канчаткова прамок, а таму трэба вяртацца. Аднак болей за вецер і дождж яго непакоіла пачуццё, што за ім назіраюць. Ён адчуваў гэта патыліцай і нават некалькі разоў знарок рэзка абярнуўся. Разглядаючы гіпсавыя ногі, ён знарок крыху затрымаўся, нізка схіліўся над імі і выгнуўся так, каб цішком паглядзець, што там ззаду, аднак нічога, апроч пустога парка, не ўбачыў.

На адваротным шляху, мінаючы флігель, Локісаў вырашыў зайсці пагрэцца ў бібліятэку. Была, вядома, яшчэ адна прычына, у якой ён саромеўся сабе прызнацца: ён хацеў зноў убачыць Надзею. З людзей, якіх ён сустрэў за апошнія дні, яна болей за ўсіх яму падабалася.

– Прамоклі? – апярэдзіла Локісава Надзя, ледзь той увайшоў у чытальную залю. – Я даўно назіраю, як вы скульптуры ў парку разглядаеце. І не лянота вам у такі дождж гэтыя ступні вывучаць. Я яшчэ разумею, былі б гэта ногі вашых продкаў, а гэтыя ж так – савецкія, яшчэ ад дурдома засталіся. Ну, распранайцеся! – камандным голасам дадала яна, – давайце ўсё не батарэю, а то падхопіце яшчэ якія сухоты, што нам тады з вамі, паніч, рабіць.

Локісаў паслухмяна зняў паліто.

– О, і туфлі ў вас гарадскія, прамоклі зусім. Шкарпэткі таксама здымайце, зараз я пантофлі вам прынясу. – Надзя знікла за дзвярыма ў бакоўку.

Локісава здзівіла і парадавала гэта новае, яшчэ не вядомае яму ўвасабленне Надзі. Пазаўчора яна з'явілася яму жанчынай-ваяром, байцом бібліятэчнага тэквандо. Сёння яна здавалася клапатлівай папялушкай без грыму і бальнай сукенкі. Нават вялізных несуразмерных акуляраў на яе твары не мелася. Мабыць, яны таксама з'яўляліся адно дэкарацыяй, часткай яе пазаўчорашняга ваяўнічага ўбрання.

– Зараз гэта вам карысней, чым гарбата! Сама не буду, а вам пару чарак налью! – Яна вынесла з бакоўкі пачатую бутэльку чырвонай наліўкі.

Гэтая Надзя падабалася Локісаву ўсё болей і болей. Ён тут жа пачаў яе ўгаворваць скласці яму кампанію і прыгубіць разам. Аднак тая катэгарычна адмовілася, заявіўшы, што калі захоча, вып'е і без яго ўгавораў, але сёння ў яе яшчэ ёсць у пасёлку справы.

– Я ж не таму, каб выпіць з вамі, – сказала Надзя, быццам апраўдваючыся. – Проста шкада мне стала. Нейкія мужыкі ўсе чэзлыя пайшлі. Нават Локісы ўжо не тыя. Гляджу, нешта мокнеце пад дажджом. То паспрабуеце на плот ускараскацца, саслізняце, перадумаеце. То ў замочную шчыліну зазірняце. То пастаменты ходзіце разглядаеце, перад ступнямі неяк скурчыліся ў тры пагібелі, быццам грыбок-баравічок пад імі знайшлі.

Локісаў нарэшце разглядзеў яе вочы. Былі яны рэдкага зялёнага адцення. Разам з рудаватым колерам яе валасоў гэта было небяспечнае для чэзлага мужчынскага полу спалучэнне. На такіх западаюць усур'ёз і надоўга. Ён прыкінуў, ад якой жывёлы яна магла б пайсці. Відавочна, не лісіца. Не адчувалася ў Надзі ніякай унутранай хітрасці ды скрытнасці. Аднак і не кошка. Хутчэй вавёрка. Лоўкая, спрытная, даволі прамая. Да таго ж вялікі руды хвост запраўленых назад валасоў дакладна выдаваў у

ёй вавёрку. У пацверджанне сваёй нядаўняй здагадкі, што Надзя выпіць не супраць, ён разглядзеў ледзь прыкметныя кружкі пад вачамі, але якія ніяк яе не псавалі.

– А што, у Замку сёння ніхто не з'яўляўся? – асцярожна спытаў Локісаў пасля першай чаркі.

– Учора тут рабочыя круціліся. А сёння зніклі ўсе, дзіўна, аховы цэлы дзень не відаць.

– А хіба яны не кожны дзень працуюць?

– Ну, вы што! Вартаўнікі тут штодня абавязкова! Ды не адзін! Я нават здзівілася, што яны вам дазволілі па парку гуляць. Звычайна нікога не пускаюць. Дзяцей, што да мяне ў бібліятэку прыходзяць, і тых ганяюць.

– Дык няма ж нікога, таму мяне і не заўважылі.

– Ну скажаце, не заўважылі! – усміхнулася Надзя. – А як жа камеры? Тут камер у іх паўсюль панатыкана! Так што не проста заўважылі, але і з усіх бакоў уважліва разгледзелі! Прытым не тутэйшыя. Маніторы ў іх недзе ў іншым месцы стаяць, можа нават і ў самой Маскве, а карцінку па інтэрнэце перадаюць. Не ведаю, чаму яны вас не чапаюць. Можа, паважаюць альбо баяцца. Усё ж такі Локіс і граф!

– Мабыць, яшчэ не вырашылі, што са мной рабіць. Думаюць пакуль, вывучаюць.

Тут Локісаў зразумеў, адкуль гэта непрыемнае адчуванне, якое не праходзіла ў парку, што за ім назіраюць. Добра, – падумаў ён, – што не палез праз плот. А то прышылі б яшчэ крадзеж з узломам. Сказалі б, што я скраў вядро і рыдлёўку! Можа, таму ў Замку нібы нікога і не было. А ўсё гэта толькі правакацыя?

– А што будоўля? Калі скончаць? – пацікавіўся Локісаў.

– Што яны там робяць, аднаму Богу вядома! Я ўжо даўно за гэтай будоўляй назіраю. Толькі здаецца мне, што гэта ўсё імітацыя. Колькі гадоў тут ужо круцяцца, а акрамя агароджы пакуль нічога не пабудавалі. Затое колькі пантоў! Бывае, прыедзе эскорт такіх высокіх чорных "Мэрсэдэсаў", да карэт падобных...

– "Гэлендвагенаў", мабыць?

– Можа, і вагенаў, я ў гэтым не разбіраюся, толькі выглядаюць як чорныя карэты. Эфектна так чарадой у браму заедуць, выйдуць з іх гэткія пупсы-красаўчыкі ў чорных гарнітурах, скрыюцца ў Замку і нешта там сабе вырашаюць.

– Дык кажуць жа, сам гаспадар ніколі не прыязджаў.

– Гэта праўда. Ніхто яго яшчэ не бачыў. Думаю, нават Якаўлевіч не бачыў. Прыязджаюць гэтыя драбнейшыя. Бывае, на джыпах прыскачуць – значыць, на паляванне. Бывае на гэтых карэтах – значыць, нешта павырашаць. Бывае, блядзей прывязуць. Тыя вылезуць з машын і, як курыцы ў балетных пачках, – скок, скок па бруду праз лужыны. Віскочуць, смяюцца. А потым бухаюць усю ноч. Толькі музыка з вокнаў на ўвесь парк, ажно ў пасёлку чутно.

– Дык там жа рамонт, – здзівіўся Локісаў.

– Хто яго ведае, што там унутры. Можа, гэта для нас рамонт. Я там ніколі не была, не магу сказаць. Толькі калі б хацелі адрамантаваць, ужо даўно б адрамантавалі.

– А Давід Якаўлевіч хто пры ўсім гэтым? – пасля дзвюх чарак вядзьмарскага Надзінага лікёру, ды на галодны страўнік, Локісаў прыкметна

захмялеў і ўжо збіраўся паціху пераходзіць да лірычнай часткі, але пакуль, карыстаючыся момантам, спрабаваў выведаць як мага болей.

– Якаўлевіч так, мясцовы прыказчык, дробная сошка, – адмахнулася Надзя. – На пабягушках тут у іх. Калі трэба лазню, паляванне альбо рабочых арганізаваць. Але ён тут нічога не вырашае. Вырашаюць у Маскве. І будаўнікоў яны бяруць не тутэйшых. Заўсёды аднекуль прывозяць.

– А што на ўсё гэта Лапіцкі?

– А ў Лапіцкага з Замкам вайна! Ненавідзяць адзін аднога. Не, напачатку яны на яго разлічвалі, думалі – свой, будзе пад іх дудку скакаць. Ан не! Пралічыліся! Занадта самастойным ён аказаўся. Цяпер яны спрабуюць адзін аднаго зжэрці. Толькі Лапіцкі праглынуць Замак не можа, не па зубах корм! Ды і ў Замка з Лапіцкім нічога не выходзіць. Мабыць, нейкі анёл-абаронца ёсць у яго.

– А што ж Замак не выкупіў бібліятэку? Яна ж цяпер як костка пад самым носам тырчыць!

– Ды што вы! Колькі разоў спрабавалі! Але таксама Лапіцкі! Гэта ж яго любімая цацка! Нават калі маскалі ўсё ў пасёлку скупяць, апошняе, што ён ім саступіць – гэта бібліятэка! Так яны паміж сабой і ваююць, усё ўладу падзяліць не могуць, а народ тым часам у страху жыве! Адзін аднаму не давярае і чакае, каго пярэварацень наступнага зжарэ!

– І часта гэта бывае? – Локісаў нахмурыў бровы і з сур’ёзным выразам твару выпіў трэцюю чарку.

– Не часта, але бывае.

– Надзя, – мякка прамовіў ён, зірнуўшы на яе ўжо зусім алейнымі вачыма. – А ці не маглі б вы скласці мне спіс усіх ахвяр за апошнія гады?

– Здрасце, прыехалі! Яшчэ чаго! – раптам рэзка змянілася яна. – Я што – бюро даведак? Ці аддзел ЗАГСа? Звяртайцеся ў “Адно акно”! Ды і наогул, рэчы вашы падсохлі! Апранайцеся ўжо! А мне пара бібліятэку зачыняць!

* * *

Калі Локісаў вярнуўся ў гатэль, ужо сцямнела. Ён адчуваў зверскую стому ад усіх паваротаў ды нечаканасцей гэтага дня. Хацелася каго-небудзь зжэрці, але яшчэ болей напіцца. Бар з «шаснаццаці да дваццаці чатырох», як і належыць, аказаўся зачыненым. Таму ён зноўку накіраваўся ва ўсё той жа злашчасны гастраном.

Як і ў першы вечар, у магазіне было нешматлюдна. Толькі некалькі чалавек перашэптываліся каля касы. Аднак, заўважыўшы Локісава, яны тут жа прыціхлі і пачалі разыходзіцца. Неўзабаве ў зале засталіся толькі прадаўшчыца ў кілбасным аддзеле, ён ды новая касірка за касай. Прагульваючыся між прылаўкамі, ён адчуваў, як тая за ім назірае. Час ад часу краем вока Локісаў лавіў яе напружаны, спалоханы погляд. Здавалася, зрабі ён рэзкі рух, і касірка тут жа кінецца да ўваходу, але пакуль пачуццё службовага абавязку трымала яе пры касе.

Павярнуўшыся да вітрыны, што выходзіла на плошчу, ён нечакана ўбачыў за вакном яшчэ некалькі чалавек. Прыліпшы да шыбы, яны таксама ўважліва яго разглядалі. У іх вачах чытаўся ўжо не спалох, а хутчэй цікаўнасць. Адчуваючы сябе ў бяспецы, яны тарэшчыліся на яго, нібы на дзіўнага звера ў вялікім шкляным вальеры.

Локісаў адчуваў, што цяпер ён для іх накшталт героя з благога кіно. Вось ён, маньяк і серыйны забойца, вяртаецца ў прыцемках у гастраном, каб замачыць чарговую касірку. Ён, праўда, адзначыў сам сабе, што гэтым разам ахвяра для мізансцэны падабраная лепей. Гэтая касірка была не такой кастлявай і поснай. Выглядала яна нашмат румяней, пышней і апетытней за Зінку. І зараз, адсочваючы кожны крок, публіка за вакном чакала крывавай развязкі.

Доўга трываць гэты цырк Локісаў не мог. Хутка напоўніўшы кошык, ён прайшоў у вінны аддзел і аслупянеў. Паліца, дзе яшчэ ўчора стаяў «Версаль», пуставала. То бок не толькі «Версаля», але побач не было ніякага, нават дарагога, каньяку. Паліцы з налíўкамі, лікёрамі, сухім вінам, віскі і ромамі таксама пуставалі. Ды што там налíўкі! Увесь гарэлачны шэраг таксама знік. Засталося не кранутым толькі тое, што звычайна стаяла ўнізе стэлажа – бутэлькі з «чарніламі».

– Так! Гэта што? – гучна і грозна рыкнуў Локісаў, павярнуўшыся да касіркі.

Тая ўся схамянулася ад яго голасу і, апусціўшы вочы, няўпэўнена пралепятала:

– Дык выпілі ўсё.

– Хто выпіў? Яны? – Локісаў кіўнуў на акно, пра сябе адзначыўшы, што людзей там паболела. На вуліцы пад вітрынай стаяў ужо даволі вялікі натоўп.

– Н-ну, да... – зусім разгубілася касірка.

– Так! Хопіць дурня валяць! Прынясіце мне са склада бутэльку каньяку, хоць якога!

– Што вы прычапіліся да чалавека! – данеслася з каўбаснага аддзела.

Мабыць, гэтая прадаўшчыца, з выгляду больш старэйшая і смялейшая, адчувала сябе ў адноснай бяспецы, адгароджаная ад Локісава прылаўкам з пазелянелымі дарагімі “мартадэламі”. Упёршы рукі ў бокі, яна дадала:

– Вам жа ясна сказалі, выпілі ўсё. Хіба не ведаеце, як нашы людзі п’юць? Так, стаяў ваш каньяк паўгода, ніхто не браў. А тут камбайнёры кагалам наляцелі – і ўсё пажэрлі. Чакайце цяпер, калі з Мінска прывязуць! А як не хочаце чакаць, вунь піце віно! – Яна кіўнула на барматуху. – У нас усе яго ўжываюць! І нічога! Вунь паглядзіце, якія ружовашчокія па плошчы цёгаюцца!

– Што, і гарэлку, і лікёры, і нават віскі выпілі? Добра! Я ўсё зразумеў. Прынясіце сюды “Кнігу скаргаў”!

Локісаў ведаў, гэта апошні, амаль заўсёды забойны аргумент у спрэчках з абшчэпітам. Вам як заўгодна доўга маглі ў твар хаміць, аднак патрабаванне прынесці КаСэ заўжды супакойвала і ацверажала. Быццам гэты дзіўны перажытак савецкіх часоў, “Кніга скаргаў”, па-ранейшаму заставалася адзіным прамым каналам да таго вялікага і страшнага, справядлівага і усёвідушчага Вока, якое наглядае і карае.

– КаСэ? Ды пажалста! Можам і «Кнігу скаргаў»! – як ні ў чым не бывала адазвалася таўстуха і гучна крыкнула камусьці за сценкай: – Пецця! Прынясі КаСэ! Ды ручку не забудзь! Барыну каньяку не падалі! Яго Сіяцельства паскардзіцца на нас хоча!

З-за дзвярэй, што вялі ў падсобку, тут жа паказаўся Пеця, але замест ручкі ён трымаў у вуглаватых мужыцкіх лапах даволі вялікія вілы. Мабыць, ён быў у памяшканні не адзін, за дзвярыма пачуўся шэпт,

валтузня, лёгкая лаянка, і на імгненне выглянуў яшчэ адзін Пеця, аднак адразу ж схаваўся.

– М-даа, добра, ручкі не трэба, свая маецца! – крыкнуў Локісаў, ацаніўшы габарыты Пеці. Той быў на галаву вышэй за яго, а ў плячах разы ў паўтары шырэйшы.

Следам за Пецем з падсобкі, нібы квактуха з куратніка, выскачыла загадчыца гастранома і скорагаворкай закудахтала:

– Якіх скаргаў? Каму скаргаў? Навошта КаСэ?

Спыніўшыся на бяспечнай адлегласці ад Локісава, ЗаГэ ўсклікнула:

– Патлумачце, у чым сутнасць вашай прэтэнзіі?

– А вы не бачыце? – Локісаў кіўнуў на прылавак. – Дзе каньяк? Я ў вас пытаюся!

– Так! Каньяк! – як ні ў чым не бывала парыравала загадчыца. – Дзяўчаты пакуль не ведаюць: указ з раёна прыйшоў, падчас бітвы за ўраджай забараніць продаж моцных алкагольных напояў і сухіх він! Вось, чытайце! – і яна сунула ў рукі Локісаву нейкую паперу.

Той мелькам прагледзеў цыркуляр, асабліва не ўнікаючы, звярнуў увагу на подпіс (як і варта было чакаць, аўтарам з'яўляўся Лапіцкі) і са здзіўленнем спытаў:

– Пачакайце, якая зараз можа быць бітва за ўраджай? Ужо позняя восень. Я заўсёды меркаваў, што БэзаӮ у нас звычайна недзе летам.

– Усё правільна! ГэБэзаӮ, галоўная бітва за ўраджай у нас, вядома, летам! Гэта, так сказаць, самая вялікая бітва. Калі б вы прыехалі сюды ў жніўні, мы б вам не тое што алкаголю, нават піва б не прадалі! А цяпер у нас МэБэзаӮ, малая восеньская бітва! Вось на мінулым тыдні скончылася бітва за буракі. Зараз пачалася бітва за бульбу. А наперадзе бітва за моркву! А паколькі бітва малая і напружанне на калгасных палях спала, то мясцовыя віны прадаваць можна. Ёсць яшчэ пытанні?

– Ну, Лапіцкі! Ну, прайдоха! – Локісаў зірнуў за вакно, быццам чакаючы падтрымкі залы. Народу там яшчэ дадалося. Цяпер ён адчуваў сябе трагічным оперным спеваком на сцэне. Салідны натоўп назіраў за ім з цемры партэра, мабыць, такі ж, альбо троху меншы, затаіўся на галёрцы ў падсобцы. Побач на падпеўках галасілі: касірка, прадаўшчыца з кілбаснага аддзела, ЗаГэ і Пеця. Локісаў зразумеў: каньяку яму сёння не пададуць.

– Дык што, вы кажаце, мясцовыя панфілаўцы падчас бітвы за моркву ўжываюць? – паспрабаваў ён разрадзіць абстаноўку і нахіліўся над ніжняй паліцай.

Шчыльным армейскімі шыхтамі на даўгім стэлажы стаялі шэрагі фаўстпатронаў, якія пікантна смярдзелі кіславатымі бакалейнымі пахамі. Праўда, найменняў мелася няшмат, можа, з два дзясяткі. Прысеўшы на кукішкі, ён узяўся вывучаць. Часам назвы траплялiся цалкам лагічныя – «Верны сябра», «Маю права», «Ранішні перазвон», «За Род! За Стал!», «Адвечная бітва», часам рамантычныя і крыху гуллівыя – «Вішнёвая гарэзніца», «На Берлін!», «Чароўная флейта», «Аляксандр і Я». Аднак усе яны збольшага дзяліліся на дзве групы: чырвоныя і шэра-зялёныя.

Крыху разгубіўшыся, не ведаючы, што ўзяць, Локісаў ужо хацеў быў звярнуцца па дапамогу да залы, як раптам прыгадаў просты правераны спосаб, апрабаваны шмат разоў за мяжой. Калі ў якім-небудзь нямецкім мястэчку ў разнастайнасці незнаёмага асартыменту ты павінен знайсці нешта смачнае, але не даражэй за два еўра, трэба зразумець, што п'е мясцовы

народ. Трэба адшукаць на прылаўку папулярную секцыю, дзе засталося ўсяго пару бутэлек.

Локісаў адразу знайшоў гэтае месца. Некалькі апошніх фаўстаў моцнага, нуль сем, двух розных гатункаў загадкава зіхацелі ў дальнім куце паліцы. Наблізіўшыся, ён узяў у рукі адзін і прачытаў. На этыкетцы чырвонага вялікімі мудрагеліста-гатычнымі літарамі было напісана – «Чорны Замак А». Назва падавалася двусэнсоўнай. Быў гэта намёк на той Замак, альбо на Гэты, заставалася няясным. Затое віно зялёнага колеру ніякай двухсэнсоўнасці не мела: на этыкетцы стылізаваным «кур'ерам» канторскай друкаркі было выбіта: «Пракуратарскае». Локісаў зразумеў: да брэнду і распрацоўкі дызайну прыклаў руку асабіста Лапіцкі. Вядома, ён мог назваць віно і прасцей – «Пракурорскае», але гэта пагражала стратай часткі кліентаў. Ды і як ён мог пры сваёй начытанасці і адчуванні важнасці місіі сабе такое дазволіць!

Да Локісава зараз дайшло, наколькі глыбінным было тут супрацьстаянне чырвона-зялёных. Змаганне за ўплыў на галовы ішло ўжо на ўзроўні ніжняй віннай паліцы. Цяпер перад ім паўставаў цяжкі выбар: чый бок прыняць – зялёных альбо чырвоных. Хоць ні адна з партый не падавалася яму сімпатычнай, але стаць за Пракуратара ён дакладна не мог. Заставалася абраць бок Замка, альбо трэцюю сілу – «Чароўную флейту», але яна таксама была чырвонай.

Падумаўшы троху, Локісаў паклаў у кошык «Фэ» і «Зэ» ды накіраваўся да касы. Публіка з палёгкай уздыхнула. Народ з падсобкі высыпаў у залу, і перашэптваючыся, назіраў, як ён складвае ў пакет прадукты.

Калі ён выйшаў з гастранома на плошчу, частка людзей з натоўпу ля вітрыны аддзялілася і на паважнай адлегласці рушыла за Локісавым да гатэля. Ён чуў, як яны ціха перагаворваліся за яго спінай. Цалкам фраз было не разабраць, да яго даляталі толькі паасобныя гукі ЧэФэ, БэзаМэ, БэкаЦэ, 'Ь!

У вестыбюлі гатэля на разлапістай канапе, на зэдліках і крэслах, сярод цяжкіх парцьер і барочных пластыкавых ваз разваліласяя вялікая кампанія людзей у камуфляжы. Тут жа пры іх стаялі паляўнічыя стрэльбы. За стойкай рэцэпцыі дзяжурыла Разалія.

– Я ж вам казала, што ў нас наплыў турыстаў! – злавіўшы здзіўлены позірк Локісава, усклікнула яна. – Бачыце, паляўнічыя! Толькі што з кабана вярнуліся. Кажуць, вы былі сёння ў бібліятэцы?

Яшчэ раз зірнуўшы на кампанію, Локісаў нічога не адказаў. Гэтыя людзі ў камуфляжы самі падаваліся адной вялікай дзічынай зграяй. Яны ўсе як адзін павярнуліся барадамі і панура паглядзелі на Локісава цёмнымі вачніцамі з-пад вялікіх касматых броваў.

– Палундра! – пачулася раптам каля самага яго вуха. У нос шыбануў саладжавы пах недарагога шампуню.

– Як там на кічы, капітан? Мянты сільна кашмараць? – радасна прашчабятала Эма, якая вынырнула невядома адкуль. – Мне адзін пацан з малалеткі расказваў...

– Што яшчэ за кіча?! – гаркнула Разалія, – Паліна, кажы па-людску! А то я цябе за шкірку – і сама так адкашмару!

– Ды добра, добра, маць! Я ж толькі аўтограф зняць! Давайце, таварыш адмірал, махніце вяслом, чырканіце новаму пакаленню што-небудзь патрыяцічэскае! – Эма падсунула яму фота. На ім нейкі змардаваны

наркатой чэрап з абсалютна белым тварам і вялікімі накладнымі іклами нешта крычаў у мікрафон.

Стома валіла Локісава з ног. Млява ўзмахнуўшы вяслом, ён чыркануў аўтограф і падняўся наверх. Гадзіннік на вежы касцёла паказваў дзевяць трыццаць. З апошніх сіл адкаркаваўшы бутэльку ЧэЗэ, ён прынюхаўся. Пахла не брыдка і нечым падобна да Эмінага шампуню. Адчуваліся ноткі спірту, маліны і нейкіх пікантных зёлак. Локісаў напоўніў шклянку, выключыў святло і, адчыніўшы вакно, запаліў.

Знізу з цемры плошчы на яго моўчкі глядзеў вялікі натоўп. Нейкае мярзотнае прадчуванне чагосьці страшна знаёмага, з даўно забытых фільмаў, падкацілa да горла.

Італія, ноч, чорны сілуэт касцёла, натоўп на плошчы, балкон на другім паверсе.

Ён. І Яны.

Яны знізу глядзяць з цемры і нечага чакаюць.

Глядзяць і чакаюць.

Віва Італія!

Эй, мамбо! Мамба італіяна!

Эй, мамбо! Мамба італіяна!

Гоў, гоў, гоў, цар, царэвіч!

Гоў, гоў, гоў, кароль, каралевіч!

Мамба італіяна! Выйдзі вон сіцыліяна!

Загадкавае барока тутэйшых балот.

Аксана Спрынчан



...пляскаты
і завостраны –
сімвал беларуса...

# Цвік

* * *

цвічкі
вадаспадам колкім
выпадаюць з рук
збіраю
на роўнядзі падлогі
некаторыя
захопленыя хвалямі дошак
упалі на дно дома
там ужо ёсць
манеткі на шчасце
няхай будуць
і цвічкі на лёс

* * *

дзВЕРЫ
зачыненыя
на цвік
надаюць
НАДЗЕІ
за імі жыве
ЛЮБОЎ

* * *

пляскаты
і завостраны –
сімвал беларуса

* * *

цвікую –
за цвікамі
цікую

* * *

дошкі старыя
спальваю ў вогнішчы
частую зямлю
попелам з цвічкамі

* * *

сэрца
працяў
цвік
якім ты надрапаў
кАхаю

* * *

б’ю па цвіку
патрапляю
не патрапляю
патрапляю
не патрапляю

патрапляю
не патрапляю
патрапляю
не патрапляю
патрапляю
кахае

* * *

вочы – цвікі
прымацаваная-
ўмацаваная
пяшчотай

* * *

два цвікі
то перамога жыцця
V
то крыж смерці
+

* * *

цвіком
сядзіць ува мне
ЦВІКАРНЯ
якую бачыла адно
ў тлумачальным слоўніку

* * *

на плешцы цвіка
кветка
рамантык-каваль
вядома ж, п’е каву
і я ў сваёй філіжанцы
малюю
ягоным цвіком

* * *

без цвіка ў галаве
ЦВК
у Беларусі

* * *

сада-маза
малаток-цвік

* * *

лезе
жалезны
вылазіць да пяткі
не ахілесавай
але ў лесе
яе раздзірае
пакідае
крывавую плешку

* * *

кутым цвіком
у каве размешваю
цукровы кубік
і яшчэ адзін дадаю
зняўшы з верхавіны
цукровай пірамідкі
і болей нічога цікавага
вымыць цвік
скласці цукар у пушачку

* * *

капялюшык
поўні-цвіка
трымае
ўспаміны нябёсаў
зоркі
нібыта восы
лятуць
на салодкія грушы
лунінецкага маленства

* * *

цвік
з двума вайстракамі –
знак бясконцасці

* * *

як і вершнікі
бываюць цвікі
без галавы

* * *

цікаўнасць цвіка:
капялюшык выткнуўся
свет паглядзець

* * *

цвік у падкове
яшчэ болей
шчасця

* * *

пазычае цвікі сусед
(не, лепей, паэт,
бо гэта і ёсць сусед)
пазычае цвікі паэт
напраўляць дах
дах у паэта
заўжды
імкнецца
з'ехаць

* * *

стаяць у скрынках-вазах
букеты цвікоў
розных памераў
засталіся з мінулага стагоддзя
ад будоўлі хаты
чакаюць
свайго часу –
рапаравання

* * *

цвік убіты
і цень ад яго

змушаюць
зірнуць
на гадзіннік

* * *

стапленне жалеза і вугляроду –
сталёвы цвік
аб’яднальнік роду

* * *

прыцвікаваныя дошкі
на дзверы
у якія некалі ўваходзіў

цвіковыя плешкі
не раўнуючы
радзімкі мінулага

* * *

у сцены
столь
падлогу
і плінтусы
убітыя мною
цвікі
да кропак
альбо да косак
на якіх трымаюцца
карціны майго жыцця

* * *

укрыжаваная
цвіком часу
свет
крыжую

Віктар Казько



...Любіў таму, што баяўся.

А баяўся таму, што любіў...

# Нашчадкі казённага лёсу

***Аповесць***

*Заканчэнне.*
*Пачатак у №104.*

## III

Гавораць, што няма нічога горшага, як чакаць і даганяць. Так яно, пэўна, і ёсць, але да гэтага трэба дадаць яшчэ адно – баяцца. Не выключана, што боязь, страх нарадзіліся раней за чалавека. З іх пераадолення, вытручвання і чалавек з’явіўся. Хаця і да сённяшняга дня яшчэ колісь надкусаны. Надкусаны страхамі, пад іх каптуром, накшталт грыба-гнаявіка – гожагаё фігурыстага, у белым, але з карасліва-рудымі плямамі капелюшы. Неспажыўны жывому, нават агідны і гнаны, але пад яго вокам чалавек хутка брыдка падломваецца – ногі не трымаюць, асядае пад страхам сваёй незапатрабаванасці і расцякаецца гноем па зямлі, каб на яго пахаванні і знікненні адрадзілася нешта сапраўды неабходнае на ўсе часы.

Менавіта так Маруда саўладаў са сваім чаканнем і страхам. Выхварэў імі, стаміўся чакаць і баяцца. Таму што гэта пагражала яму ўжо ці не вар'яцтвам. Пераспелае, як, прынамсі, і недаспелае – сведчанне выраджэння, з'яўлення на свет пачвараў і монстраў. Пазбаўлення заўтра, будучыні, чаму страхі і патрабуюць могілак.

Таму саспеў час, надышоў дзень, калі Маруда сказаў, загадаў сабе: сёння. Носам уведаў, скурай прадчуў – гэта адбудзецца сёння. Так ён жадае, просіць і нават патрабуе, вымагае – сёння, каб было заўтра! Хопіць бегаць, сыходзіць. Таму, што наканавана, варта збыцца. Ён стаміўся думаць пра гэта, хавацца, баяцца. Хаця ён усім кланяецца, але ніколі не гнецца. Нікога не просіць і ні ад каго не хаваецца. Сёння.

І Маруда пачаў жыць насустрач нарачонаму яму сёння. Ноч, цяжкая праца ў той начы пасунулі яго да такога рашэння. Так заўсёды бывае, калі ты робіш не толькі галавой, але і рукамі. Суладнасць думак і рук надаюць смеласці і годнасці ўсяму існаму на гэтым свеце. А ён усю ноч ішоў да гэтай вартасці ўзняць галаву, адчуць волю цела і галавы. Разняволіцца.

Ай, Наждак Маруда, Тудэма-Сюдэма. Усю ноч за гэтых, лічы, чатырох, і марнеў, і шчыраваў. І што дзіўна, спраўляў работу, што ўжо калісь недзе зроблена ім. Пра сябе Маруда, як кожны самадастатковы ў сваёй існасці чалавек, лічыў, што павінен ў сваім жыцці на сёння і заўтра зрабіць тры справы: выкапаць калодзеж, пасадзіць дрэва і нарадзіць сына. Дзве трацiны з гэтага Маруда ўжо здзейсніў. З апошняй трацінай можна было пакуль не замарочвацца. Час яшчэ трываў. Трываў, хаця ў тую ноч ён быў не гатовы і не згодны яшчэ на адну, апошнюю і ў нечым вабную яму ўжо справу. Ухайдокаўся на дзвюх першых, даволі даўно здзейсненых.

Дрэва ён пасадзіў на школьнай алеі, калі яго ўрачыста прынялі ў камсамол. Клёнік. Другія неслі невядома адкуль розныя бярозкі, дубкі, хвойкі і нават таполі. А ён абраў для сваёй урачыстасці менавіта клёнік з-пад плота могілак. Чаму? Гэта было даволі мудрагеліста і не дарэшты зразумела яму самому. Проста быў зачараваны гэтым дрэвам, клёнам. Бо іх тут мала, чамусьці толькі на могілках. А ён заўсёды жадаў таго, чаго было меней. Каб гэта мелася толькі ў яго і багата, жадаў часам забароннага і недасягальнага. Так, ён меў канькі, "ластаўкі" называліся. Іх трэба было прымацоўваць да чаравікаў вяровачкамі. І хаця калгасных каноплеў паблізу дзетдома хапала, і вяровачкі віліся з іх хвацкія, тыя вяровачкі не надта ўтрымлівалі "ластавак". Расцягваліся і матляліся ў лядовай дарозе ракі да бліжайшага ПГТ – пасёлка гарадскога тыпу – адзінаццаць кіламетраў, што лёду і па лёдзе.

І Маруда марыў аб так званых дутышах, канадках, што мёртва мацаваліся да чаравікаў заклёпкамі. Вось такі далёкі намёк на пасаджанае ім дрэва. А ўскосна яшчэ адзін намёк. Кляновы ліст знакавы Канадзе, ці не герб яе. Да ўсяго ж, калі без намёкаў, Маруда любіў клёны, хаця яны раслі тут чамусьці больш на могілках. І кожная магілка па восені як сцягамі калярова ўвешвалася іх лісцем. Што ж, нябожчыкі таксама маюць права на свята, прыгажосць і прадзімовы смутак часу і наваколля. Цяпер жа тут, на чужыне, і ў сне Маруда цягнуў свой клёнік з незнаёмых яму могілак і ўначы, і ў сцюжу, у някопную ад маразоў зямлю. І было вялікае пытанне, ці не застудзіцца ў ёй клёнік, ці прымецца, зелена і калярова загарыцца, запалае і тут. Не застудзіўся, прыняўся, зелена і калярова запалаў у каляровым сненні.

Але з клёнікам было проста – работа і ўсё. Складаней з калодзежам. У сваім цяперашнім сне Маруда добра ведаў, што калодзеж ён таксама ўжо выкапаў. Дабрачы калодзеж, каля дзетдомаўскай сталоўкі – каб не бегаць кухарам і дзяжурным па ваду на рэчку. На рагу, што падзяляў дзетдомаўскі падворак і пачатак вясковай вуліцы. І гэта было вельмі зручна ўсім –дзетдомаўцам і вяскоўцам –кожнаму свая вада. Вяскоўцы ж, невядома чаму, пазбягалі пры сваіх дварах капаць калодзежы. Вуліц з дзясятак, і доўгіх, а калодзежаў на пальцах адной рукі пералічыць можна.

Цяпер жа на адзін болей, у падзяку вёсцы, што дала прытулак сіротам. І першая вада ў тым дзетдомаўскім калодзежы чамусьці была саланаватая, слёзная, але потым выправілася. І капаўся калодзеж без прыгод, мякка, не зляжала, жвірава падатна. І меў ён ужо ў сваёй воднай глыбіні насельніка – трытона, прашчура векавечнасці, што надта ж парадавала Маруду. Знак яму нейкі быў тым трытонам ніспасланы. Бела-чырвоны, з шэра-аспіднай мокрай спінкай, нібыта ўзнагарода яму – гербам нейкай дзяржавы, царства, да якога ён далучыўся ці яго далучылі. Прылучылі да векапомнасці.

Задавальненнем было капаць на яве калодзеж у дзетдоме. А тут, хаця і ў сне, пакутліва цяжка. І пясок па баках быў няўлежаны, бессаромна агаляючыся, асыпаўся. І быў ён не такі пясочны і белы, як некалі родны. Бруіўся, працякаў між пальцамі. І глініўся, глініўся ўжо пры дне, у непаддымнай рыдлёўцы. І неба над ім у яме як віслае і шэрае свінячалапуховае вуха ў сіне- і ружова прасвечаных атожылках. Не, усё ж у сне і на яве садзіць дрэва і капаць калодзеж ямчэй дома.

А яшчэ да калодзежа выпетралі яго заўсёдныя ўначы прыхадні. Чаго толькі ўнадзіліся, прыходзяць і прыходзяць. Варта толькі прыдрамнуць, як яны з мураванай шчытнай цемры, мо і з яго стоенай беспрытульнай памяці, ужо тут як тут. І ні ўцякчы, ні схавацца, ні адбіцца, як ад самой ночы. Спакушаюць так, што аж мрэ сэрца, як ад добрай пайкі хлеба з маслам і цукрам. З палёгкай, прасвечанай ад думак, смутку і болю галаве. І яшчэ нечым абяцальна-лёгкім, прывабным святлом і святлом назаўжды. Але за тым заліўным святлом адразу, усутыч густая і халодная застаялая цемра сцяной, хоць нажом яе рэж.

А яны запрашаюць:

– Крані яе, каўтні яе. Бо гэта і ёсць жыццё. Большае, чым сам рай... Жыццё саладзей райскага, самога жыцця, ад кончыка валос да пятаў.

– Ай, – адбіваўся ён. – Ды пайшлі самі ў пяты і вышэй, у валасню...

Ісці туды яны не жадалі. Мо не ведалі, куды, дзе гэта. А ён і сам не ведаў. Адно толькі світальна мігцела ў галаве: маняць, заманьваюць і падманваюць. Няма праўды ў нагах, няма яе і вышэй. Маны ж у сне і на яве ён не трываў, звярына адчуваў яе. І тады ў ім абуджалася ў адказ нешта адпаведна звярынае. Горача і рубам напінаўся хвасцец і цела пачынала абрастаць поўсцю, нават у роце з высока праклюнутымі ікламі. І прыхадні, нібы адчуваючы яго іклавасць, поўсцевасць і, пэўна, ужо небяспеку сваім хвастцом, адступалі, і не проста адступалі, растуляліся, спачатку лёгкім туманцом, а потым і нічым, пустатой. Адчужана дрогкай і бязгукавай.

І правальная нікчэмнасць ахутвала яго. Агортвала штосьці шчымліва прывабнае. Зноў жа бязгучнае, але каляровае, водарна-сонечнае. Водарам сонца насычалася вясновая зямля. І ляцела сярод таго водару пчала, густа гуў пад ногі сабе чмель. І бегла, бегла дзяўчынка, што струнка, пракладзеная сонечным праменем па майскай квецені яблыняў дзетдомаўскага саду.

Толькі тае начы, мо таму, што ён сам быў стомлены цяжкай працай далакопа на чужыне, узрушаны прыхаднямі, дзяўчынка бегла трохі інакш, чымсьці заўсёды. І ён адчуваў, чаму. Нябачная гумка была працягнута паміж ім і бягучай у маі дзяўчынкай. У тую ноч, калі яму бачылася гэта, там, дзе ён жыў. Была ўжо зіма. І дзве пары года, зіма і вясна, аддзяліліся адно ад адной нябачнай, празрыстай цененькай плеўкай, што замінала бегчы дзяўчынцы, а яму – назольна вярэдзіла душу, і без таго ўжо пашкамутаную і навярэджаную, і не толькі трызненнем ночы, але і да ночы яшчэ. Дзённасцю.

Прадчуваў ён, прадчуваў надыходзячы цяжкі дзень, што непаддымнасцю кволага світанку ўжо аблытваў яго. І як ў ваду глядзеў. Як задумаў, напрарочыў і загадаў сабе. Усё пачалося яшчэ да развіднення ў непрабіўным ранкам зімовым змроку. Адразу пасля пад’ёму, фіззарадкі і сняданку прыйшоў іх майстар. Аляксандр Змітравіч Карпаў – Сашко ці Карпік – чалавек нутраны, патаемны, але ўжыўчыва-спагадлівы, бо, пэўна, таксама прайшоў рамесніцкую школу. І яшчэ нейкую, больш жорсткую, якая на ўсё жыццё пакідае след. Не рубцуецца і мімаволі назаўжды жыве ў вачах, асабліва па маладосці. І ў іх Карпіка вочы былі з прыхаваным пытаннем, з насцярожанасцю, у нечым карпавыя – з чырвонай стужкай у падвоччу, як ад заўсёднага недасыпу, што хаця і не пасавала яму, але і не псавала. Розум, звычкі, паводзіны ў яго былі пацаністыя.

Больш за тое, як гаварылі ў гарпавушных калідорах, недзе яшчэ па малалецтве, пасля індустрыяльнага тэхнікума ці незадоўга да заканчэння яго, ён трапіў у турму. Адбылося гэта, як даводзілі найбольш дасведчаныя, амаль па Новікаву-Прыбою, яго “Цусіме”, а можа і па яго гуцульскай натуры, адкуль ён паходзіў.

У Новікава-Прыбоя кок на заклад адсек галаву матросу. Не хацеў, толькі папужаць думаў, ды спрацаваў кухарскі навык секчы на калодзе мяса. Узняў сякеру і думаў спыніць яе за сантыметр ці міліметр ад галавы закладніка. Ды не спыніў, не здолеў спыніць. І пакацілася галава матросіка з мясніцкай калоды долу. Лягла пад ногі нябогу ўжо коку. Нешта падобнае адбылося, па глухіх сведчаннях, і з іх майстрам.

Меў Сашко самаробны, з напільніка, невялікі, але якраз пад руку – нож. І аднагрупнік жа пад’юдзіў Сашко, што ён не ўдарыць яго тым нажом. Сашко пайшоў з ім на заклад: ударыць. І ўдарыў, як у ”Цусіме” кок матросіка. Не хацеў да крыві, ды кроў пусціў. Характар тут ужо гуцульскі, западэнскі аказаў сябе. Зацяты і ўпарты: калі ісці, то ўжо да краю – перамогі ці пагібелі. Нястрыманасцю руху і дзеі.

Гэта Маруда добра разумеў і ўхваляў – характар бязбацькавічаў, казённы, дзетдомаўскі характар. Што ўвогуле было ўласціва і яму самому, і яго бацькам, і таму краю, дзе яны жылі. Але больш усё ж так званым западэнцам, заходнікам, тым, хто, падобна гуцулам, крыху спазніўся стаць савецкімі і мо таму меў больш характару, хлеба, за якім усходнікі адразу пасля вайны з кайстрамі, торбамі, мяшкамі памкнулі да заходнікаў. І дабіваліся часам не толькі хлеба, але і смерці. Іх з-за таго жабрацкага наедку палілі ў паравозных топках, скідвалі з дахаў вагонаў, рабавалі і забівалі ў тамбурах пасажырскіх цягнікоў і на тармазных пляцоўках таварнякоў.

Апроч лёсавай адметнасці і зацятасці характару ў майстры Маруду займала і яго вопратка. А найбольш – штонікі і пінжак, якім Маруда шчыра зайздросціў, ды і майстар, падобна, імі ганарыўся. Тарфяна-рудаватыя, у

хуценькую, амаль нябачную іскрава-чырвоную стужку, што, безумоўна, пасавала падвоччу майстра. Іх не было патрэбы прасаваць, яны не мяліся, не камечыліся і заўжды востранька трымалі кант. У апошняе аж не верылася, бо колькі не спі пад прасціралдам і матрацам у ложку на сваіх форменна-суконных, амаль матроскіх клёшах, раз апрануў – і зноў на ноч іх пад сябе ў ложак, пад прэс сваіх бакоў. І Маруду карцела займець такія штонікі, як у майстра, прагнуў, аж заходзіўся. І гэта яшчэ таму, што ў хуткім часе павінен быў надысці камунізм. А для яго сустрэчы ў Маруды не мелася нават прыстойных штаноў. Камунізм жа, на яго думку, – гэта калі двое штаноў. Адны на кожны дзень, другія – на святы.

Майстар суцяшаў яго:

– Нічога, нічога, атрымаеш спецыяльнасць, пойдзеш рабіць у шахту. А там грошы, падземныя плоцяць, ды яшчэ з сібірскім каэфіцыентам – пятнаццаць працэнтаў. Справіш, справіш сабе і запасныя штонікі, якія не мнуцца. Пачакай толькі, пачакай трохі.

Усе было правільна, ды чаканак ужо не ставала. Занадта ж чаго патрэбна было чакаць. Хаця ён, як усе яго хаўруснікі-дзетдомаўцы, быў звыклы да чакання. Толькі звыкласць з цягам часу марнела, сціралася ў паўсядзённасці, бралася агнём, згарала сінім полымем, заканчвалася... Чым яна заканчвалася, Маруда не хацеў і думаць. Хаця ім, казённым, штодзень даводзілі: перад вамі адчынены ўсе дзверы, будзе вам шчасце навекі. Пэўна ж, не хлусілі. Стагоддзі ўжо клікалі іх, і ўсе дзверы былі адчынены, толькі адны з іх – замкнутыя. І стагоддзе ішло не іх. Мо якраз таму, што не хапала сірочай зацятасці і распасцёртасці мары. Трываласці характару не хапала, той, што была ў іх майстра. Нязломнасці, непахіснасці ў праўдзе і няпраўдзе. Паляшукі-беларусы – не хахлы, тым больш не заходнікі-гуцулы.

Гэта Маруда разумеў, ухваляў іх, але не ведаў, ці здольны ён на нешта падобнае. Безаглядна ў бездань – таму што бездань прыцягвае бездань – у прорву ён гатовы быў кінуцца. На пагібель, на злом сваёй галавы, але кінуцца так, каб і галаву мо толькі трошкі скрывіць, але захаваць. А як гэта? Пытанне было, пытаннечка не для яго, хаця і дзетдомаўца, фабзайца. І гэта пытанне кожны раз паўставала перад Марудам, калі ён сустракаўся з майстрам. А сёння яно было ўжо надзённым. Меўся, меўся ў яго ножычак з напільніка. Праўда, недароблены яшчэ, без наборна-каляровай пластмасавай ручкі і таўставаты, металёва не зусім абдзёрты, нарыхтоўка толькі. Варта было памаракаваць яшчэ над ім наждаку – ужо сапраўднаму, тачылу абразіўнаму і электрычнаму. Але і ў такім стане нож быў прыдатны да справы і форсу.

І добра, што Маруда прыбраў яго зранку, захоўваў не пад матрацам у ложку, а насіў пры сабе, пры целе. Добра таму, што пры сабе заўсёды лепш, чым у схованцы. А яшчэ таму, што адразу па прыходзе майстра, дамоўлена было так загадзя ці супала, прыйшоў другі майстар іх групы, практыкант, з сібірскім прозвішчам Гарнастаеў. Толькі ён не надта апраўдваў, як высветлілася крыху пазней, тое сваё сібірскае прозвішча. Мяккаваты быў. Следам за майстрам набеглі актывісты, санітары – шакаляты, і пачаўся шмон. Ды такі, што ўсім чарцям стала моташна. Маруда падумаў, ці не капнуў хто-небудзь пра яго нож, ці не за ім паляванне.

Але, падобна, паляванне было загадзя запланаванае і па ўсіх пакоях вучылішча – на першым, другім паверсе, у аднагодкаў і другагоднікаў.

Што шукалі, невядома. Мо дурняў. Таму што ў фабзайцаў, ды яшчэ былых дзетдомаўцаў, цяжка знянацку што-небудзь патаемнае, недазволенае знайсці. Парода пужаная і абачлівая, і ўсе ў іх вучылішчы такія, не толькі адны былыя дзетдомаўцы. Як выказаўся аднойчы на агульным сходзе нампаліт: кантынгент. Але пра гэты так званы кантынгент трохі далей.

А тады ў іх пакоі тое-сёе з забароненага згледзелі, і не ў каго-небудзь іншага, нябачнага, а ў самога Маруды. Практыкант Гарнастаеў падняў яго матрац, а пад ім, якраз пасярэдзіне панцырнай сеткі, навідавоку стаіўся пачак цыгарэт “Северные”, з самых танных, што даваліся салдатам, з адмысловым начыннем, каб не цягнула ў самаволках да дзяўчат.

Маруда здзівіўся, адкуль гэтыя цыгарэты ўзяліся ў яго ложку. Ён тады яшчэ не курыў. Потым успомніў. Свінню падклаў яго лепшы сябра Алесь Адаменя: якая розніца, пад чыім матрацам ляжаць ягонаму курыву. Успомніў, але абурыцца ці зазлаваць не паспеў. Практыкант зладзейкавата зыркнуў па баках, ці не сочыць, хто за ім, прабурчэў:

– Пуста і чыста, – і паклаў матрац на месца.

Зусім не пуста і не чыста аказалася ў ложку Маруды пад падушкай. Пайка хлеба, прыхопленая са сняданку, спакусліва стаілася там, што было забаронена: хлеб у ложку знаходзіцца не павінен. Тумбачка ёсць, і ўвогуле не варта цягнуць хлеб у пакоі, мышэй разводзіць. Аляксандр Змітравіч абурыўся:

– Што, крахаборыш?

На гэтае яго пагардлівае “крахаборыш” абурыўся ўжо Маруда:

– А чо, чо?

Майстар аж з твару змяніўся:

– Ад каго-каго, а ад цябе не чакаў такога. Зачокаў па-чалдонску. Цераз плячо і кончык у зубы. Хутка ты забываеш сваё: мокрай трапкай па голаму бруху.

Каб ад некага чужога, а тут ад свайго майстра, амаль земляка, – Маруда не чакаў такога выпаду, удару пад дых.

– А чо? – ужо па заведзенаму абурана і знарочыста паўтарыў Маруда, абураны ад непрыхаванай, падвойнай пагарды, што прагучала ў голасе майстра. – Прычым тут мокрая трапка, голае бруха і Савецкі Саюз.

– Нічо, нічо, калі ты так хутка выракаешся свайго. – Нічо – два худых целёнка.

“Два худых целёнка” гучалі больш за абразу. Гэта было з іх дзетдомаўскага фальклору, з гулліва пахабных прыпевак. Так здзекліва песенна са сваімі не абыходзіліся. “Усё, – не без горычы падумаў Маруда, – забіраю свае цацкі, больш з Сашко не гуляю. Срака аб сраку, і гаршкі ў друз. Больш начаваць да яго ні за якія пернікі не пайду. Шкада, шкада”.

І сапраўды, яму было вельмі шкада і непамысна. Начаванне разам з майстрам у яго аднапакаёўцы ў бараку было лепшым, што меў Маруда ў час вучобы тут. Асабліва апошнім часам, калі жыццё ў вучылішчы і навокал зрабілася нейкім ужо надта хісткім і няпэўным. Утрымалася, устаяла пасля гібелі ў шахце гарнякоў. Пахіснулася, скапыцілася літаральна пасля таго, як міліцэйскі конь пасля хакейнага матча, ужо амаль на выйсці са стадыёна гледачоў, прыціснуў да агароджы і ўбрыкнуў нейкага хлапчука, аматара хакея. Распалены пройгрышам сваёй каманды натоўп закапыліў губу. Зладжана, амаль па-фабзайцаўску – “нашых б’юць” – ашалела раз’юшыўся.

Дзеля дакладнасці, праўда, трэба адзначыць, што гэта была толькі зачэпка

да выяўлення гневу, выбуху, падпальны шнур. У шахцёрскім пасёлку, ды і ў самім горадзе, пачаліся перабоі з мясам, рыбай, крупамі, і не толькі з імі, але нават і з хлебам. Усё атрымалася непрадбачана, непрадказальна, неспадзявана, як і ўсё, што ў нас атрымліваецца пры першым громе. Пасёлак перажыў, праглынуў пад сотню смерцяў, гібель шахцёраў, вытрымліваў, як тады казалі, часовую нястачу харчавання – прадуктаў, савецкае барачнае барока, загазованасць малой, але ж надта смярдзючай мясцовай хіміі, шахтавыя селікозы і антракозы, туберкулёзы. А тут міліцэйскі конь паслізнуўся на міфічнай мандарынавай ці бананавай лупіне, якія ў той час у Сібіры ні чулі, ні бачылі. Хаця, пэўна, гэтыя шкарлупіны, лушпайкі для солі зямлі паўсюдныя і пазачасовыя. Айчынна-савецкія, на якіх у хуткасці паслізнулася і сама айчына. І коўзаецца разам з намі па сёння цягнікова, самалётава, конна – нават пры адсутнасці коней – і пеша. Больш пеша – да схону нашых дзён.

Вучылішча і яго навучэнцаў наўпрост ніякім чынам гэтая склізота не закранула. Камбала і капуста з іх сталоўкі не зніклі. Але ж самі яны як укараціліся, паменелі і пацішэлі. Хаця гэта было мо толькі знешне. Усе жылі аднолькава, як мышы пад венікам, і з-пад таго веніка лішне нават хвастоў не вытыркалі. Увесь час і паўсюдна ўсім нечага не хапала. Супакойвалі, кармілі абяцанкамі-цацанкамі, чаканкамі і жданкамі. І нічога, прыстасаваліся да гуляў у жыццё і чаканне светлага дня, будучыні. А тут як шлейка пад хвост трапіла, азвярэлі. Сурочылі ўвесь пасёлак, горад адразу, нібыта з гор і шахтавага падзямелля, апраметнай чарноты нездабытага імі, незгарэлага яшчэ, але адчувальнага ў сабе ўжо агонь, вугалю, ускалыхнуліся, гарай пацягнула. Патыхнула стоеным у ім вякамі і тысячагоддзямі гневам. Стагоддзі і тысячагоддзі ўжо набліжанага новага міленіума нібыта зацяжарылі болем і роспаччу мінуўшчыны, яе марнасці, святасцю і грэшнасцю. І з тых адмерлых ужо надзей, болю і роспачы зараджалася штосьці да нельга жахлівае і непрадказальна-хіжае, прагнае і раз'юшанае. Усе навабуды, пераўтварэнні, час, эпоха пайшлі на знішчэнне. Знішчэнне, падобна, чалавека, чалавечага ў іх.

Натоўп каля стадыёна імгненна зарганізаваўся. Стрымана, але цвёрда, нідзе не спыняючыся, рушыў да выспава і кучна размешчаных каменна-непадступных уладных збудаванняў: абкама партыі, аблвыканкама і КДБ, што, дарэчы, знаходзіліся непадалёку ад стадыёна. Спадарожна паланілі пошту, тэлеграф, тэлефон, якія былі на шляху, хаця яны былі ім без патрэбы. Не пачатак жа стагоддзя, не сямнаццаты год. Але ж... Ішлі, як рабілі ў забоях і зонах, на лесапавале, колішнія зэкі і зэкі будучыя, вольныя пакуль. Мэтанакіравана, не хапатліва, не мітуслівa – шахтава-падзямельнай і лагернай ступой. Сярод іх праблісквала і нямала падлеткаў, якія забояў, зон і лесапавалаў яшчэ не нюхалі. Працоўная змена, падлеткі з ФЗН і рамесных вучылішчаў, у тым ліку з вучылішча Маруды – выхаванцы так званай вялікай і велічнай сістэмы працоўных рэзерваў.

Рэзерв гэты, быў вялікі, сістэмна-адладжаны, забяспечаны дзяржавай усім, што неабходна для вучобы і жыцця пад будучае іх ужыванне. Адзеннем, харчаваннем, спартовымі комплексамі і жытлом. Асабліва ж інструментам, жалезам – тэхнічным абсталяваннем, чаму мог пазайздросціць нават мясцовы горны інстытут. І была яшчэ адметнасць, уласцівая мо толькі сістэме працоўных рэзерваў – магутная самадзейнасць, найбольш ансамблева-танцавальная, што бліскуча перамагала нават у саюзных конкурсах, адзначалася і за мяжой.

Былі свае артысты і спартсмены. Працоўныя рэзервы мелі выбітную ў краі спартыўную базу, выдатных, знаных не толькі ў Саюзе трэнераў. Таму і вынікі іх выхаванцаў уражвалі нават замежжа, сягалі да алімпійскіх гульняў. Сапраўды вялікі спорт, як потым і космас, і касманаўтыка, пачынаўся з зацятай нядоляй працоўнай змены, з рамяслух і школ фабрычна-заводскага навучання. З тых, хто яшчэ на сваім пачатку, а мо і зачацці, быў пастаўлены на рогі, быў вымушаны шустрыць, шустрыць і шустрыць. Такія шустрыкі на шляху да выспаў уладных будынкаў нават апярэджвалі ўжо сталых мужчынаў. Натоўп не крануў дзвярэй аблвыканкама, абмінуў пагрозліва стоенае збудаванне Камітэта дзяржаўнай бяспекі. А вось абкам партыі, уваход у яго і першы паверх патрэслі і пашкамуталі добра. Дабраліся і да другога паверха, утварыўшы на пэўны час анарха-беспартыйнае ўсёўладзе. Што потым адрыгнулася ці не кожнаму, і адрыгнулася добра.

Вучылішча, Маруду, навучэнцаў падзеі гэтыя наўпрост, здаецца, не закранулі. Стол іх, харчаванне не паменшалі і не пагоршалі. Мора спраўна пастаўляла ўжо салёную рыбу камбалу, а палаткі – падмарожаную бульбу і капусту. І падзел на наждакоў-першагодкаў і дзядоў-другагоднікаў заставаўся ў сіле. Толькі апошнія, як, дарэчы, і наждакі, падобна, сцяліся, паменелі і ацяжэлі. Чуйна-шчаняча, ваўчына-насцярожана ціснуліся да свайго казённага берлага-інтэрната, пакояў, вучэбных класаў і майстэрняў. І адначасова неўпрыкмет, употай і цішком, па меры ўтаймавання гарадскога і пасялковага працоўна-звыклага жыцця, па знікненні з пасялковых вуліц некаторых знаёмых твараў штосьці патаемнае адбывалася і ў вучылішчы.

Адчувальна пацягнула зімовай сцюжай, сібірскімі маразамі. Але кацельная спраўлялася, у пакоях было цёпла, толькі наледзі на вокнах пабольшала, і яна гарбата і снегава заінела, пастрэльваючы ад гарачыні батарэй. Уначы ж пры цяпле цемрадзь лашчыла сны. І майстры вытворчага навучання пачалі больш аддана дакучаць выхаваннем. Падобна, праз уласную нехаць, таму што ў большасці ўсклалі тое ж выхаванне, утрыманне дысцыпліны і парадку асабліва сярод наждакоў, на другагоднікаў, а сярод іх – на актыў ці, папросту, па-дзетдомаўску яшчэ, вярхушку, якой шмат чаго пры заслепленасці тых жа майстроў дазвалялася, у прыватнасці, учыняць суд, расправу.

Усталяваўся, зацвярджаўся адвечны закон куратніку: хто на седале зверху, гадзіў на тых, што ніжэй. У пакрыўджаных не было магчымасці пярэчыць – сцаць і пляваць супраць ветру толькі самім сабе шкодзіць. Гэта засвойвалася паўсюдна і з маленства, на пачатку, у зародку жыцця, і ў сталасці. Казённы лад, казённая маёмасць патрабавалі нязменна, лёсава ўсталяваных казённых адносін, пільнага прыгляду і паслухмянасці. На тым стаялі, мацаваліся і пасвіліся.

У вучылішча зачасцілі непрыкметныя, але даволі непадступныя знешне, заклапочана сур'ёзныя людзі. Два дні ў тыдзень і па вечарах: чацвер – нікому не вер, пятніца пахатніца. Займалі кабінет нампаліта, што месціўся ў прыцемку сталоўскага калідора. У кабінет да іх хуценька і старанна цішком шмыгалі некаторыя з навучэнцаў, наждакоў і вярхушачнікаў-другагодкаў.

Ва ўсім гэтым меліся невытлумачальныя Маруду асаблівасці, што кінуліся яму ў вочы. Чужынцы былі розныя і па-球рознаму апранутыя і абутыя, адны ў пашытых па фігуры шэра-рудаватых прыкідах і ў дабрачых, да глянца наваксаваных ботах – блішчэлі, што ў ката яйцы. Другія – у сіне-блакітным суконным і ў вулічных чаравіках. Яны ніколі не сутыкаліся

адзін з адным, чаргаваліся, як вяскоўцы-пастухі, спраўляючы сваю чаргу, радоўку пасвіць статак.

У дні ці вечары іх прыходу ў вучылішча майстар звычайна забіраў нанач Маруду да сябе. Жыў ён адзінока і таксама казённа-непрыкаяна. Мэбля самая абыходкавая: стол, крэслы, ложак і канапа. Як часам прагаворваўся, меў жонку і дзіця, хлопчыка. Але жонка з хлопчыкам не пажадалі ехаць з ім у Сібір, засталіся ва Украіне. І ён відавочна нудзіўся без іх. Але пры гэтай яго нудзе адзіноты, недагледжанасці меў адметныя вока і слых на час, паветра і чалавека – амаль дзетдомаўскія. Так, быў у іх групе мясцовы хлопец Валера Туянкоў. Звычайны, спакойны, падобна, нават затарможаны, але надта прыгожы. Як красуня-дзяўчынка. Крамянашчокі, з вялікімі, ці не з яблыка, вачыма з прыманлівай павалокай. І пальцы ў яго былі зусім не як у слесара, тым больш шахтавага, а як у музыканта, выбітнага піяніста ці кішэннага злодзея – такія доўгія. І тыя рукі, тыя пальцы папраўдзе тварылі з груба, груваcтка і карава нарыхтаванымі адліўкамі з металу штосьці неймаверна прывабна-мастацкае, музычнае.

Група будучых слесараў ад напрацоўкі кісцевых і плечавых удараў па дрэву – бярозавых цурбачках, абыходжання з зубілам са сталлю, жалезам, перайшла да вырабу слясарных інструментаў: малаткоў, пласка- і круглагубцаў, ручных цісочкаў. Маруда ўпраўна валодаў напільнікамі – *драчовым, лічным* і *бархатным*. Лічыўся адным з першых. Толькі першынства яго, як заўсёды, было не бясспрэчным і нядоўгім. Абрыдла даведзенасць адных і тых жа рухаў да аўтаматызму, і ён далучыўся да цвёрдых сераднячкоў. Варта сказаць, што ў гэтым была і адметнасць яго. Не трываў ён задоўга аднастайнасці. Схопліваў усё хуценька. Ды таксама хуценька і перагараў, астываў. Быў здольны да ўсяго, толькі без перавагі чаму-небудзь аднаму. Рабіў усё сумленна. Няблага, але без захаплення – боскай адзнакі і іскры.

Аднойчы толькі штосьці нечакана прарэзалася ў ім. У школе, у малодшых яшчэ класах, на ўроку малявання. Настаўнік, сталага веку чалавек, сівы і бурклівы, мовіў класу вяснова-панылых шкаляроў:

– Ну, нездары, будучыя геніі пэндзля і алоўка, малюйце, што ў галаву прыйдзе. А я потым пагляджу.

Маруду ў галаву нічога не прыходзіла. Тым больш, як мастак на сваёй вуліцы ён даўно здаўся. Таму што там усе былі мастакі, кінь палку, і абавязкова ў аднаго з іх трапіш. Малявалі па клетачках у сшытках для матэматыкі. Тыя клетачкі разам з матэматыкай са школы, з урокаў папярок горла стаялі Маруду. Век бы іх не бачыць. Дый чаго ўпірацца – маляваць Сталіна, Леніна, яны і так па ўсім горадзе ў фарбах, у алеі развешаны.

І Маруда думаў, што б такое адмачыць, каб настаўнік малявання патурыў яго з класа. У галаву нічога не прыходзіла. Выратаваў верабей, як адчуў яго пакуты. Зляцеў з каляшкольнага дрэва, з грушы ў белым квеце, сеў на падваконнік вонку. І так пачаў выдзыгацца, што ў Маруды аж дых перахапіла і ў носе кісла стала. Дзень жа стаяў як не вясновы, а летні. Сонечны, няшкольны, бласлаўлёна апраменены роздумам і гультайствам. І верабей на падваконніку быў лепшым сведкам гэтага.

Так яго курчыла ад прыдуркаў, што марнелі такім днём у душным класе. Так ён фанабэрыста круціўся перад імі на сваім падваконніку. Што пінскі шляхціч на фэсце, звіў дзюбу – ці не песня вясновая і вясельная захрасла ў глотцы і прасілася на волю. Пушыў не дужа вялікія, але

такія прывабна прасвечаныя сонцам крылы, што ў Маруды рука сама пацягнулася да алоўка. Верабей на падаконніку, апраменены сваёй жа фарсістай існасцю, велічнасцю, відавочна і свядома цвяліў і тым натхняў яго. Пазіраваў яму, адчуўшы, пэўна, лучнасць з ім. Напаказ распасціраў кожнае пёрка, абскубваў яго і глядзеўся, як у люстра, у ваконнае шкло, пры гэтым не забываючы скоса зірнуць і на Маруду. Жулік, адным словам. Жулік дый годзе.

Такім непрыхавана жулікаватым у кожным сваім сівавата-туманным пер'і ён і атрымаўся ў Маруды. Настаўнік малявання, падобна, прыдрамнуў пад мастацкую натугу сваіх геніяў. Незадаволены, пэўна, тым, што не даюць паспаць, аднавока лыпнуў на малюнак Маруды і адразу ж адплюшчыў вока другое:

– Сам намаляваў?

Маруда здзіўлена сцепануўся:

– Канечне, сам, не верабей жа. Вунь, на акне яшчэ сядзіць.

Але вераб'я на акне ўжо не было. Нібыта яго зусім там ніколі не было.

– Знік, паляцеў. Зляцеў, зараза, – сказаў Маруда. – Дзень жа такі, што на адным месцы і сабаку не ўседзець.

– Ну, тады будзь вольны і ты. Ляці, ляці. Толькі прыглядай, дзе і з кім сесці. А то і зусім не садзіся, лётай, пакуль крылы носяць. Не згубі крылаў.

Пажаданне старога настаўніка малявання Маруда не зразумеў. І трохі разгубіўся: ці то ён такі нездар, што і вераб'я няздольны намаляваць і з яго пасміхаюцца, амаль у каршэнь гоняць з класа. Не, тут было нешта іншае. Настаўнік сам адчыніў яму дзверы на волю, у калідор.

– Ідзі да свайго вераб'я. А малюнак твой застанецца ў мяне, на памяць.

Маруду толькі дай Бог ногі. Пабег, каб настаўнік не перадумаў, лётам, як яго верабей. Выпадак гэты надоўга згубіўся ў яго памяці. А калі прыгадаўся, паведаў сваім родным, тыя не паверылі. І колькі ён жыў, успаміналі і здзекліва рагаталі. А сам ён назаўжды запомніў свайго вераб'я. Помніў, але ў рэшце рэшт ён сам пачаў сумнявацца: а ці быў на самой справе ў яго верабей, ці маляваў ён яго калі-небудзь. Мо толькі сасніў. Але ў яго памяці назаўжды пасяліўся той жулікаваты верабей-верабейчык.

Так да скону жыцця і не здагадаўшыся, што ён празарліва ўбачыў, сцікаваў самога сябе на яве ў будучым. Намаляваў сябе, свой аўтапартрэт. І хутчэй падманны, таму што з намаляванага мала чаго здзейснілася. Толькі жадалася, мроілася, трызнілася. І абышло бокам. Паблякла пер'е, абвялі крылы. Стварыў сябе, аблашчанага небам і сонцам, абяцаннем, успамінам пра самога сябе з мінулага ці будучага, што, падобна таму ж вераб'ю, гадавалася і спелілася пад той жа далёкай пары дзедаўскай грушай, невядома як ацалелай каля школы.

Была тая груша вельмі старой, дзедам дзеда пасаджаная. Сёння такія ўжо не растуць. Была яна як хата навакольнаму свету, дзе шчыравалі божыя дзеткі-пчолы, панавалі, вольна вілі свае кублы спевагалосыя рознапародныя птушкі, тыя ж вераб'і. А ў сярэдзіне лета, нават не паспеўшы нацягнуць штонікі бегла па грушкі-падалкі няцямная яшчэ малеча. Апоўдні пасля касьбы адпачываў у яе сцішана засяроджаным, сялянскім руплівым цяньку і сам дзед – папіць кваску, адбіць касу, а то і прыкархнуць, стомлены ранішняй працай, спёкай дня, гадамі і пражытым векам. Вось адкуль быў малюнак самога сябе Марудам, пра што ён не ведаў у дзяцінстве і праспаў у сталасці.

З-за чаго падсвядома доўгія гады нудзіўся.

Мо і ў яго майстра таксама некалі і недзе, пэўна, быў свой верабей, таму, відавочна, і ён нудзіўся. Не, у групе, на працы быў гаварлівы і нават бойкі словам. А вока, слых, нюх на іх гарпэвушную пароду меў звярыналясны, пацанскі. Амаль дзетдомаўскі.

І неяк, здаючы майстру ці то нажніцы па метале, ці то цісочкі, Маруда падслухаў яго гаворку з Туянковым. Той таксама здаваў нешта выробленае ім, толькі неспасціжна чыстае, як не з-пад напільніка, а бархоткай глянцава адшліфаванае. Бляскам выдзірала вочы.

– Даўно прыглядаюся, Валера, чыстадзел ты з чыстадзелаў. Раней з металам рабіць даводзілася? – спытаў майстар.

– А як жа... з металам і ўсім іншым.

Майстар замоўк, толькі дзіўна так, як у шахтавы глыб паглядзеў у такі ж глыб вачэй Туянкова.

– Для сябе толькі робіш, ці на заказ, на продаж?

– Крыўдзіце, Аляксандр Дзмітрыч. На продаж нельга. Папросяць – зраблю. Забаўляюся.

– Глядзі, Валера, шкода мне твае рукі. Залатыя. Вох як далёка могуць цябе яны завесці, твае забаўкі...

– Не так ужо і далёка, Аляксандр Дзмітрыч. Тайга побач. І баракі там такія ж, як тут.

– Такія ды не такія, Валера. Не дай табе Бог спазнаць гэта.

Не, не маўклівым быў майстар у групе, на працы. Мо якраз таму, што гэта была праца. Тое, што асобна ад паўсядзённага, хатняга жыцця. І, нагаварыўшыся за дзень на працы па абавязку, увечары, дома, ён замаўкаў. Дый не было з кім асабліва разгаварыцца.

Адзін толькі гаварун, і той аднабаковы, каго можна было толькі паслухаць – радыё. Стары кароткахвалевы прыёмнік з пляцёна-палатняным бокам і адным падміргваючым зялёным вокам. Назвы яго Маруда не запомніў, дый зацёртая яна была, зашмальцаваная мноствам рук, мо нават іх вачэй і вушэй, ад чаго яму хацелася верыць.

Гаварыць жа асабліва аб нечым і Маруду, і майстру было нечага. Жыццё майстра было, пэўна, прыхавана, закаркавана ў ім самім, забіта нецямным узмахам нажа ў юнацтве яшчэ напачатку. Маруда свайго свядомага жыцця яшчэ не меў. І яны слухалі часцей і больш так званыя варожыя галасы. Прыёмнік пяўся варожа паклёпнічаць, гаварыў амаль чалавечым голасам. Толькі выразнага голасу амаль не меў.

Гаварыў на птушыных мовах, і адразу ці не на ўсіх. Зграева-шпачына, восеньскі-выраева, крумкачова і вяснова і вяскова-гракава. Мімаволі хацелася прагнаць тую птушыную зграю, пачысціць яе кубло ці хаця б прачысціць свае вушы, каб у галаву ўсё ж нешта ўкладалася і не даводзілася гадаць, ці сапраўды ён такое чуе і слухае.

Цікава назіраць, як недзе далёка-далёка бязважка і бесцялесна, местачковымі цырульнікамі ў страката-бліскучых, з зялёнай крапінкай лапсардаках, з падскокамі па раллі ці то свежаўзаранай зямлі касалапілі хуткавокія шпакі, сытна і грэбліва цягнуліся па скібах яшчэ паруючага ворыва шляхетна сцяжэлыя чэравам паважна-мажныя гракі. Касавурылася апярэджаная гракамі старая варона, падымаючы ў разорах парэшткі, недаедкі, косткі з панскага стала. Скрадліва і хапатліва, шчэбетна, асобна, збоку ад усіх

карысліва харчуюцца лёгканогія канаплянікі, разумеючы, што кожную хвіліну могут атрымаць ад старэйшых сваіх братоў у каршэнь і поўху. А па-над усім гэтым заклапочаным бягучым днём на неабмежаваных блакітных ходніках неба паветрана і ветрана, прывабліва захінуўшы галоўку двухкаляровым шалікам, шпацыруюць цнатлівыя ластаўкі, паказальна амурна вытыркнуўшы стрэлы хвастоў, цаляючы імі то ў сонца, то ў тых, хто на зямлі.

Не зважаючы на аддалены ад яго бязладны птушыны грай і гоман, напружваўся, каб тое-сёе пачуць і зразумець. Паклёпы былі праўдзівыя. “Голас Амерыкі” паклёпнічаў пра падзеі ў іх горадзе, колькі арыштавана і зноў пайшло ў сваю былую зону, колькі знікла невядома куды і дзе. А з хлебам як былі, так і застаюцца перабоі: учора стаяла страшэнная чарга ў булачную нумар... Усім хлеба не хапіла.

– Глядзі ты, – каратка дзівіўся майстар, скоса пазіраючы на Маруду. – Да ўсяго даходзяць, усё бачаць і ведаюць.

Замаўкаў і дадаваў, пэўна, толькі для Маруды:

– Брахуны. Якія ж брахуны.

Маруда быў нязгодны, з хлебам не брахалі. Праўду брэшуць. Толькі не сказаць, каб тая праўда надта кранала Маруду. Яна толькі слізгацела па яго свядомасці, закопвалася там, хавалася пад цёкава-бягучым насыпам будзённасці. Але не прападала зусім, запасілася невядома для чаго і чаму. А тады – люстраное без следу сціранне. Звыклае адмаўленне, укладзенае ў яго свядомасцю. Знакавае, хаця ў той час гэта быў толькі пачатак рэзруху той свядомасці. Пачатак панавання інакшай знакавасці, абразліва выкрывальнай і адмаўляльнай з-за мноства праўд, як і падманаў, парожняй балбатні пра бясконцыя перамогі і часовыя цяжкасці, святаў без святасці. І як следства – збегу з рэчаіснасці, сыход у іншы свет, віртуальны, з неасэнсаваным яшчэ і сёння велізарным падманным і непадманным светам. Сапраўдны наркотык бягучага і будучага, зводзячы ці не кожнага да сутнасці гаваркой Элачкі-людажэркі..

Вось і тады, калі майстар падлавіў яго з чужым, чалдонска-сібірскім “чо”, ён мімаволі адчуў жаль, што не будзе болей ціха маўчаць аб сваім у пакоі майстра і варожых галасоў больш не пачуе. А хацелася б, хацелася чагосьці яшчэ нязведанага, свежага.

Пасля паклёпніцтва варожых галасоў часам, перад сном ужо, ці не апоўначы слухалі шчабятлівае пажаданне кітайцаў: дабранач, дарагія сібіракі, часова пражываючыя на тэрыторыі Кітая. І тады майстар з Марудам пачыналі смяяцца. Хаця смеху таго Маруда таксама не разумеў: кітайцы ўсё ж ніколькі ім не чужыя, рэвалюцыю зрабілі, сацыялізм будуюць, у камунізм ідуць. Чаму ж яны так заядаюцца? Як ні дзіўна, але ў адну дуду дудзеў з ім, хаця і не без горычы, ці так здавалася Маруду, майстар:

– «Сталин и Мао слушают нас...» і, падобна, недарэчы: «Хинди-русси пхай, пхай...»

– Усё В’етнам, В’етнам, а калі ж і нам?

Дзівіў, ставіў, задаваў майстар пытанні Маруду. І безадказныя. А смылела ўжо, смылела адказаць, агледзецца, азірнуцца і паразумнець. Ён не адчуваў у сабе спакою паразумення, і калі ранкам, пасля ночы з майстрам, прыходзіў зноў у вучылішча. Там, у інтэрнаце, адбывалася нешта такое, што па-за яго свядомасцю. Ішла вайна, бойкі паміж не толькі чужымі, наждакамі і другагоднікамі, але і сваімі. І бойкі лютыя. Сцяна на сцяну.

Навала, паляванне, пагоня. Адлоўлівалі, як мечаных ці заразных, тых, хто ў чацвер ці пятніцу пабываў у кабінеце нампаліта. Білі такіх гуртам, і калі не да смерці, то да беспрытомнасці, не зважаючы на вулічнае, пацанскае – ляжачых не б'юць. Білі і ляжачых, жорстка, носцакамі. Неяк яго, як старшыню старастата, папрасілі схадзіць у бальніцу, праведаць хлопца другога года ўжо навучання, украінца Рабаконя, распытаць, хто і за што яго біў, той конь сапраўды быў у рабых яблыках, ад пят да галавы: пляміста чорна-сіні, у злосна-зялёныя дзікія яблыкі. Штучныя. Вясновыя, але па-восеньску жоўклыя, звялыя.

– Хто так цябе? – спытаў Маруда.

Рабаконь адмовіўся гаварыць, міргаў шчылінкамі заплылых у пухліне вачэй і маўчаў. Доўга думаў. Нарэшце нехаця мовіў адчапнога:

– Ніхто... Сам. Пчолы...

Ліхія пчолы – у маразы пад сорак. З гумарам быў украінец Рабаконь. І так абыходзіліся не толькі з Рабаконем. Свайго аднагрупоўца, дзетдомаўскага выхаванца з Гомельшчыны, Маруда адбіваў сілай ужо. Яго не проста білі, але імкнуліся запіхнуць у тумбачку і скінуць з другога паверха. Хлопец быў паглядны. Рослы, дужы і кампанейскі, не жмот. Маруду не пашкадаваў, даў панасіць сваю матроску, якой ніхто з дзетдомаўцаў не меў. Велюравую, з замком і адкідным каўнерам – хвацкая рэч, толькі маркая, ліпла ўсё да яе, як да сабакі.

– Што ж гэта вы творыце!– кінуўся Маруда на дапамогу земляку, амаль сябру.

– А сука ён, сука! Ссучыўся!.

– Якая ж сука? Як ссучыўся? Я ў адным пакоі з ім жыву, ложкі амаль усутыч.

– Ну і адыдзі. Ці таксама яго паветрам надыхаўся? Канай адсюль, пакуль цэлы.

Маруда канаць не пажадаў:

– Спыніцеся, спыніцеся, пакуль не позна!

– А то?

Маруда і сам не ведаў, што “а то”, хаця добра яшчэ ў дзетдоме засвоіў: двое б'юцца, трэці не лезь, а то аб'ядноюцца і прымуцца за разнімальніка. Выратавала гучнае некага нябачнага з калідора:

– Атас, атас! Шухер!

Біткі разбегліся. Але хлопец, якога ён выратаваў, нізка апусціўшы долу галаву, таксама сышоў: ні ўдзячнасці, ні абурэння, разгубленасці ці злосці на тое, што з ім хацелі ўтварыць. Маруда нічога не разумеў, ад свайго, дзетдомаўца, ён такога не чакаў. Былі ў іх дзетдомаўскім брацтве свае няпісаныя правілы. І тыя, хто трымаў верх, і шалупонь, нават шакалы, сукі, што ціснуліся да выхавацельніц, абавязаны былі трымацца іх, і трымаліся. Гонар мелі. На дабро адказвалі дабром. А тут...

Увогуле тут было шмат чаго незразумелага Маруду. Яму і яго хаўруснікам-дзетдомаўцам здавалася, што ўсе дзеці толькі казённыя, правільныя, таму што дзяржаўныя. А ўсе іншыя, пры бацьках, – выключэнне з правільных, больш і глыбей у сваёй натуры аднаасобнікі, прыватнікі. Вера ў сваю выбітнасць, прыналежнасць дзяржаве была непахіснай. Дзяржава была ім і маткай, і бацькам. Хаця і падсвядома, але і яны адчувалі сябе толькі казёнымі, дзецьмі айчыны, дзяржавы, якая ніколі іх не кіне, не вырачыцца.

Забягаючы крыху наперад, варта адзначыць, што мо якраз гэта і згубіла

шмат і шмат каго з пакалення дзетдомаўцаў. Вера, што яны пры дзяржаве, а дзяржава пры іх, – агульная памылка і аблуда ўсіх не толькі дзяцей-сірот у тым, што ў гэтай краіне ўсё лепшае ім, таму як яны – кветкі жыцця. Памылка і спадзяванні крапіўнага насення, пустазелля, ад якой найбольш пацярпелі дзетдомаўскія дзяўчаты, верылі, што ідуць чыста і ў чыстае жыццё. А жыццю нічога не шкодзіла апаскудзіць гэтую іх веру.

А найбольш прававерныя, часцей з так званых разумнікаў-батанікаў, заклапочаных лёсам дзяржавы і савецкага ладу, страціўшы веру, ішлі ў поўнае адмаўленне сваёй былой прававернасці.

Пры ўсім гэтым, не крывячы душой перад часам, ладам і ўладамі, нельга замаўчаць і тое добрае, што мелі тады так званыя казённыя дзеці, мелі ў дзетдамах, рамеслухах і нават у дзіцячых прыёмніках-размеркавальніках для беспрытульнікаў. Дастаткова, пэўна, толькі аднаго – гогалеўскага “Рэвізора” ў пастаноўцы нейкага маскоўскага тэатра я паглядзеў, будучы ў дзіцячым прыёмніку пад вартай, амаль на турэмным утрыманні.

Ці магчыма сёння такое, гледзячы на так званыя сямейныя дзетдамы, у якія, не вялікі сакрэт, так званая апека часам гвалтам, прымусова памяшчае дзяцей, зусім не сірот. А самі гэтыя сямейныя прытулішчы...

Ці магчыма там, як было ў нас, спецыяльнае мастацкае выхаванне: музыка, маляванне, хор і спевы, навучанне сталярнай справе, слясарнай, азам тэхнікі. А для дзяўчынак – рукадзелле, валоданне швейнымі машынкамі, пляценне карункамі, далучэнне да кухарства і, нарэшце, – клопат і догляд дзяцей малодшых груп, амаль яшчэ немаўлят, ды шматлікія іншыя заняткі. І экскурсіі з палескай глыбінкі ў Мінск, Кіеў, Ленінград. Сёння дзяржава амаль цалкам распісалася ў сваім бяссіллі, няздольнасці выхавання дзяцей-сірот. Амаль усё аддадзена на водкуп часцей усяго людзям выпадковым і не надта ці зусім педагагічна неадукаваным. А хворыя дзеці ці не зусім прыгавораны да смерці. Дзяржава выраклася іх, спадзяючыся толькі на выпадковую дабрачыннасць. Глядзець па тэлевізары звароты да міласэрнасці грамадства на хворых дзяцей невыносна і крыўдна, а больш абуральна: да чаго вы давялі людзей, рупліўцы, дойліды чалавецтва. Пра якія кветкі жыцця балбочаце ў сваіх выканкамах, думах, палатах. Самі вы сапраўды ў сваіх белакаменных палатах – Вяснянках, Заценях, Драздах: сыты галоднага ніколі не разумеў і разумець не будзе, калі ён яшчэ і пры карыце.

А колісь, цяпер толькі і скажаш колісь, і – гэта было даўно і няпраўда. Праўда. Пад дзіцячыя дамы аддавалі лепшыя будынкі. У дзіцячыя дамы нават у вёсках ішлі выхавацелі толькі з вышэйшай адукацыяй. Прынамсі, на Гомельшчыне дзяўчаты і юнакі з Мазырскага і Гомельскага ўніверсітэтаў, на той час інстытутаў. А хворых дзяцей лячылі і выхоўвалі ў так званых лясных школах, дзе і харчаванне палепшанае, і паветра чысцейшае, і лекары свае, і прырода – усё як у сённяшніх Драздах і Вяснянках, дойліды дваццаць першага стагоддзя.

Ці не таму пасляваенныя сіроты – безбацькавічы, гаротнікі адносіліся да сваіх равеснікаў, тых, хто пры бацьках, як да пасынкаў айчыны. Лічылі, пацвельвалі іх мякіннікамі: казённы хлеб выпякаўся ўсё ж з сапраўднай мукі, а свойскі, хатні – з дамесам лебяды, мякіны.

Але справа была не толькі ў гэтым. Глыбей, складаней. І, верагодна, тычылася яна і іх, казённых дзяцей. Іх былых бацькоў, хатаў, вёсак і мястэчкаў. Гэта – амаль кацiная хатнасць, местачковасць і шкодзіла іх дзяржаўнасці. Іх натуральнасць, існасць і існаванне спакон веку абапіраліся і

грунтаваліся на іх жа саміх, іх самасці. Толькі тая саборна-земская каранёвая самасць яшчэ ў непрагляднай мінуўшчыне панесла, загрубела ад гвалту вякоў, а мо і тысячагоддзяў, часу, прасторы, рабавання і гвалтоўнасці геаграфіі, гісторыі, сваей скваплнасці і суседзяў, бясконцых стагоддзяў гону і пагоняў. Чаму тое іх дзіця абярнулася толькі абарціраваным выкідышам, так і ненароджанае захлынулася, зайшлося яшчэ ва ўлонні, у чэраве маці. Сканала. Цяпер неяўленае і па-людску не пахаванае, атрутна гніло ў жывым целе парадзіхі-Зямлі, няздолеўшай зачаць нешта новае з адчуваннем сваіх каранёў, мінулага, мовы, дзяржаўнасці. У лепшым выпадку, калі нешта і завязвалася і нараджалася, то бастардава-байстручнае, местачкова хітрыкаватае.

На вялікі жаль, на гэта хварэў, пакутаваў і край, зямля Маруды, што ён пакінуў. Хварэла даўно і, падобна, ужо невылечна.

Тут жа, у Сібіры, усе было крыху інакш. Тут, надзіва, захавалася і ўзрасла сярод марозаў і халадоў, чысціні, блакіту неба і бясконцасці прасцягаў зямлі, усклянь перапоўненых рэк, непаддымнасці горных кражаў і неахопнасці тайгі – кедраў, піхтаў, лістоўніцаў, – непарыўна, адзіная з усім гэтым, з гэтага ж і выспелая іншая парода людзей. Парода людзей, каранёва не тутэйшых, абставінамі, прагай пошукаў так званага Беламор'я, адкрыцця новай жыткі, па сваёй ахвоце і вымушана, доляй і нядоляй занесеная сюды вятрамі беспрытульнасці, адчаю і надзеі на пастаяннае жыхарства. Але пра ўсё гэта ў свой час і ў адпаведным месцы.

Пакуль жа пакой вызваляўся ад шманальнай набрыдзі санітараў, майстроў, выхавацеляў. Апошнім пакінуў яго майстар, нібы штосьці прадчуваючы, з жалем кінуўшы вокам на Маруду. Мо і на самой справе нешта прадчуваў, як прадчуваў і сам Маруда. Чакаў яшчэ з пачатку тыдня, а цяпер і прыспешваў, асабліва ўчора з вечара, і ўсю ноч таго, што сёння павінна здарыцца, адбыцца. Яшчэ ж не было выпадку, каб наждаку, што падняў руку на другагодніка, даравалі, спусцілі на тармазах: дай патачку – на галаву сядуць.

Паступова на змену справіўшым сваю выхаваўчую ролю падыходзілі новыя людзі. Жыхары інтэрната, што збеглі, пэўна, ад кантраліруючага іх вока, шмону. А таму, як быў выхадны, народу станавілася густа. Спакваля падыходзілі і пад'язджалі пасялковыя, не інтэрнатаўскія, аднагрупнікі Маруды, пры бацьках, тыя, што месціліся ў бліжэйшых пасёлках ад вучылішча. Народу пакавалася ў немаленькі дзетдомаўскі пакой даволі густа, шчытна.

Абселі ўсе ложкі – санітары адышлі, цяпер можна не асцерагацца – занялі ўсе крэслы і нават тумбачкі. Выкацілі на сярэдзіну стол і пачалі забіваць казла, на высадку. Усе занятыя, калі не даміно, то шашкамі, гульнёй у Чапаева – пстрычкамі збівалі з драўлянай дошкі шашкі праціўніка. Усе былі пры справе, адзін Маруда заставаўся ні пры чым і ні з кім, як воўк у дазоры, струнна напружаны целам, сядзеў каля дзвярэй і думаў, што ўсё ж трэба збегчы. Не для вачэй гэтай грамады чакала яго маючае адбыцца. Такое павінна рабіцца без прызору, дагляду. Трэба збягаць, сыходзіць. Трэба.

Не паспеў. Вылецела, прайграўшы ў даміно, адна пара. Другая толькі заняла іх месца. Разабралі костачкі. З гучным камянёва-касцяным стукам ляпнулі імі па кедровай стальніцы: адзін – адзін. Тут яны і з'явіліся, чалавек пяць-шэсць, таксама адзін у адзін, нібы іх тым стукам і воклічам запрасілі касцяной мовай даміно. Маруда расслабіўся, разняволена, на ўсе грудзі хапануў трохі спёртага ўжо мноствам прысутных паветра. Чаканне закончылася, пачыналася дзея.

І хаця Маруда не ведаў, як яна будзе разгортвацца, страх, напружанасць

чакання адышлі. Галоўнае было не сарвацца, не заенчыць, не запрасіць літасці. Яе ўсё роўна не будзе. Дык няхай усё адбудзецца, як адбудзецца. З мардабоем, мо нават зломаным носам, юшкай, паламанымі адной-дзвюма рабрынамі, але з годнасцю з яго боку. Праўда, пры ўсім гэтым была і акалічнасць, пытанне, якое не давалася яму. Як паводзіць сябе. Вельмі складаныя і акалічнасць, і пытанне.

Яшчэ па дзетдоме ён засвоіў цвёрдае і галоўнае правіла бойкі: бі першым. А калі нападнік не адзін, і табе з ім не справіцца – прыём нумар адзін: дай Бог ногі, уцякай. Цяпер жа гэта было выключана. Біць першым, калі іх шасцёра – атрымаць адразу ад шасцярых, злосна распаленых адказам – замнога аднаму. А ўцякаць – дарога перакрыта. Праз шасцярых не працерабіцца да дзвярэй. Адно і толькі адно было наканавана Маруду – быць безумоўна і безадказна бітым.

Але і тут – як бітым? Вось якое пытанне і якая акалічнасць, што невыносна турбавалі яго: махацца, біць ці не біць самому. Моўчкі скарыцца і трываць – не па-пацанску, нягодна. Адказваць – больш прымальна, толькі тады ці не адрыгнецца гэта, ці не панясецца рэхам па ўсім вучылішчы. У бойку кінецца ці не ўвесь інтэрнат – наждакі і другагоднікі. А такія наступствы відавочныя, цалкам прадказальныя. І даміношнікі, і чапаеўцы, і яго, Маруды, дзетдомаўцы і мясцовыя даўно ўжо здагадаліся, чаму і навошта завіталі да іх, наждакоў, другагоднікі. Таму так гучна і кладуцца костачкі даміно на кедровыя дошкі стала.

“Казла” забівалі з надсадай, жорстка. Гулялі, як ужо біліся, зацята, цяжка. Адчайна і высока ўздымаліся рукі, утрымліваючы цацачныя лакавана-чорныя труны з вострымі закрайкамі і прапілінамі пасярэдзіне і, падобна, могілкавым узорам на другім баку. Чарнота рэзала яму вочы, а белыя касцяныя вочкі даміно матыльковымі сняжынкамі ўскідваліся, падміргвалі, ападалі, як не жадаючы бачыць яго. З пляча, чакаючы, клаліся ў кедравасць стала, так што, не выключана, у гульцоў рыпелі ад натугі зубы, адгукваліся якім сківіцы і рэбры ў Маруды. А ў чапаеўцаў з пошчакам і цокатам конікаў у трохі засохлай ужо канюшыне круціліся, як у віры, хуткалётныя шашкі, жалобна чорныя і святочна, ахвярна, белыя. Зляталі з шашачных і шахматных дошак, крывабока каціліся па стале, супакойваліся пад забойнай рукой чапаеўца.

Усё гэта вымагала адпаведнасці паводзін і Маруды. Дзетдомаўскай пэўнасці і жорсткасці адказу тым, хто прыйшоў па яго скуру. Толькі ў яго характары мелася неадольная і зусім не дзетдомаўская, відавочна, ганебная загана.

Не мог, няздольны ён быў першым падняць руку на чалавека, увогуле не мог. Нешта забароненае было яму ў твары, які патрэбна біць. Гэта было горай, як біць самога сябе, зняважаць сябе. А свой і чужы твар, сваю руку трэба шанаваць, ашчаджаць, і без таго грахоўныя яны, грахоўныя і святыя.

Маруда, хаця і не адчуваючы ў сабе асаблівай святасці, ніколі ў дзетдоме, да дзетдома і пасля не парушаў гэтага запавету, не ведаючы нават, ад каго ён сыходзіў і ці на самой справе ёсць такі запавет. Яму – быў.

А што тычыцца яго бойкі з лепшым сябрам у дзетдоме, ды і тут, во ён і зараз стаіўся ў куце на сваім ложку, не толькі кулакі сцяў да болю, але і вочы да болю засляпіў, то тады Маруду, яго руку, як навёў нехта, прымусіў біць. Па вялікім рахунку не за чаравікі, залітыя вадой і выстаўленыя на мароз, каб займець боты. За сваю згубленасць і страту на такой вялікай, але

несправядлівай зямлі, на якой усім хлопчыкам не хапала ботаў. За хлопчыка, якога зямля пусціла ў свет, але не дазволіла мець патрэбны яму абутак, за ваўчынае лясное існаванне басанож у куранях у час вайны і пасля яе.

...Звераваў босы, у лахманах, не маючы для сугрэву нават звярынай воўчай скуры, поўсці. Прагнуў вырвацца з пячорнага, як і ў яго далёкіх продкаў, жыцця. Абутак жа, пашытыя бацькам яшчэ пры міры боты на вырост, ён згубіў, калі бегаў у тыя пячоры, у час пагоні, палявання за ім і за яго маці з сястрычкай варожых самалётаў. Яны ішлі ў бежанцы, бежанства ад гонаў вайны. Набліжалася вясна, але снег быў вялікі, хаця ўжо і падталы, вадзяны спадыспаду. Тая вадзянасць абліпам і сцягнула яго боты, і ў выратавальныя хмызы, хвойнік, ён дапяў, уцякаючы ад самалётаў, ужо босым. Босым каля куранёвых вогнішчаў, ён сам не ведае, да якога часу і жыў. І ногі яго схапіліся сінню з чарнотай, нібы ў негра. І ўжо ў міры ён звык хадзіць басанож. Звык, таму што некаму было пашыць ці за нейкія шышы прыдбаць новыя боты. А хацелася, хацелася, таму і лёгка паднялася яго рука на сябра, што так бязбожна абышоўся са сваімі чаравікамі, якіх свет яго пазбавіў.

Цяпер жа абставіны былі зусім іншымі, без спасылак на запаветы, залежнымі толькі ад яго, Маруды, вартасці, памяркоўнасці – і характару. І шасцёра другагоднікаў выпрабоўвалі яго на трываласць і вернасць сабе, як выпрабоўвала маленства безабуткова. Гэта былі электравознікі, што лічыліся элітай у вучылішчы. Дарэчы, як і яго прафесія – электраслесар. Розніца ў адным – слесараў набіралі не зважаючы на склад – моц, рост, паставу. Бралі ці не ўсіх, нават самых задрыпаных.

Электравознікі ж былі адзін у аднаго. Высокія, рослыя і, як думаў Маруда, разумныя, бо і электравоз – машына разумная, вялікая, цяжкая і хуткасная. Сярод гэтых выбітных і рослых вылучаўся хлопец ці не пад два метры, на якога Маруда, не ведаючы нават яго прозвішча, заўсёды азіраўся. Паважаў завочна і вочна, бо тыя яго вочы былі заўсёды добрымі і замглёна-ўсмешлівымі, як у разумнага сабакі. Падлеткава-хударлявы, гнуткі, гонкі і тонкі. Не паспеў яшчэ набраць цела, але ўжо абяцаў: мяса нарасце – косці ёсць.

Астатнія былі не такімі кідкімі на першы і нават на другі пагляд. Але каржакавата, калодна-мажныя, груваісткія. Знаходзіўся сярод іх і добры знаёмец Маруды. Разам з ім ён, па запрашэнні Жаны, хадзіў на вечарынку да дзяўчат. Гулялі ў бутэлечку, круцілі яе, і таму, на каго яна гарлавінай гледзячы, спынялася, давалі штраф, пакаранне. Электравозніку выпала пацалаваць Жану. Яна збегла ў другі пакой. Электравознік кінуўся за ёй. Сяброўка ўз'елася на яго, Маруду:

– Ідзі, даганяй, вызваляй, не хоча і не будзе яна з ім цалавацца. Яна з табой жадае.

І Маруда пайшоў ужо. Але тут яму чамусьці прыгадалася іншая дзяўчына, што ўсё яшчэ і сярод сібірскіх сумётаў бегла па маі праз квецень дзетдомаўскага саду. Ён збіўся з нагі і прыпыніўся. А з пакоя, дзе схавалася Жана, выхапіўся электравознік, трымаючыся рукой за пачырванелую шчаку з адбіткам усіх пяці пальцаў. Апаліў яго позіркам. І яны амаль разам пакінулі вечарынку, разышліся ў розныя бакі. Цяпер жа ён не зводзіў з Маруды вачэй, як выбіраў, куды прыкласціся, даць плескача.

Сярод гэтага ваяўнічага паўтузіна быў яшчэ адзін непрыяцель Маруды. Хаця сказаць цвёрда “непрыяцель” – пакрывіць душой. Маруда з ім ніколі не перасякаўся, але чамусьці грэбаваў яго тварам, асабліва ілбом.

Вялікага, пукатага і белага, як абсыпанага мукой. Што за непрыязнасцю да яго твару, ілба стаяла, Маруда і сам няздольны адказаць сабе. Бывае, надараецца – без дай прычыны верне ад адной толькі знешнасці з душы. Вярнула ад яго Маруду і цяпер, чаму ён быў амаль рады – апаганіць яму морду, дык хоць чалавек непрыемны, гідкі.

Двух, чацвёртага і пятага, Маруда ведаў толькі прыблізна, шапачна. Бачыў час ад часу, і тое здалёк, пэўна, з мякіннікаў, мясцовыя, з так званага падкладу. А вось шосты, як увабраны ў яго вочы, з начных яго трызненняў. Кірмашова-вёрткі, чарнявенькі пад хмарнае надвор'е і такі ж, як у пахмурны дзень, непрыкметны. Такому, пэўна, у натоўпе зручна чужыя кішэні чысціць. Мо Маруда залішне на яго наракаў. Але ўсё роўна – не, не з электравознікаў. Ні вухам, ні рылам не выйшаў у гэтую спецыяльнасць, эліту гарпавушную. Тыпавая шасцёрка, шакалёнак. Той, каму ён пусціў юшку на парозе сталоўкі, з-за каго ўсе яны тут і з'явіліся.

Маруда і чакаў, што гэты шакалёнак першым ударыць яго. Надта ж ненавісны быў ён яму, Маруду, цярплівасці не хапала. Але нянавісць нянавісцю і нецярплівасць – нецярплівасцю, ды сваё месца шакалёнак ведаў – толькі пасля, пасля і па дазволе старэйшага. Шасцёрка ёсць шасцёрка. І той старэйшы, якога Маруда лічыў за дабрачка і разумніка, ударыў першым.

Гучна ўпляскалася ў стол костачка даміно, ускрыкнула кедровая стальніца – ён даў каманду кулаком тым, кім верхаводзіў. Але сам, падобна, і не ўдарыў, а больш абразіў і танклявым голасам, што ўвогуле не стасавалася з яго аблічам, знешнасцю.

– Будзеш ведаць, як на старэйшых рыпацца, хвост пісталеціць.

У Маруды ўжо на языку было апраўдальнае, што ён толькі піхаўся, каб не прышчамілі ў дзвярах сталоўкі, а не рыпаўся і не пісталеціў хвост. Але спахапіўся і прымусіў сябе змоўчаць, увогуле не адкрываць рота – цалей будзе. Усе шасцёра, хто куды патрапіў, улілі яму больш па тулаву, па рэбрах. Пэўна, асцерагаліся азначыць твар. Маруда, скрыжаваўшы на грудзях рукі, далонямі гатовы засланіць нос і вочы, засяродзіўся на сваіх аднагрупоўцах.

А яны працягвалі займацца тым, чым займаліся і дагэтуль. Маруда спадзяваўся, што яны кінуцца бараніць яго. Але спадзяваўся дарэмна. Мо яны чакалі нейкага руху, знаку ад яго, што цалкам было абгрунтавана. А ён быў абязгучаны і знерухомелы. І білі яго без слоў, моўчкі. Пад вычакальна напятую бязмоўнасць і цішу кожнага, хто знаходзіўся ў пакоі. Толькі грук, касцяны стукат даміно ды хісткае калыванне, кулянне з боку на бок па шашачнай дошцы збітых чапаеўцамі, гульцамі ў Чапаева, белых і чорных шашак.

У сваім здранцвенні, знямеласці Маруда ўсё ж разумеў сваіх, дзетдомаўцаў, іх стоенасць, амаль нечалавечы інстынкт выжывання. Не вытыркацца, не быць у аніякай бочцы затычкай, калі цябе не просяць. За чым упаравень з іх жыццём стаялі і нежыць, быццё, небыццё і смерць. Смерць на іх вачах маці, сястры, брата, бабулі. І іх уласная смерць. Калі іх дзерлі напапалам, тапілі ў калодзежах, трушчылі галовы аб вугал хат. Нават часам і іх саміх, іх жа маці душылі ў балотных купінах, каб яны стогнам ці плачам не навялі карнікаў-немцаў. Забівалі і ў лесе, садзілі ў цягнікі і самі, засляпіўшыся ад болю, збягалі. Але іх пакуты, а часам і смерць, што жыла ў іх ці побач з імі, іншым разам абуджала іх неверагоднай, нечалавечай лютасцю. Як у яго сябра Алеся Адамені. Дырэктар іх дзетдома згвалтаваў дзетдомаўку і пайшоў на дрывотню да хлопцаў, што калолі дровы. Пра гвалт было яшчэ невядома, ціха. Ціха сярод дарослых. Дзетдомаўцы ж,

як хадзячае радыё, ведалі ўсе навіны, добрыя і благія, нават раней, чым яны адбываліся. І пра гвалт ужо ведалі.

І толькі дырэктар наблізіўся да хлопцаў, як Алесь схапіў бярозавы ледзь падымны цурбанок і кінуўся да гвалтаўніка. Той імгненна ўсё зразумеў і заечымі петлямі пабег па дзетдомаўскім падворку, а потым і па вуліцы. Да самай міліцыі, добра, што яна суседнічала з дзетдомам. Міліцыя і ўратавала дырэктара, зачыніла за ім дзверы. А Алесь біў па іх бярозавым цурбаком, пакуль не разнёс да трэсак пад ухваленне ці не ўсіх дзетдомаўцаў.

Цяпер жа Адаменя, сцяўшыся каменем, сядзеў на кукішках у куце свайго ложка. І не толькі ён адзін быў такі засяроджаны. Усе ў пакоі адразу пацяжэлі і скамянелі. Маруда пазнаваў і не пазнаваў іх. Ведаў кожнага, але цяпер яны як ачужэлі яму. Дзявоча-станісты Васіль Кайстра застыў з дурнавата, ці не ў самым пачатку прыходу другагоднікаў, шырока разяўленым ротам. Увогуле рот яго не закрываўся ніколі, як мух заманьваў ці дапамагаў вушам лепей чуць свет, наваколле і музыку, наконт якой аднойчы абурана паскардзіўся:

– Чаму гэтая музыка ўсё лёгкая ды лёгкая, калі ж цяжкая будзе?

І лёс яму, Кайстры, як пазней ужо даведаўся Маруда, быў угатаваны таксама цяжкі. Як ні дзіўна, але выйшаў з яго выбітны злодзей, злодзей у законе, берагун абшчака, з-за якога яго ўрэшце рэшт і забілі, што ўвогуле прароча, годна стасуецца з яго прозвішчам: кайстра – торба, кашалёк. Маруда спрабаваў моўчкі нешта давесці яму праз яго шырока адчынены рот, мо яго будучы лёс, але не здолеў....

Як не здолеў прабіцца і да Мішы Крэчкі з Андрэем Смольскім. Дзетдомаўцы, але не з яго дзетдома. Адзіныя ў групе, што скончылі дзесяцігодку. Толькі, па ўсім, невылечна хворыя, мо і ад навукі. Смольскі відавочна ад навукі. Галава – шапку не маглі падабраць, больш за шэсцьдзесят пяты памер. Але ж, як высветлілася пазней, вялікай не ад мазгоў. Вадзянка. Хварэў, толькі ўжо на сэрца, і Міша Крэчка. Усёй групай дзівіліся, мацалі і ціснулі яго рукі, цела. Імгненна, хаця і ненадоўга, утваралася ўпадзіна-ямка, хоць вады туды налівай. Іх абодвух завезлі ў Сібір і прызначылі да будучых шахцёраў, па ўсім, таму, што здаровых дзетдомаўцаў у тую Сібір выбралі ўжо да апошняга. А шахта-людажэрка прымала, паглынала ўсіх. Толькі не ўсіх адпускала, не пераварыўшы, на паверхню. Таму мо і выракаўся ў яе лезці Сямён Шуткарэвіч, спасылаўся, што не скончыў яшчэ дзесяцігодку. Прасіўся назад у дзетдом – адвучыцца і абавязкова вернецца ў Сібір. І, як ні дзіўна, дамогся свайго. Адправілі яго з Сібіры ў дзетдом на вучобу, у дзясяты клас.Толькі ў Сібір ён ніколі ўжо не вярнуўся.

Пакой, як Ноеў каўчэг, савецкі толькі, увабраў у сябе рознай твары па пары: беларусаў-дзетдомаўцаў, украінцаў, русакоў і іншых, тых, каго не адразу можна было і прызнаць па пародзе. Быў літовец, Віцька Крэкшчунас, па мянушцы Крапчэнас, сапраўды крапак; як Смольскаму шапку, яму не маглі падабраць чаравікі. Выдалі сорак пятага памеру, большых не знайшлося. Але і яны яму аказаліся малымі. І ён ці не ўсю восень, паныла звесіўшы, як бусел, дзюбаты нос, прастаяў на вуліцы ў лужы каля інтэрната, каб чаравікі размяклі і не ціснулі.

Быў інтэлігентны і далікатны італьянец Лукаш Бартулі, якога паважалі больш не за інтэлігентнасць і далікатнасць, а за паходжанне, прозвішча – за італьянства. Таксама ж было і з немцам, хаця крыху меней, ніжэй. Наглеў – было яго рускае прозвішча. Фёдар Наглеў. А на самой справе быў

ён Тэадорам Нагелем. Меліся і зусім нечаканай пароды і нацыянальнасці хлопцы. Невядома, якім чынам патрапіў у Сібір і ў вучылішча нават адзін ненец, Артур Кеплер. З гэтым аленеводам Маруда ў час уборкі ўраджаю на цаліне пасвіў кароў. Абодва яны пайшлі ў пастухі таму, што ім давалі для выпасу коней. Толькі без сядла. Яны вытрымалі нядоўга, ці не праз тыдзень ледзь злезлі з іх, так намулялі ср...кі. Яшчэ тыдзень вучыліся проста хадзіць, рабіць на таку і сушылцы зерня.

Быў той аленевод, як і ён, Маруда, утрапёны, зацугляны ў працу, як, дарэчы, і так званыя мясцовыя, карэнныя жыхары, татары, напрыклад. Найбольш – шахтавыя лесагоны, прыроджана-смуглявыя ўспатнелым целам – рабілі, круціліся па штрэках і квершлагах мо нават з большым напалам і спрытам, чымсьці вавёркі – рабілі без сарочак. Вёрткія, паджарыя. Гналі крапежны лес па канвеерах вугаляпускавых печаў, нібыта па наравістых гарнаводных рэках. І забойшчыкі, і праходчыкі, і крапільшчыкі, у якіх ў лесагонах былі татары, маглі не сумнявацца – з-за іх замінкі не будзе.

З Кеплерам жа неяк ужо напрыканцы вучобы, на шахтавай практыцы, робячы з мантажнікамі, Маруда выцягваў з закінутага штрэка рэштакі і ланцугі ад скрабковага канвеера. Участковы механік, што даў ім такое заданне, у канцы змены прыйшоў праверыць, як яно выконваецца. Зірнуў на гару здабытага металу, на якой ненец з беларусам прыселі адпачыць, і здзіўлена прысвіснуў:

– Гэта вы адны столькі, уручную?

Хлопцы прамаўчалі: вядома, яны адны. Не коньмі ж. Здзіўляцца і свістаць механік меў усе падставы. Плёну ў той іх рабоце амаль не было. Зрэдзь толькі часу ў шахтах тае пары двойчы выкарыстоўвалі металёвыя рыштакі і ланцугі, асабліва ў старых, не выключана, загазаваных, не праветрывальных выпрацоўках: гары яны гарам, жалеза на іх век хопіць. Ні беларус, ні ненец тады гэтага яшчэ не ведалі, таму так аддана і самагубна апраўдваліся.

Увогуле ненец быў хлопец што трэба – і ў побыце, і знешне. Русявы, з рыжынкай і паляшуцкім ластаўчыным рабаціннем залатога адцення, з усіх бакоў гожа, паглядна ачасаным, чамусьці рымскай апрацоўкі тварам, з такім жа, як высечаным з мармуру, рымскім носам. Адным словам, выліты арыец, большы арыец, чым сапраўдны арыец Наглеў.

І сярод гэтага мноства парод, нацыянальнасцей, гісторый і геаграфій бязмежнай пакручаста-складзенай краіны меўся адзін, прыналежнасць якога Маруду так і не ўдалося вызначыць. Іван Іванавіч Іваноў. Аднекуль таксама з Поўначы, з малалікага выміраючага народа, мо і адзін ацалелы з яго. Ганарыўся, быў вельмі рады, што паступіў і вучыцца ў вучылішчы: закончу, вярнуся дамоў, стану прэм'ер-міністрам, як самы адукаваны там, спазнаўшы электрычнасць.

Уласна кажучы, усе гэтыя ненцы, немцы, прыбалты і італьянцы нічым не адрозніваліся ад іх, дзетдомаўцаў-беларусаў. Адны і другія – казённая маёмасць пад пільным вокам і прыглядам дзяржавы. Большасць з іх разам з бацькамі таварнякамі кінулі ў Сібір на здабычу чорнага золата – каменнага вугалю, жалезнай руды, проста золата, і на лесапавал у Мартайгу, Шортайгу. У вялізным дзетдоме без сцэнаў, дзе яны былі адной крыві, адной казённа-сірочай долі, трымаліся, як і дзетдомаўцы, купна і з падазронасцю да ўсяго, што іх акаляла. З такой жа падазронасцю ўтрымлівалі і іх. Ад сталасці і да схону, нават ужо на волі, яны, як і іх бацькі, былі прыкуты да той волі камендатурамі, якія адмянілі не так даўно, на пачатку так званай хрушчоўскай

адлігі. Толькі воўк, ліняючы, мяняючы поўсць, не перастае быць воўкам. І паляванне на іх і іх паляванне – вечныя. І ў нашчадкаў іх тое ж самае.

Ці не тое ж самае было з даўнімі абранцамі гэтага краю, а цяпер бясспрэчна ўжо карэнна мясцовымі ўраджэнцамі, якіх дзетдомаўцы як тут, так і на радзіме Маруды, называлі мякінцамі. І варта адзначыць, не толькі з-за аднаго хлеба з мякінай. Парода іх была – выселкава-хутарская, хутаранска-мякінная. У адрозненне ад дзетдомаўцаў у іх амаль не было дзяржаўнасці. Так, толькі прыблізны намёк на яе. З тым намёкам яны і пайшлі калісь, хлынулі на тыя ж хутары і ў Сібір. Мо нават у надзеі збыць гэты намёк, пракаветны яго ўціск і аблогу, што вымушала іх да бясконцых бегаў, гнанасці, пошукаў на чужыне ці не саміх сябе.

Некалі ж яны таксама былі беларусамі, украінцамі, рускімі, нават прыбалтамі. Толькі на сібірскіх працягах звялі ў сабе сваё былое, дарэчы, як гэта адбывалася ў краіне і па зонах, сярод зняволеных сядзельцаў, а потым вольных пасяленцаў, пачалі лічыць і зваць сябе сібіракамі. І глядзелі ўжо звысоку і з пагардай на тых, хто ішоў у Сібір следам за імі: “за туманом и за запахом тайги”. Стоена сачылі за імі з кедрача, як мядзведзь сочыць за двуногімі: развялося іх тут, панаехала.

Вось такая сібірская арыфметыка, гісторыя і геаграфія, у якую памясцілі тым годам эшалон дзетдомаўцаў. Укаранёныя яшчэ калісь тут дасціпныя земляпраходцы, беглыя варнакі-катаржнікі, сталінскія, савецкія рамантыкі і нават кержакі-стараверы. Відавочна, кумаўскія, так званыя выхаванцы зонаў вылучаліся сярод свежых прышэльцаў-прыхадняў. У пабудовах хат, свіранаў сур’ёзна ўстойлівых, не сціснутых у адну кучу, вартых вечнасці і волі. А ў саміх хатах – падлога з габляваных дошак і нават фарбаваная. І амаль у кожнай – асобная святліца маецца. І хлеба тут белага, пшанічнага Маруда ўпершыню ўсмак і ад пуза паеў. І да чаго ж дзіўны той пшанічны хлеб. Белы – гэта адно, але яшчэ можаш яго ў далонях сцяць – няма яго, расціснуў – а ён зноў падымаецца. І нішчымным можаш есці колькі здолееш, колькі чэрава трывае.

А на радзіме Маруды, вясковай, калі ён ад’язджаў, хаты – курані, воку балюча і крыўдна, саломай і чаротам крытыя. І тое, што тут святліца горніцай завецца, там – на ўсю хату і ўсю сям’ю, а часам і на жывёлу, карову. Падпечча для курэй. Адно добра, грэблівыя, свіней у хаце не трымаюць. Падлога земляная, амаль як на палетках ці з набітай гліны. Хоць жыта сей альбо цэглу выробляй. А наконт белага хлеба – калі дзетдомаўская машына ад’язджала ў горад, у тых, каго бралі туды, прасілі хлебца белага прывезці.

Вось і ўся да капейкі дабраахвотна-прымусовая праўда пра жытку, у якой варыўся, пасвіўся і падымаўся на ногі Ай, Няхай, Тудэма-Сюдэма і нарэшце непасрэдна Маруда. Намагаўся набыць спецыяльнасць шахтавага электраслесара. Менавіта электраслесара, бо за гэтым, за электрычнасцю, будучыня, хаця б таму, што ніхто не ведае, што гэта такое і адкуль – ад Бога ці ад д’ябла. Толькі цяпер надта ж спрэчна, ці ёсць у яго будучыня.

Спадзявацца на дапамогу і паратунак ад аднагрупнікаў не выпадала. Усе дзяржаўнікі і мякіннікі – казённікі, што значыць кавалі свайго шчасця, будучага, як і мінулага, непрыхавана асцерагаліся. І невядома, чаго болей. Усе прайшлі праз агонь і ваду, медныя трубы і воўчыя зубы. Карэнныя мясцовыя прыроджаныя мякінцы захавалі больш самастойнасці і волі. Сярод іх Маруду дыхалася нават больш лёгка, хаця кожны з іх быў сабе наўме і паасобку, ніколі не папускаўся сваім і больш зрыў, дзе б урваць чужога.

Няшмат, але меліся сярод іх і хлопцы, падобныя на Туянкова. Адзін з іх, Васіль Заруба, крапак, як з вяровак целам віты – не саступіць літоўцу Крэпчэнасу. Толькі трохі снулы. Снулы ўдзень, на тэорыі – тэарэтычных занятках – і ў час практыкі. Майстар, гледзячы на яго, неяк сказаў:

– Па начах, у начную робіш, Заруба?

Той не стаў адмаўляцца і таіцца. Зірнуў толькі на рукі, шэра-бурыя ад вугальнага пылу, як сапраўды толькі што з забою. Лыпнуў вачыма з такім жа вугальным шахтавым налётам:

– Нікуды не дзенешся. Трэба круціцца, Аляксандр Дзмітравіч. Халады ж. Сібір. Сіберна.

– Круціся, круціся, Заруба, толькі глядзі, каб пад колы не ўкруціцца. Часцяком гэта надараецца з тымі, хто ўначы на хаду вуглярак круціцца...

– Усё магчыма, Аляксандр Дзмітравіч. Тут ужо як бабуля надвое казала.

Майстар у адказ толькі ўздыхнуў.

І Маруда зноў, як у гаворцы з Туянковым, адчуў, што паміж імі стаіць нешта большае, чым паміж настаўнікам і вучнем. Паразуменне, веданне, якога няма ў яго. Заруба падабаўся Маруду, ён не прэч быў падысці бліжэй да яго, як, прынамсі, да некаторых іншых мясцовых мякіннікаў, з якіх, у рэшце рэшт, і атрымліваліся дзетдомаўцы. Падыходзіў, і тыя не цураліся яго. Грыша Самусёнак нават запрасіў да сябе ў госці. І ён з радасцю паехаў. Спадабалася і хата, і бацькі, а найбольш самаробныя сібірскія пельмені, вялікі, пад бульбу, мех якіх стаяў на марозе ў сенцах. Чэрпай місай, вары і еж. І з'есці можна было багата, бо смачна і з мясам.

Зараз жа Заруба з Самусёнкам у пары забівалі казла супраць Крэчкі і Смольскага. Забівалі зацята, што кавальскім молатам, кувадлам, кедровы стол угінаўся, як угінаецца наваколле пад выбухі мін. І ён, Маруда, угінаўся. У тым выбухова-зацятым касцяна-кедравым груку была ўсё ж стоена-непрабіўная ціша, пагрозлівая, як сігнал бедства, разрывы паміж грукам, а за ім ужо і стогнам сталешніцы, непраходным немым крыкам. А ў тым крыку перад вачыма Маруды карагодна і карункава-вязка таўклі мак камары і мошкі – гнюс, што выхопліваецца перад прымаразкамі ў апошнія восеньскія дзянькі. Таўчэ мак надзеі і абяцання добрага надвор'я наступнаму дню. І гэта апраўдвалася. Толькі тут таўклі яго.

Апраўдання, апраўдання сабе, і не толькі, шукаў Маруда, макавай таўкатні сярод зімы ў пакоі, поўным калі не зусім сябраў, то прыязных да яго людзей. Ён угінаўся, але не захінаўся і не адмахваўся ад таўкачоў маку. Ведаў і спазнаў з вясковага маленства – гнюс шалее, калі ад яго адмахваюцца і забіваюць. Праліваецца высмактаная імі кроў, твая кроў, але яе лятучыя злыдні лічаць ужо сваёй, сваім здабыткам і таму сляпіцай прыпадаюць да жывога цела.

Маруда трымаў гэта ў галаве і думаў: індык жа таксама думаў, пакуль не здох, ці яму не адсеклі думаўку. Вырашаў і загадзя прасіў прабачыць і дараваць яму за надуманае. Таму што яно было хутчэй сведчаннем адчаю, безнадзейнасці. Накшталт такіх, калі адзіны паратунак ад навалы, ліхалецця, агню, засухі і нават вайны – пакорліва ахвярны, ціхмяны крыжовы ход з абразамі вакол котлішчаў, жытла. Зварот да неба і да таго, хто на тым небе – на цуд пазбаўлення, што ўсе ж неяк жывіць і апошняга нават. Маруда набрыняў верай і рашучасцю, інакш усё вымагала і цягнула да непапраўнага.

І вінаваціць у тым было некага. Па стуку даміно, па стоенасці, сцятасці зубоў гульцоў і белай касцянасці напружаных кулакоў кожны,

хто знаходзіўся на тую хвіліну ў пакоі, гатоў быў кінуцца ў бойку. Мо й зусім не дзеля таго, каб яго, Маруду, абараніць. Захаваць сваё, падлеткава-мужчынскае. І па-мужчынску яны чакалі сігналу, знаку ад яго. Маруда ж пасля адчаю надзеі і веры адмовіў сабе ў выратаванні і памілаванні. Вырашыў прыняць пабоі, ганьбу – знаку такога нікому не падаў.

З горыччу адчуваў, што няздольны на той знак: куды ні кінь, з усіх бакоў быў клін. Па-першае, рука не падымалася нават на самы пачварны твар – ён усё ж быў чалавечы. Але гэта асабістае. Больш істотным было зусім іншае. Калі б яго, Маруду, таўклі дзе-небудзь па завуголлі, у куце і цішком, ён бы стаяў за сябе хаця б для прыліку. Гэта адна справа. Зусім іншая – калі супраць цябе неадольнасць традыцыйнай ужо сілы, асвячонай амаль. Тут ужо патыхала парушэннем той жа святасці, паўстаннем, вайной. І не толькі групы першагодкаў з групай другагоднікаў, а ўсіх.

І літасці першагодкам чакаць не выпадала. Другі год навучання не толькі згуртаваў другагоднікаў, але і прывучыў, наставіў на зверхнасць, папусціцца якой перад наждакамі, салабонамі і ўявіць сабе немагчыма, самазабойна. Як гэта пазней ужо перакінулася амаль на ўсё. Стала нормай цывільнага, вайсковага, чыноўніча-бюракратычнага жыцця. Шырока ахопная, агульная так званая дзедаўшчына. Дзедаўшчына назаўжды, з ведама і нават часам ухвалення ўладаў, кіраўнікоў і начальнікаў – сістэма, на якой стаяла, стаіць і стаяць будзе айчына.

Слесары мо б і справіліся з электравознікамі, хаця сумнеўна. За імі непазбежна былі б уцягнуты ўсе групы другагоднікаў. За наждакоў-электраслесараў мо заступілася б і старэйшая група электраслесараў, што вельмі і вельмі спрэчна. Нават не ўсе наждакі кінуліся б адстойваць сваіх братоў-наждакоў. Падняліся б дзетдомаўцы-беларусы, раскіданыя па іншых групах, наждакі-дзетдомаўцы з Уралу – аўтаслесары. Але што гэта – жменька.

А галоўнае, ён падсвядома адчуваў прыхаваны яшчэ да шмону, на яго целе нож. Блізкі, родны, цёплы, як выраслы з яго і на ім пад чорным сацінам выхадной сарочкі. І ў нейкі момант Маруда адчуў яго зверхнасць, уладу над ім. Нож хоць і быў недароблены, але ж спрытны, гатовы да ўжытку, якраз па яго руцэ і прасіўся яму ў руку. Падсвядома ўжо скочыў туды.

Маруда апёкся ім, апёкся халоднай маўклівасцю сталі, што была яшчэ без ручкі. І мімаволі адчуў, як заварочалася ў ім нешта безразважліва звярынае, ашалела вар'яцкае, ваўчынае, што ён адчуваў у сабаках і з чым быў здольны саўладаць. З дзікай безразважнай хіжасцю ваўкоў. Але не са сваёй звярынай ваўкаватасцю. Як не саўладаў у свой час яго майстар Аляксандр Дзмітравіч Карпаў, калі ў яго руках апынуўся нож. І ён яго не ўтрымаў, без дай прычыны ўсадзіў у свайго таварыша. Так магло стацца і з ім. Літасці не будзе. Такая ўжо звычка ўсіх на свеце нажоў.

І Маруда адчуў, пераняў тую яго звычку, набрыняў усяленскай згубнасцю нажа. Яго сілай, невядома адкуль і кім яму пасланай. Больш, пэўна, не сённяшняй, не тутэйшай, назапашанай не толькі ім і ў ім стагоддзямі і стагоддзямі. Мёртва скаваная тымі ж стагоддзямі, закутасцю абылганай мінуўшчыны і спаскуджанасцю бягучага, пад беражкі перагружанага малалеткамі, каваля́мі шчасця. Гэтага савецкага Ноева каўчэга, што выпадкова сабраўся, склаўся ў адным пакоі.

Са стагоддзя ў стагоддзе і ў тысячагоддзе плыве па абыякавым да чалавека Сціксе без канца і краю да абяцанага выратавання човен. І многія твары ў чаканні таго вызвалення памнажаюцца і канаюць у пустаце і прывіднай неспраўджанасці. Плыве і плыве ўсяленскі човен у сусвеце пры сонцы і

месяцы, так і не дасягаючы падманлівай зямной цвердзі, барукаецца, барозніць сваю Галгофу. І сам Ной, падобна, пайшоў ужо ў вырай, спрах у сатворанай ім жа дамавіне. Ад яго засталася, ацалела толькі памінальная абалонка. Казытлівая бачнасць ратавальніка. Нашчадкі той зданевай бачнасці, ноеўцы, цяпер рэжуцца ў даміно, забіваюць казла: зямлі ж усё не відаць і не відаць. І сам шматаблічны Наждак Маруда на самой справе толькі адзіны ўздых, тумановы пробліск жаданага будучага, якому так хочацца працягнуцца, збыцца.

Менавіта гэта, хаця і падсвядома, і надае яму сілы. Яна ўліваецца ў яго світальна і светла ранкавай свежасцю і дужасцю. Але адначасова і пазбаўляе адчування прамяністасці сонца, неба і набягаючага дня. Прысляплівае, абяссільвае марнасцю. Ён разгублена і сцішана абмякае, захлынуўшыся абачлівасцю, цвярозасцю. І страхам. Страх большы і дужэйшы за сілу, выбіваецца вонку яго, у кончыкі стрыжаных валасоў, абкусаных пазногцяў. Страх паглынальны, спапяляльны, дзейсна жывы. Хаця Маруда не мог і ўцяміць, адкуль ён узяўся, дзе да гэтага месціўся ў ім, ад каго набег і перадаўся.

Ці не самая вялікая памылка, а мо і горай, няпраўда, здаецца, безумоўна неаспрэчнага: дзеці за бацькоў не адказваюць. Адказваюць, і непамысна жорстка, жахліва, непапраўна. Лёсава, генна, акапаліптычна. Але ці віна ў гэтым толькі бацькоў. Тут штосьці значна і значна большае. Ці не ў самім часе, прасцягу, гісторыі – зародку і існасці жывога і жыцця. Планетарна-ўсяленскага, касмічнага – паўсядзённа-будзённага.

Шмат, шмат людзей, не выключана, мо найбольш з нашых, падсвядома адчуваюць гэта і вінавацяцца – так, пэўна, нам ужо нарачона. Кожнаму народу – сваё. Толькі наша адметнасць у свеце, падобна, самагубная , зноў жа – апакаліптычная, апошняя. Другой ужо не дадзена – уваскрашэння не будзе. Але ж ведаць – зусім не адно і тое ж, што кіравацца ім. У самагубнасці ўсё ж стоена, патаемна кубліцца надзея, спадзяванне на быццё і паратунак і працяг. І не толькі сябе. Неасэнсавана верыцца, што ўласным сыходам, сваёй смерцю мы нешта дакажам свету. І свет гэта зразумее, ацэніць і прызнае. Таму што, вядома, рахманыя будут валодаць тым жа светам, абраные развітваюцца і сыходзяць першымі. У святыя трапляюць пакутнікі. А большых за тых, хто яшчэ здольны мець сумленне, сорам і ўмець вінавацірца, цяжка і прыдумаць. Яны пры жыцці зведалі ўжо ўсё. З веку ў век няспынны генацыд і халакост – тэрытарыяльны, геаграфічны, чалавечы, што і спарадзілі вінаватасць.

Цяпер жа тая вінаватасць у Маруды адышла без яго жадання. Ён насуперак самому сабе баяўся страціць векавое ў сабе. І яму здалося, што страта гэтая адбылася. Маруду ахапіў страх, падобна той жа неасэнсаванай адвечнай вінаватасці яго бацькоў, дзядоў, шчураў і прашчураў, без якой ён быў бы няпоўны, надкусаны. Ці не першы надкусаны з радаводу Маруд.

Не так ужо старанна і балюча яго білі. Засцяроджана, змрочна, пахмурна, старанна, як па загаду і прымусу, нібыта спраўлялі нелюбімую працу. Рупіўся, шчыраваў адзін толькі гадзік, заведзена прарываўся праз частакол чужых рук. А тыя рукі, падобна, знарок перашкаждалі яму, сутыкаліся з яго кулакамі і пазбаўлялі сілы ўдару. Хаця напачатку яна была. А цяпер некаторыя з біткоў нехаця замахваліся, уздымалі і апускалі рукі, так што Маруду хапала часу не толькі тварам, рэбрамі ацаніць іх моц, але і зазірнуць наперад. І ў вочы кожнаму, падумаць, ці не так адыходзіць ад іх людскае. А мо і прыходзіць. Людскае і нялюдскае, колішняе, сённяшняе, будучае. Што бывае ў пачатку, тое будзе і ў канцы.

Цяжка гэта зразумець гэта, асабліва пад кулакамі. Разуменне скіравана

на зусім іншае. Але ж, як гаворыцца, і свінні не да парасят, калі яе смаляць. І Маруда, не зважаючы на прадчуванне будучых кпінаў і папрокаў, пагарды за не пацанскія паводзіны, на заклік і каманду безлічы вачэй, у якіх адначасова чытаўся загад і прысуд яму, скарыўся. Здаўся, здрадзіў сваёй сутнасці, прымусіў сябе сціцца, стаіцца і трываць, цярпець здзек і знявагу не толькі цяпер, але і на ўсё, пэўна, жыццё. Такое ж не даруецца, і больш за ўсё не даруецца самому сабе – знявага здрады сабе. Але ён як выпаў з самога сябе, з пакоя, у якім знаходзіўся, з часу, прасцягу. Згубіўся, выразна разумеючы, што назаўсёды.

Хаця імгненнямі карцела ўсё ж знайсціся, аб чым сведчыў сверб кулакоў. Толькі Ай, Нехай, Тудэма-Сюдэма і нарэшце патомна Маруда стрымлівалі іх: Ай, хай будзе як будзе, каб толькі не было горш, каб толькі не было вайны. А магчыма ж, магчыма.

Таму ён і не даў волі кулакам, хаця яны ў яго ўзросце такія ж, як і ва ўсіх. Здатныя на любую работу, вайсковую і вясковую. Звыклі да яе. Чаму ж ён іх прыняволіў, здаўся сам і здаў іх? Хто ведае, хто ведае. Мабыць толькі сонца ды месяц і яшчэ нехта нябачны. А яшчэ багна, балоты, дрыгва, па якіх ён, ратуючыся ад ліхалеццяў, коўзаўся, поўзаў і бегаў. Яны заўсёды расступаліся і ўкрыўна прымалі яго. І не толькі яго, але і яго думкі, настрой і яго бацькоў, нават ворагаў.А ён здрадзіў ім, выракся іх трывучасцю цярпення, памяркоўнасцю.

Прымусіў, па сваёй волі прыгаварыў сябе да бясконцасці здрадаў і пагарды да скону. Так было, так сталася. Тады, цяпер, потым. Да сырой зямлі. Яго рабавалі, гвалцілі, яго прадавалі, яму здраджвалі на пустым месцы і самыя, здаецца, свае, родныя нават людзі, радней некуды. І здрады сваіх у разы болей, чым чужых. І яна шматкроць больш балючая. Такая ужо, пэўна, доля нашых надзей і спадзяванняў. Хаця ў той дзень ён так і не зразумеў: гэта здрадзіў ён ці яму здрадзілі, прымусілі застацца нікім, нічым.

З тае пары ён ўжо ніколі не быў Аем, Няхаем. Толькі дакладна і згодна з прозвішчам – Маруда. Не было чаму і ад чаго затуляцца, хавацца, трэба жыць, як набяжыць. Ён замкнуўся, згубіўся ў гэтым адзіным сваім. Нават больш, як сам сабе быў нябачны, хаця вонкава і існы, дзейсны. Але дзейсны накшалт гадзінніка ў пустым пакоі ці на руцэ ўжо нябожчыка, калі стрэлкі рухаюцца, маятнік варочаецца, у сярэдзіне, пад металёвым вочкам, хаваюцца дарагія, палка зыркія дваццаць чатыры каменьчыкі. Час ідзе, адлічваецца, толькі няведама чый, каму і навошта. Як было на слыху тады, тым дваццаці чатыром каменьчыкам не хапала ўсё ж яшчэ двух. Аднаго знізу, другога зверху, мо ў якасці надмагілкавага ім помніка, а мо і неўзарванай бомбы, міны, стоенай і заведзенай на пэўны ці няпэўны час. І ён здагадваўся пра гэтую завядзеннасць і час. І баяўся той заведзенасці, невядомай сакрытай пары і часу, калі можа не быць ужо ні пары, ні часу.

Жыццё не аберагала яго. Як гаворыцца, не хочаш, а мусіш. Мусіш, як і ўсе іншыя, хаця ён і замкнуўся. Замкнуўся на самога сябе. І ўсё радзей і радзей бегала па маёвай квецені яблыневага саду дзевачка. Мо й таму, што сапраўдных яблынь у тым сібірскім краі не было. Толькі райскія, гожанькія, чырвоныя і пасля маразоў смачныя, але ўсё ж не яго яблыкі. Не яго. І дзевачка, мо неўпрыкмет яму, прабегла сярод тых раек, райскіх яблынь, і знікла ў часе, у тумановых світанках, у непрабіўна-непранікальных далеглядах часу і прасцягу. Зноў жа не яго часу і не яго прасцягу.

Дзевачка больш не наведвала яго нават у сненнях. Не займала, не вярэдзіла больш душу і электрычнасць. Падумаеш, што ў ёй цікавага і надзвычайнага.

Хай ён і далёка, падобна студэнту з міністэрскага нібыта аповеду не быў геніем, але таксама разгадаў яе – вада з крана, толькі па дроце, цячэ сабе і цячэ, як ручай у алешніку. Ну і хай сябе цячэ, чорт яе не возьме.

Што яго ўсё ж збівала з панталыку, свет спыніў у ім гаварыць, ён ужо не чуў яго. Не чуў таго, што ён лічыў музыкай ночы і дня, што было толькі адзіна храмава абраным, зямным, падземным, нябесным і касмічным, якое ўбірала і яго, яго шэпт, крык і стогн. Далучала да сябе планетарна. Цяпер гэта далучанасць прапала, перарвалася. Свет і ён жылі не ў повязі, а паасобку. Як у немаце развядзена, як у распадзе сям'і і шлюбу, што нікога не нарадзілі, не далі нашчадкаў, назаўжды засталіся пярэдайкамі. Чаго ён, пэўна, і не ўсведамляў. Толькі іншым разам адчуваў горыч і самоту, беспадстаўную. Шчымліва і марна сумаваў, сам не ведаючы, чаго і чаму. З нікім не было перакінуцца думкай і словам. Слова як адыходзіла ад яго, замяшчалася мітуслівасцю, невыразнасцю думак і няпэўнасцю жаданняў.

Такімі ж замяшчальна, непрадказальна трывожнымі былі і яго сненні. На доўгія гады яны былі адны і тыя ж. Ён ішоў невядома адкуль і куды па пустой зямлі, па сыпкім белым пяску, якому не было канца. І раптам з аднаго боку праблiснула вада. Не рака, не возера. Мора, а мо і акіян. Без ветрагонных хваляў: блакіт і спакой. І яму так захацелася ў гэты блакіт і спакой, што ён бегам пабег у яго. Толькі вось бяда, песок, бераг не хацелі яго туды пускаць. Бераг быў непамерна круты і высокі. Усё ж, не помнячы як, скокам ці поўзам ён перадолеў яго і падабраўся да вады. Падобна, сам бераг зжаліўся і пусціў яго да той вады, паката прылёг.

Але калі ён захацеў выйсці зноў з вады на пясок, бераг узвысіўся і не даў падняцца, плывіста асыпаўся. І ён адчуў сябе, як некалі ў дзетдоме, у калодзежы, толькі надта ж вялікім. Не мог вылезці з яго. Той берагавы калодзеж, а не выключана, і старадаўні дзетдомаўскі, сыпаўся і сыпаўся на плечы, на галаву белым пяском, жвірам. Хаваў жыўцом пры жаўтавокім паглядзе блакіта неба.

Ён, падобна, назаўжды адбіўся ад самога сябе – канчаткова аглух на абодва вухі. Збылося тое, чаго ён дамагаўся падлеткам. Шмат чаго збылося. Перарвалася нотавая повязь з сусветам. У ім ужо не было ніякага сумбуру, як і музыкі сярод адзіноты цемры, ночы. Яго як выхаласцілі на гук. Ён спрабаваў перад сном абудзіць яго. Дарэмна. Пэўна, таму, што страчанае напачатку – страчана назаўсёды.

А вось нож – фінку, – з ромбападобнага напільніка Маруда замастырыў хвацкі. Нязлосны, непомслівы, але жаданы. Як жадае кожны падлетак, а потым і дарослы ўжо мець яго – непраходна прыроджанае і спрадвечнае ў натуры чалавека. У Маруды ж да гэтага было яшчэ і штосьці падсвядома неасэнсаванае. Карцела, да страты сябе карцела, востра торкала ў скроні і кроў жаданне займець свой уласны нож – фінку.

Наждак Маруда ўпотайкі стачыў на наждаку ж. Стачыў да гожасці фінкі, патрэбных яе памераў. Да ссінелай азлобленасці шляхетна высакароднай сталі, з якой быў выраблены напільнік. І металёвая сінь усцешыла яго – нож паказваў характар, тое, што трэба нажу.

Таксама ўпотайкі Маруда і загартаваў яго. Разагрэў да чырвонага жару, а потым і белага напалу ў горне. Прасачыў за колерамі пабегласці да набыцця патрэбнага для загартоўкі, а астудзіў у бурклівa, скаланута абуранай халоднай вадзе.

І гэта было толькі пачаткам стварэння сапраўднага нажа, што паляшук Маруда добра ведаў, бо вакол родных селішчаў Маруды стаялі вёскі Руды,

Рудні і Рудзенькі, дзе здаўна вяліся кавалі, якія выраблялі сярпы, вілы, камяні, нарогі, а калі трэба, то косы, сахоры і дзіды для сябе і праходных атрадаў казакаў-украінцаў. Таму што мелася пад рукамі прыдатная свая жалезная руда. І навука, справа кавалёў, з дзедавых часоў была ў крыві ў паляшукоў.

Пасля загартоўкі спраўны нож для доўгага ўжытку і ўхвалы вачэй суседзяў патрабаваў так званага варанення, набыцця прыхаванай, стоенай у ім моцы, разынкі – нябачнай наслоевасці, шматслоевасці, дзеля ўдаласці і зухаватасці сакрытага нават для самога сябе, невядомага нікому зместу, як і ў чалавеках.

Мо каб суцішаць у нажы загартаваную любасць крывастока, яго зноў трохі награвалі і потым астуджвалі ў гарачым масле, што, пэўна, надавала яму ўласцівую жывому памяркоўнасць і, не выключана, гонар, вартасць.

Ад варанення сталь набывала пераменлівую жвавасць, металёва ажывала адлівам патаемнага крыла доўгажыхара крумкача-score-грugана, самотна-абачлівай птушкі вёсак, лясоў, гацяў і прыбалацяў, ваколіц гарадоў.

Лязо атрымала спачынна ўпэўненую пагрозлівасць, маўкліва падманную абыякавасць, аднамернасць. Але калі і толькі калі яно трапляла на ніспасланы яму сонечны прамень, сталь набірала невымяральную глыбіню і свячэнне. Нібыта ў ім спрадвеку жыў і свяціўся незямным ужо вокам і зрокам, падманна застылым, але, калі трэба, ажыўленым. Жыў і адначасова прасіўся выйсці – на волю, на свабоду, не ведаючы, не ўсведамляючы, куды гэта, навошта, дзеля чаго, але жадаючы і ўсё. І святло тады рабілася хісткім, раскідлівым, адразу на ўсе бакі і на твар кожнага, да каго магло дапяць.

Нож дыхаў, і не толькі лязом, металёва, але і сціснутым, здушаным далонню дзержаком, ручкай, якую Маруда вырабіў з каляровага плексігласу ад знойдзенага ім яшчэ ў родным лесе збітага фашыстамі нашага, савецкага ястрабка, і з рога барана, якога парвалі зноў жа ў яго родным лесе ваўкі, з клыка дзіка, што ўтапіўся ў падманную зімовую адлігу, праваліўся пад лёд у ручаі каля яго вёскі і з рога быка, што служыў горнам пастухам яго вёскі.

І ўсё гэтае аздабленне, лясное і хатняе, злілося ў адно са сталлю, чаму паспрыяў і сам Маруда – часта выцягваў, калі быў на адзіноце, з кішэняў з-за пазухі. І аздоба абцёрлася ад прыхаванага ў яго далонях цёку крыві і поту. Жару невядомага і неспатоленага закліку, жадання дзеяння, што, пэўна, паспрыяла тумановай цьмянасці мо нават смутку яго неразлучна маўклівага сябра, тумановай світальнай няпэўнасці, што годзіць ці то сонечнасці, ці то зацяглай слоце. Просіцца абрынуцца спапяляльным прамянём, альбо ліўневым дажджом. Бласлаўленнем ці пакараннем вечнасці – месяца, сонца і далёкіх, як у бездані калодзежа, міргліва слёзных на холадзе зорак.

Маруда разумеў і адчуваў невыказнае жаданне і маўкліва нямую мову нажа, але ніколі не падтрымліваў іх, не адказваў ім. Паразуменне было, а еднасці не надта. Хоць мо і была, была ў гэтым патрэба. Але ён баяўся. Баяўся настырнага прымусу нажа, яго аднамернай скіраванасці. Баяўся і любіў. Любіў таму, што баяўся. А баяўся таму, што любіў.

---

“Дзеяслоўцы” шчыра віншуюць
шаноўнага **Віктара Апанасавіча КАЗЬКО**
з васьмідзесяцігоддзем і зычаць яму моцнага здароўя,
душэўнае трываласці, натхнення на новыя творы
ды Божае ласкі!

Сяргей Ваганаў



...калі надыдзе час
Хавацца нам у сховішчах Зямлі,
Ужо ніхто не адшукае нас...
Як быццам мы ніколі не былі...

# З "Нарачанскага сшытка"

### *У СНЕ*

Мы ўсё жыццё паціху паміраем.
Якім я быў, такім цяпер не ёсць...
Дзяцінства ўжо сплывае небакраем
Пакуль насустрач крочыць Маладосць.

За маладосцю надыходзіць Сталасць
Магільшчыкам няздзейсненых надзей.
Ну, а за ёй – удумлівая Старасць
У неадкладнасці адкладзеных падзей.

Дык вось чаму я смерці не страшуся –
Бо у жыцці канаў ужо не раз.
У радасці, ў бядзе, альбо у скрусе
У небыццё я адыходзіў праз
Скон думак, спраў і мараў.

Чаму ж так неспакойна сёння мне?

Таму, што ўчора я убачыў Нарач.
І плыў па ёй.
Да раніцы.
У сне...

*22 чэрвеня 2019 г.*

## СЯКЕРА

Кіроўца цяжка круціць абаранку.
Імгла хавае пры шашы лясок...
Пад коламі грукоча брукаванка
І шэпча штось няўцямнае пясок.

На Нарач едзем ужо сем гадзін
Дарогай, што вайной ушчэнт раструшчана...
Аб'езд... ізноў аб'езд... яшчэ адзін...
Яўхім, кіроўца наш, зусім замучаны.

І я стаміўся. Бо яшчэ малец.
Хапае мне ля задняй дзверцы кута.
Ў дрымоце чую – Ілля... Куранец...
Мікольцы... Мядзел... Чараўкі і Купа...

І зноў даносіцца праз чуйны сон-нясон
Матулі з татам ціхая размова...
Пра атам згадка неаднаразова,
Пра нейкую супраць дзяржавы змову,
Пра Берыю, што з Англіі шпіён.
Пра злодзеяў, што шнырацб па лясах,
Рассейваюць паўсюль насенне жаху...
І адчуваю, як ліпучы страх
Паўзе па мне, бы слізкая вужака...

...Прачнуўся ад раптоўнай цішыні.
Ці гэты лес маўклівы толькі сніцца?
Шугаюць небакраем бліскавіцы,
Нібы гарматы б'юць з далечыні.

А я пільную злодзеяў.
Я веру,
Што дзесьці тут хаваюцца яны.
І я кладу каля сябе сякеру,
Каб ратаваць матулю ад вайны.

Усё бліжэй гарматная навала.
Усё ярчэй успышкі бліскавіц.
І я адзін у свеце – хлопчык м*а*лы.
Адзін перад смяротнай той навалай.
Зусім адзін між соснаў і суніц...

Ӯсё адчувальней пах смярдзючай серы.
Ӯсё выпаліў пярунавы напалм!

Маланка, быццам вострая сякера,
Расколвае планету напалам.

* * *

Ад ранку пасля той страшэннай ночы
Усюды, куды позіркам ні кінь,
На ўсё жыццё урэзалася ў вочы
Хваль нарачанскіх сонечная сінь.

*21 сакавіка 2019 г.*

## *ВЕРШЫК*

*Люблю твае, Нарач, затокі і тоні...*

**Максім ТАНК.**

Як толькі я заплюшчу вочы,
Убачу даўнюю карціну:
Узгорак, сонца ранкам крочыць,
А на узгорку – тры хаціны.

Адна – Лынькова, а другая
Аркадзя Куляшова хата.
Ну а бліжэй да небакраю –
Максімава, святлом багатая.

Прамень пяшчотна лашчыць хаты
З падмурку да самога верху.
І адбіваецца страката
У шкле ваконным, бы ў люстэрку.

А навакол такая ціша!
Ледзь чутны толькі хвалі ўсплёскі.
Нібыта Нарач вершык піша,
Празрысты, як анёла слёзкі.
А я ўжо рухаюся пешшу

Да хатаў тых, прывабных зранку,
Каб прачытаць на памяць вершык
Вялікаму паэту Танку.

Той самы – пра затокі, тоні...

Ды толькі я, ад страху потны,
Камячу вершык у далоні...

Не, не адважуся. Маркотны
Стаю ля Танкавага плота.
Дванаццаць мне. Душа у скрусе.

Ці ж ведаў я, што так далёка?
Далёка так да Беларусі...

*18 снежня2019 г.*

## СЯБРЫ

Пракладзены праз лета мосцік
Ад Мінска ў нарачанскі неруш...
Бывайце, Воўка, Генка, Косцік!
Здарова, Янак, Чэсь, Тадэвуш!

Яшчэ не думаў я сам-насам,
Адкуль нязвыклыя імёны.
Не чуў яшчэ ў “за польскім часам”
Ані хвалы, ані праклёну.

Прачнуўся ледзь і скочыў з ганку
Да возера, дзе ветразь чорны
Праз першы промень у заранку
Гнаў цераз хвалі цяжкі човен.

На ветразі тым чэрап, косці.
Не хлопцы ў чоўне, а піраты...
Не ведаў, што бацькоў кагосьці
Саветы кінулі за краты.

І вось ужо і я у чоўне.
І п’ю нагбом крынічны ранак...
Пад ветразем яны няўлоўныя –
“Піраты” Тадзік, Чэсь і Янак.

Але чаму цямнеюць вочы
Нібы з нябеснага блакіту?
Няўжо рыхтуюцца сурочыць
Перш, чым за штосьці быць пабітым?!

І раптам, з усяго размаху
Я кінуты ў блакіт бяздоння...

Падхоплены смяротным жахам,
Нібы вяртаюся ва ўлонне
Матулі з назваю Айчына
Ў вадзе празрыстай каляплоднай...
І бачу, як Святлом адчынены
Свет Нарачы, да скону роднай...

...Дзяцінства ажывае памяць.
Вяртае ў нарачанскі ранак...

Вось так вучылі мяне плаваць
Сябры Тадэвуш, Чэсь і Янак.

*10 лютага 2019 г.*

## КІРМАШ

Нядзеля. У Кабыльніку кірмаш,
Што ля царквы на плошчы кірмашовай.
Бывай, калгас ты працадзённы наш!
Ў нядзелю будзем ладзіць фэст грашовы...

Рубель, і да рубля яшчэ рубель,
Дзе панаваў калісьці польскі злоты.
Ды сплыў, што ў міражы той карабель.
Ды дзесь жыве пад хвалямі употай.

Жанчыны ў блузках, нібы на парад
Падаставаных з куфараў дубовых.
І мужыкі, чамусьці ў кажухах,
На роварах, нат на драўляных колах.

І дачніцы, што з Купы надышлі,
Гандлююцца за кус з лядоўні масла –
Бы сонейка народжана ў цішы
І ў прахалодзе змроку не захрасла.

З-пад сена, што накінута ў вазах,
Парохкванне ды віскат парасячы.
І квохтанне курынае. І пах
Мядовы з процьмы гліняных гарлачыкаў...

А побач, там, дзе брукаваны шлях
Вядзе наўпрост на поўнач, на Паставы,
Самотна затаіўся ціхі жах
Магілы, дзе вайсковец пахаваны
Чырвоны.
І хаця юнак не наш,
Магіла не пазбаўленая болю...

Нядзеля. У Кабыльніку кірмаш –
Калгас, на дзень адпушчаны на волю.

*15 чэрвеня 2019 г.*

## У СЫРМЕЖ ПА СОЛЬ

### *1955 –*

Дзясяты мірны год пасля вайны.
Мацей... Тафіля...
Нарач... вёска Купа...
І цягнічок ад Купы у Лынтупы.
А мы – па соль... у Сырмеж... на кані.

Мацей ужо дасёрбаў зацірухі.
Глынуў са студні чыстае вады.
Як абуджаюць ранішнія гукі
У хаце!
І з гумна глухія грукі,
Калі Мацей шукае павады
Ды бразгае аброццю на двары,
Рыхтуючы да дзённай працы рукі!

...Рыпяць усімі коламі калёсы.
Бяжыць паволі па пясочку конь.
Ў калёсах Варунічка, Валюсь босы
Ды я, схапіўшы лейцы у далонь.

О, як я прагнуў коньмі кіраваць!
Адчуць з канём адзінства ў разуменні.
Калі не давядзецца з ім араць,
(Бо хутка ўжо да Мінска ад'язджаць),

Хаця б хвілінку лейцы патрымаць,
Каб улагодзіць тайнае памкненне.

...Бяжыць, бяжыць пясочкам белы конь.
Лясок, масток праз вузенькую рэчку...
Бяжыць пясочкам ў Нарач тут адвечна
Рачулка, быццам ў Боскую далонь.

Вось Урлікі... вось хутарок малы...
Вось млын стары павольна круціць кола.
А вось і крама – з круглякоў стадола
У паху дзёгцю, газы і смалы.

Дзіравы, з дранкі, дах, і ён жа столь
У павуцінні. Жнівеньскае сонца
Праменіцца праз шчыліны бясконца,
Пакуль Мацей ссыпае ў торбу соль.

Без солі, кажа ён, жыцця няма.
Калі вайна, бяжы найперш за соллю.

Вайны няма. Ёсць мех ў кутку пад столлю.
І ёсць Мацей... І Нарач...

Што? Няма?

***2018*** –

Няма Мацея, Нарачы і Купы?
Рачулкі той і белага каня?
І цягнічка таго, што у Лынтупы
Калейкай вузкай бег амаль штодня?

Няма... няма... няма... няма... няма-а-а...

Няўмольны Час адгукваецца рэхам.
І чуецца у рэху тым – вайна!
Палюе зноў за кожным чалавекам.

Але ж бяжыць пясочкам белы конь.
Ізноў сціскаю лейцы у далоні.
Ізноў масток. І рэчка ва улонні
Зямлі. І Нарач – Боская далонь.

Ізноў дарога нібыта сама
Бяжыць туды, дзе солі назапашана.
Дзе млын няспынна круціць кола Часу...

Ды толькі солі ў Сырмежы няма.

*6 кастрычніка 2018 г.*

---

Мацей Магільніцкі – гаспадар хаты ў Купе на беразе Нарачы;
Тафіля – жонка Мацея;
Варунічка (Веранічка) і Валюсь – дзеці Мацея і Тафілі.

## ХОВАНКІ

Таўкліся надвячоркам камары.
Ад возера цягнула прахалодай.
Пад лыжачкай бруіліся ў віры
Пачуцці незнаёмай асалодай.

Ад пуні, што нагрэлася за дзень,
Сыходзіў цёплы пах сухога сена.
На кругляках дрыжаў няўлоўны цень
Галоўкі з чорным чубкам ды й калена.

Яна была, што тое галчаня.
Худыя рукі, быццам птушкі крылцы...

“Згуляйма ў хованкі? Да самага рання
Схаваемся. І нас не будзе быццам...”

І знікла.
Толькі хісткія муры
Гадоў, з якіх жыццё няўцямна склалася...

Ад нарачанскай той падлеткавай пары
Шукаю ўсё, куды яна схавалася.

Шукаю...
Бо калі надыдзе час
Хавацца нам у сховішчах Зямлі,
Ужо ніхто не адшукае нас...

Як быццам мы ніколі не былі.

*11 траўня 2019 г.*

Алена Васілевіч



...такі быў час.

Такія норавы існавалі...

# Групавы партрэт з Мамлакат Нахангавай

***І такое здаралася ў вайну***

***Гэты тэкст Алена Сымонаўна Васілевіч адмыслова прапанавала “Дзеяслову” да 75-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне.***

– Знімі ты, дзеткі, са сцяны гэтага анцыхрыста ды кінь яго мне ў печ!.. А то, не дай Божа, нарвуцца ў хату немцы, то паб’юць нас усіх тут.

Так, палячы раніцай у печы, паказвае цётка Іваніха дачцэ Сашы рагачом на Сталіна з Мамлакат Нахангавай на руках. Мамлакат адной рукой трымае ружы, другою, па-дзіцячы, даверліва, абдымае Сталіна за шыю. А Сталін пазірае на гэтае узбекскае дзіця і ласкава ўсміхаецца яму...

Той даваенны здымак ведаў кожны малы і стары. Спачатку абляцеў ён усю краіну на газетных палосах. А неўзабаве, наляту падхапіўшы тую бацькоўскую ста-

лінскую пяшчоту, узяліся – адзін перад другім навыперадкі – шчыраваць над ёю і мастакі.

Як хто здолеў!

Мой мастак – закаханы ў мяне настаўнік пачатковай школы ў нашай вёсцы – Сталіна з Мамлакат Нахангавай намаляваў мне алеем на фанеры. Сапраўдную карціну намаляваў! Дагэтуль, у пісьмах у Слуцак, дзе пасля школы-сямігодкі я вучылася ў педвучылішчы, ён найбольш стараўся над акварэльнымі мініяцюрамі. Найбольш усё дзявочых галовак – кучаравых, прыгожанькіх, у вяночках з кветак.. Відаць, за вочы, на адлегласці за васямнаццаць вёрст, такою ўяўлялася яму я сама...

А тут была карціна! Як дзе-небудзь у музеі.

Знакамітая узбекская стараннiца па бавоўне выдавала, праўда, не на школьную вучаніцу, хутчэй за ўсё гэта было ладнае дзяўчо яшчэ з дзіцячага садку – гэтакае працавітае, гэтакае славутае! А пра Сталіна можна было толькі захоплена выдыхнуць: горды горны арол!

Памятаю, прыехала я ў тую суботу на выхадны дзень дадому і, ледзь паспеўшы перакусіць і перакінуцца словам з хатнімі, адразу ж памкнула ў школу. Узяць у бібліятэцы кнігу – пачытаць на выхадны... Уяўляеце, якое спрадвеку здатнае было на вынаходніцтвы каханне!.. Вядома ж, лепшай за кнігу зачэпкі немагчыма было прыдумаць, каб пабачыць таго, хто амаль штодня пісаў табе лісты і адпраўляў іх у канверце разам з прыгожанькімі дзявочымі галоўкамі і якому сама ты няўтомна складала акрыленыя адказы, і з якім мы, абое, усё яшчэ ніяк не адважваліся пераступіць мяжы з пачцівага “вы” на адкрытае сяброўскае “ты”.

Як ні дзіўна, такі быў час. Такія норавы існавалі. (Сённяшнім маладым можна падарвацца ад смеху!)

Але ў тую суботу чакала мяне ў школе зусім не кніга. У той зорны зімовы вечар чакаў і стрэў мяне... Сталін з Мамлакат Нахангавай на руках! І, вядома ж, гэта было нішто іншае, як *Знак*, як вышэйшае сведчанне *кахання*!

І, вядома ж, у гэты самы вечар Сталін з Мамлакат Нахангавай пасяліліся і занялі самае пачэснае месца на сцяне ў нашай хаце. Як зойдзеш з сянец – так вочы ў вочы і стрэнешся! (Мікола-цудатворац і Варвара-вялікамучаніца ад такога нечаканага суседства палахліва пасунуліся цясней у кут і яшчэ больш пазмрачнелі на нашых іконах.)

Нашы суседкі, калі каторая забягала пазычыць хлеба ці газы, ці якога там сіта-рэшата, з таго дня не прамінала ніводная пазахапляцца гэтакім умельствам майго мастака, і кожная імкнулася абавязкова наваражыць мне яго ў жаніхі.

– Гэта ж трэба гэтакія ўдалыя рукі мець, каб адважыцца намаляваць самога Сталіна! – захапляліся суседкі (народ заўсёды ўмеў цаніць таленты!).

Сама я, вядома, нябачна млела. Млела, грэшніца, усё ж болей ад мастака, чым ад Сталіна...

– Глядзі ж, і ты не выпусці са сваіх гэтакіх рук, – давалі мне парады суседкі, найбольш практычныя.

Ды каб яны ведалі – ці адны былі толькі рукі? Былі ж яшчэ і вершы! Іх знаходзіла я ў томіку Пушкіна на старонцы з прысвячэннем Анне Керн... На глянцавым аркушыку ў ружовай рамачцы – на адным баку была заўсёдная кучаравая галоўка ў вяночку, на другім вершаванае прысвячэнне... Мне!

Чакаю я з табой сустрэчы.
Пакутую ад нематы.
Гляджу на зоркі кожны вечар.
Ці прыйдзеш ты? Ці прыйдзеш ты?!

Такі рыфмаваны адчай здаваўся мне невыносным. Васямнаццаць вёрст кожны вечар, вядома ж, ніякае каханне не здольнае было адолець. Затое на выхадныя, у суботнія дні, яно ўзносілася над хмарамі, яно на крылах ляцела над Барэцкім лесам і лунала над блакітным поплавам, па якім звычайныя людзі хадзілі босымі нагамі... Дык навошта, скажыце, былі патрэбны яму яшчэ прагныя рукі, каб хапацца, каб трымаць і не выпускаць рукі *другія*?

...І ўсё ж здараецца так – я не заўважаю нават калі і чаму, – што я *выпускаю з рук* свайго мастака, і ён малюе карціны ўжо другой, а не мне.

...Аднак Сталін з Мамлакат Нахангавай усё роўна застаецца вісець на сцяне ў нашай хаце. Нават і тады застаецца, калі, дабудаваўшы канал Масква – Волга, вяртаецца дадому Валодзя – гаспадар мае стрыечнае сястры Сашы (у яе сям'і жыву я пасля смерці мамы). Будаваў ён свой канал сем гадоў, а павінен быў дзесяць. Будаваў праз кабылу Пальму. Вёз здаваць дзяржаве хлебанарыхтоўку, а неразумная жывёліна спалохалася страшэннай, нязвычнай у небе птушкі – аэраплана. Упудзілася і насіла чалавека з возам па палетку, потым выламалася з аглабель і, зусім ашалеўшы, узбілася каля калгаснай канюшні на барану. Злачынства было відавочнае. Дзесяць гадоў па тым часе – мерка была таксама адпаведная. І Валодзя вывез ужо не конна, а на тачцы – і нават датэрмінова вывез! – нарыхтоўку кубоў зямлі, адмераную яму роднай дзяржавай.

...Сталіна з Мамлакат Нахангавай застала ў нашай хаце і вайна.

***

– Давай сюды ў печ гэтага ідала, – настойліва паўтарае цётка Іваніха, падкідваючы дроў.

Саша здымае са сцяны Сталіна, змахвае рукавом з яго пыл і, абыякава перавярнуўшы правадыра дагары, адказвае маці:

– Чорт яго бяры, закіну на гару. А то, можа, вернецца Ганька, дык яшчэ спытае...

(Я ўжо даўно далёка ад дома. Вучуся ў настаўніцкім інстытуце ў Рагачове. Там застае мяне вайна, і дома пра мяне няма ніякіх чутак. Сястра Саша ездзіла ўжо варажыць на мяне аж на Урэчча –там аб'явілася варажбітка, якая ўсё на свеце ўмела раскінуць і ўбачыць на картах. Пра мяне яна сказала: "Нідзе не шукайце, нідзе не знойдзеце. Сама абзавецца і прыедзе".)

– На чорта ён ёй здаўся, анцыхрыст гэты! Дык яна яшчэ будзе хаваць яго на гары, – злуе цётка Іваніха.

– Няхай сабе валяецца. Хто яго там убачыць, ці будзе шукаць?

– Ды пэўна ж, чаго там на той гары немцы не бачылі? У людзей, чутно, шныраць па курасаднях, ды што смачнейшае і падабнейшае па хатах грабуць...

Пра немцаў у нашай Даманшчыне гавораць яшчэ без асаблівага страху.

Маленькая лясная вёска наша стаіць далёка ад Бабруйскай шашы.

Няблізка і ад урэцкага шляху. Гэта там ужо, кажуць, і войска, і матацыклы, і танкі... А ў нас праз вуліцу праімчалі ўсяго мо якія разы тры машыны з нямецкімі салдатамі. Спыніліся аднаго разу каля Нядонскіх, спыніліся каля Фрасынінай хаты.

– Матка, млека! Матка, яйка!

Дык жанкі, вядома, адразу ж і панеслі ўсё, што загадвалі... Піце, жарыце – няхай вас паразрывае! На гэтым усё на той раз і абышлося. Старэйшыя, хто памятаў, пачалі ўспамінаць і нават хваліць колішніх немцаў, тых, што стаялі па хатах у васямнаццатым годзе. Тыя дык нават і надта ўжо далікатныя былі. Ніводзін, бывала, не зойдзе ў хату, не выцершы боты ля парога. І да жанок усе былі пачцівыя: фрау ды фрау; і да дзяцей – кіндар ды кіндар, ды яшчэ каторы цукерку ці пернік дасць дзіцяці. То мо і гэтыя будуць нягоршыя за тых... Хоць, праўда, чуткі даходзяць страшэнныя. Па іншых сёлах і засценках не мілуюць нікога. Ні старога, ні малога. Рабуюць, гвалцяць, паляць хаты...

...Каля нашых варот тым ранкам спынілася двое матацыклістаў. Той, што ішоў паперадзе, ботам адшпурнуў фортку, следам за ім па двары загрукаў другі. Абодва накіраваліся ў хату. Цётка Іваніха з дачкою Сашай паспелі схапіць і стрэць іх на ганку з міскай яек і збаном малака. (Ухлыніцеся вы імі!)

Але немцы, нібыта і не было іх тут, усё гэтак жа грукаючы падкаванымі абцасамі, прамаршыравалі праз расчыненыя дзверы ў хату. На адну палавіну зайшлі, дзе жыла сям'я, дзе вялася ўся гаспадарка – з печчу, з чыгунамі, з лавамі, сталом на покуці, з ложкамі...

Што ў той хаце было глядзець? Чаго шукаць?

Бразнулі дзвярыма праз сенцы – на чыстую палавіну рванулі дзверы. І там былі печ, і стол, і ўслон, і ложкі... Але падлога там была вышараваная і засцеленая вясёлымі тканымі ходнікамі. На ложках гарой уздымаліся неўжываныя (пасажныя!) у наўлечках з прошвамі падушкі. На вокнах ружова і пунсова гарэлі мушкаты.

Як заваёўнікі, як гаспадары, немцы ўладна змералі ботамі і гэту, чыстую палавіну. Зазірнулі, выцягнуўшы шыі, на прыбраную печ. Адсунулі пабеленую засланку і туды ўткнулі насы. У няпаленай печы стаяла некалькі гліняных і шкляных слоікаў з варэннем (найлепшае месца для летняга схову). Старэйшы немец, відно, начальнік, паказаў знакам маладзейшаму, і той вельмі спрытна выцяг з печы два ладныя слоікі. Панюхаў паперу, якою яны былі шчытна абвязаны, і задаволена рагатнуў, прыціскаючы слоікі з абодвух бакоў да грудзей.

У сенцах, не адважваючыся наблізіцца да расчыненых дзвярэй, стаялі з гладышом малака і міскай яек у руках цётка Іваніха з Сашай. З-за іх спін з вясёлай цікаўнасцю пазіралі Сашыны дзеці – Насцечка і Дзімка. Жанкі моўчкі, знакамі забаранялі ім вытыркацца наперад. Валодзі дома не было. Ён з возам паехаў на палетак па снапы. Калгаснае жыта звозілі яшчэ ў калгасныя гумны.

– Партызан? – азіраючы вакол хату і кіруючыся да парога, звярнуўся да жанок старэйшы немец.

– Не, панок, у нашым засценку няма партызан! – жанкі інстынктыўна працягнулі ў руках яйкі і малако.

Немцы выйшлі ў сенцы, і той, што быў відавочна за начальніка, паказаў на дзверы ў камору. Сястра Саша адчыніла дзверы.

– Камора тут, пан. Мука тут, лён няспрадзены, воўна... А вось тут, у бочцы, бярозавы квас, можа, паны пажадаюць напіцца? Смачны, – нібыта немцы здольны былі зразумець тое, што яна кажа, паказвала Саша на ліпаўку з мукой, на куклы лёну, на клумкі нячэсанай воўны.

– Партызан? – зноў перапытаў немец-начальнік. Паказваючы на лескі, па якіх лазілі на гору.

– Не, панок, у нас няма партызанаў! – зноў у адзін голас ледзь не загаласілі жанкі. За партызан яны ўжо добра ведалі, што іх усіх чакала.

– Ніхт партызан! – нібыта хапаючыся за выратавальную саломіну, вымавіла Саша. (Да рэвалюцыі яна скончыла тры класы Слуцкай жаночай гімназіі і на ўсё жыццё запомніла гэта кароценькае нямецкае *ніхт.*)

Немец-начальнік загадна паказаў малодшаму немцу на лескі: лезь! Той паспешліва паставіў слоікі з варэннем на дубовае века, якім накрыта была бочка з укіслым бярозавікам і, спрытна перабіраючы маладымі нагамі па перакладзінах лесак, умомант апынуўся на гары.

Жанкі знямела зірнулі адна на адну.

– Ды тут бібліятэка! – здалёку пачуўся глухаваты голас маладога немца.

На гары, паводдаль ад стаяка-коміна, ляжала ў нас і сапраўды цэлая гара старых кніг. Я паспела амаль усю яе перачытаць, пакуль яшчэ жыла пры сястры і вучылася ў школе. Старэйшыя злавалі на мяне (рабі лепей работу!), і сястра Саша не раз вырывала ў мяне з рук кнігу і тушыла позна ўночы газоўку (не начытаешся ты ўсё!), але перайначыць мяне было немагчыма... Шэлер-Міхайлаў, Пісемскі, Станюковіч, Мельнікаў-Пячэрскі, князь Севярын, князь Валконскі... Якое каханне палыхала па пажоўклых старонках іх раманаў! (За раманы – чытаць іх у мае гады, на погляд дарослых, лічылася непрыстойным – больш за ўсё мне і даставалася...) Кнігі належалі нашаму дзядзьку Філіпу – роднаму брату Сашынага бацькі і мае мамы. На кожнай з іх, на тытульнай старонцы, стаяла пячатка: “Изъ книгъ Филиппа Григорьевича Ждановича-Гурновича”. (Мая мама і малодшая сястра яе ў дзявоцтве насілі адно толькі прозвішча: Гурновіч. А іх пяцёра братоў насілі прозвішча двайное. Мой дзед Грысь сынам сваім закупіў дваранства. Маючы намер даць ім добрую асвету і вывесці ў людзі... З дачок, на погляд дзеда, павінна было хапіць і замужжа.)

У нас дома расказвалі, што недзе ў пачатку дваццатых гадоў, у самы голад, дзядзька Філіп прывёз сваю бібліятэку з Палтавы і памяняў яе ў свае вясковае радні на муку і скорам... Хутка дзядзька памёр ад тыфу, пакінуўшы сына і жонку. Не то грузінку, не то татарку (так казалі ў нас дома – да радні яе дзядзька Філіп ні разу не прывозіў). Як скрозь сон успамінаю іх абоіх на фотаздымках. Дзядзька-афіцэр пры пагонах. (Мама, успамінаючы брата, ганарылася яго залатымі пагонамі, а я ўспамінаю зараз сваё: якім гневам кіпела чырвонае камандзірства, калі гэтакія ж залатыя пагоны былі ўведзены, калі ішла Вялікая Айчынная... І салдаты бунтавалі супраць пагонаў... Шашка ў дзядзькі-афіцэра кранаецца долу. Ён сядзіць, нага закінутая на нагу, у крэсле. У дзядзькі тонкія вусы, прыгожы строгі твар, годная пастава (самы любімы мамін брат!). Побач з ім, паклаўшы руку яму на плячук, стаіць нетутэйшага характва маладая жанчына ўся ў белым да зямлі. На галаве шыкоўны белы капялюш, упрыгожаны... Кветкамі? Стравусіным пер’ем?.. Гэтак прыблізна цяпер праз хісткую затуманеную адлегласць гадоў узнаўляю я тыя расталыя ў часе вобразы, не маючы ўжо ў каго спытаць, даведацца, удакладніць, калі, адкуль узялося

ў дзядзькі Філіпа яго афіцэрства, якое званне і вайсковы чын ён насіў, на чыім баку ён быў у рэвалюцыю і грамадзянскую вайну... У дзяцінстве ўсё гэта было мала цікавае, пазней, у юнацтве, пра такую радню ўспамінаць нават было небяспечна... Невядома мне, які лёс стрэў пасля дзядзькавай смерці яго экзатычную (для яго паходжання) жонку і яго сына – майго стрыечнага брата Валянціна. Спытаць зараз ужо няма ў каго. Усе, хто ведаў, хто памятаў той час, тых людзей, памерлі. А фотаздымкі, якія былі ў нашай сям'і і захоўваліся ў маміным альбоме, яшчэ перад вайной, калі пасадзілі на дзесяць гадоў Валодзю і калі трэслі нас з вобыскам і канфіскацыяй маёмасці (якая там была маёмасць!), усе фотаздымкі мая стрыечная сястра Саша спаліла...

Засталіся на гары толькі кнігі дзядзькі Філіпа.

– Тут бібліятэка! – паўтарыў малады немец.

Можа, ён быў, як і я, са студэнтаў... І яго – немца-студэнта, забралі на вайну?

– Хутчэй! Хутчэй! Што там яшчэ? – падганяў з каморы, задраўшы галаву на яго голас, немец-начальнік.

– Адзін момант!.. О... Ды тут яшчэ і Сталін! – раптам спалохана выгукнуў з гары немец-студэнт.

– Чорт яго вазьмі! Які Сталін? –абурыўся немец-начальнік.

– Адзін момант! – на гэты раз нейкім вельмі нервовым фальцэтам азваўся малады немец.

І сапраўды – у адзін момант! – над лескамі мільганулі падэшвы ягоных ботаў. А ў вольнай руцэ яго, якою ён не трымаўся за лескі, быў мой Сталін з Мамлакат Нахангавай...

– Паночкі! – першая загаласіла на ўсю камору цётка Іваніха, працягваючы рукі да маладога немца. – Дайце я спалю ў печы гэтага бандыта!

Немцы зразумелі толькі *бандыта*...

– Бандыт?! – забіраючы ў малодшага з рук фанернага Сталіна і Мамлакат Нахангаву, грэбліва адвёў руку немец-начальнік.

– Бандыт, паночкі! Анцыхрыст! – яны ўжо абедзве галасілі ў адзін голас – і цётка Іваніха і мая сястра Саша.

– Шыссэн, матка! – немец-начальнік выразна паказаў на аўтамат, які вісеў у яго на грудзях.

Цётка Іваніха з гэтага незразумелага ёй звароту зразумела галоўнае: немец зараз іх пастраляе!

– А дачушка мая! А ўнучкі мае дарагія! Давайце ім хутчэй яечкі! Давайце малако – няхай п'юць!.. Пан, курку зловім зараз... Маладая курка, толькі пачала несці яечкі...

Цётка Іваніха, як магла, заступала сабою ўнукаў і дачку.

– Гэта ў нас дзяўчына жыла. Яна – студэнтка. Вучыцца далёка... На настаўніцу вучыцца. Дык гэта яе ўпадабаў таксама малады настаўнік і намаляваў ёй... – у Сашы не хапіла адвагі назваць Сталіна Сталіным. Ёй, як і цётцы Іванісе, зручней было зваць яго анцыхрыстам і ідалам... Мора слёз яна выліла, бездань пакут адпакутавала і сама яна, і ўся яе сям'я ад гэтага нелюдзя... А зараз праз яго ж і яе дзяцей, і яе маці, і яе самую пастраляюць ужо нелюдзі гэтыя...

Як і яна немца, гэтак і немец не зразумеў яе ні слова.

Але ўжо цётка Іваніха падавала яму ў рукі, наровячы забраць з іх Сталіна, слоікі з варэннем, а Саша працягвала міску з яйкамі і збан малака.

Дзеці ж, зразумеўшы, што на вачах у іх адбываюцца зусім не жарты, неслі з двара стракатую чубатку з чырвоным, як агонь, грабянцом.

Чубатка апантана білася ў дзяціных руках, кудахтала на ўвесь свет і рвалася да свае курынае волі... Аднак гэта яе памкненне ніяк не адпавядала ні стратэгіі, ні тактыцы доблесных ваяк фюрэра. Малады немец-“студэнт” спрытна перахапіў няскораную чубатку з дзяціных рук у свае.

Старэйшы немец-начальнік шпурнуў Сталіна пад ногі і выцер аб яго боты. А потым грэбліва выцер насоўкай рукі і жэстам загадаў свайму падначаленаму імправізаваць сняданак на вольным паветры.

Са слоікамі варэння, з аціхлай курыцай, з міскай яек і гладышом малака немцы з сянец рушылі на двор...

Цётка Іваніха схапіла з падлогі Сталіна і кінулася ў хату. Кінулася зрабіць тое, чаго не зрабіла яна тады, калі загадвала дачцэ і тая не паслухала яе.

Печ яшчэ не прагарэла, агонь імгненна накінуўся і прагна лізнуў жаданую спажыву. Неўзабаве ад яе не засталося ні знаку, ні следу. (Як і ад таго майго рызыкоўнага кахання...)

...Пра ўсё гэта я даведалася толькі пасля вайны, калі сама “абазвалася” і прыехала дадому. Як і нагадала пра мяне на картах сястры Сашы варажбітка.

Валярына Кустава



...Каб ты зноў вяртаўся з туманам,
множыць радасць, дзяліць трывогі.
Каб ты зноў вяртаўся, каханы,
пасля бою, вайны й перамогі...

# Беларуская Галгофа

* * *

Яна ўсміхнецца –
далоні ў далоні возьме.
І выдыхнуць зможаш – глыбока,
нібы ўпершыню.
Смерць – гэта восень,
памножаная на вышыню.
Яна абдыме,
суцешыць
і мяккай котачкай
пацалуе ў плячо.
Смерць – як глыток са сподачка:
раз – і ўсё.
Прыйдзе ціхутка,
саван сцяжыны ўкладзе
нетаропка.

...Смерць – гэта хутка,
як новы дзень,
як кропка.
І нават амаль не складана
(маліся, мама, маліся)
сыходзіць,
калі
дзеці, вершы й каханыя
засталіся
на гэтай зямлі.

*Жнівень 2018*

* * *

Каб спытаўся: ну, як ты?
Ніяк... – адказала б.
Як летні скразняк:
досыць дзверы табе зачыніць,
я знікаю.
Ірвуся,
як ніць.

*2019*

* * *

Шуміце, шуміце, сосны...
Мне б, сосны, рост ваш высозны,
каб перакрочыць боль,
што за мяне больш.

*2019*

* * *

Ёй так не ставала цяпла,
што гарачую гарбату
яна пачынала піць з самай раніцы,
сканчваючы глыбока апоўначы.
А штоночы сніла горы і моры,
што бліжэй за ўсіх да сонца,
на якое глядзела ўсе сны навылёт.

Але замест цеплыні
заставаліся толькі апёкі:
ад кіпневай гарбаты – у горле і жываце,
ад снёнага сонца – у вачах.

І тады яна завяла ката.
Кот – яна вырашыла – куды надзейней
за каханне,
нават калі гуляе сам па сабе,
то вяртаецца цёплым,
і не апячэшся.

*2019*

* * *

Плыві, рыбка, плыві...
Без радасці, без любові.
На хвалях уласнага болю.
Бог і святло
з табою
у жыццёвым віры.

Падкажа цячэнне,
дзе суцяшэнне.

*2019*

* * *

*Il est où le bonheur, il est où?**

Ён казаў, што шчасце поруч –
дачушка з усмешкай анёлка,
вось яно.
Яна ж на ружы
лічыла пялёсткі:
цотны-няцотны,
каб знайсці
хоць нейкую легальную нагоду
выйсці ў вакно.

Скрозь статкі чорных пегасаў
яна спрабавала ўспомніць,
якое бывае шчасце,
цалункі ў шыю й запясці
далёка ад дома, апоўначы.

Шчасце – жмені святла,
што скрозь пальцы
збягалі...

У тыя сухія далоні,
каго не кахалі.

*2019*

---

*(фр.) "Дзе яно, шчасце, дзе яно?" – радок з песні Крыстафа Маэ *"Il est où le bonheur"*.

* * *

Мераю час да цябе
туманамі і лістападамі,
летнімі зарападамі,
снягамі і капяжамі,
сонцамі і начамі,
касцельнымі званамі,
раплюшчанымі вачамі
на раз, два, тры –
твае пальцы ў мяне ўнутры
намацваюць новы рым.
Магчыма,
ты і ёсць – мужчына-Айчына,
плечы якога – муры,
сэрца чыё – брукаванка,
і ўсмешка – каханка,
што вярнуўся пасля вайны.

Як жа лёгка
ў чырвоным адзенні
мне выходзіць
на брук твайго сэрца,
басанож,
і, абняўшы аберуч, –
не баяцца ашчэру
звера.
Карміць з рук
вагнём і паветрам,
каб ты дыхаў на поўныя грудзі,
каб ты йшоў, прамяністы, наперад.
Каб цябе прапускалі людзі.

Каб ты зноў вяртаўся з туманам,
множыць радасць, дзяліць трывогі.
Каб ты зноў вяртаўся, каханы,
пасля бою, вайны й перамогі.

*2018*

## *ПЯЛЁСТКІ СЦЯГОЎ*

Карагоды каханняў агністых
ходзяць унутры
пад фантазіі тых дзён і начэй,
такіх яркіх, такіх прамяністых,
што яшчэ
чакаюць нас, калі захочам
наноў і хутчэй.
Спадаюць мадонны,
абняўшы за таліі
сваіх багоў,
укленчваюць
і пацалункі дораць,
хаваючы святарны нораў
сярод коўдраў
і пялёсткаў сцягоў.
Маладыя героі
будуюць у сэрцах
катэдры і сцэны
й запрашаюць туды
сваіх юных князёўнаў,
каб таньчыць да раніцы пад тыя песні,
што былі да іх
і будуць заўсёды.

*1 сакавіка 2018*

* * *

Ён казаў –
будзь з іншымі,
не па зубах
мне аднаму ты.
Дужа моцная,
дужа прыгожая,
катэгарычная,
крыху вальтанутая.
Яна прасіла –
стану мяккай,
як вераснёўскі яблык,
каб мог увайсці
ў мяне ты
ікламі.
Толькі пасля
не забудзься

падзьмуць
на раны,
каб ад майго болю
не зніклі мы.
...Цішэй, цішэй,
душа, плач –
бо чутно
ажно нават знутры.
Святлей радуйся,
усміхайся часцей,
і не зрывайся на крык.

*2014*

## *БЕЛАРУСКАЯ ГАЛГОФА*

Крочылі жонкі з дзецьмі малымі
крыжовым шляхам у Курапаты.
Ішлі Вольгі, Надзеі, Марыі,
як святыя, зацятыя.
З босымі душамі,
за крыжапрадаўцамі –
замольваць раны,
што не згаіла
зямля,
ад знакаў знявечаных,
скатаваных.
Ішлі настаўнікі, паэты, аратыя,
што застануцца ў вечнасці.
А сярод іх – халуі
ды к*а*ты,
што цікавалі за імі,
расстралянымі і жывымі,
і выжылымі пасля.

Вясна распускала лісце –
і нібыта хацелася жыць.
А трактары-аўтазакі
з заплямленымі нумарамі,
як тады, у трыццаць сёмым
калісьці,
па нашыя душы-крыжы
ўзняліся
сёння.

*4 красавіка 2019*

* * *

Змяніла картрыдж для друкаркі:
запраўка сышла хутка, як бабуліна сочыва.
А дзе здабыць для душы фарбы,
калі душа скончылася?

І цяпер вершы вострa-каляровыя,
а думкі — чорна-белыя,
як восеньская Вільня.

І здані зялёнавокія ды белабровыя
клічуць на Росы Каліноўскага магільняй.

*2020*

## ВАЎЧЫХА

На поўню, на маладзік,
на ветах вые ваўчыха.
Мяккім поступам дзік
пройдзе лягчэй за мніха,
лось сыдзе наўзбоч,
зубр хаду спыніць ціха,
каб увайшла ў ноч
маці-ваўчыха.

Вынюхвае шлях, каб жыць,
вылізвае ваўчанятку,
пакуль маладыя стрыжы
вясны прынясуць аплатку.

*2020*

проза

Адам Глобус



...нічога лепшага за катанне на матацыкле ўявіць немагчыма...

# Не спраўдзілася

***Апавяданне***

Ты спадзяешся на нешта нейкае, а нічога не атрымліваецца, не здзяйсняецца, не выходзіць. Такога шмат. Чым даўжэй ты жывеш, тым больш застаецца ў далёкім і блізкім мінулым гэткіх недаробленых, няскончаных, няспраўджаных намераў, надзей, планаў. Большасць з іх назаўжды засталася ў дзяцінстве, у юнацтве, у маладосці. Можа, таму і згадваюцца яны з прыемнасцю ды лёгкім і празрыстым сумам.

Згадваецца маё дзіцячае жаданне стаць паляўнічым...

Мужчыны збіраліся на паляванне. Гледзячы на іх, я марыў вырасці як мага хутчэй і набыць стрэльбу, патранташ, порах, шрот, гільзы, чырвоныя і жоўтыя, жаканы, пыжы, боты з высокімі халявамі, шомпал... І яшчэ рознага ўсяго, што спатрэбіцца на паляванні на качак ды зайцоў, ваўкоў і дзікоў. Набыццё рэчаў для палявання я думаў пачаць з нажа з шырокім лязом, пра які яшчэ кажуць: «З такім нажом можна і на мядзведзя пайсці!» Не ўпэўнены, што

атрымаецца заваліць мядзведзя адным толькі нажом, але так казалі ў маім Койданаве ўсмешлівыя мужчыны з пракуранымі зубамі, а я за імі вось тут паўтараю.

Згадваю, як стаяў за спінаю ў дзядзькі Антака і глядзеў на засыпанне пораху і шроту ў кардонную гільзу з залацістым капсулем. Згадваю, як радаваўся прывезеным з палявання качкам. «Праз год мы і цябе на паляванне возьмем!» – паблажліва абяцалі мне пракураныя мужчыны. Я чакаў, а праз год зноў чуў чарговае «праз год». Так і не з’ездзіў я на паляванне з койданаўскімі мужчынамі. Не склалася.

Цяпер думаю: і добра, што не спраўдзілася мая мара стаць паляўнічым. Надоечы знаёмыя хлопцы запрашалі мяне паехаць і папаляваць на ваўкоў. Я нават даў папярэднюю згоду, а пазней падумаў: які з мяне памочнік на такім адказным паляванні, калі я нават зайца ніводнага ў сваім жыцці не падстрэліў? Падумаў, памаракаваў ды адмовіўся. Хлопцы спрабавалі ўгаворваць і не ўгаварылі.

Было ў мяне жаданне вучыцца на рэжысёра...

У сёмым класе мне падумалася, што найлепшая ў свеце прафесія – кінарэжысёр. Набраў я ў бібліятэцы кніжак Сяргея Эйзенштэйна, Віктара Шклоўскага, Сяргея Герасімава і пачаў іх чытаць-вывучаць. Прачытанае я спрабаваў абмяркоўваць з аднакласнікамі і знаёмымі, але нікога з іх не зацікавіла прафесія рэжысёра. У кіно ўсе любяць артыстаў і глядзяць толькі на іх, усе сочаць за сюжэтам, а потым і пераказваюць яго, усе насвістваюць і напяваюць музыку з фільмаў... Рэжысёр, калі ён не ў кадры, калі яго твар не паказваюць буйным планам, калі ён не трапіў у якую-небудзь скандальную гісторыю, застаецца чалавекам малавядомым. Гэта як дырэктар завода, што выпускае аўтамабілі. Публіка ведае маркі машын, а прозвішчы дырэктараў заводаў, што робяць гэтыя машыны, ведаць не хоча.

Яшчэ мяне моцна насцярожвала так званае блізкае сяброўства рэжысёраў з дзяржаўным кіраўніцтвам. Такое сяброўства, якое на самой справе ніякае не сяброўства, а звычайнае падпарадкаванне. Мая любоў да вольніцы і насцярожанае стаўленне да розных падпарадкаванняў і ўратавалі мяне ад рэжысёрства ў кіно. Усе ролі, якія мне прапаноўвалі сыграць у фільмах, я прымаў. І сыграў іх з прыемнасцю. Усе народныя раманы, зробленыя ў маіх выдавецтвах для непатрабавальных чытачоў, я спакойна прадаваў для экранізацыі, калі ў якога прадзюсара ўзнікала ў гэтым неабходнасць. Усе кінасцэнарыі, якія мне заказвалі кінастудыі, я напісаў. Менавіта рэжысёрам я не працаваў ніколі. Жаданне пабыць каралём на кінапляцоўцы так і засталося ў маім сёмым класе.

Недзе ў далёкім школьніцтве засталося і маё жаданне стаць матацыклістам...

Нічога лепшага за катанне на матацыкле ўявіць немагчыма! Так я думаў, калі ў нізкастолевым хляве залазіў на дзедаў «К-750». У дзедавага брата Казіка ў хляве хаваўся і адпачываў «Іж». Яшчэ па Койданаве лёталі «Явы», «Панонііі» і «Мінскі». Па гуку рухавіка я мог здалёк пазнаць марку матацыкла. Я не сумняваўся, што, як толькі падыдзе ўзрост, я адразу здам на правы і набуду сабе «Мінск», бо ён быў самым танным з матацыклаў. Праз год-два пасля гэтага я планаваў прадаць «Мінск» і, даклаўшы грошай, перасесці на «Яву».

Сам сябе я бачыў на матацыкле ў скураных пальчатках і вішнёвым шлеме. Многія хлопцы ездзілі па мястэчку ў танкісцкіх шлемах, куплялі іх на танкадроме ў Станькава, але яны выглядалі на матацыклістах па-

дзікунску. Так і хацелася ў такога хлопца папытацца: «Дзе ты свой танк згубіў, дэзерцір?» Так і пыталіся ў нахабных матацыклістаў востраязыкія койданаўскія дзеўкі, каб падкалоць тых. Трапляць у камічную сітуацыю мне не хацелася, а таму і думаў я пра вішнёвы бліскучы шлем. Не купіў я яго, і «Яву» не купіў, і на правы не пайшоў здаваць. Тройчы я разбіваўся на ровары. Іх я сабе купляў. Роварных аварый мне хапіла, каб адкінуць мару пра матацыклы. Пасталеў і прыняў рашэнне: матацыклістам я не стану, бо для мяне гэта завялікая рызыка.

Вялікай рызыкі хадзіць у пастухах няма, але і прафесійным пастухом я не працаваў...

Пасвіць авечкі ці каровы? Пасвіў я і авечкі, і каровы... Свіней не пасвіў, коней не пасвіў... Я мог бы і навыдумляць пра коней, але не стану. Нашто? Мне і каровы падабаюцца не менш за коней. Шмат я іх і маляваў. У дзеда з бабай у гумне стаяла карова з белай плямкай на лобе – Зорка. Яе я і пасвіў разам з іншымі каровамі з нашай Babакомшчыны. Штораніцу з вёскі ў поле выганялі пасвіцца сорак дзве каровы. Пастухоў ішло чацвёра. Помніцца, як я браў у кішэнь фуфайкі кніжачку пра руска-польскага мастака Верабейку, Урубэлка, Урубеля. Стаяў сонечны ліпень, я ляжаў на фуфайцы, сачыў краем вока за тым, каб якая з кароў не выйшла на шасейку, і чытаў пра мастака-рамантыка Урубеля, пра яго любоў да тэатральнасці і паэзіі рамантыка Лермантава, Лермонта.

Чытаючы пра ўзнёслы рамантызм, я не забываў падумаць і пра сябе – простага хлопца, які пасвіць каровы каля вёскі Варакомшчына. Хлопца, жыццё якога можа скласціся так, што яму давядзецца вярнуцца жыць у дзедаву хату і працягваць тут, на вёсцы, пасвіць каровы. Усё жыццё я жыву з думкаю, што магу, калі што якое, пайсці працаваць пастухом. Быў такі час, калі думалася, што ў поле замест кнігі я стану браць бутэльку з самагонкай, а цяпер зноў думаю пра кнігу ў кішэні фуфайкі.

Адно з самых першых дзіцячых жаданняў, якое мне хацелася здзейсніць у далёкім дарослым жыцці, – гэта стаць клоўнам...

Не выдурвайся! Паводзь сябе сур’ёзна! Ты што, здурнеў так жартаваць?! Твае кпіны і твой смех людзі не даруюць табе!.. Колькі я такога чуў! Колькі пачую! А ўсё з-за чаго? Люблю весялосць! Панылась, маркота, нудота – не мае смяротныя грахі. Факт! Пачалося гэта ў мяне не сёння і не ўчора. Пачалося так даўно, што ў тое мне самому цяжка паверыць. У маленстве, калі бацькі звадзілі мяне ў цырк, дзе я пабачыў клоўна. Рыжагаловы, чырвананосы, белатвары клоўн у аранжавым камбінезоне і чорных паўметровых чаравіках мяне ўразіў, агаломшыў і зачараваў. Ён рагатаў на ўвесь цырк і, рагочучы, качаўся па арэне. Ён плакаў струменямі, падобнымі на струмені сікуноў. Ён куляўся праз галаву, скакаў па прыступках, даваў падсрачнікі ды штурханцы гледачам. Маім бацькам клоўн не спадабаўся. Ён спадабаўся мне.

Калі мяне пачалі пытаць: «Кім ты, Вовачка, станеш, калі вырасцеш?» – мой адказ быў заўсёды аднолькавым... Клоўнам! Мае аднагодкі марылі стаць касманаўтамі і лётчыкамі, дактарамі і шафёрамі, кранаўшчыкамі і футбалістамі... Нармальныя дзеці жылі вакол мяне. Правільныя і перспектыўныя. Нават тыя, хто хацеў стаць баксёрам ці падарожнікам, не выклікалі ў дарослых такога здзіўлення, як я, хлопец, які хацеў насіць рыжы парык. Каб у нашым Мінску было цыркавое вучылішча, я б туды абавязкова наведаўся, але ў Мінску яго не было, а ехаць вучыцца на клоўна ў іншы горад я не захацеў – пайшоў у мастакі.

Самы незвычайны занятак, якім я цікавіўся ў дзяцінстве, – гэта выратаванне людзей на моры...

Ратаваць людзей – занятак, варты мужчыны... Так казаў мне дзядзька Гена. Ён нейкі час працаваў выратавальнікам на чарнаморскім пляжы. Сезонаў пяць працаваў – і ганарыўся сваім заняткам. Ён навучыў мяне заходзіць у мора з чатырохбальным штормам. Навучыў правільна абыходзіцца з марской хваляй. Навучыў лічыць валы. Ён навучыў мяне паважаць мора. Гена казаў, што можа дапамагчы мне з уладкаваннем на працу выратавальніка на гарадскім пляжы ў Сочы.

Разрад па плаванні я меў, так што плаваць, даваць нырца і скакаць з дзесяціметровай вышыні я ўмею. Ніякіх шкодных звычак я сабе не завёў, таму мог разлічваць на адказную працу. Дарэчы, смеласці ў мяне таксама хапала. Не кожны зможа загнаць сябе ў раз'юшанае мора; не кожны, адчуўшы, як мора адцягвае цябе ад берага, зможа знайсці ў сабе мужнасць самому выплываць, а не гарлаць і не клікаць на дапамогу. Ну і не за кожнага паручыцца дзядзька, які сам папрацаваў на пляжы. Гена казаў, што паручыцца за мяне, а гэта было ўжо шмат...

Чаму я не стаў выратавальнікам? Таму што жыў я ў Мінску, а ў Сочы прыязджаў да дзядзькі з цёткай адпачываць. Але мне было прыемна мець такую мару – адзін сезон папрацаваць выратавальнікам.

Не менш мужчынская за працу выратавальніка і праца грузчыка...

Герой павінен быць дужым, яму трэба быць асілкам, волатам, а інакш які ён герой?.. Зломак, нямога, хіляк. Бацька мой пачынаў з працы грузчыкам на чыгуначнай станцыі ў Наваельні. Там і дзед наш Ладзімір усё жыццё прапрацаваў грузчыкам, а пазней, на пенсіі, і вартаўніком.

З дзяцінства я ведаў, што, каб насіць мяхі, патрэбна не толькі сіла, але і спрыт. Ведаў я і самага дужага мужчыну сярод грузчыкаў у Наваельні, гэта быў хутаранін, наш сваяк Ладак Адамчык. Доўгі час ён выйграваў усе спаборніцтвы сярод наваеленскіх асілкаў. Ладака паважалі. Мне, хлопчыку, хацелася стаць дужым, як той волат Ладак. Хоць я ўжо тады быў даволі моцным і спрытным: я мог пабароць Ладакова сына, майго раўналетку.

У працы грузчыкаў на чыгунцы мне бачылася тады і бачыцца цяпер праўдзівая патрэбнасць. Мужчыны разгружалі вагоны. Перакідвалі мяхі са складоў на машыны. Пераносілі скрыні з адной платформы на другую. Праца выглядала цяжкай, і не было сумневаў у яе патрэбнасці. Змяняліся імперыі і дзяржавы, змяняўся дзяржаўны лад і кіраўнікі, а грузчыкі як цягалі на спінах мяхі, так іх і цягаюць. Дзед Ладзімір вучыў мяне правільна браць мех на плечы і апускаць яго на зямлю. Атланты і карыятыды выклікалі ў мяне пачуццё роднасці. У адной з маіх найлепшых песень ёсць радок: «Мужыкі пад паветку складалі мяхі з угнаеннем». Гэта радок пра прадстаўнікоў адной з маіх любімых прафесій. Праўда. Я люблю падымаць цяжкае, перастаўляць мэблю, грузіць пачкі з кнігамі, насіць на руках жанчыну... Нават сам дзіўлюся з таго, што я не папрацаваў прафесійным грузчыкам, як мае бацька і дзед.

Аднойчы я стаяў зусім блізка да таго, каб стаць школьным настаўнікам малявання...

Адчай! Менавіта ён падштурхнуў мяне ісці ўладкоўвацца ў сярэднюю школу на працу настаўніка малявання. Сям'я, дзеці, безграшоўе... З часопіса «Беларусь», дзе я адпрацаваў тры месяцы журналістам у аддзеле культуры, мяне звольнілі, бо спатрэбілася месца для дачкі начальніка. Звольнілі адразу

пасля Новага года. Нічога лепшага за школьнае настаўніцтва мне тады не прыдумвалася.

Я пайшоў да нейкай чыноўніцы, тоўстай бабы з шыньёнам на галаве. Яна тлумачыла мне праблемы школы, маўляў, зараз усе месцы занятыя. На такую працу трэба ўладкоўвацца ўлетку. Яна можа пашукаць месца ў школе на ўскраіне, магчыма, нешта і знойдзецца ў якой-небудзь Чыжоўцы. Гарантый няма. Зайдзіце, маўляў, праз тыдзень.

Зайшоў. Калідоры і кабінеты пахлі нейкай цвілой спарахнеласцю. Чыноўніца з тварам, падобным да рыхлай рэпы, сур'ёзна паведаміла мне пра адсутнасць месцаў. Я сказаў ёй, што ў нашых школах маляванне выкладае абы-хто і абы-як. Чыноўніца расчулілася. Палагоднела. Сказала, што можа прапанаваць мне месца ў Чыжоўцы, дзе маляванне выкладае настаўнік працы. Але не раіць мне ісці ў школу. Сказала, што не з маімі здольнасцямі сядзець там. Паслухаўся я чыноўніцу і ў чыжоўскую школу не пайшоў, пра што часам крышку шкадую. Праўда, зусім крышку.

Аб тым, што ў дзяцінстве я збіраў і здаваў бутэлькі, я ніколі не шкадаваў...

Пасля пятнічнай ночы ў мінскіх скверах, парках і дварах, каля сметніц і побач з лаўкамі шмат пустых бутэлек. Зараз, вядома, гэта ў асноўным пластык ды бляшанкі, а раней кругом зіхцела бутэлечнае шкло. Адна піўная бутэлька каштавала як цэлы батон без адной капейкі, як цэлы бохан хлеба без двух капеек. За гарэлачную, як і за піўную, давалі дванаццаць капеек – капітал.

У дзяцінстве ў нас дома я займаўся вынасам і здачай бутэлек. Большасць з іх былі малочныя, але такія на нешта абменьваліся адразу ў краме. Прыйшоў з пустой бутэлькай, а вярнуўся з поўнай малака або кефіру. Майстэрствам збірання і здачы шклатары я авалодаў рана. Ведаў усе пункты ў раёне, ведаў, дзе і калі чарга самая кароткая, ведаў, колькі бутэлек змагу давалачы і здаць за адзін заход. Таму я ніколі не баяўся застацца без хлеба. Пайду назбіраю бутэлек, здам і атрымаю на хлеб і да хлеба.

У часы студэнцтва мне давялося ў Слабодцы, што пад Браславам,назбіраць і здаць не адзін мех бутэлек. Зарплату нам, археалагічнай экспедыцыі, затрымалі так, што засталіся мы без аніводнай капейкі, нават на білеты ў Мінск не хапала. Зрабіў я тады добрую справу сабе і людзям – сабраў пустыя бутэлькі, якія валяліся пад прыазёрнымі кустамі. Назбіраў я тады бутэлек на цэлую стыпендыю. Чым і ганаруся, між іншым. Таму я заўсёды трымаю ў галаве праект са збіральніцтвам шклатары... Стану зусім старым, але застануся вольным у творчасці, бо на кавалак хлеба я заўсёды змагу назбіраць шклатары, а калі не шклатары, дык якога кардону.

паэзія

Міхал Бараноўскі



...Мы не рабы
Хочацца крыкнуць
Але замірае голас...

# Ахова птушак Бацькаўшчыны

* * *

Не двухгаловы арол
Не ожэл
З раскіданага
Але свайго гнязда
Паходжу
Неба п’ю шэрань
І шэрані гэтай малюся
На ружы вятроў
На крыжы дарог
На попеле Беларусі
Я не ведаю дзе
Магілы дзядоў
Уся краіна цяпер мне вырай
На мяжы ільдоў
Сівым валуном

Па смерці сваёй
Абярнуся
А пакуль пажыву
На сваю галаву
Упоперак крыўды і праўды
Буду сам называць
Буду сам выбіраць
Уласную волю і краты
І няхай языкі
На чатыры бакі
Словы мае абглыдаюць
Буду вялікім
Буду малым
Калі сам таго пажадаю

—

Дзіў напамінам
Пакінуў пяро
Знік у нерушы сцюжнай
Пёрка тоне
Нібы ў пяску
У сподзе тваёй фрэндстужкі

* * *

Ён сядае на дах праз дарогу і проста глядзіць
Чытае па рухах вачэй гісторыі сноў
Каб тое што мы так прагна імкнемся забыць
З сабою забраць і назаўтра вярнуцца зноў
Скрозь снег і холад ды проста глядзець на нас
Слабых і бязвольных ў бясконцай сваёй магуце
Без вычураў гульняў хітрасці ды прыўкрас
І думаць чарговы раз гэта проста людзі
За дзень да таго як пачнецца няспынны дождж
Альбо як агонь пад гарою ўвойдзе ў сілу
Князь Кук па пяры раздорыць сваю любоў
І болей у неба крылы свае не ўздыме
Бывай назусім дах насупраць сягоння пусты
Паціху цемра чапляе зоркі на грудзі
Й падхоплены рэхам лунае апошні ўздых
З якім на зямлі мы яшчэ колькі часу пабудзем

* * *

Калі абрынецца мур іроніі
За якім вы звілі гнёзды

Куды падзенецеся
За якім пабяжыце ветрам
/
Чуеце
Гэта не Марсія пазбаўляюць скуры
Гэта крычаць тыя
У каго забіраюць ілюзіі
Не даючы наўзамен іншых
/
Нашая краіна флюгер
Што кіруецца чужой воляй
Але заўсёды застаецца
На сваёй восі
/
Калі мы дагэтуль не агучылі
Нацыянальную ідэю
То хутчэй за ўсё гэта тое
У чым сорамна прызнавацца
/
Хто нам здрадзіць першы
Нашы дзеці альбо ўнукі
Каго мы цяпер клянём
Бацькоў дзядоў прадзедаў
/
Калі ў нас культ продкаў
То чаму пра прашчураў
Мы ведаем не больш
Як некалькі сказаў
/
Наша гісторыя
Развіваецца па спіралі
Спружыны якая тырчыць
З абадранай канапы
/
Абнуляем памяць
З надзеяй займець у будучыні
Толькі прыемныя ўспаміны
/
Ужо не чакаем герояў
У іх нарэшце з’явіцца шанец
/
Усе гатовыя ўзяцца за зброю
Ідуць лесам
/
Выдайце
Джэнтльмену ў белым
Вятрак і прычэп гною
/

Мінск – самая чыстая сталіца
Краіны бясконцых срачаў
/
На сёння хопіць
Гаварыць праўду бясплатна
Цяпер занадта дорага
/
Шчыра
Вашае
Гамаюн лайв стрым радыё

* * *

Дзе напаткаеш песню сваю
Давай паспрабуй адкажы
Можа быць на пялёстку ружы
Можа быць на нажы
Голас высах нібы ручай
Голас пясок і шкло
Немым крыкам крычыць адчай
Поўні ў крамяны лоб
Зноў вучуся сябе прамаўляць
І адчуваць услых
Быццам я зусім немаўля
Быццам зусім малы
Птушка Сірын ляціць скрозь ноч
Песню трымае ў дзюбе
Бы птушаняці
У вусны мае
Радасць нясе
І згубу

* * *

Навокал адна вада
Не бачна зямлі і дна
Толькі смяротны бой
Па драбязе любой
Куды ты ляціш Страцім
Праўду вазьмі з сабой
Праз мітульгу тугу
Прорва цягне руку
Крыўдамі за спіной
Радасцю за вайной
Куды ты ляціш Страцім

Любоў забяры з сабой
Не перавесці дых
Песня маўчыць услых
Толькі вада адна
Наплакала што вясна
Куды ты ляціш Страцім
Ці будзе там месца нам

* * *

Тата тата глядзі
Птушка крыламі б'е ў агні
Замак палае
А па-над ім
Дым
Тата глядзі ў агні
Скача ваяр на кані
Скача
А па-над ім
Бела-чырвоны
Дым
Тата тата глядзі
Як мы знікаем ў агні
Што застанецца ад нас
Дым?
Глянь паглядзі сынок
Фініст пад прысак лёг
Як знежывее ў душы
Прысак паварушы

* * *

Колькі там да відна
Колькі ўзмахаў крыла
Колькі ўсяго яшчэ
Ведаеш ты адна
З невараці ў нябыт
Нясі мяне вынасі
Такога мёртвага-мёртвага
Такога жывога-жывога
Нібы
Мясам маіх надзей
Крывёю спатоль сябе
Толькі ляці хутчэй
Скрозь прадзіва
Гэтых начэй

Калі любоў
не любоў
Калі жыццё
не жыццё
Калі я
не я
Калі толькі ноч
ноч
Колькі там да відна
Колькі ўзмахаў крыла
Ляціць і маўчыць
Нагай
Толькі есці і піць давай

* * *

Вось і ўсё.
Скора восень пярэстым крылом
Назаўсёды накрые
Зямлю і мяне.
І не вырвацца будзе
З гэтых акоў,
І не знойдзеш
Шчаслівей мяне.
Тут змяшчаецца радасць
І гэтакі боль,
Што не кожны
Здалее стрываць...
А з адкрытае раны
Пальюцца на дол
Словы, што
Ўрастуць у дзірван.
Праз які-небудзь час,
Калі крокі твае
Будуць зноў
Прабіваць цаліну,
Незаўважнаю ніткай
мяне ўпляцеш
У гісторыю толькі тваю.
І тады ты не вырвешся
З гэтых акоў,
І не будзе шчаслівей
цябе.
Назаўсёды накрыты
Пярэстым крылом
Ты напішаш вершы свае.

* * *

Маўчанне дастала
Ды лепей маўчаць
Калі табе не стае “сказала”
Гучанне прамоўленай пустаты
Больш неагучанага дастала
Што кажу і нашто кажу
І ці маю на нешта права
Прабачэння ў вас прашу
За дождж што выпаў так нечакана

Я пазбягаю вялікай вады
Я напэўна іду не туды
Да бязволля свайго прыкуты
Я напэўна не йду нікуды

Жаўтадзюбая маладосць
Што нам Хронас зязюльчыным дзецям
Стомлены бацька прамовіць досць
І дазволіць сабой наесціся
Я шукаў які-небудзь сэнс
Я згубіўся ў гэтым шуканні
А за спінай падняўся лес
Са сваімі да нас пытаннямі

Калі не пульсуе па венах біт
Сфармуляваць сябе глінай і каменем
Чакаць пакуль адгукне нябыт
Жыць чаканнем

Людзі гэтай зямлі ідуць
Птушкі гэтага неба лятуць
Што нясуць яны
Чаго прагнуць
Чым бясконцую
Спатоляць смагу

Свабода і роўнасць
Кінутыя сабаку
Косткай захраслі ў глотцы

Правы й абавязкі
Ніяк не змяшчаюцца
У аднаместнай лодцы

Адплата за крыўду
Смярдзіць крывёю
і гарам

Але ізноў і ізноў
Адплата мроіцца
У марах

Мы не рабы
Хочацца крыкнуць
Але замірае голас

Пернік і пуга
Пуга і пернік
Стакгольмскае кола

Можна перакуліцца ў камень
Гліну жалеза
Можна маўчаць крычаць
І шукаць сабе месца
Але толькі цяпло далоні
Разрэжа сэрца
І само цябе знойдзе месца

Тата вось карабель папяровы
Ручай
Пускай карабель
І бяжы
Вясна ў паўнаводдзе
Па кроплі збярэ капяжы
Пусці карабель у гэтае мора
І проста жыві
Вясна адгукнецца
На кожны прамень унутры

Вітаўт Чаропка



...ён лічыў мяне сапраўдным пісьменнікам, які, можа, і напіша ці проста ўзгадае пра яго загублены лёс у нейкім творы...

# Чалавек без імя

***Апавяданне***

Бывае, што на ранку ў дрымоце бачыцца, як у мроіве, нешта яскравае, што пераліваецца размаістымі колерамі, а калі мроіва рассейваецца, бачыш захапляльную гісторыю. І сюжэт у галаве складваецца, і словы патрэбныя лёгка даюцца, і дзеі бачацца выразна. А калі ачуняеш ад сну і паволі знікнуць відзежы, паблякнуць фарбы, анямеюць словы – і бачаная гісторыя ўяўляецца нецікавай і ўбогай.

А бывае, што нагадаеш нейкі выпадак з жыцця, нечую размову, нават пачутую фразу, якія па даўнасці часу цяпер набываюць філасофскае асэнсаванне і сімвалічнае значэнне, з чаго і нараджаецца апавяданне. Куды болей цікавае і змястоўнае, чым выдуманае, бо яно праўдзівае. Як бы з забыцця вяртаюцца імгненні твайго жыцця, а то і іншага чалавека, імя якога і не памятаеш. І гэта ўжо не голая літаратуршчына, не фэнтэзі, а рэчаіснасць, занатаваная ў слове.

Вось неяк ранкам, калі я яшчэ ляжаў у ложку, успомніў пра аднаго са сваіх знаёмцаў і ніяк не мог прыгадаць яго імя, а той ужо на тым свеце. Быў чалавек, і няма чалавека, нават імя яго забылася, нібыта і не жыў ён.

Гэта быў выпадковы знаёмы, якога я сустрэў у нейкай кампаніі. Даўгі і хударлявы, такіх называюць глістамі. На выцягнутым твары завастрыліся скулы і тырчэў, як у сайгака, гарбаты нос, а вочы заўсёды былі памутнелымі і сумнымі. Не чалавек, а нейкі прывід. Масці на руках сведчылі аб яго турэмным мінулым. Увогуле, ён быў маўклівым. Як прывід з'яўляўся і як прывід знікаў. Ніхто не мог сказаць, што гэта быў за чалавек, чым жыў і пра што думаў. Відаць, нарката і алкаголь высмактавала з яго знясіленага турмой і туберкулёзам цела апошнія сілы і пачуцці. Зрэдку, калі ў мяне з'яўляліся грошы, я са спачування да гэтага ўбогага дадаваў яму на бутэльку, але не піў з ім. Ён быў мне нецікавым. А тым больш аднойчы я ўбачыў яго разам з адным нягоднікам. Калісьці гэты нягоднік і яшчэ адзін такі самы вечарам напалі на мяне і, прыставіўшы нож да горла, пачалі патрабаваць грошы, лупцуючы мяне па твары. Адчапіліся ад мяне толькі тады, калі жанчына, якая была са мной, аддала ім свае грошы, якімі яны не пагрэбавалі, ды яшчэ ў мяне з кішэні выцягнулі апошняе. Каб я быў адзін, дык праплакаў бы слёзы крыўды, пракляў сябе за недалужнасць свайго лёсу і адправіўся б спаць. Але са мной была жанчына, і яны прынізілі мяне пры ёй, прынізілі і яе, а гэтага нягодніцтва я не мог дараваць. Мой гонар быў абражаны гэтымі двума п'янымі дэбіламі, я прагнуў помсты ім. Выкліканая намі міліцыя накрыла рабаўнікоў каля начных кіёскаў, дзе звычайна тусавалася начная моладзь. Праўда, апазналі мы толькі аднаго, якраз гэтага нягодніка, а вось іншага так і не адшукалі.

І як потым яго ні шчамілі, ён гэтак і не выдаў свайго напарніка. Я думаю, не з-за сяброўскай высакароднасці, а з-за страху атрымаць *стацыю* за групавы разбой. Доказы былі супраць яго – наша апазнанне, знойдзены ў кішэні нож, але ён не прызнаваўся ў сваім злачынстве, спадзеючыся калі не на цуд, дык на... мяне. Мне было шкада яго маці, змарнелую ад гора кабету, якая мучылася за свайго непуцёвага сыночка, і яго жонку – настаўніцу, якая ад сораму маўчала пры нашых сустрэчах, бо цяжка было ўсвядоміць, што яе муж можа вытварыць такое – рабаваць людзей, і шкада было іх дзіця, якое будзе гадавацца без бацькі. На судзе я трохі змяніў свае паказанні, маўляў, у цемры я дрэнна разгледзеў рабаўнікоў і таму не магу ўпэўнена сцвярджаць, што судзяць сапраўднага злачынцу, тым больш ён не прызнае сваёй віны, а іншага рабаўніка не знайшлі. Не хачу браць грэх на душу і засадзіць за краты невінаватага. Услед за мною засумнявалася і мая сяброўка. Суд вынес даволі мяккі прысуд.

Я думаў, што лёс мяне не звядзе з гэтым чалавекам, калі яго можна так назваць. Ды вось праз некалькі гадоў пасля гэтых падзей, позна вечарам у краме мы сустрэліся. Яго вочы загарэліся нянавісцю, і ўся яна вылілася ў злосных словах:

– Ты мне ўсё жыццё зламаў, сука, бля... Ад мяне з-за цябе жонка пайшла, – кінуў ён мне злосна ў твар.

Магчыма, я зніякаваў ад пачуцця віны перад ім, бо ў нейкай ступені праз мяне ён трапіў у турму і яго сям'я распалася. А можа, мяне збіла з панталыку, што разам з ім быў чалавек без імя і высвятляць свае адносіны з яго сябруком не хацелася. Ды і што можна сказаць таму, хто ва ўсіх сваіх бедах вінаваціць іншых, а не сябе? Такім не даходзяць разважлівыя довады.

З таго часу я пазбягаў чалавека без імя. Словам, закрылі тэму, і я да яе не збіраўся вяртацца. А яна ўсплыла сама па сабе.

Неяк мне надарылася цягнуць на сябе ледзь жывога ад выпітага майго сябрука. Той кулём павіс на мне, і яшчэ дзіва, што аўтаматычна перастаўляў непаслухмяныя ногі, якія вось-вось, здавалася, падкосяцца ў каленях. Адна марока з гэтымі выпівохамі, але ж не кінеш, калі выраслі ў адным двары. Гэта не па-людску! Значыць, ты не свой, значыць, ты гнілы ўнутры. Такая вось простая дваравая мараль, на якой трымаецца гэтае макражыццё ў нашых вялікіх мікрараёнах. Тут аднекуль і з'явіўся чалавек без імя і схапіў пад рукі майго няшчаснага сябрука, аблегчыў мой таварыскі цяжар. Так-сяк мы ўдвох давалаклі яго да месца прызначэння, і ён ад сваіх п'яных шчадрот сунуў нам некалькі памятых паперак, маўляў, гуляйце, хлопцы. Чалавек без імя як заслужанае ўзяў гэтыя грошы, якія неўзабаве ператварыліся, як гэта бывае з дармаўшчынай, у бутэльку гарэлкі. Распілі мы яе з пластмасавых стаканчыкаў у бясэдцы прама пасярод двара. Вось тады чалавек без імя і прызнаўся мне.

– Ведаеш, пісьменнік, – звярнуўся ён да мяне па маім мясцовым паганяйле, – а што ты пішаш?

– Ну, калі я пісьменнік, дык значыць, пішу, – ухіліўся я ад гэтага пытання, непрыемнага для мяне, бо сваё пісьменніцтва не выстаўляю і не лічу яго нечым адметным і дзівосным. Проста так выпала па жыцці, хтосьці павінен і пісаць, і расказваць пра нас, гаротных людзей, вось мне і дастаўся такі лёс. Нічога не паробіш: кожнаму сваё.

– І кніжкі ёсць?

– І кніжкі ёсць.

– А пра што ты пішаш?

– Пра рознае.

– Напішы пра мяне, – прапанаваў ён і сур'ёзна паглядзеў сваімі шклянымі вачыма, у якіх успыхнулі жывыя агеньчыкі надзеі.

Колькі разоў мне задавалі падобныя пытанні людзі, якія знаёміліся са мною. І як звычайна, прасілі напісаць пра іх. Такія просьбы выклікалі ў мяне ўсмешку. Што я напісаў бы пра іх, калі яны былі людзьмі звычайнымі і шэрымі, і жыццё іх было такое ж, напоўненае звычайнымі і шэрымі падзеямі.

– І што напісаць пра цябе? – спытаўся я.

– А тое, як я з дружбаком цябе з тваёй бабай абулі на бабкі, – спакойна, без усялякіх эмойцый, адказаў ён.

– Дык гэта быў ты?–міжволі вырвалася ў мяне.

– Я. Прабач мне за маё глупства. Хацелася выпіць, а сам ведаеш, жаданне гэта дурное, думаеш аб адным – як выпіць, – ён вінавата развёў рукі, як бы здаваўся на маю літасць.

– За такое не прабачаюць. Каб павязалі цябе разам з тваім дружбаком, сядзелі б вы з ім яшчэ доўга-доўга, – адказаў я, але без злосці.

– Ды я і гэтак пакараны па жыцці, – сумна сказаў чалавек без імя.

Я не злаваў на яго, бо час прытупіў тую злосць, якая ахапіла мяне тады ў момант абрабавання. Але я адразу страціў цікавасць да гэтага чалавека з яго прымітыўнымі патрабаваннямі. Толькі ён уразіў мяне і на гэты раз.

– Я не доўга яшчэ працягну, а ў жыцці нічога не зрабіў. Шкадую, што мяне не заграбасталі тады з дружбаком. Ён сябе ўжо назаўсёды праславіў, абрабаваў пісьменніка. Яго імя не згіне, а хто нагадае пра мяне, што жыў вось такі няшчасны чалавечак. Пра Муху – гэтага гандона, нагадаюць, як

пра таго Дантэса, што страляў у Пушкіна, а пра мяне, пра таго, хто і падбіў Муху развесці цябе, хто біў цябе і праліў тваю кроў, не ўспомняць. Лепш бы я цягнуў тэрмін і трапіў бы ў гісторыю, а то схаваўся ад яе. Нават нягодніцтвам, бляха, не змог праславіцца.

– Няма тут чым ганарыцца, дурная слава, – мовіў я, уражаны прызнаннем майго субяседніка. Я і не мог уявіць, што яго з'ядае боязь перад бессэнсоўнасцю свайго жыцця і адчуваннем сваёй непаўнавартасці. Хоць нягодніцтвам ці злачынствам пакінуць адзнаку сваёй прысутнасці ў гэтым свеце.

– Герастрат, каб праславіцца, увекавечыць сваё імя ў вечнасці, спаліў храм Артэміды, – казаў ён з нейкай жаласлівай інтанацыяй у голасе, і адчувалася, што яго душу з'ядае ці то пачуццё раскаяння, ці то шкадоба да самаго сябе, такога няўдалага і няшчаснага па жыцці.

Адкуль гэты наркаман мог ведаць пра Герастрата і што той спаліў менавіта храм Артэміды, калі я сам не памятаў, што ён там паліў. Магчыма, гэта прабліскі былога яснага розуму, юнацкі багаж ведаў, які яшчэ не растрачаны дашчэнту. Ды і каго ён мог знайсці для пераймання? На вар'яцкія ўчынкі ці сапраўдны разбой ён, па слабасці характара, не здольны. Калі не здольны на значнае, дык нязначным, але благім учынкам засведчыць сваё існаванне на зямлі.

Чалавек без імя самадавольна пахваліўся, як хлопчык, якому не церпіцца расказаць аб сваім поспеху.

– Усё ж я ўвекавечыў свой фэйс. Я ж зняўся ў фільме, быў там паліцаем. Вёў з другім паліцаем на расстрэл партызана. Цэлых тры хвіліны трапіў у кіно, і як я страляў у партызана, паказалі.

З такім тварам выродка толькі і ўвасабляць чалавечую нікчэмнасць. Але я сказаў іншае за тое, аб чым падумаў:

– Вось бачыш, на цэлых тры хвіліны ты трапіў у вечнасць.

– Якая гэта вечнасць? Імгненне ў вечнасці. Мяне ж будуць ненавідзець як забойцу партызана-героя. Вось я які нягоднік, – незадаволена прамовіў чалавек без імя.

– Трэба нешта такое драматычнае, сапраўднае, некіношнае.

– Ну што ж, стукні мяне па галаве бутэлькай, заб'еш – вось і праславішся. Будуць на цябе глядзець як на асобу. Увойдзеш у гісторыю, узгадаюць і пра цябе, калі будуць узгадваць пра мяне.

Казаў я гэта жартаўліва, ведаючы, што чалавеку без імя не хопіць духу падняць на мяне руку. Не здатны ён забіць чалавека. Ён сур'ёзна, нібыта ацверазеў ад маёй нечаканай прапановы і зразумеў усю яе бязглуздзіцу, адказаў:

– Гэта смерць нікчэмная і прынізіць цябе. Пісьменнік загінуў па п'янцы з-за недапітай бутэлькі ад рукі сабутэльніка. А значыць, і мяне прынізіць, а вось з-за жанчыны або з-за ідэі, дык гэта трагічная і высакародная смерць. Ты загінуў бы, як пакутнік, і сваёй пакутніцкай смерцю ўзвысіў мяне як трагічную асобу, і маім жыццём зацікавіліся б: а што гэта за чалавек быў, чаму ён забіў пісьменніка. Навошта?

– Тады здайся ў ментуру і прызнайся ў разбоі. Маўляў, даведаўся, каго абрабаваў, і загрызла сумленне, гатовы нанесці заслужанае пакаранне. Вось учынак, варты таго, каб апраўдаць тваё жыццё, прыклад духоўнага ачышчэння, – параіў я, і сам не разумеў, ці жартам ці, сур'ёзна.

Прынамсі, у духоўнае ачышчэнне такіх тыпаў не верыцца, а вось пакаяцца часам ім хапае духу, калі яшчэ засталася кропелька сумлення, якая горш за атруту муціць унутраны спакой. У чалавека без імя хапіла духу пакаяцца перада мной.

– Мне не доўга засталося, і гэтыя апошнія дні я хачу пажыць на волі. Я прызнаўся табе, ачысціў душу. Калі можаш, даруй. Спадзяюся, ты не данясеш на мяне, – сказаў ён сарамліва і ціха.

Час загаіў маю крыўду і патушыў апошнія іскаркі помсты. Чалавек без імя быў мне абыякавы, як выпадковы сабутэльнік. Жыццё і так яго пакарала, каб яшчэ і мне апрануцца ў мантыю суддзі і выносіць яму свой вырак.

– Жыві... Пражыві свой час, як бы ты хацеў пражыць, каб цябе памянулі добра, – адказаў я.

– Дабро не памянуць, – сумна мовіў ён. – Няма каму, амаль усе мае сябры ўжо там. А знаёмыя скажуць, так яму і трэба, сам вінаваты, загубіў сябе наркатой. Вось каб мне далі другое жыццё, хай нават кароткае, я пражыў бы яго інакш.

– Як жа? – мяне шчыра зацікавіла гэтае прызнанне.

Нязгубленае чалавечае, нармалёвае, сапраўднае праявілася ў ім, тое патаемнае, што ён хаваў ад сваіх сябрукоў-наркаманаў, каб не асмяялі яго, не плюнулі ў душу. Ён давяраўся мне як чалавеку з іншага свету, які можа яго зразумець і паспачуваць яму. Здавалася, ён і хацеў пачуць слоўца спачування, хоць на момант адчуць сябе чалавекам, хоць і няшчасным, але чалавекам, вартым хоць спачування. Я не спачуваў яму, хоць мне было яго шкада. Нічым я не мог яму дапамагчы.

– Як інакш? – зноў спытаўся я.

– Яскрава, – рэзка адказаў ён, нібыта гэтае слова ўжо даўно рвалася з душы і апошнімі намаганнямі даводзілася стрымліваць яго, і вось надарылася магчымасць выплюхнуць яго, як крык ратавання.

Я даў яму магчымасць сабрацца з думкамі і цярпліва чакаў, калі ён парушыць сваё маўчанне. Дзесьці праз хвіліну ён даверлівым голасам, нібыта размаўляў з блізкім яму чалавекам, прамовіў:

– З каханнем. Некалі ў юнацтве кахала мяне... – ён паэтычна падняў угару руку і акрэсліў нябачны авал твару і па-дзіцячы, не знаходзячы слоў, папросту выказаў свае захапленне. – Такая-такая... цудоўная дзяўчына! Якія ў яе былі ясныя вочы, я любіў глядзець у іх. Мы сустракаліся ўсяго тры месяцы, а пасля яна кінула мяне. Не захацела звязвацца з наркошам. Тады я і падсеў канчаткова на чарнату. Малады, дурны. Хацелася новых уражанняў, радасці, бесклапотнасці. Дык хіба я тады думаў, што ўсё так адбудзецца... Аднаго разу яна прыснілася мне, маладая, гарэзлівая, абдымае мяне і цалуе пяшчотна. Прачынаюся і адчуваю сябе шчаслівым, як ніколі ў жыцці. Яна вярнулася да мяне, хоць у сне, але вярнулася. А я быў не вартым кахання, загубіў сябе, – ён горка ўдыхнуў і прама з рыльца бутэлькі адпіў некалькі глыткоў горкага пітва.

– Хацеў быць кімсьці значным, а стаў нікім. Наркошам. І ўжо нічога не зменіш. Вось і напішы пра маю загубленую жытуху.

Маё самалюбства лашчыла прызнанне чалавека без імя, – яго міжвольная шчырасць перада мной. Для яго я быў велічынёй, перад якой ён адчуваў пашану. Ён не чытаў ніводнага напісанага мною сказа, нават не ведаў назвы ніводнай маёй кнігі, але паважаў за тое, што я пісьменнік, а

значыць, належу да нейкай недасягальнай для яго касты пасвячоных, якія размаўляюць з душамі і чуюць Бога! Не ведаў, ці таленавіты я, ці проста бяздарны графаман, якога забудуць разам з яго кнігамі. Яму не важна было, ці ўспамінаюць пра мяне ў друку, ці адносіўся я да катэгорыі «іншыя». Ён лічыў мяне сапраўдным пісьменнікам, які, можа, і напіша ці проста ўзгадае пра яго загублены лёс у нейкім творы і тым самым увекавечыць яго ў слове, прыдасць яго жыццю хоць нейкі сэнс.

Праз месяц чалавек без імя памёр. Мімалётная навіна пра яго смерць не вельмі засмуціла мяне. За гэты час я забыўся пра нашую размову, як пра нязначную п'яную гамонку, якая ні да чога мяне не абавязвала. І вось цяпер я ніяк не мог успомніць яго імя, яно выляцела з галавы, нібыта пасля п'янкі, калі нічога не памятаеш, што тварылася ў хмяльным чадзе. Я назваў яго чалавекам без імя. Здавалася, што ён заслужыў гэта, бо страціў сябе, сваё аблічча, свае пачуцці і нарэшце імя... Яго гісторыя падалася мне павучальнай, і я пачаў пісаць вось гэтае апавяданне пра чалавека, які згубіў сябе і ператварыўся ў цень. Павучальная гісторыя!

Калі я ўжо заканчваў гэтае апавяданне, мне патэлефанаваў мой добры сябар Максім Гальпяровіч, якога я называю проста Максам. І толькі вымавіўшы гэтае імя, я адразу ж узгадаў як звалі чалавека без імя – Максам. Я мог бы дзеля прыгожага фіналу так і пакінуць Макса без імя ў навучанне іншым. Толькі гэта здалося мне несправядлівым у адносінах да таго, хто перад смерцю ўсвядоміў нікчэмнасць свайго жыцця і хацеў быць чалавекам. Якім ён ні быў, як ні жыў, што ні натварыў, але права на імя ён усё ж меў, хоць бы за тое, што хацеў пражыць яскрава і што ў яго было тры месяцы кароткае шчасце кахання, якое вартае ўсяго жыцця.

*2011 г.*

## Павел Любецкі



...нечае жыццё — гэта шанец,
нечае жыццё — гэта танец...

# Паспрабуй выжыць, Га-Ноцры

### *АБСАЛЮТНА САКРЭТНА*

Бог дае анёльчыкам тэчку з грыфам «абсалютна сакрэтна»,
кажа, што занепакоены нават вернасцю святых.
яны ж непакояцца: а раптам у д'ябла ёсць свае людзі
нават у раі?
ці кампрамат на кагосьці з гэтых святых
ды рычагі ўздзеяння нават на Бога?

а хтосьці мае столькі ўлады,
што фабрыкуе крымінальныя справы для Божага Суда.
хто? д'ябал іх ведае!
ён дык болей за ўсіх інфармаваны.

але тым больш хочацца хоць крыху пажыць
паводле сумлення,
нават калі цвёрда ўпэўнены, што цябе ўсё роўна падставяць
нават у Дзень Судны.

### *ЕШУА*

Ешуа, ну ты ўляпаўся!
ты ж проста прарок ды філосаф,
апалітычны малы!
а тут у цябе сэксот сярод вучняў,
а Пілат шые табе экстрэмізм:
хочуць даць найвышэйшую меру.

ты добра трымаўся на допыце, не адмаўляю!
і ты, не забывайся, габрэй,
таму, патэнцыйна, сам сабе някепскі адвакат.
але табе нават памілавання не дадуць:
ты ж палітвязень,
а тыя проста блатныя.

не, я разумею, што насамрэч ўсё гэта — план твайго Айца,
а ў Яго на ўсё ёсць прычыны.
вось толькі фінал абяцае быць настолькі брудным,
што я баюся, што некаторыя з нашчадкаў
будуць думаць, што менавіта ў ім і ёсць сутнасць
тваёй філасофіі.

паспрабуй выжыць, Га-Ноцры.
так будзе больш веры,
што твая жыццёвая філасофія
сапраўды жыццяздольная.

паспрабуй выжыць.

### *ІНФАРМАТАР*

чаму столькі ўвагі атрымаў
біблейскі Іуда?

ён быў звычайным інфарматарам
у апазіцыйным да гвалту руху.
колькі такіх у наш час?

### *ПАЧАТАК ВЕРЫ І СТРАТА ВЕРЫ*

*паняцце Бога, яго нараджэнне і згасанне ў адным з незлічоных*
*мностваў маленькіх сусветаў*
інтуітыўная вера ў Бога без выразнага разумення, што гэта такое,
на аснове расповедаў дарослых.
афармленне ідэі Бога ў нешта канкрэтнае, дарослае,
захаванае ў свяшчэнных тэкстах.

расчараванне і непрыняцце.
адкідванне формы Бога, створанай вонкавым светам.
вера па інерцыі, далейшая страта Богам формы.
твой Бог ужо самаробны, ды і ці Бог гэта цяпер увогуле?
страта формы працягваецца, пакуль ад яе
амаль нічога не застанецца,
ды і форма — гэта Пустэча, а Пустэча — гэта форма, і ніякіх
іншых пустэчаў і формаў няма.

наступны крок: які ён? што будзе са мной далей?
Бог стварыў мяне па сваім вобразе і падабенстве.
я таксама спачатку буду афармляцца, а потым пачну губляць
форму
да таго часу, пакуль ужо не застанецца ніякага “мяне”?
афармленне і растварэнне — лёс кожнага яго тварэння?

ці змагу я прайсці гэты шлях да канца?
і ці не стане напрыканцы зразумела,
што мяне так насамрэч ніколі і не было?

## КАРМА РЭВАЛЮЦЫЯНЕРА

у некаторых рэвалюцыянераў, кажуць,
не вельмі добрая карма.
нават калі яны гінуць на барыкадах,
яны ізноў нараджаюцца
ў таталітарных дзяржавах.

а некаторыя застаюцца жывымі,
але зноў апынаюцца ў “новай” таталітарнай дзяржаве
на наступны дзень пасля рэвалюцыі.
і ўсё адмаўляюць гэта —
робячы выгляд, што за гэта яны і змагаліся.

## КАКТЭЙЛІ МОЛАТАВА

кактэйлі Молатава — горкае пітво,
які б бармэн за іх ні ўзяўся.
але некаторыя ўсё роўна п’юць іх
і загінаюцца ў п’яным чадзе.

## ІМПЕРЫЯ

кажуць, у нейкай Імперыі
ўжо і Паланэз Агінскага

гатовыя прызнаць за экстрэмізм.
хоць там і зусім няма словаў,
але ў Імперыі нават маўчаць небяспечна.

### ЦЯРПЛІВЫ ПАЦЯРПЕЛЫ

хоць вы і ведзяце мяне да смерці,
для супраціўлення вам
мне трэба будзе рызыкаваць жыццём,
а я вельмі за яго баюся.

### ТАНЦЫ

нечае жыццё — гэта шанец,
нечае жыццё — гэта танец.

праходжу фэйс-кантроль у клубе.
кажаце, нагадваю вам кагосьці вядомага?
я не адну эпоху вядомы як Шыва,
і хутка будзе мой каронны час.

пераклады

Валтс Эрнштрэйтс



...іх мова, як іх сэрца,
яшчэ цвёрдая, цяжкая і пустая...

# Старажытная зямля

***Такія, як мы,***

ніколі не спыняюцца на месцы,
іх неспакойны розум, няпоўныя веды пра свет,
іх дзіўная і цвердалобая вера
не дазваляюць.

Такія, як мы,
усё яшчэ хочуць рухацца
ўпарта наперад,
скрозь прыцемкі ранку і вечара,
праз землі, і воды, і ўсё, –

і яшчэ доўга па тым, калі час
замяце іх сляды,
пахавае пад пылам

*Пераклад*
*з латышскай*
*Андрэя*
*ХАДАНОВІЧА.*

і выкрасліць з кніг,
такія, як мы,
вандруюць па ўсіх баках свету
усё яшчэ, праз туманы
і праз міражы.

Ад такіх, як мы,
не пазбавіцца –
як дзядоўнік, яны прычэпяцца,
як пустазелле, іх трэба вырваць з зямлі,
як пустазелле, ізноў падымаюць галовы, моўчкі,
як шып у сэрцы сусвету.

Такія, як мы,
не паміраюць лёгка.

*

Такія, як мы,
не паміраюць ніколі.

### ***Увесну, калі прачынаюцца птушкі,***

праспаўшы зіму пад вадой,
іх пёры яшчэ вільготныя,
іх голас яшчэ шурпаты,
іх мова глухая й чужая.

Калі прачынаюцца голыя й шэрыя камяні,
яны падымаюцца з глебы, з пяску і вады,
павольна і ўпарта,
ломячы плуг і
хапаючы мінакоў за ногі.

Іх мова, як іх сэрца,
яшчэ цвёрдая, цяжкая і пустая;
усе словы яшчэ маладыя,
толькі што нарадзіліся,
тонкая шкарлупіна святла пакрывае іх.

Увесну, калі звяры й камбала,
хлопцы й дзяўчаты
падзелены раўнамерна
ўздоўж берага,
птушкі і камяні размаўляюць
на новай мове,

якая не мае ні каранёў,
ні канчаткаў,
якая не мае канца.

***Зарываю ногі ў пясок –***

я мятліца й шыпшына;
я дрэва, што пусціла карані
у ссохлую зямлю –

стогадовая хвоя,
што ўпарта хапаецца за
выдмы, у абладзе ўсіх ятроў.

Мой падмурак – пясок,
ён бяжыць і закопвае,
замятае, засмоктвае
і пажырае.

Як мне стаяць,
калі спускаецца вечар,
і бура, і мора,
і час.

***недзе ў вірах памяці ёсць выспа***

шэсцьдзясят квадратных метраў
без лeeраў
і капітанскага мосціка
з адхоністай
адмытай хвалямі
рыхлай пясчанай падлогай
па якой з крыкамі
блукаюць кірлі
і над размытаю лініяй берага
развешваюць мокрыя крылы бакланы

недзе ў вірах памяці
ты вяртаешся
з мятлой і саўком у руках
змятаеш па адным парассыпаныя
зярняткі жоўтага пяску
выносіш і выкідваеш у выдмах

а мора патроху зграбае рэшту
дапамагае табе ачысціць
выспу ад наносаў зямлі
а таксама ад птушак
ад асляпляльна белых чарупін
і першаадкрывальніка мяне

гэта так прыгожа

я больш нічога не помню

### *Цяжэй за ўсё не спяшаючыся*

расці так жа хутка, як трава,

глядзець, як яна зелянее пасля дажджу,
жаўцее, калі спякотнае лета прасочваецца
скрозь тэнт,
гнецца, калі спускаецца туман,
калі дні бягуць міма.

Цяжэй за ўсё быць
будкай на ўскрайку чыгункі,
дзе замест рэек, вагонаў, людское гаворкі
шамацяць панурыя шматгадовыя травы,
што зелянеюць пасля дажджу,
што жаўцеюць, калі спякотнае лета
прасочваецца скрозь тэнт,
і гнуцца.

Цяжэй за ўсё так, як траве,
вянуць і вырастаць нанова,
лунаючы на ветры, быць сабе сцягам,
не дазваляючы
сябе растаптаць.

## *СТАРАЖЫТНАЯ ЗЯМЛЯ*

Рэкі і ручаінкі,
як павуцінне,
аблытваюць зямлю з усімі
палямі, лугамі, лясамі;

не пускаюць вонкі, не пускаюць
прэч ад сябе,
не даюць дыхаць –

і ўсе расліны і дрэвы,
птушкі й звяры, і людзі
мусяць расці ўніз.

У глыбіні зямлі пад дзёрнам
грубыя ніткі бавоўны счапляюцца сеткаю
каранёвай –
не пускаюць на зямлю,
не дазваляюць дыхаць пад зямлёй.

Але пачакай!

Між існым надземна й падземна,
між старажытным і заснулым
хутка пачнуць расці
насенне, косткі, луска і сцяблінкі,
а пашы, папары й пяскі расквітнеюць,
і ўсё, што так доўга чакала
ў зімовым сне.

Чакай – абудзіцца ўсё.
Чакай – старая зямля будзе новай.

### *Суворая пена марскога паветра*

узгадавала суворы народ
з цяжкімі рукамі і шэрымі сэрцамі;
у іхніх вачах, быццам у затанулых чаўнах –
чорная вада, ледзяныя глыбіні ды штормы.

Ды што з таго,
што ўсе іх думкі вычасаны з каменю,
што з таго, што словы з іх ратоў
выходзяць заўсёды калючыя ды заінелыя;
што яны ледзяняць, апальваюць, душаць;
што выюць, нібы ваўкі,
рэжуць, колюць, грызуць
і моўчкі трываюць.

Яны – мой народ.
Я паходжу з яго сярэдзіны.

### *Два моры*

і між імі – мель;
хвалі коцяцца крыж-накрыж,
сутыкаюцца і адпраўляюць
караблі на пэўную гібель.

Два шэрыя моры,
два белыя кані,
кожны са свайго боку мелі,
і яскравым святлом – маяк уваччу.

Дзве цёмныя ночы
і два прамяні,
два народы,
дзве мовы –

якія заўжды будуць разам,
якія заўжды застануцца сабой.

Лі, дождж, лі,
ста гатункамі кропляў,
лі гадзіну, не лі
увесь дзень;

хай твае слёзы шукаюць
шчыліны ў глебе,
хай твае воды
ў зямлю пранікаюць,
хай карані дрэваў п’юць,
хай вырастае лістота
зялёнай і моцнай.

Лі, дождж, лі
цэлы дзень, не лі
увесь тыдзень;

хай рэкі не выходзяць з берагоў,
хай мора не падымецца й твая
вада нас не затопіць.

Лі, дождж, лі
цэлы тыдзень і месяц,
не лі
увесь год;

хай твае кроплі
у лахманы рваных ранаў,
хай вада зацякае ўсярэдзіну, гоіць,
тушыць нязгасны агонь.

Лі, дождж, лі цэлы год,
толькі ўсю вечнасць не лі.

***Пад горадам ёсць горад:***

нашыя закураныя хаты і свірны
вакол гарадзішча,
нашыя балоты і могільнікі;
пратокі між выспаў і меляў адкрыты,
каб нашыя лодкі рушылі ўгору,
каб чырвоная вада магла цячы празрыстай
у вольнае мора.

Пад горадам нашыя мужы з сякерамі ды коп’ямі ў руках
стаяць ля падмуркаў,
каб горад не пайшоў пад зямлю;
а нашыя жонкі
ў сукенках колеру зямлі,
у хустках наплечных з нябесна-блакітнымі ўзорамі,
аплакваюць мёртвых,
пяюць калыханкі дзецям,
усім – унізе і ўверсе.

Пад горадам, напэўна, з таго боку,
яшчэ гарыць нашае вогнішча:
тое начное зарыва над горадам,
тыя ўзоры іскраў за зарывам,
што, шугаючы ўгору, ператвараюцца ў зоры
ў блакітным небе наплечных хустак, –
так разгараецца нашае жывое
тысячагадовае святло.

Спі спакойна, горад,
прачынайся вольным.

Наш народ цябе ахоўвае.

пераклады

Кірылс Эціс



...чым прасцей —
тым лепш...

# Прыгажосць – не проста з’ява

* * *

аднойчы
ўначы ты прачынаешся
і не можаш намацаць між прасцінаў
сушчэп, які злучае локаць і далонь
ну вось, зноў тое самае
думаеш ты
і разумееш што здрадзіў арнітолагу
з аўтобуса рыга — мадона
якому абяцаў не губляцца

за пару гадоў на поўдзень
я падымаю вочы і заўважаю як
у пяшчоце несамавітых ліпаў
з пунсовымі пырскамі
у чырванагрудых снегіроў

*Пераклад
з латышскай
Уладзя
ЛЯНКЕВІЧА.*

разрываюцца грудкі
клянуся што наступным летам
калі пасля танцаў мы забеглі ў возера
вада была колеру гэтых грудак

якія супадзенні зрабілі гэты пыл
датычным вока?

цяпер
прысеўшы побач з непасаджаным саджанцам
ленінградскай вішні
такі любімы але капец які дурны хлопец
разгублена ўзіраецца ў сажалку
быццам шукае крыніцу
сваіх нескончоных дадзеных сказаў

адгукаюцца толькі дзверы суседскага дома
ды недзе на тым баку прасекі
чуваць, як паволі ржавее пральная дошка

нічога з гэтага не было запісана
у чорных агульных сшытках лесніка

* * *

яны сказалі:
чым прасцей — тым лепш

я ўсталяваў дажджамер
дастаў пэндзаль з вуха
закрыў шкляную труну
у якой спаў кастрыраваны шэршань
павярнуўся туды
адкуль далятаў голас
і адказаў, што ўсё пад кантролем
але пакуль дапамагчы не магу

за тымі кустамі, дзе мы хаваліся тады
каб пасля спектакля сачыць за акторамі
што выходзяць праз службовы ўваход
мы знайшлі бліскучы самавар
І пасяліліся ў ім
дзівіліся, як добра працуе наш новы дом
і святло самі здабываем
і ніякіх суседзяў
і жывецца так лёгка і хораша

сябры
не будзем як тыя, хто спрабаваў нас знайсці
будзем верыць у шматкроп’і
будзем верыць у блізкасць абвязаную шалікам
будзем верыць у маўклівых нябёсных рэптылій

* * *

калі знаёмячыся забудзеш сваё імя
зрабі выгляд, што апроч няпамятлівасці маеш яшчэ шмат
іншых добрых якасцяў
напрыклад
прыкідваючыся, што не дачуў пытанне чалавека аб сваім
прыроджаным імені
раскажы пра выпадак з жабкай, цыркулем і варэннем
гэта прыгожы аповед
да таго ж досыць пахвальна для твайго рэнамэ
даражэнькі

але, калі і пасля гэтай інтэрмедыі
чалавек працягвае
так, так, безумоўна, гэта цудоўная гісторыя
але ўсё-ткі падкажыце, калі ласка, як вас зваць
тады трэба дзейнічаць хутка, спашліся
на боль у жываце
або прыкінься
што ты папярхнуўся мухай ці нейкай іншай казуркай,
на ўласны выбар
і паабяцай хутка вярнуцца
бяжы ў прыбіральню, зачыніся
і там перад люстэркам называй уголас запар усе словы
што прыходзяць да галавы
пачынайце з самых простых і звыклых:
котка
кола
юрыс
паступова пераходзьце да больш складаных, кшталту:
крэйда
разетка
анастасія
цьмяны
і калі вымаўляючы чарговае слова вы шматзначна
пераглянецеся
з адлюстраваннем
вам тут жа стане зразумела
што гэта бясспрэчна і ёсць

тваё
сапраўднае і адзінае
я

ці памятаеш ты мяне?
даражэнькі

* * *

гэты свет быў такі крохкі
(не памятаю, ці збіраўся гэта запомніць)

памятаю, хадзіў па вуліцах з заплюшчанымі вачыма
каб ніводнага каточка, пацучка, прахожыка
не збіць
памятаю, абчытаўся *братоў ільвінае сэрца*
і заснуў з відэльцам у руцэ
прачнуўся з надрапанымі на жываце ўсімі галоснымі

памятаю, страшна хацелі
але так і не наважыліся
у мікрахвалёўку
засунуць яйка
думалі, дом разарвем на шматкі
ды і мама будзе сердаваць
бо яна ж з польшчы
гэтую печку прывезла

памятаю, зладзілі спаборніцтва па хуткасным плаванні
у нізавіне ракі
да валуна і назад
хто прайграе мусіў быў глядзець
наколькі глыбокая ў пнеўматычнай вінтоўкі руля

памятаю, залезлі на маяк
сікалі крыжыкам
глядзелі на зоркі
лічылі, колькі ананасаў
можна прывезці з таго берага
калі паплыць у чыгуннай ванне

памятаю, гэта насампраўдзе быў кіт
а зусім не маркота — тое, што ўлеглася ўва мне
ён забрыў у гэты заліў
шукаючы цяпла
з часам мы пасябравалі
аказаўся нармальны кіт
ну, наколькі гэтак наогул можна сказаць пра кіта

* * *

пасля гульняў там на заднім двары
пасля галубы ўзляцелі, як прасціна
пасля, не заўтра за гэтым
пасля я і вася
пасля ён прыехаў з энгурэ
пасля лесвічнага пралёта была вечна мокрая бібліятэка
пасля мы скакалі ўверх і скакалі ўніз
пасля я мог і цэлых шэсць
пасля вася толькі чатыры прыступкі
пасля наеліся шчаслівых кветак бэзу пакуль не зрабілася
шчаслівa вельмі і блага
пасля смеху
пасля шкляных далікатных як запаветы нашага
пасля васевага рассечанага пальца мятлік маленькі як кветка
пасля трапляе на сцяну пахучая фарба
пасля ліпаў
пасля *я иду шагаю по москве*
пасля вальсу цюльпанаў вакол дымаходу
пасля мы былі мудрымі – дастаткова мудрымі, каб прыхаваць
як з нас сочыцца мудрасць
пасля скокаў і саскокаў
пасля падзенняў у пуховыя пасцелі
пасля я адляжаў плячо
пасля сняданак і прафукалі электрычку
пасля ноччу хтосьці ўкраў усе прышчэпкі
пасля бялізна як словы з фразы-руіны пазахінала дом
па самы вільчак
пасля каруселяў
пасля львоў і сфінксаў
пасля абшарпанцаў па паверхні вады
пасля я наняў каталонца, які па нядзелях, пасля казані,
прыходзіў паліваць ружы ў маім садзе
пасля дажджу
пасля несканчонай сімфоніі вінаграднай лазы
пасля ружовых яблыкаў
пасля раніц
пасля 04:32
пасля 04:47
пасля 05:21
пасля абяцалі вайну — а завезлі карамелькі
пасля гульняў там на заднім двары
пасля я зразумеў, што прыгажосць — не проста з’ява
пасля я зразумеў, што прыгажосць — не проста ява
пасля

* * *

крыху сорамна прызнацца
але я дзіка ненавіджу свой
роварны замок
у самыя раннія
у самыя познія
у самыя ўзнёслыя
часіны
ніхто мне ніколі
не здраджваў
не раніў
не даводзіў да адчаю
ніхто не
прымушаў чакаць
не адмаўляў
так часта

і аднак
час ад часу
задумляюся
здаецца, што я
знайшоўся па жыцці
навучыўся шпакляваць
спекуляваць, працаваць з фанерай
ёсць пара публікацый — пара геніяльных
ідэяў для фільмаў — ды важныя людзі мяне
вітаюць на вуліцах — ведаю словы некалькіх песень
Цоя — помню, што трэба задзьмуць свечкі перад выхадам з
дому — навучыўся нават дараваць кветкі, хай сабе ў гэтага няма
аніякай функцыі – маленькія дзеці больш не выклікаюць у мяне
агіду
зрэшты, здаецца, будучыня чакае мяне з накрытым сталом
і цёплым ламінатам

а тут ты
стаіш
з пасінелымі
разбітымі
пальцамі
копчык
ные
зламаны
ключ
і разумееш
што не стаўся
нічым
то бок
зрабіўся
поўным
ні
што

Уладзімір Мароз



…самая вялікая яго мара-надзея –
стаць, як гаварылі раней,
"пастаўніком каралеўскага двара"…

# Кантрабандыст

***З аповедаў жыцця***

Назвай аповеда аб кінематаграфічнай вандроўцы ў Малдову меркавалася слова "Кінакамера". Галоўная кінематаграфічная прылада стала асноўным аб'ектам увагі ўкраінскіх памежнікаў і мытнікаў падчас нашага вяртання дадому. Калі ўязджалі туды, нікога вялізны чорны куфар, які месціўся пасярод салона нашай "Газэлі" і займаў шмат месца, асабліва не цікавіў. Ніхто (чатыры разы на мяжы – беларускай, украінскай, зноў украінскай, малдаўскай) не папрасіў адчыніць скрыню, якую мы прадстаўлялі як кінакамеру. А калі там нешта небяспечнае ляжала? Не. Іх цікавіла іншае – ці не вязём мы паліва ў каністрах? Колькі віскі ў нас на чалавека? З такой кантрабандай самая непрымірэнчая барацьба. А вось назад зацікавіла якраз кінакамера. А дзе вы былі? А што здымалі? Якой дарогай ехалі? Якія ўкраінскія аб'екты бачылі? Доўга давялося тлумачыць адное і тое ж: мы былі ў камандзіроўцы ў Малдове, здымалі дакументальнае кіно аб нашай дружбе, а Украіну мы толькі праязджалі, нічога тут не здымалі. З аб'ектаў бачылі толькі

Пачаеўскую лаўру. Адбіліся. Але загаловак аповеда змяніла іншая сітуацыя, бо пакуль не было ўлічана, што ў нас яшчэ сустрэча з роднай беларускай памежнай і ў большай ступені мытнай службай...

Але гэта будзе пасля. Ва Украіне нас сустрэў дзень спальвання бульбоўніка. Абсалютна дакладнае вызначэнне першага дня вандроўкі – практычна адразу пасля украінскай мяжы пачаўся пах гарэлага і дым. І так усю дарогу. Як быццам Дзень спальвання бульбоўніку быў аб'яўлены па ўсёй Украіне! Ёсць і ў нас у Беларусі завядзёнка паліць восенню бульбоўнік. Але не гэтак жа дружна і ў адзін дзень! Таму ехаць было вельмі некамфортна. Адчыніш акно ў "Газэлі" – з-за дымнага смогу нельга дыхаць, зачыніш – у машыне няма чым дыхаць. Замкнёнае кола. З якой нагоды гэтае свята? Ну, не таму, што было першага верасня? Наконт першага верасня ў мяне было іншае адчуванне – ніколі новы навучальны (для мяне, па завядзёнцы, новы працоўны) год я не сустракаў у дарозе. Да чаго такі знак? Тым больш дарога зусім не лёгкая – першы пералёт ад Мінска да Цярнопаля звыш шасцісот кіламетраў. Пры тым яшчэ беларуска-ўкраінская мяжа заняла амаль чатыры гадзіны. Усяго атрымалася пятнаццаць гадзін – з паловы восьмай раніцы да паловы адзінаццатай вечара.

Адна была радасць па дарозе – гэта смачная і вельмі танная вячэра ў прыдарожнай кавярні ў Ковелі з гарэлкай "Казацкая рада" (апошні ўкраінскі шлягер пасля ранняга "Нямірава" ды сярэдзіннай "Хорціцы") па сто грамаў на брата. Гарэлка якраз дарагая ў кавярні, але ж ім трэба выжываць, на ежу кошты не падымеш. Пасля перадыху шлях пакаціўся лягчэй. Самога Цярнопаля не згледзелі аніяк, бо сцямнела яшчэ ў дарозе. Калі засяліліся ў гатэль, яшчэ падумалася роздумна ў звязку з першым верасня – няўжо ўвесь працоўны год будзе звязаны з дарогай?

Нараніцу шлях павёў далей у Кішынёў, куды мы едзем здымаць дакументальны фільм да чвэрцьвекавога юбілею дыпламатычных узаемін Беларусі і Малдовы. Не самі прыдумалі тэму, але і не супраціўляліся. Асабіста мне чамусьці не давялося яшчэ пабываць у Малдове – ні ў савецкі, ні ў незалежны час. Таму з задавальненнем выбраўся ў вандроўку.

У гэты другі дзень напоўніцу спазналі разбітасць украінскіх дарог. Ехалі нейкімі зусім не магістральнымі шляхамі, мікрааўтобус кідала ў розныя бакі, трэсла на выбоінах без стомы. І гэта зноў жа сотні кіламетраў. Ехалі так, а не проста на Кішынёў, бо рэжысёр задумаў зняць замак у Сароках. Таму мяжу ўкраінска-малдаўскую перасякалі ў Магілёве-Падольскім. Уласна, яна ўяўляла сабою проста мост праз Днестр. Калі ўкраінскі горад быў даволі дагледжаны, то малдаўскі гарадок на другім беразе ракі выглядаў брудным. Невыразныя будынкі, пыл, цыганы там і сям. Была ці субота, ці нядзеля, ды ўжо добра паабедзе, то ўсе абменнікі пазачыняныя. А мяняць грошы ў людзей, якія тут круціліся, жадання не было. Ледзьве знайшлі прыбіральню ў неахайнай падваротні ды хутчэй на хады, то бок на калёсы.

У Сароках пачалі здымаць замак. Ён не падобны да нашых, з круглымі вежамі, кампактны і высокі. Здавалася б, зрабі колькі планаў – ды паехалі далей. Не, рэжысёр з аператарам усё хадзілі, шукалі прыгожыя кадры. Сам замак быў ужо зачынены, але брамнік пусціў нас. Ён служыў у войску ў Беларусі, вельмі прыязна адзываўся аб нашай краіне, на маю цікавасць распавядаў аб тутэйшым жыцці. Мы сядзелі пасярэдзіне брукаванага двара замка і гаманілі, пакуль хлопцы асвойталі з камерай нязнаную спаруду.

Да Кішынёва дарога была ўжо прыстойнай, ехалі хутка, як дазваляла цемра, якая ўжо ахапіла свет. Спадар Алесь чакаў нас у холе гатэля.

З раніцы закруціліся працоўныя кінематаграфічныя будні. Як выявілася, няшмат страціў, што не быў у Кішынёве ў савецкую пару. Новабудоўляў

(скончаных і няскончаных) мы бачылі ўсяго дзве-тры, што можна вызначыць выразам “у межах арыфметычнай пагрэшнасці”. Значыць, горад выглядае практычна так, як і раней. Тут нават з гордасцю падумаеш, колькі набудавана ў Мінску за апошнія дзесяцігоддзі! Агромністыя гандлёвыя цэнтры растуць як грыбы. Жыллё тое ж згадаць. Маштабныя спартыўныя збудаванні. Адно што адметнасці і стылёвасці бракуе ў сталічных беларускіх новабудах. А ў Кішынёве ўсё спакойна пад паўднёвым сонцам. Яшчэ і нашы тралейбусы бегаюць па вуліцах, ды спрэс новыя – нейкае дзіўнае адчуванне, што ты недалёка ад Мінска ад’ехаў. Насамрэч далёка, бо ў нас помнікі каралям ды вялікім князям не стаяць, а тут гаспадару малдаўскага княства Стэфану Вялікаму ў самым цэнтры горада.

Спадар Алесь, наш патрон з беларускай амбасады, пазнаёміў з Вячаславам Ігнаценкам, беларускім мастаком у Кішынёве. Хлопец з Гомельшчыны, на родную мову не забыўся. Выставу яго глянулі, потым накіраваліся на могілкі, каб зняць магілу мастака Уладзіміра Акушкі, беларускага шляхціча з Ашмянаў з адукацыяй Санкт-Пецярбургскай акадэміі мастацтваў, заснавальніка малдаўскага выяўленчага мастацтва. Гэта пачатак XX стагоддзя. У сярэдзіне стагоддзя ў Кішынёве выкладаў выпускнік Львоўскага дзяржаўнага інстытута дэкаратыўнага і прыкладнога мастацтва, будучы народны мастак БССР Гаўрыла Вашчанка. А цяпер вось, у пачатку стагоддзя XXI-га, беларускае мастацтва ў Малдове прадстаўляю я – так паўжартам ці ўсур’ёз скажа потым для фільма Слава, выпускнік Беларускай акадэміі мастацтваў. Ён сапраўды харошы мастак, настраёвы. Малдаўскія калегі закідваюць, што занадта дэталёва выпісвае свае карціны – маўляў, можна больш абагулена. А што яны самі? Цёпла, віно заўжды пад рукою – калі тут ужо выпісваць дэталі? Ды не будзем збочваць, выснова такая, што якраз нашыя мастакі ў найбольшай ступені мацуюць беларуска-малдаўскія культурныя сувязі.

Нашыя здымкі не абмяжоўваліся сталіцаю. Уражанне пакінуў Стары Архей, своеасаблівая калыска малдаўскай нацыі. Паўвыспа, утвораная выгінам ракі, цяпер называецца гісторыка-археалагічным комплексам. З трох бакоў яна абкружаная стромымі скаламі, пашчэрбленымі пячорамі. Як гнёзды ластавак у высокім адхоне майго нёманскага берага. Некаторыя з пячор – скальныя манастыры. Вобразна карцінка адразу нагадала мне даліну ракі Кедрон каля Іерусаліма. Мы глядзелі і здымалі Стары Архей з вышыні скал, рэчаіснасць раствாралася ў подыху стагоддзяў. Такое ўражанне ўзмацніў храм, высечаны ў скале, да якога мы доўга падымаліся пешкі. Паўцёмныя, ручной высечкі скляпенні, мігценне свечак, малітвы і песнапенні святара, абразы, звернутыя да цябе. Быццам трапіў у часы пачатку хрысціянства!

Малдова – артадаксальная праваслаўная краіна. Калі мы прыйшлі ў тралейбуснае дэпо, за брамай нас сустрэў крыж. На якім прадпрыемстве ў нас такое ўбачыш? Людзі так хацелі, вось мы і паставілі, – тлумачыць начальнік дэпо. А трапілі мы сюды, каб зняць якраз вытворчасць нашых тралейбусаў. Іх збіраюць з прывезеных з Беларусі машынакамплектаў – не гатовы ж транспарт везці ў няблізкі свет! Зусім непрацяглы час – і новенькі тралейбус ужо на вуліцах Кішынёва.

Крыж сустрэў нас і па дарозе ў Гага*у*зію, ён пазначаў нябачную мяжу аўтаномнага тэрытарыяльнага ўтварэння на поўдні Малдовы. Зноў жа праваслаўны крыж. Быццам нічога дзіўнага. Але для мне стала адкрыццём, што гагаузы – цюркскі народ хрысціянскай веры! Праваслаўныя туркі, калі па-простаму. Аб гэтым пазней мы пагаворым з гаспадаром віннага завода, які сустрэў нас у Камраце і паказваў дарогу ў сяло, дзе і была яго вінавытворчасць. Праўда, пачалі не з завода, а паехалі на вінаградныя плантацыі, дзе толькі павінен пачацца збор тэхнічных гатункаў для віна. Божа, дзе ні кінеш вокам на бязмежныя далягляды – спрэс вінаград! А калі вылезеш з машыны і падыдзеш усутыч – гронкі ўжо налітыя сокам, ажно свецяцца. Як тут не сарваць ягаду! Салодкі нектар абяцае адпаведны водар будучага віна. На

ўчастку шчыруе наш невялікі трактар “Беларус” (дарэчы, адмыслова сканструяваны для працы на вінаградніках), падрыхляе глебу паміж кустоўя. Здымаем, як ён коціцца насустрач камеры між вінаградных палосаў. Неспадзеўкі прачынаецца патрыятычны імпэт, прашу рэжысёра, каб у канцы плантацыі знялі разварот трактара і надпіс “Беларус” на яго баку. Жэня чамусьці супраціўляецца гэтакай выяўленчай прапанове, але ўсё ж здымаем. І што? У гатовым фільме павароту і надпісу я не бачу. Занадта доўгі план па часе, не станавіўся ў мантаж, – так тлумачыць потым сітуацыю рэжысёр. Дробязь, не варта перайманца, але шкада.

На заводзе адразу ідзём у вялізны пограб, дзе ў агромністых сталёвых цыстэрнах-бочках вытрымліваецца віно. На відным месцы і маленькая дубовая бочачка з шыльдачкай. Аказваецца, гэта адзнака таго факту, што на нейкім нядаўнім конкурсе еўрапейскіх вінаў Тамай заняў першае месца, яго прадукт адзначаны залатым медалём. І што вам гэта дало? А нічога, адказвае гаспадар, хто ж пусціць малдаўскае віно ў Еўропу, нават і найвышэйшай якасці, калі там хапае сваіх італьянскіх, іспанскіх ды французскіх вінаградных напояў? Вось і шукаем свае рынкі збыту. Наш гаспадар сябруе з Беларуссю, экспартуе ў сінявокую сваё віно. Але самая вялікая яго мара-надзея – пастаўляць віно для патрэбаў беларускай прэзідэнцкай адміністрацыі, то бок стаць, як гаварылі раней, “пастаўніком каралеўскага двара”.

Спадзяванне ж агулам небеспадстаўнае, віно сапраўды адметнае па смаку і якасці. Гэта мы зразумеем крыху пазней, калі пасля агляду ўсяго завода і здымкаў сядзем за вялікі стол на дэгустацыю. Аб кожным гатунку, аб кожным водары з вуснаў гаспадара ліюцца паэтычныя словы і вобразы – хоць ты адразу нізку вершаў пішы! Пакрысе і сам пачынаеш адчуваць смак розных гатункаў – белых, чырвоных. Назвы не нейкія экзатычныя, а ўсё знаёмыя, – “Шарданэ”, “Савіньён”, “Піна”, “Кабернэ”, “Ізабэла”, “Кагор” і далей па спісе. Дарэчы, тут атрымліваю адказ на сваё няведанне таго, чым адрозніваюцца сухія, напаўсухія і напаўсалодкія віны? У напаўсалодкае дадаецца вінаградны сок, ён і дае тую кроплю слодычы. Цяпер зразумела. Пасля дэгустацыі гаспадар прэзентуе кожнаму з нашай здымачнай групы (пяцёх улучна з кіроўцам) па скрыні віна розных гатункаў. Скрыня звычайная кардонная на шэсць пляшак па нуль сем. Ды яшчэ дзве скрынкі акром таго, каб не бегалі па крамах у Кішынёве, каб пакаштавалі яшчэ тут. Толькі дзе ўзяць часу на каштаванне, калі засталося толькі два напружаныя працоўныя дні? Натуральна, усе скрыні так і засталіся нечапанымі да ад’езду. А шчодрасць гаспадара збольш зразумелая, бо мы з той краіны, з якой ён хоча сябраваць і шчыльна супрацоўнічаць. Ды яшчэ і ў кіно знялі яго завод – рэклама. І нам не адмаўляцца ж ад прыемных прэзентаў! І нікому ў той момант не ў галаве – як мы ўсё гэтае багацце перавязём праз мяжу, дзе панапісвана ўсялякіх абмежаванняў?

Няма часу пра гэта думаць, то і праблемы пакуль няма. Але тое не азначае, што яе няма ўвогуле, бо межы існуюць. Нават мяжа своеасаблівая паміж Малдовай і непрызнанай Прыднястроўскай Рэспублікай. Чаго мы паперліся туды – не магу зразумець, бо фільм здарыўся б і без гэтага эпізоду (дарэчы, так і сталася). Але наш куратар сказаў, што ўЦіраспалі таксама існуе дзейная беларуская суполка. Да таго ж, самы багаты чалавек Прыднястроўя – якраз беларус, можа, і ён пад’едзе. Па дарозе бачылі новабудоўлі элітнага жылля, гатэляў – усё яго. І тутэйшы каньячны завод “Квінт” – таксама яго. Атрымліваецца, што на сённяшні дзень гэта і ёсць самы галоўны чалавек у непрызнанай рэспубліцы.

Натуральна, да беларускай сябрыны ён не даехаў, так што пазнаёміцца не ўдалося. Здымаем размову з кіраўнічкай суполкі, жанчынай ужо на пенсіі, былой настаўніцай. Акром іншага, яна з пэўнай доляй гонару распавядае, што з’яўляецца ветэранам *змагання* з Малдовай, за гэта ёсць невялікі дадатак да пенсіі. А мне шкада стала гэтую жанчыну, якая не забылася на сваю родную беларускую мову.

Бо ўбачыў ужо на свае вочы, за што ваявалі тут, у Прыднястроўі. За тое, каб багацці былі ў руках аднаго алігарха. І не важна, хто ён па паходжанні. Можна зразумець каталонцаў, яны пачуваюць сябе асобным этнасам са сваёй мовай. Але і ў нябеднай Іспаніі эканамічныя пытанні не на апошнім месцы, бо ў Каталоніі лічаць, што кормяць іспанцаў. Асобныя народы баскі, якія жывуць у дзвюх краінах, курды, у якіх падобная сітуацыя. А што тут, у левабярэжнай Малдове? Нейкі іншы народ? Ці людзі баяліся, што іх прымусова схіляць да малдаўскай мовы? Проста рэйдарскі захоп існага багацця дзяржавы, прыкрыты нейкім палітычным флёрам. Насамрэч аніякіх высокіх ідэалаў няма. Адразу прыгадалася, як далёкая родзічка жонкі Вольгі з Дняпра (ледзьве даўмеўся потым, што гэта былы Днепрапятроўск цяпер так называецца) расказвала аб сітуацыі ў іх, калі пачалася вайна на Данбасе і ў Луганскай вобласці. Сабраліся нашы бандзюкі, кажа, і вырашылі нікога не пускаць, ніякага перадзелу маёмасці. Так і сказалі бандытам з іншага боку. І не было там пeратрусу, незалежна ад здольнасці абараняцца ўкраінскай арміі. На жаль, усюды варта перш за ўсё бачыць нечыя канкрэтныя эканамічныя інтарэсы. А церпіць за ўсё гэта адурманены народ, якому падкідваюць натхнёныя словы аб *высакароднасці вайны* за *праведныя ідэалы*. “Наваросія” там, “рускі свет”. Хоць імперскі акцэнт скідваць зусім не трэба. Але як гэта тычыцца Прыднястроўя?

Жывуць тут, і вока ўзбройваць не трэба, бедна. Валюту не купіць, а гэта значыць, што і выбрацца нікуды практычна не можаш. Паехалі мы ў фірмовую краму “Квінта”, дзе выдатны каньяк зусім па нізкім кошце! Але плацілі не самі, мясцовымі грашыма разлічылася наша жанчына, а мы ёй аддалі сваю долю замежнымі. Такім чынам яна змагла прыдбаць крыху валюты.

А ў Кішынёве беларуская суполка пачуваецца проста анігадкі! Маюць харошы офіс у новым будынку, дзе фірмовая крама мінскага “Кераміна”. У наш апошні дзень зладзілі тут прэм’еру “Першадруку”. З мясцовымі і замежнымі гасцямі – прыём на вышэйшым узроўні, адно што не ў амбасадзе. Справа ў тым, што з ініцыятывы нашых дыпламатаў у Кішынёве меркавалася паставіць помнік Францішку Скарыну. Ці не з таго ўзнікла гэтая прывабная ідэя, што ў адной з публікацый аб нашым першадрукары згадваўся і кішынёўскі след? Зрэшты, пераможцаў (на сёння помнік Скарыну ўжо стаіць у натуры) не судзяць. Месца праз вуліцу ад шыкоўнага будынка беларускага прадстаўніцтва было ўжо вызначана, а ў Мінску скульптар Генік Лойка, які перамог у конкурсе, заканчваў над ім работу. Мы здымем яго з нязменнай на ілбе майстра бел-чырвона-белай стужкай у майстэрні каля макета помніка ў натуральную велічыню. Уласна, гэта атрымаліся фінальныя кадры фільма. Высокая чыноўніца з Мінкульта запатрабуе ад нас водгуку на карціну з Міністэрства замежных спраў, спадзеючыся, што там звернуць увагу на бел-чырвона-белы элемент. Але надзеі яе не спраўдзіліся.

А на прэзентацыі фільма пра Скарыну, дзе я аўтар сцэнарыя, мне самому было цікава ўбачыць яго з дубляжом на рускую мову. Дыктар прачытаў па-руску, гэты тэкст наклалі паўзверх асноўнага. Каларыт беларускі захаваўся цалкам, глядзелася ўсё вельмі прыстойна. Тым больш фільм высокай мастацкай і выяўленчай якасці – “Галівуд прыехаў”, як вызначаў я сваю з рэжысёрам Ігарам работу жартаўліва і ўсур’ёз. Слова мне далі пасля прагляду, яшчэ раз падкрэсліў веліч духоўнага подзвігу нашага слыннага земляка. Можна ўявіць, як усё гэта ўспрымалі высокія расійскія госці вечарыны.

Заставался яшчэ толькі зняць мастака ў яго майстэрні, пасля чаго, натуральна, меркавалася развітальнае каштаванне віна. Калі прыехалі на месца, Слава са сваім таварышам затаварыліся ў краме, я дапамог грашыма, каб зусім не быць абавязаным гаспадарам. Са шкадаваннем згадаў, што можна было б узяць зранку з сабой у машыну адну скрынку з тых, што зверх. Але позна ўжо было круціцца па горадзе, час пралятаў, цямнела. Майстэрня Ігнаценкі, як зазвычай для мастакоў,

была на паддашку звычайнага панэльнага девяціпавярховага дома. Колькі ўжо такіх творчых андэнграўндных куточкаў (паддашкаў ці падвалаў) бачыў я ў сваім жыцці! Размову знялі добра, як хораша і развіталіся з Кішынёвам і яго ўжо знаёмымі жыхарамі пад сухое чырвонае віно і лёгкі харч.

Назаўтра ад’езд, зноў пачатак двухдзённага шляху з дарожнай трасучкай. Скрыні з вінoм ніяк не дзялілі, не хавалі, паставілі на падлогу машыны разам з кінематаграфічным начыннем. Папрацавалі нядрэнна, то і настрой быў харошы. Рэжысёр па дарозе жартам прыдумляў, каго на кінастудыі пачастуем віном. Я таксама далучаўся да гэтай гульні з размеркаваннем вінаграднага напою. Хто ж ведаў, што жартуем на сваю галаву, што самая непрыемная дзея, якая па эмоцыях перакрэсліць усё станоўчае і цікавае, яшчэ наперадзе? І гэта пры тым, што мы добра ведалі абмежаванні для ўвозу спіртных напояў у Беларусь. І пры тым, што ў дзвюх крамах дзюці-фры (туды і назад) мы яшчэ набылі віскі, у Кішынёве ды Цірaспалі купілі каньяку. Такім чынам, у нас і без віна ўсяго іншага было даволі. Але нейкае падсвядомае меркаванне, што праскочым, пакуль не пакідала.

Усялякія непажаданыя думкі адкінуў запланаваны апаратарам Сашам заезд да Пачаеўскай лаўры. Без начоўкі на зваротнай дарозе аніяк, то чаму гэта не можа быць Пачаеў? Недзе на пад’ездзе спыніліся дзеля перадыху – які цудоўны здалёк сілуэт святыні! Бо стаіць яна на высокім пагорку, як і належыць быць. У горадзе хуценька засяліліся ў гатэль ды подбегам у манастыр. Крамкі яшчэ працавалі, на памяць я набыў маленькі абразок для машыны. У салоне каля ветравога шкла стаялі ажно два, але патрапаныя. Цяпер акуратненькі трохскладовік радуе вока і душу. Потым і крылы паржавелыя памяняў у машыне, і бамперы пашкамутаныя, і супрацьтуманныя фары сталі працаваць. Яшчэ і пра свечкі ў маторы згадаў, якіх не памятаю калі і мяняў. Так што цяпер мой стары “Форд Мандэа” глядзіцца як новы, і матор цягне па-маладому. Я гэта да таго, што ўсё ў машыне пацягнулася за новым абразком.

Асноўнае знаёмства з лаўрай адбылося раніцай. Часу не вельмі багата, але мы з кінаапаратарам Сашам, праўда, паасобку, паспелі пакланіцца ўсім пачаеўскім святыням, сярод якіх галоўная – след Багародзіцы. Паданне сведчыць, што манахі з Кіева-Пячорскай лаўры, якія збеглі сюды ад нашэсця татараў і заснавалі манастыр, зведалі дабраслаўленне Маці Божай. Яна паўстала перад імі на скале, пакінуўшы на камені след сваёй правай ступні, з якога пачала струменіць гаючая вада. Убачыў і я той след, прычасціўся святой вады з крыніцы. Сама ўжо гэтая з’ява – дзіва, бо крыніца, насуперак усялякай логіцы, – на самым вышэйшым пункце гары!

І вось пасля такой дабрадаці нас чакала зусім нясветлае і нярадаснае мытнае шкамутанне. Аб тым, як дачапіліся да камеры ўкраінскія памежнікі, згадваў. Але і гэта пакуль не дало прадчування яшчэ маючай быць небяспекі ўжо на нашай мяжы. Стаім, адзначаем пашпарты, каб потым пад’ехаць да мытнага кантролю. І толькі тут, калі злавіў позірк мытніка, які стаяў наперадзе, да мяне пачало даходзіць, што дабром гэта не скончыцца. Позірк быў нейкі адмысловы. І ўсё адбілася на яго твары. Тут нават дурню стала б зразумела, што беларускую мяжу мы без прыгод не праскочым.

Мытнік загнаў нашую “Газель” у спецыяльны бокс, дзе і пачаўся шмон. Адразу паклікаў начальніка змены. На падваконне мы выставілі ўсё тое, што набылі самі. Маляўнічая карціна з прыгожых пляшак віскі, каньяку і віна намалявалася. Пералічыў наш даглядчык – якраз пятнаццаць літраў на ўсіх, па тры на брата. Перабору няма. У перабор трапілі ўсе сем скрыняў прэзентаванага нам віна. Сорак дзве пляшкі, трыццаць адзін з паловай літр. А гэта ўжо кантрабанда, Пры тым было відаць, што не з крамы віно, што закаркаванне не фабрычнае, што падарунак – ніхто нікога ўжо слухаць не хацеў. Для мытнікаў гэта сталася проста ўдачай.

Цяпер ужо яны сталі больш лагоднымі. Прапанавалі, каб не на кожнага паасобку паперы афармляць (вельмі шмат часу зойме), а выбраць аднаго. Я адразу зразумеў, хто будзе гэтым чалавекам, але на ўсялякі выпадак запытаўся пра ахвотнага. Яго, натуральна, не знайшлося. Так кантрабандыстам аказаўся я адзін, праўда, пенсіянер, які хацеў правезці з сабой трыццаць адзін з паловай літр малдаўскага віна. Вось табе і назва будучага аповеда – “Кантрабандыст”! Насамрэч пры ўсім разуменні, што на мытні свае законы, было крыўдна, – аніякіх адносін да камерцыі мы не маем, гэта ж проста падарунак на сваё спажыванне! Але ў рэальнасці незаконны ўвоз. А што робяць у такім выпадку? Канфіксацыя і штраф. Заплацілі адразу, падзяліўшы не такую і малую суму на пяцёх. І пасунуліся далей ужо без аніякага настрою ў цемрадзь ночы, у Беларусь...

Няпроста было потым прыйсці ў сябе пасля гэтага. Але смачнага віна не вернеш. Шкада. Адно добра – цяпер мы ведаем, якое малдаўскае віно браць у краме. Якраз таго самага гагаузскага вінзавода, дзе я быў асабіста і бачыў усё на свае вочы. Не раз ужо і браў яго з розных нагодаў і патрэбаў. І сапраўды – без падману. Водар, смак... І галава потым не баліць.

Уладзімір Сіўчыкаў



…Нестару Сакалоўскаму пашанцавала: так і не знайшлося кампазітара-некрафіла, які змяніў бы ў гімне ці дадаў некалькі музычных тактаў…

# Новыя крыніцы

***З нізкі "Уладзевы гісторыі"***

## Камерсант ад мастацтва

Іван Казіміравіч Скіндзер, больш вядомы сярод мінскіх валютчыкаў і фарцоўшчыкаў як Жан, наважыўся быў скласці канкурэнцыю "Мастацкаму салону".

Зарганізаваў ён сабе "дах" – юрыдычнае прыкрыццё – як філіял грамадскай арганізацыі дый заарэндаваў катух пад вінтавой лесвіцай у кнігарні "Светач", што на Паркавай магістралі. Наладзіў там Жан выставу-продаж мастацкіх вырабаў, але мусіў падладжвацца пад графік кнігарні. Працаваў ён штодня, за выключэннем нядзеляў, а таксама святаў.

Раніцою, у дадатак да развешаных на сценах і стэндах палотнаў і графічных аркушаў, раскладваў Жан і расстаўляў на паліцах і ў вітрыне рэчы, здадзеныя яму на камісію: сервізы, статуэткі, медальёны і разнастайную антыкварную драбязу. Аб адзінаццатай гадзіне выносіў і ставіў перад уваходам у "Светач" пірамідападобную дыхтоўную канструкцыю з надпісам "Art-

gallery”. Прэтэнцыёзна-кічавая рэклама працавала эфектыўна – зваблівала і замежных турыстаў з гатэляў “Планета” ды “Юбілейная”.

Гандляваў Жан сам, разам або па чарзе з жонкаю Святланай, а касіркі з кнігарні ажно шалелі ад ягоных цэннікаў з трох-, чатырох- і нават пяцізначнымі рублёвымі лічбамі. Але наўрад ці хто з іх заўважаў, што нярэдка разлічваліся з Жанам не “драўлянымі”, а бундэсмаркамі або амерыканскімі далярамі, якія называў ён “блінамі”, “баксамі”, “капустаю” або проста “зялёнымі”. Лепш за ўсё размяталі чужаземцы самавары, размаляваныя лакавыя куфэрачкі, лыжкі ды матрошкі. Увесь гэты “арбацкі” набор Жан даволі танна закупляў падчас рэгулярных наездаў у расейскія губерні.

Калі гандаль збольшага наладзіўся, камерсант ад мастацтва правёў прэзентацыю сваёй “галерэі”, запрасіў сяброў на фуршэт у Дом творчасці і адпачынку пісьменнікаў “Іслач”, дзе здымаў сабе нумар-люкс, за які заплаціў наперад за цэлы год.

Усё ішло нібыта як мае быць, але падчас фуршэту падалося Жану, што адзін з гасцей занадта ўлягае за ягонай жонкаю. Кінуўся быў камерсант высвятляць адносіны, але заўсёднага балончыка з нервова-паралітычным газам у кішэні ў яго не аказалася. Атрымаў раўнівец аперкот у сківіцу і апынуўся ў глыбокім накаўце. Калі ачуняў, пакрыўдзіўся на жонку, на гасцей і на ўвесь свет, скочыў у свой “Жыгуль” дый паімчаў па Ракаўскай шашы проста ў сталіцу.

На пасту аўтаінспекцыі перад акружной кальцавой дарогаю міліцыянты паспрабавалі спыніць Жана за тое, што значна перавысіў дазволеную хуткасць, але марна. Па рацыі паведамілі яны пра яго амапаўцам, якія дзяжурылі на ўездзе ў сталіцу, але Жан праігнараваў і іхні загад спыніцца. Раз’юшаныя гэткім нахабствам, амапаўцы абстралялі “Жыгулі” з аўтаматаў і, не раўнуючы як тыя ваўкалакі, кінуліся наўздагон. Пад Кальварыяй злавілі яны “шумахера”, як след палічылі яму рэбры і здалі ў бліжэйшае аддзяленне міліцыі.

“За зламыснае хуліганства, звязанае з супрацівам прадстаўнікам улады”, а таксама за тое, што быў за стырном нецвярозы, “свяціла” Жану каталажка, тым болей што выявілася: ён ужо трапляў у аналагічную сітуацыю. Але, на ягонае шчасце, мінулі з таго дня каляндарны год і адзін тыдзень. Міліцыянты раззлаваліся, калі зразумелі, што не ўдасца ўпячы Жана за краты, і не прыдумалі нічога лепшага, як яшчэ раз бязлітасна адмяцеліць яго.

Абышлася Жану ўся прыгода тым, што, учарнелы, праваляўся ў ложку два тыдні. Мусіў таксама заплаціць сторублёвы штраф, які, паводле гандлярскай звычкі, палічыў завялікім.

Праз аўтаінцыдэнт, а можа, і з іншае прычыны, зацікавіліся Жанавай “галерэяй” не толькі аматары мастацтва і антыкварыяту, і неўзабаве яе зачынілі.

Казалі потым, што нібыта паспеў Іван Скіндзер зарабіць у “галерэі” валюты, каб набыць за яе неблагі катэдж пад Мінскам. Але куды і чаму знік ён з таго часу, нават колішнія ягоныя сябры не ведаюць.

## Насалода

Паэт, празаік, перакладчык і публіцыст Янка С. чарговае восені прыляцеў у Дом творчасці і адпачынку, што стаяў на чарнаморскім узбярэжжы, у абхазскай Піцундзе.

На вячэры ў сталоўцы ён захоплена-радасна ўсклікнуў:

– Бач ты, афіцыянткі тут нават памятаюць, колькі цукру трэба класці мне ў чай!

– Ды не, даражэнькі мой “чатыры П” – паэт, празаік, перакладчык, публіцыст, – мякка і карэктна запярэчыла маладзіца, што была ў чарнаморскіх адпачынках Янкі асалодаю, куды саладзейшай за цукар. – Гэта я толькі што ўсыпала табе адну лыжачку – столькі, колькі ты любіш!

## І зноў пра мяккі знак

Калі напачатку навучальнага года беларусіца павыкасоўвала мяккія знакі ў слове “верасьня” як на класнай дошцы, так і ў вучнёўскіх сшытках, дык усе адзінаццацігадовыя аднакласнікі Франака Клімковіча панапісвалі ў сваіх дзённіках “Прынесці албом і калку”!

Трагізм (і, разам з тым, камізм) сітуацыі палягалі ў тым, што Франакаў прадзед Міхась Клімковіч, прафсаюзны і партыйны функцыянер, а таксама старшыня аргкамітэта па стварэнні на сталінскі загад Саюза пісьменнікаў БССР, а таксама ягоны кіраўнік у другой палове трыццатых гадоў, меў непасрэднае дачыненне да так званай рэформы беларускага правапісу 1933 года. Рэформа тая знявечыла не толькі правапіс, але і фанетычныя, і марфалагічныя асаблівасці беларускай мовы, закранула нават яе лексіку.

Хай бы паспрабаваў аўтар тэксту дзяржаўнага гімна БССР “Мы, беларусы...” патлумачыць школьнікам, чаму ягоныя паплечнікі, не лінгвісты, а палітыкі, скасавалі пазначэнне асімілятыўнага змякчэння зычных [з], [с], [ц] (напрыклад: *след, свет* замест *сьлед, сьвет*) альбо чаму адмянілі напісанне мяккага знака паміж падоўжанымі зычнымі [з], [с], [н], [л] (напрыклад: *калоссе, жыццё* замест *калосьсе, жыцьцё*).

І як нават сёння настаўніку вытлумачыць дзецям, што ў слове “пісьменнік” пры аднолькавым становішчы зычных змякчэнне гука [с] абазначаецца мяккім знакам, а гука [н] чамусьці не абазначаецца?! Больш за тое, школьнікі і праславуты “снег” прамаўляюць цвёрда, бо на пісьме аніяк не пазначаецца мяккасць літары “с”!

## Гімнюк

Адразу пасля Другой сусветнай вайны ўзнікла пільная патрэба ў гімне Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Утваралася Арганізацыя Аб’яднаных Нацый, і Беларусь мела гонар стаць адной з сузаснавальніц уплывовай міжнароднай арганізацыі, бо зрабіла вялікі ўнёсак у перамогу над фашызмам. А краіна-заснавальніца мусіла мець такія вызначальныя атрыбуты дзяржаўнасці, як гімн, герб і сцяг.

Многія творцы памкнуліся ў стваральнікі гімна, бо кожнаму паэту і кампазітару хацелася такім чынам увайсці ў гісторыю. У камісіі на чале з Клімянтам Варашылавым, якая, зразумела, працавала ў Маскве, сярод шматлікіх варыянтаў за лідара доўгі час разглядаўся тэкст паэтаў Пятра Глебкі і Петруся Броўкі. Як і ў іншых, фігураваў у ім неадменны набор з Леніна, Сталіна, Камуністычнай партыі і вялікага братняга рускага народа. Разглядалі тэкст двух Пятроў ажно да смерці аднаго з фігурантаў – Сталіна, але ўсё ж забракавалі.

А тады ўспомнілі пра варыянт “Мы, беларусы...” Стварыў яго творчы тандэм паэта Міхася Клімковіча і кампазітара Нестара Сакалоўскага, якія сябравалі і нават жылі ў адным пад’ездзе. Музыка гімна стала на той час вельмі папулярнай, яе ахвотна круцілі на радыё, а сама песня сталася ледзь не народнай. Урэшце “Мы, беларусы...” прынялі як гімн БССР, але адзін з аўтараў, паэт Міхась Клімковіч, пра радасную навіну так і не дазнаўся – памёр у пяцьдзясят чатыры гады якраз у той дзень, як гімн зацвердзілі!

Калі прыйшлі часы незалежнасці і краіна стала звацца Рэспублікай Беларусь, усе ўцямілі, што Клімковічаў тэкст маральна састарэў, і пэўны час у якасці гімна гучала толькі музыка Нестара Сакалоўскага.

Неўзабаве быў абвешчаны нацыянальны конкурс на новы гімн. Разглядаліся як даўнія варыянты – “Магутны Божа” Наталлі Арсенневай на музыку Міколы Равенскага і “Мы выйшлі шчыльнымі радамі” Макара Краўцова на музыку Уладзіміра Тэраўскага, так і шматлікія наватворы.

Беларускія камуністы ўчэпіста адстойвалі сваю спадчыну, а таму прыйшлі да дачкі аўтара старога гімна, да паэткі і лібрэтысткі Святланы Клімковіч з просьбай паднавіць, асучасніць бацькаў тэкст. Аднак на сямейным савеце Клімковічы вырашылі, што бацька і дзед напісаў гімн для іншай дзяржавы, для БССР, а цяпер яна кардынальна змянілася, а таму і гімн мусіць займець зусім іншы. Але і як правапераемнікі анічога не змаглі яны зрабіць, калі тэкст “паднавіў” за іх іншы паэт: аказалася, што гімн, сцяг і герб паводле заканадаўства краіны не з’яўляюцца аб’ектамі аўтарскага права!

Народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін расказваў, як той вершатворца яшчэ студэнтам-філфакаўцам дужа любіў іграць на гармоніку ды гарлаць прыпеўкі кшталту:

Не хацелась паміраць
Буржуям нямецкім,
Ды прыйшоў па іх страляць
Афіцэр савецкі...

Ну дык і “настраляў” той, зноў жа, па барадулінскім азначэнні, “гімнюк”, сваіх радкоў, некарэктна ўплішчыў іх у чужы тэкст, абсалютна неэтычна паставіўся да паэтычнай спадчыны нябожчыка і гвалтам набіўся да яго ў суаўтары.

З таго часу і гучыць у лукашэнкаўскай Беларусі новы стары гімн, а аўтарамі слоў яго значацца два паэты з прозвішчамі на літару К: Клімковіч і ягоны няпрошаны суаўтар.

А вось Нестару Сакалоўскаму пашанцавала: так і не знайшлося кампазітара-некрафіла, які змяніў бы ў гімне ці дадаў некалькі музычных тактаў.

## Возера ледавіковага паходжання

Знакамітая ды апетая ў легендарнай і калісь ананімнай паэме Лысая гара, што пад слаўным Заслаўем, не магла не даць свайго імя некалькім дачным кааператывам, якія пазней сталі іменавацца садовымі таварыствамі “Лысая гара”, “Узгор’е-1” і “Узгор’е-2”. Заснавальнікамі першага сталі работнікі кампаніі “Керамін”, а двух іншых – пісьменнікі. Праўда, адна з лысагорак, Аксана С., упарта цвердзіць, што гэта Заслаўе стаіць непадалёк ад Лысае гары, а не наадварот, і што назва яе значыць не “голая, без хмызоў і дрэваў, дзе ладзяць свае пагулянкі нячысцікі”, а “ясная, светлая, сакральная”, і што на вяршыні і цяпер ляжыць тузін валуноў са старажытняга капішча.

А што несумненная праўда, дык гэта тое, што шкадуюць лысагорцы, што няма пры гары хоць невялічкай рачулкі альбо возера. У гэтым сэнсе пашанцавала чальцам “Узгор’я-2” – на яго тэрыторыі, пры галоўнай уязднай браме маецца сціплая і безыменная сажалка. Але ў адным з газетных рэпартажаў увішны карэспандэнт “Нашай Нівы” пайменаваў яе возерам ледавіковага паходжання і зрабіў эфектныя фотаздымкі з нізкім, ледзь не ад самае паверхні гарызонтам, а таму выдавала на іх, што сажалка ледзь не з Мінскае мора.

Мабыць, помніла яна і лепшыя свае часы, але мізарнець пачала якраз тады, як сталі будавацца дачнікі. Цягалі з яе ваду і на бетонныя падмуркі, і на грады, і на пасаджаныя яблыні ды грушы. Казалі тубыльцы, што калісь, асабліва вёснамі, выцякала з тае сажалкі нават ладная ручаіна і цурчэла ў бок Шальманаўкі – крыніцы, якую ў лагчынцы, у процілеглым дачным куце, агледзеў, расчысціў і прывёў да ладу Іван Шальманаў. Ён яе спарадзіў, ён яе і забіў у роспачы: закапаў, калі агледзеў, што некаторыя недарэкі мыюць у ёй посуд, рыштунак і нават брудныя боты. Пераключыў Іван сваю ўвагу на сажалку і аднаго лета, калі яна ледзь не перасохла, павыбіраў з глею два вядры карасёў і вярнуўся з імі дамоў чорны што той чорт.

Відавочна, што сажалку сілкавалі дый сілкуюць расталы снег і дажджы, але найперш крыніцы. А вось крыніцай натхнення ў недабудаванай даміне непадалёк ад сажалкі была зусім не крынічная вадзіца, а літва з Валоўшчынскае манапалькі. Паляпшаць, "улукшваць" паэтычны зборнік гаспадара цаглянай будыніны падахвоціўся паэт Рыгор Б., і неўзабаве да яго далучыўся Генадзь Б., які меў сваё "лесішча" ў недалёкай Крыжоўцы. Абодвух рэдактараў-суаўтараў гаспадар, Валянцін Л., шчодра забяспечваў усім неабходным і для творчасці.

Бывала, выходзілі ўсе трое на бераг "возера ледавіковага паходжання" паглядзець, як марнуюць час рыбалоўцы, палюбавацца на даволі рэдкія ў нашых вадаёмах ружовыя лілеі ды паслухаць дружны хор жабоцек. Абураліся гурбамі глею з перагнілых водарасцяў і чароту дый вялізарнымі глыжамі сінаватае гліны. Ледзь не кожны новы старшыня садовага таварыства браўся добраўпарадкаваць "пажарны вадаём", як значыўся ён на паперах, а вайсковы адстаўнік Віталь Б. даўмеўся рабіць гэта... экскаватарам, бо, мабыць, не цяміў, што ваданосныя слаі дый крыніцы з іх – матэрыя далікатная і далікатная.

У чарговы наступ на сажалку пайшлі лысагорцы, калі атрымалі дадатковыя соткі "пад бульбу" на саўгасным полі з векавечнымі дубамі. Напачатку многія імпэтна ўзяліся былі ўздымаць дзірван, але потым засталіся толькі самыя стойкія: у сухмень давялося цягаць ваду на грады дый разоры вёдрамі і каністрамі.

Мабыць, не на карысць ваданосным гарызонтам пайшло і тое, што некаторыя дачнікі парабілі на сваіх участках артэзіянскія свідравіны, каб не залежаць ад агульнай воданапорнай вежы, жыццядайная вадкасць з якой расцякалася па трубах.

## Сымонка і Мішка

Віктар Салей, не толькі выкладчык універсітэцкага юрыдычнага факультэта, але і адвакат-практык, ахвотна дзяліўся са студэнтамі на практычных занятках сваім досведам.

Аднаго разу расказаў ім і пра такі выпадак.

Прыгледзелі злодзеі адну сталічную кватэру, але прыпыніліся, збянтэжыліся на лесвічнай пляцоўцы, бо пачулі за дзвярыма дзіцячы голас.

Пазванілі і пытаюцца:

– Хлопчык, а колькі табе гадоў?

– Чатыры.

– А як цябе завуць?

– Мяне завуць Сымонка, – прагучала з-за дзвярэй.

– А дома ты адзін, Сымонка?

– Не, я не адзін. Са мною Мішка.

– А колькі гадзікаў твайму Мішку?

– Тры гадзікі...

Праз пару хвілін асмялелыя "госці" патрапілі ў кватэру з дапамогай адмычак. Аднаго ратвейлер Міша "павітаў" – загрыз проста ў вітальні, але і другога паспеў знявечыць.

Ужо арыштаваны, грабежнік паспрабаваў быў падаць з СІЗА сустрэчны зыск з дапамогаю прызначанага яму адваката...

Будучыя юрысты з паўгадзіны спрачаліся ў аўдыторыі, ці ёсць у злодзея шансы абараніцца на судзе і ці не было з боку гаспадароў кватэры перавышэння межаў неабходнай абароны.

Сышліся, аднак, на тым, што асудзіць трэба ўсё ж грабежніка, які здолеў выжыць пасля блізкага знаёмства з трохгадовым Мішам.

*13 студзеня 2017 года.*

## Пустое крэсла

Знакамітаму разбяру Івану Якімавічу Міско ў свой час замовілі надмагільны помнік кампазітару Сяргею Аксакаву, унуку рускага саноўніка і пісьменніка. Кампазітар немалы час жыў і працаваў у беларускай сталіцы, і пахавалі яго на Маскоўскіх могілках, дзе яшчэ ў 80-х гадах усталявалі і помнік.

Праз дваццаць гадоў пра гэта ўзгадалі арганізатары міжнародных Аксакаўскіх дзён, што вядуць свой адлік ад 1990 года. Праводзяцца яны ў сталіцы Башкірыі дый іншых мясцінах, дзе жыў і працаваў рускі пісьменнік-класік, а таксама ягоны ўнук-цёзка. Запрасілі на літаратурныя святы і Івана Міско. Як сапраўдны беларус ён прыехаў не з пустымі рукамі – прывёз у дар музею С. Аксакава партытуры ўнука пісьменніка, знойдзеныя ў Дзяржаўным архіве Беларусі.

У філіяле Уфімскага музея ў сяле Надзеждзіна Іван Міско звярнуў увагу на старасвецкае крэсла, у якім нібыта любіў працаваць Аксакаў. Папрасіў ён вынесці тое крэсла на панадворак і сфатаграфаваў у некалькіх ракурсах. А між тым у яго ўжо спела задума – усталяваць помнік пісьменніку ў ягоным радавым фальварку. Аўтар “Апавядаў і ўспамінаў паляўнічага пра розныя паляванні” мог бы сядзець у фактурным крэсле, пры ім ляжаў бы ўлюбёны выжал, а яшчэ адно, вольнае, крэсла запрашала б госця музея сесці поруч з гаспадаром сядзібы і правесці некалькі хвілін у маўклівым сумоўі.

На развітальным паседжанні літаратурных дзён беларускі скульптар заявіў, што гатовы стварыць помнік Сяргею Цімафеевічу Аксакаву, які варта будзе ўсталяваць пры філіяле Уфімскага музея, і ідэю тую ахвотна падтрымалі.

У Мінску Іван Міско зрабіў пластылінавы эскіз кампазіцыі, задуманай ім у Надзеждзіне.

У хуткім часе ў беларускую сталіцу прыбыла прадстаўнічая дэлегацыя з Башкірыі, у складзе якой быў і дырэктар мемарыяльнага дома-музея Сяргея Аксакава пісьменнік Міхаіл Чванаў. Ён перадаў беларускаму майстру разца копіі прыжыццёвых малюнкаў і фотаздымкаў Сяргея Аксакава, а самае істотнае – паведаміў, што прынята рашэнне прафінансаваць стварэнне і ўстаноўку помніка да XX Аксакаўскіх чытанняў.

Іван Міско скарыстаў атрыманыя матэрыялы, але перадусім арыентаваўся на партрэтную выяву пісьменніка, што належала пэндзлю выбітнага рускага жывапісца Івана Крамскога. Разумеў ён, што менавіта са знакамітым партрэтам будуць параўноўваць ягоную бронзавую скульптуру, але стараўся выявіць сваё мастакоўскае прачытанне вобраза дзяржаўнага дзеяча і літаратурнага класіка. Хацелася скульптару, каб той выглядаў велічна, натхнёна і глыбокадумна.

На жаль, з цягам часу першапачатковая кампазіцыя змянілася найперш праз абмежаванасць фінансавых сродкаў. Давялося эканоміць, і не ў апошнюю чаргу на бронзе. Спачатку скульптар мусіў ахвяраваць пустым крэслам, але калі чыноўнікі ад культуры параілі яму адмовіцца і ад паляўнічага сабакі, ён не стрываў:

– Яшчэ меней бронзы спатрэбіцца, калі пазбавіцца постаці самога Сяргея Аксакава! Прапаную паставіць на пастаменце толькі выжла і пустое крэсла!

– Выбачайце, Іван Якімавіч, але як гэта – помнік пісьменніку без самога пісьменніка?! – зніякавелі башкірскія чыноўнікі.

– А вельмі проста! Экскурсавод будзе тлумачыць наведвальнікам музея, што аўтар “Нататак пра лоўлю рыбы” пайшоў вудзіць рыбу, а выжал ягоны чакае, покуль гаспадар вернецца і выправіцца з ім на паляванне. А на крэсле хай застануцца стос рукапісных аркушаў і кветка, як сведчанне, што гэта ўсё ж помнік аўтару казкі “Пунсовая кветачка”!

Альтэрнатыўна-ультыматыўны дэмарш спрацаваў – са скульптаравым рашэннем пагадзіліся. Блаславіла твор і пісьменнікава праправраўнучка Наталля Аксакава – сказала, што якраз такім і ўяўляла свайго знакамітага продка.

У гліну помнік Сяргею Аксакаву Іван Міско перавёў на Мінскім скульптурным камбінаце, адлілі твор у бронзе ў татарскай Казані ў ліцейні беларуса Сяргея Марудэнкі, а на п'едэстал у Надзеждзіне трохметровы ўвышкі манумент усталявалі напярэдадні Аксакаўскіх святаў.

*22 лютага 2017 года.*

## Ху із who?

У аўтарамонтнай майстэрні, дзе тэлежурналістка Люба Л. ужо некалькі гадоў была сталай кліенткай, адвеку мелася праблема прыпаркавацца. Многія аўтааматары ставілі свае машыны каля бакавой сценкі, і гэта стварала праблемы персаналу. Час ад часу механікі-рамонтнікі выходзілі і патрабавалі, каб кліенты пераставілі той ці іншы аўтамабіль, які замінаў.

На той сценцы нават было напісана, што паркаваць машыны пры ёй катэгарычна забараняецца, але надпіс той не меў жаданага выніку.

Аднаго дня прыехала Люба ў майстэрню і пабачыла, што запаветнае месца пры сцяне пустое, а аўто ўсіх кліентаў пашнураваліся каля паркана.

Агледзела Люба і новы надпіс на сцяне, які абвяшчаў пляцоўку пры ім месцам паркоўкі для прадстаўнікоў сексуальных меншасцяў.

Толькі запаркавалася яна на запаветным лапіку асфальту, як падышоў аўтамеханік дый кажа:

– Вы што гэта, дамачка, хіба не бачыце, што паркавацца тут няможна?!

Тут Любу і панесла:

– Чаго гэта?! Я так мяркую, што месца пазначана акурат для мяне! Дзякуй вялікі, што праявілі такі клопат!

– Дык вы гэта што, можа... лесбіянка? – нібыта нявінна, але з яўным намерам збянтэжыць ці нават абразіць кліентку, спытаўся механік.

– Бярыце вышэй! Я – бісексуалка, калі вы здольныя ўцяміць, што гэтае слова значыць! Да таго ж я – важная асоба ў сталічнай ЛГБТ-супольнасці!

Механік застыгнуў з такім выглядам, быццам яго залілі вадкім азотам ці нібыта ён самохаць ператварыўся ў чарговую мінскую садова-паркавую скульптуру.

Выйшаў загадчык майстэрні, і ўсё Любіна красамоўства абрынулася на яго, што той Ніягарскі вадаспад:

– Ды вы хоць разумееце, недарэкі, што ў любой цывілізаванай краіне вас бы ўжо зацягнулі ў суд ды засудзілі б так, што вы прадалі б сваю кантору да апошняга вінціка ды яшчэ і вінныя засталіся б, як зямля калгасу?! Дзе ваша міфічная беларуская талерантнасць?! Можа, і вы, дзікуны, у Еўропу хочаце? Можа, вы спрабуеце здаць экзамены ды атрымаць карту паляка? Папраўдзе я не лесбіянка і не бісексуалка, але праз ваш выбрык прынцыпова буду паркавацца толькі тут, пры гэтай “Берлінскай” сцяне! Дый увогуле, падобна, гаспадары вашы сэксуальна заклапочаныя!

– Гэта чаму вы так думаеце?

– А як жа іначай?! Гэта ж трэба было дадумацца – назваць майстэрню “Чырвоныя ліхтары”!

– А што тут такога?

– Ды хаця б тое, што не толькі ў Нідэрландах, але і ў іншых еўрапейскіх гарадах кварталамі чырвоных ліхтароў імянуюць раёны, дзе легальна аказваюцца інтымныя паслугі! А можа, у вас аказваюць іх нелегальна?

Аўтарамонтнікі прамычэлі, што іхні надпіс – усяго толькі жарт, але жарт, які дзейнічае. Аказалася, што ніхто з кліентаў, акрамя Любы, не абураўся, а наадварот, гыгыкалі ды здымалі надпіс на свае смартфоны ды айфоны.

Мінуліся некалькі дзён, і падумалася Любе: “Трэба было пра тое графіці зняць сюжэт, зрабіць і разгорнуты каментарый!”

Узяла аператара з кінакамерай, прыехала і апынулася перад сцяной жоўтага колеру з зеленкаватым, не самым прыемным адценнем.

– Навошта вы сцяну пафарбавалі?! – спыталася яна ў аўтамеханіка.

– Ну, вам, дамачка, аніяк не дагадзіць! Напісалі – кепска, зафарбавалі надпіс – зноў жа нейкія прэтэнзіі! Вы ж тут самі сварыліся на нас днямі! Таму неяк вызначайцеся...

– Ды не, вы ўсё правільна зрабілі...

Села Люба ў свой легкавік, едзе ды думае: "Вось якая ж я недарэка! Навошта я на сваіх жа рамонтнікаў наязджала? Трэба было спачатку адзняць сюжэт, а толькі потым вэрхал падымаць ды выхоўваць іншых! А, галоўнае, самой вызначацца: журналіст – гэта найперш гуманны чалавек, які хоча зрабіць свет і людзей крыху лепшымі, або прафесіянал, гатовы на ўсё што заўгодна дзеля сенсацыі ці выйгрышнага сюжэта?!"

*23 верасня 2017 года.*

## Альфонсікі

Апошнім часам сталі назаляць Любе Л. розныя сумнеўныя асобы.

Зайшла яна ў краму "Santa Fish", што на сталічнай вуліцы, якую адзін пісьменнік, што жыве на ёй, неадменна перамяноўвае ў вуліцу Маркеса. Ледзь не ў дзвярах ні з пушчы ні з поля кінуўся да яе незнаёмы маладзён:

– Мадам, вы такая сімпатычная і, па ўсім відаць, добрая! Дапамажыце матэрыяльна на хлеб надзённы!

– У мяне ўсе грошы на картцы! – паспрабавала была ўлагодзіць яго Люба.

– Ну і слаўненька! – ледзь не радасна выгукнуў вынаходлівы жабрак. – Купіце мне, калі ласка, кіло рыбных палачак! Я іх страшэнна люблю, а есці так хочацца – кішкі марша граюць!

"Ну, хаця б чэсны! – падумала Люба. – Да таго ж не на гарэлку просіць!"

Падышла яна да вітрыны-лядоўні і кажа гандлярцы:

– Будзьце ласкавы, узважце кілаграм рыбных палачак!

А тая ледзь не ўгнеўлена зашыпела на Любу, а не на аматара рыбных палачак:

– Вы што, не разумееце, што гэты прайдзісвет выйдзе адсюль з поўнымі торбамі?! Во ўжо ўнадзіўся паразітаваць на спагадлівых дурніцах! У нас жа зусім не танная крама! Навошта вы яму патураеце?! Хаця... чаго мне ўмешвацца? Ваша справа, але ж гэта вычварэнства нейкае!

Вагі паказалі кілаграм з чвэрцю, а нахабны маладзён ледзь не закамандаваў:

– Не адкідайце! Мая мама таксама палачкі любіць!

Люба падзівілася гэткай несусветнай сітуацыі, але чамусьці адчула сябе траха не вінаватай.

Літаральна на наступны дзень у гандлёва-забаўляльным комплексе "All", каля вітрыны прыватнай кандытэрыі, павярнуўся да яе наведвальнік найінтэлігентнейшага выгляду:

– Дазвольце прадставіцца – былы журналіст, а цяпер пенсіянер, інвалід па здароўі Аляксандр Стамковіч. Можа, вы нават сустракалі маё імя ў газетах. Ці не былі вы так ласкавы набыць для мяне хаця б чвэрць "Напалеона"? На ўвесь я не прэтэндую – задорага!

– А здароўе вам дазваляе салодкае?

– Салодкае? Яшчэ як дазваляе і нават патрабуе! Проста "Напалеон" тут з правільным крэмам і вельмі смачны. Я і вам асмеліўся б парэкамендаваць купіць сабе самой...

– А чаму б вам самому сабе не купіць?! – ледзь не ўскіпела Люба.

– Не магу, – адказаў былы газетчык, гледзячы Любе проста ў вочы. – Грошай маю толькі на хлеб, на малако ды на два пакецікі “Whiskas”.

“Вось гад! – падумала Люба. – Уведаў, чым выклікаць спагаду! У мяне што, на лобе напісана, што трымаю двухгадовага ката Генрыха?!”

Набыла яна “інтэлігенту” палову торта і падзяквала Богу, што гэта аказалася рэшта ад усіх свежаспечаных “Напалеонаў”.

Выходзіла Люба з гіпермаркета і ў думках дакарала сябе: “І чаму я саступаю? Што гэта за насланнё?! Што са мною робіцца? Хто я, апошняя дурніца ці безнадзейная альтруістка?”

Але праз тыдзень падалося ёй, што рэабілітавалася ў сваіх вачах.

Мабыць, агледзеўшы, што ў кампаньёнах у яе толькі двухгадовы кот, падышоў да ўчастка сусед па лецішчы, павітаўся, пераказаў радыйны прагноз надвор’я, але й не стрымаўся:

– Я, канечне, выбачаюся, дарагая суседка, але прашу зразумець мяне. Мая “благоверная” з’ехала на выходныя ў горад, а я ўчора павячэраў разам з Мікалаем Вітальевічам. Ну й саграшылі крыху – узялі па кроплі. А зараз трэба было б падлячыцца, дык ці не пагадзіліся б вы пазычыць мне дзесяць рублёў? На тым тыдні атрымаю пенсію і, далібог, адразу вярну вам чырвонец!

– Аніяк не змагу памагчы, шаноўны суседзе, бо ў кішэнях адны медзякі, – адказала Люба і зноў паспрабавала скарыстаць картачнае выратавальнае кола. – А грошы ў мяне на банкаўскай картцы.

– Шкада! То выбачайце яшчэ раз за клопат, – паківаў сусед дый пашнураваў уздоўж дачнай вуліцы.

“Хай бы пазычаўся ў таго, з кім учора “саграшыў”! – падумала Люба. – Дала б грошай, а як потым Марыі ў вочы глядзець?! Тут, на лецішчы, як у той вёсцы: анічога не прыхаваеш! Рана ці позна, а дазнаецца. Можа, і прамаўчыць, а ці тое мне патрэбна?! Пенсіянераў прынята шкадаваць, чамусьці трэба спачуваць ім, але чаму я павінна шкадаваць і спачуваць, калі ягоная пенсія большая за маю зарплату?! Ён жыве ў сваё задавальненне, а я мушу шукаць заробку! Яму вунь саніравалі ротавую поласць, паставілі патрэбныя масты і каронкі бясплатна, а мне мае паўгадавыя паходы да стаматолага абыйшліся больш як у паўтары тысячы даляраў! Чаму ж я павінна патураць ягонай заганнай звычцы?!”

Але праз чвэрць гадзіны няўрымслівы сусед зноў гукнуў да Любы, што корпалася пры сваёй альпійскай горцы, і ў голасе ягоным чуліся пераможныя ноткі:

– Перапрашаю, але вы, дарагая суседка, аказаліся скупаватаю! А вось Сцяпан Сцяпанавіч грошай мне не пашкадаваў – выручыў! А Саша Быкаў дык яшчэ і ў Кладачкі звозіць на сваёй машыне, бо сёння панядзелак і манаполька за гарою, у суседнім таварыстве “Керамін”, зачыненая!

“Ну што тут скажаш?! – з горыччу думала на самоце Люба. – Такая вось чалавечая ўдзячнасць! Як, лічы, гадоў пяць пазычала і, як правіла, беззваротна, дык не помніць! А як аднаго разу адмовіла, дык зняславіў ды яшчэ, мусіць, панясе тое на ўсю Лысую гару! Сцяпан Сцяпанавіч, аказваецца, добры, бо даў на “лекі”, а я кепская і сквапная! Яшчэ, бач ты, і вінаватаю аказалася...”

*1 чэрвеня 2018 года.*

## Новыя крыніцы

Уладзевы чатыры соткі былі праз адзін участак ад сажалкі, а таму пасля снежных зімаў у неглыбокім падвале дома, бывала, стаяла вада.

Затое ў засушлівыя леты даводзілася рэгулярна пад’язджаць на Лысую гару, каб паліваць дрэвы і кусты, кветнікі ды грады.

Жыў ён у сталіцы пры Доме друку і Акадэміі мастацтваў, паўз якія падчас

рэпетыцый вайсковых парадаў ішла з Уручча, дратавала асфальт матарызаваная тэхніка. Зазвычай з'язджаў ён з горада, каб не чуць і не бачыць тых рэпетыцый і парадаў, убраных у савецка-мусульманскія колеры – танкаў, што ўразаюцца ў лампіёны, небяспечнай у небе над горадам авіяцыі, начных салютаў ды феерверкаў, вуліц, на якіх перапыняўся рух, а рэгуліроўшчыкі не прапускалі нават пажарныя машыны і карэты хуткай дапамогі з міргалкамі на карысць вайсковых калон.

Прыехаў уцякач ад цемрашальных мілітарных шабашаў аднаго ліпеньскага ранку на "фазэнду" і звыкла пайшоў аглядаць альпійскую горку і іншыя свае "ўладанні".

Каля нанова пастаўленага гаспадарчага блока ледзь не аслупянеў: той, падалося, гатовы быў выправіцца ў плаванне.

"Што за трасца такая?! Казалі мне "аксакалы", што калісьці, покуль не насыпалі паміж участкамі дарогі з ПГС – пясчана-гравійнай сумесі, тут булькацела ручаіна. Але адкуль узялася гэтая азярына, ды не вясной, а пасярод лета?!"

Абышоў навокал гаспадарчага блока і здзівіўся яшчэ болей – вада прыбывала, бруілася з двух адтулін... амаль што з-пад суседскага хлеўчука Васіля Г.!

Скінуў Уладзя красоўкі ды пайшоў басанож, пераступіў тоўстую трубу, што служыла і мяжою з іншым суседнім участкам, скрозь залітым вадою.

Неўзабаве знайшоў і разгадку.

Суседка Святлана з надзіва ўдалым дачным прозвішчам Кавунова палівала антонаўку, пакінула шланг пры камлі, а перакрыць кран забылася і з вечара з'ехала на сваю Каменную горку! А "крыніцы", з якіх залівала Уладзеў участак, аказаліся кратавінамі, выхадамі з кратовых тунэляў!

*3 ліпеня 2019 года.*

## Чызікі

Такса была рудая, гладкашэрсная, але, у адрозненне ад большасці яе суродзічаў, якія вызначаюцца дружалюбнасцю і ўраўнаважаным тэмпераментам, даволі агрэсіўнаю. З залівістым брэхам кідалася яна да брамкі ў плоце з сеткі-рабіцы, калі зацішлівым праездам праходзіў хтосьці з дачнікаў ці як праязджаў на ровары хто-небудзь з іх унукаў, якія бавілі летнія дзянькі ў садовым таварыстве, а папросту – на лецішчы.

– Што гэта вы, Мікалай Вітальевіч, усё "немцаў" прытуляеце ў сваёй сям'і? – спытаўся Уладзя ў суседа, што завіхаўся ў градах на сваіх сотках насупраць, літаральна праз дарогу.

– Якіх такіх немцаў? – насцярожыўся сусед.

– Ну, да прыкладу, праз плот у вас звешваюцца, наліваюцца яблыкі – асеннія паласатыя або восеньскія штрыфелі. Мне, філолагу, чуюцца ў гэтым слове нямецкія ноткі.

– А я як біёлаг магу пацвердзіць, што гэта нават спрошчанае найменне, якое мусіць гучаць як штрэйфлінг або ліфляндскае графенштэйнскае. У гэтым сэнсе яблыня мая – папраўдзе немка.

– І таксаў, наколькі я ведаю, сфармавалі як норную пароду недзе ў XVI стагоддзі ў Паўднёвай Нямеччыне. Іх нават доўгі час менавалі па-нямецку "Dachshund" – барсучыны сабака.

– А-а, – працягнуў сусед, рады магчымасці разагнуць спіну і перакінуцца слоўцам, – у гэтым сэнсе і ён немец! Паляўнічыя там вельмі цанілі іхнія запал, кемлівасць, стараннасць і надзейнасць. Доўгі час іх нават традыцыйна ўспрымалі як сімвал Нямеччыны. Сабакі гэтай пароды былі ўлюбёнцамі ў кайзера Вільгельма II і ў генерал-фельдмаршала Эрвіна Ромеля, а такса Вальдзі нават сталася афіцыйным сімвалам Алімпійскіх гульняў у Мюнхене.

– Кажуць, што ў таксаў моцны характар, што аддадзеныя яны сваёй сям'і, а таксама хораша ладзяць з дзецьмі. Дарэчы, ваш сабака, калі не памыляюся, хлопчык?

– Ну, навошта нам, шаноўны суседзе, гэткая жаноцкая манернасць? Кажыце наўпрост, па-мужчынску – кабель!

– А-а, тады можна быць спакойным за Ярака!

– А хто такі Ярак?

– Ды таксама такс, чорны кабель. Вы павінны былі звярнуць на яго ўвагу: кожнага дня зранку, а то і двойчы на дзень прабягае ён тут з суседніх лецішчаў, ад сувязістаў, да нас праз гару, у "прымы" да Дайнэкавай сучкі. Яна, зараза, аднаго разу цопнула была мяне ззаду за лытку!

– Спадзяюся, Ярак з Чызікам традыцыйнай арыентацыі.

– Тады, трэба думаць, усталяваныя сувязі не парушацца.

– Выбачаюся, калі, можа, крыху непакоіць вас Чызік сваім брэхам. Вы самі сказалі, што таксы аддадзеныя сваёй сям'і, а мая дачушка Наташа з мужам Андрэем на тыдзень паехала на нейкі там злёт ці на казацкі круг. А гэтага сабаку папрасілі паглядзець мяне з Вольгаю. А мне што, мне не цяжка, асабліва тут, на лецішчы. У мяне ж, мусіць, памятаеце, Жуля, шатландская аўчарка, шэлці, жыла больш за дзесяць гадоў.

– Канечне, помню! Чорна-рудая была, кшталту мініяцюрнай колі.

– Ага, я яшчэ паджартоўваў з унука Колі, што даспадобы яму мая маленькая колі... Ну, а Чызік крыху нервуецца, што некуды зніклі, некуды падзеліся ягоныя сапраўдныя гаспадары, таму і брэша, можа, й залішне...

– Як, прабачце, Мікалай Вітальевіч, вы яго завеце?

– Чызікам.

– Дзіўна! А што гэта за Чызік? Адкуль такая мянушка?

– Наташы маёй падарыла яго яшчэ зусім шчанюком яе даўняя сяброўка. Сама яна татарка, вось і назвала гэтага такса Чынгізам. Ну, а мы ўжо перарабілі на памяншальна-ласкальнае Чызік.

– А Чынгізам названы ён ці не ў гонар самага знакамітага ў свеце кіргіза Чынгіза Айтматава, што быў за галоўнага рэдактара часопіса "Иностранная литература", прадстаўляў, як гэта ні дзіўна, Расійскую Федэрацыю ў краінах Бенілюкса, а памёр у нямецкім, а дакладней, у баварскім Нюрнбергу? У пісьменніка бацька быў кіргіз, а маці, калі не памыляюся, якраз татарка. Здаецца, Нагіма Хазіеўна...

– Ды не, бярыце глыбей! Шчанюка назвалі ў гонар Чынгіз-хана! – усміхнуўся Мікалай Вітальевіч.

– Што?! – здзівавана перапытаў Уладзя. – У чый гонар?

– У гонар вялікага ваяра і правадыра Чынгіз-хана.

– У гонар Чынгіз-хана – самага брутальнага і крыважэрнага імператара ў свеце?! – ва Уладзевым тоне прагучэлі ноткі абурэння. – І гэтак спакойна, з усмешачкай гаворыце гэта вы, інтэлігент-навуковец, сваякі якога падчас сталінскіх рэпрэсій пацярпелі, а некаторыя і загінулі ва Украіне ў часы Галадамору?! Вы яшчэ назвалі б сабаку ў гонар Сталіна Ёсікам, у гонар Гітлера Адольфікам ці ў гонар Тамерлана, нашчадка Чынгіз-хана, якім-небудзь Тамікам!

– Дык нам жа далі яго з такой мянушкай! Ён і адзываўся на яе... – стаў апраўдвацца Мікалай Вітальевіч. – Гэта ж сяброўка-татарка так назвала яго...

– Татарцы гэта, можа, і няўзнак, але што, у вашай Наташы, выбачайце за грубасць, глуздоў не хапіла пераназваць шчанюка, даць яму іншую, прыстойную мянушку?! Патрымала б пару дзён галодным, дык і на новую мянушку азваўся б!

– Ну, можа, вы перабольшваеце... Ці так ужо істотна, як завецца сабака? – пастараўся надаць свайму голасу прымірэнчыя інтанацыі Мікалай Вітальевіч і нават узрадаваўся, што за Уладзевай спінаю паявілася ягоная жонка.

– Ідзі, Уладзя, у дом! – паклікала яна. – Там твой айфон ляжыць на падзарадцы і проста надрываецца. Мабыць, трэці раз нехта звоніць табе, покуль ты тут голас падымаеш на ўсю Лысую Гару!

– Добра, зараз падыду! – азваўся Уладзя, але не ўстрымаўся і дадаў: – Павінны вы, Мікалай Вітальевіч, пагадзіцца з відавочным: імя – гэта зусім не дробязь! Не да смеху вам будзе, калі адзін унук насіцьме наскае імя, а другі штосьці кшталту Лаўрэнція... у гонар Берыі альбо Цанавы!

У доме Уладзя ўскінуў на жонку здзіваваны позірк:

– Дык няма ж, не відаць на айфоне аніякіх прапушчаных званкоў!

– То я знарок табе тое сказала, абы толькі цябе адцягнуць, бо не зважаеш, як заводзішся! З суседзямі, мусіш ведаць, нельга сварыцца: сабе даражэй выйдзе! Дый пашкадаваў бы ты гаротнага: яму і так дома дастаецца як след ад ягонай жанчыны.

– Ды ён даўно пад абцасам не толькі ў жонкі, але і ў зяця, і ўжо нават ва ўнука! Чула б ты, як унук Міколка, Гыркалінскі сын, гыркае на дзеда. Вітальевічу ў сям'і ўжо і прэсу незалежніцкую набываць не даюць, і ў Інтэрнэт заходзіць не дазваляюць! Дзіва што ён доччынага сабаку глядзіць...

– А што тут такога?

– Ды толькі тое, што сабака завецца ў гонар Чынгіз-хана! А той “справядлівы правадыр”, як перакладаецца ягонае імя, нясе адказнасць за сорак мільёнаў смерцяў! Другая сусветная вайна адправіла на той свет тры адсоткі насельніцтва зямлі, а падчас Чынгіз-ханавага панавання ў параўнаўчых лічбах загінула амаль у чатыры разы болей. Свайго зводнага брата забіў ён у дзесяць гадоў, а як прыйшоў да ўлады, дык стаў дзеіць масавыя катаванні. Сярод ягоных улюбёных забаў было заліваць ахвяры ў рот ці ў вочы расплаўленыя метал або смалу. Шырока практыкавалі і такое – клалі ахвяру на жывот, двое катаў сядалі ёй на плечы, а яшчэ двое задзіралі ногі да галавы, покуль не ламалі хрыбетнік, і ў такім стане кідалі пакутна паміраць сярод стэпу! Ледзь не цалкам вынішчаў Чынгіз-хан цэлыя плямёны і народы. Іранцам, генацыд якіх таксама ляжыць на ім, спатрэбілася семсот гадоў, каб адно толькі аднавіць сваю колькасць!

– Але многія ўважаюць яго за геніяльнага палкаводца і стваральніка найвялікшай у свеце імперыі...

– Хто так лічыць?! Манголы, кітайцы, татары?! І дзіва, каб яны так не лічылі! Ледзь не дзесяць адсоткаў азіятаў ёсць ягонымі нашчадкамі, бо калі заваёўваў ён новыя землі, дык заводзіў там новых жонак і пладзіў сваіх дзяцей! Ягоны партрэт красуецца на мангольскіх тугрыках, хоць рэальнай графічнай ці скульптурнай выявы гэтай пачвары аніколі не існавала. А што добрага прынеслі ягоныя орды, скажам, славянам ды нашым суседзям?! У адной толькі бітве на Калцы палеглі тысячы ваяроў з Кіеўскага, Чарнігаўскага, Смаленскага ды іншых княстваў! Магу яшчэ неяк зразумець манголаў, якія ўзвялі свайму суайчыннікукрыважэрцу гіганцкі помнік пасярод стэпу. Магу зразумець, калі французы маюць цэлы навуковы інстытут, які даследуе Напалеонаўскі перыяд у гісторыі краіны, а найперш імператарскія заваёўніцкія паходы. Разумею таксама, што ў сённяшняй Нямеччыне можна загрымець у турму за ўслаўленне Гітлера і нацызму. Але вось нялёгка дапетрыць, што расіяне, а ў іх ліку і рускія, выводзяць у лідары ў рэйтынгах сваіх палітычных сімпатый такіх адыёзных ды крыважэрных асобаў кшталту Чынгіз-хана, як Ленін, Сувораў ды Сталін. Апошняму нават помнікі сталі аднаўляць ды ўсталёўваць, не жадаючы і слухаць, што на сумленні гэтага душагуба дзясяткі мільёнаў суайчыннікаў. Ім, бач ты, зноў хочацца жыць у нібыта вялікай краіне, якой па ўсім свеце баяліся б! Не любілі, не шанавалі, а баяліся б! А які гэта прадмет гонару для рускіх? Ён жа, паводле адной з версій, сын падарожніка і навукоўца Пржавальскага, а паводле другой – і ўвогуле асецін з агрузіненым

прозвішчам Джугашвілі. Дарэчы, ты ведаеш, што прозвішча ягонае паходзіць ад асецінскага слова “джуха”, якое азначае “смецце, адкіды”?

– Адкуль ты тое ведаеш? – спытала жонка.

– Ды вычытаў у ці не самым грунтоўным, ці не самым аўтарытэтным даследванні па анамастыцы, у манаграфіі Барыса Унбегаўна “Русские фамилии”.

– Гэта ў тым, што было выдадзена Оксфардскім універсітэтам, у кнізе, перакладзенай з ангельскай, якую набыла я ў нашай Акадэміі навук?

– Яна, прызнаю, – адна з найкаштоўнейшых, якой ты папоўніла нашу сямейную бібліятэку. Дарэчы, ёсць там і пра прозвішчы нямецкага, цюркскага, мангольскага, татарскага паходжання... Во, зноў гэны Чызік на некага брэша, зноў спакою людзям не дае!

– Прашу цябе, цішэй! Суседзі могуць пачуць! – паспрабавала ўлагодзіць Уладзю жонка.

– А то суседзі не ведаюць, што гаспадар гэтага мангола-татарына служыў у Баўлючэнкі, што ён то на казачы фестываль гойсае, то з жонкаю ў падмаскоўны сталінскі бункер лезе, то на ілжывай “Лініі Сталіна” фарсіць. А потым яшчэ свае ганебныя фотаздымкі ў Фэйсбуку выстаўляе!

– Ну, а што ты хочаш? Такія, як ён, цяпер у фаворы. Не здзіўлюся, калі заўтра ўбачу яго на высокай трыбуне ў нкусаўскім мундзіры!

– А чаго тут дзівіцца? Гэта ж так па-беларуску, а дакладней, у стылі некаторых начальнікаў – шанаваць чужое, варожае, артадаксальнае, агрэсіўнае ды таптаць, душыць сваё, нацыянальнае і прагрэсіўнае!

*23 жніўня 2019 года,*
*у Дзень памяці ахвяраў таталітарных і аўтарытарных рэжымаў.*

згадкі

Валянцін Акудовіч



...творчасць – гэта вечны сыход упрочкі ад тых, хто цябе любіць...

# Мы сустрэліся на будоўлі Вавілонскай вежы

## *З новай кнігі "Трэба ўявіць Сізіфа шчаслівым. (Хронікі беларускага інтэлектуала)"*

*Працяг. Пачатак у №№95-99, 101-104.*

Уласна, большая частка раней апісанага ў гэтых хроніках наўпрост ці ўскосна карэлюецца з легендарнай эпохай Адраджэння/Рэнесанса (90-я гады). Але я ў дадатак вылучаю гэтую падзею ў адмысловы кантэнт, бо там яшчэ застаецца непараўнальна больш крэатыўнага ды грандыёзнага, чым было згадана папярэдне. (Хаця і гэтага вылучэння да крыўднага мала, каб з усім управіцца.)

Досвед палітычнага супрацоўніцтва той пары неверагодна цікавы і бурлескава размаіты. Толькі не ў бел-чырвона-белых сцягах над галовамі вялізных натоўпаў загалоўная каштоўнасць дзевяностых. Атрымаўшы магчымасць вольна мысліць, уголас прамаўляць, урэшце ствараць беларускую Беларусь, мы апантанана кінуліся рэалізоўваць усе гэтыя магчымасці. І ўсяму творчаму, крэатыўнаму, прагнаму да новай веды і яшчэ нязведанай справы тады хапала месца. Шкада, часу на ўсё бракавала...

У тыя шчасна крэатыўныя гады неаднойчы бывала, што запыніць мяне нешта дзіцяча-містычнае, і я з жахам падумаю: “А каб нарадзіўся на якія дватры дзясяткі год раней, дык нічога гэтага не меў бы і нават не ведаў, што такое ўвогуле магчыма”. І тады мне рабілася нядобра.

З іншага боку, у тыя самыя гады мы нават думаць не думалі, што гэтая шалёная энергетыка стварэння і перастварэння мусіць таксама некалі зняможыцца.

А дарэмна не думалі.

Ужо недзе адразу пасля нулявых *эпоха* скончылася і вярнуўся звыклы час. З яго марудай штодзённасці і не лішне адметнымі падзеямі. Аднак калі здаралася, што надта моцна зажуруся ад такой перамены, то сам сабе нагадаю:

– Але ж у цябе былі дзевяностыя!

Так, у мяне былі дзевяностыя.

І не ў аднаго мяне, шмат у каго былі. У Алега Бембеля, Алеся Анціпенкі, Валянціны Аксак, Ірыны Дубянецкай, Ігара Бабкова, Уладзіміра Арлова, Аляксандра Грыцанава, Уладзіміра Абушэнкі, Уладзіміра Мацкевіча, Валеркі Булгакава, Максіма Жбанкова, Міхася Баярына, Барыса Пятровіча, Андрэя Казакевіча, Адама Глобуса, Сержука Санько, Тодара Кашкурэвіча, Артура Клінава, Ігара Логвінава (і далей, далей, далей...). І нікуды гэтыя людзі не падзеліся, а многія, апазнаўшы свой кон у дзевяностых, напоўніцу разгорнуцца ў наступную, ужо больш спакойную пару. Таму мне моцна карціць удрукаваць сюды адзін фэйсбучны допіс Уладзіміра Мацкевіча. Ён рэзка адрозніваецца з агульнай плыні майго аповеда стылем, рытмам, урэшце самой эмоцыяй пісьма. Але за ўсёй гэтай адрознасцю ў глыбінях роздумаў Уладзіміра я адчуваю абсалютную еднасць з тым, пра што пішу сам.

*“Лет 20 назад в единственной телепередаче, в которой Ким Хадеев принял участие, его спросили:*

*– Неужели для Беларуси всё уже потеряно!*

*– Нет, – ответил Ким, – не потеряно. Единственное, что может привести к потере, это решить, что всё потеряно.*

*Так вот, и Ким не принимал такого решения. И я не принимаю такого решения.*

*Я бы считал, что ещё не всё потеряно даже в том случае, если бы так считал один Ким Хадеев.*

*И, подражая Лоту, я бы просил Бога спасти Беларусь, поскольку в ней есть хоть один беларус, которому она нужна. Потому что достаточно одного, чтобы не всё было потеряно.*

*Ким умер.*

*Многие умерли, в том числе и те, ради которых я мог бы просить Бога спасти Беларусь. И уверен, что он услышал бы эти доводы и принял их.*

*Сегодня годовщина со дня смерти Михала Анемпадистова.*

*Даже если бы в Беларуси был только Михал, я бы мог с полным правом считать, что в стране есть дизайн.*

*Он есть, и страна, в которой есть дизайн, достойна суверенитета и существования. А Михал не только дизайн, но и поэзия, и музыка, и многое другое.*

*– Боже! – сказал бы я. – Вот человек!*

*Ещё раньше умер Владимир Абушенко. Когда в начале века ему предложили стать заместителем директора Института социологии, он в сомнениях пришёл ко мне разговаривать. Ведь это полумёртвый институт. Социология почти мертва. Можно ли возродить в стране социологию? Ведь что это за страна, где нет социологии?*

*– Попробуй! – сказал я ему. – Ведь социология только тогда будет уничтожена, если ты решишь, что она уже уничтожена.*

*Абушенко так не думал.*

*Он не смог возродить институт, после его смерти институт ещё глубже скатился.*

*Но ученики Абушенко издали его посмертную книгу. Это лучшая книга по социологии в Беларуси. Она на русском языке, и думаю, она лучшая русскоязычная теоретическая книга по современной социологии.*

*Есть эта книга – есть в стране социология!*

*– Боже! – сказал бы я. – Если в стране есть социология, страна должна жить! И пока есть хоть один, пусть хоть один ученик Абушенко, пусть она живёт.*

*Так же я приводил бы Богу аргументы про Александра Грицанова и философию.*

*Это достойно! Это аргумент за то, что страна должна жить. Не всё для неё потеряно.*

*А ещё были Пётр Марцев, Виктор Ивашкевич. Это были индивидуальности, личности, единицы, но неповторимые единицы. Ради них должна жить страна.*

*– Боже! Давай не будем считать десятками! Люди единичны, индивидуальны, уникальны и неповторимы. И порой очень одиноки в этом... не очень совершенном мире и обществе.*

*Но это Ты, Боже, создал этот мир, и создал его таким!*

*Но что это я о покойниках. О тех, кто уже ничего не добавит. Они сделали, что могли.*

*А сколько тех, кто делает сейчас, и ещё много может сделать, как бы общественное мнение не считало их самих и их дела несущественными!*

*Не так много стран, у которых есть Нобелевский лауреат по литературе. А у Беларуси есть! Значит, есть литература, есть культура.*

*– Один – это не много. Но, Боже, ведь есть! А есть ещё Алесь Разанов! Боже, мне достаточно одного Разанова! Но ведь и Тебе этого достаточно!*

*Есть литература, есть искусство, есть наука, есть индустрия, есть техника – всё у нас есть.*

*– Боже! Ведь Ты всё это знаешь! Ты знаешь, что один голос не может перекрыть множество голосов, которые утверждают, что ничего этого в стране нет. А если признают, что что-то есть, то сразу определяют это как русское, польское, еврейское, литовское или ещё чьё-то, чтобы то, что есть, не нарушило их привычной убеждённости, что ничего нет.*

*– Боже! Только не говори мне, что одного моего свидетельства недостаточно! Тебе ведь важен каждый человек! И перед Тобой все равны, как бы одиноки ни были люди!*

*– Боже! Ведь если верить Твоей Книге, Ты никогда не был с большинством, и правда Тебе всегда была важнее, даже если правды придерживался остаток народа, меньшинство, и даже один.*

*– Ты же знаешь правду, Боже! Тебе не нужно даже моего свидетельства. Одного моего свидетельства и то не надо. А ведь я не один! Вот я назвал несколько единиц, ярких индивидуальностей, тех, кто делает существующим то, что должно существовать в стране, достойной существования!*

*Я не один, Боже!*

*Просто многие молчат.*

*Они не знают, что с Тобой можно вести диалог. Даже атеисту Акудовичу можно. Значит, и мне можно, и им всем можно.*

*Даже спорить с Тобой можно. И нужно. Ты ведь слышишь!*

*Это люди могут не слышать, могут не хотеть слышать. Те, кто молчат, знают, что другие могут их не услышать. Могут не понять. А не понимая, могут высмеять. Могут обидеть.*

*Я тоже это знаю. Меня не раз высмеивали.*

*И над тем, что я сейчас пишу, многие будут смеяться.*

*Самые близкие мне люди будут меня журить, ругать и воспитывать. Будут жалеть, когда надо мной будут смеяться те, кто подальше.*

*– Боже! Мне не надо жалости. Не надо воспитывать меня. Дай мне сил не бояться насмешек, обид, не страдать от непонимания самыми близкими людьми!*

*– Пощади, Боже, эту страну!*

*Спаси и сохрани!*

*Ты можешь! Даже ради меня одного.*

*А я не один.*

*И нас не 10, не 50, не 500, не 5000. Много больше.*

*Я не знаю сколько, Тебе виднее.*

*Ты же возродил Польшу когда-то, потому что они знали и говорили Тебе и себе: "Jeszcze Polska nie zginęła, kiedy my żyjemy!"*

*Так и мы говорим: "Не погибла Беларусь, пока мы живы!"*

***

У тыя кароткія дзевяностыя гады на Беларусі разам сышліся Адраджэнне і Рэнесанс – месцамі як сінонімы, хаця часцей як антонімы. Адраджэнне перадусім звязвалася з Ефрасінняй Полацкай, Вялікім Княствам Літоўскім, Францішкам Скарынам і г.д. Рэнесанс – з Сымонам Будным, Львом Сапегам, Адамам Міцкевічам і да т.п. Гэты падзел не быў відочным, толькі ён неўпрыкмет арганізаваў нябачную мяжу паміж *адраджэнцамі* і стваральнікамі сучаснага інтэлектуальнага дыскурсу...

Хаця я не пра гэта. Рызыкоўна злучыўшы тую вялікую рэнесансную эпоху з канцом ХХ стагоддзя, я хачу гэтым толькі заакцэнтаваць, што як у тым ад нас далёкім рэнесансным часе, так і цяпер рэй вялі стваральнікі новых наратываў. А наколькі гэтыя эпохі сувымерныя маштабамі, вызначыць можа толькі час – калі паспее (здаецца, час чалавека ўжо не задоўжыцца).

У кожным разе я з уласнай інтэнцыі быў і застаюся пэўны, што ў свае гады шчыраваў разам з вялікімі дойлідамі.

Пасля таго, як **Аляксандр Грыцанаў** выдаў тысячастаронкавую "Всемирную энциклопедию: Философия", таленавіты беларускі публіцыст Канстанцін Скуратовіч параўнаў гэтую падзею з выданнем "Бібліі" Скарыны. Відавочна, гэтая ацэнка выглядала збыткоўнай, але ж ніколі раней падобнае выданне ў Беларусі і ўявіць сабе было немагчыма. Да таго ж гэта быў толькі пачатак. Пазней Аляксандр Грыцанаў стане кіраўніком, галоўным навуковым рэдактарам і актыўным суаўтарам буйнейшай у СНД гуманітарнай энцыклапедычнай серыі (надрукаваў 13 энцыклапедый і слоўнікаў) і серыі навуковых біяграфій "Мыслители ХХ столетия" (надрукаваў 12 кніг).

Між іншым, сярод усяго гэтага мноства была і энцыклапедыя "Постмодернизм". Я яе адцеміў таму, што там знайшлося места і артыкулу, прысвечанаму *Валянціну Акудовічу*:

"АКУДОВИЧ (Акудовіч) Валентин (р. в 1950) – белорусский философ постмодернист, поэт, литературный критик. Культовая фигура белорусской интелектуальной жизни второй половины 1990-х. Заместитель главного редактора журнала «Фрагменты». Автор книги «Меня нет. Размышления на руинах человека» (Минск, 1998), а также ряда получивших известность постмодернистских проектов: «крестный отец» литературного объединения «Бум-Бам-Лит», рецептор поэтического проекта «Стихи Валентина Акудовича» (сами стихи написаны известными и малоизвестными белорусскими поэтами), создатель эссе-манифестов «Диалоги с Богом», «Война культур», «Архипелаг Беларусь», «Разрушить Париж», «Беларусь как постмодернистский проект Бога», «Метафизика: ситуация

расцвета и упадка» и др. Лейтмотивом творчества А. выступает тема метафизики отсутствия, как развернутая в парадигму постэкзистенциального мышления, так и генеалогически осмысленная посредством специфически белорусского опыта отсутствия в Большом Западном Нарративе. Анализирует и подвергает деконструкции разнообразные идеологемы, с помощью которых сознание пытается упорядочить и удержать текучие конфигурации актуального сущего, а также цивилизационные стратегии, обрывающие последние связи человека с этим самым сущим (исчезновение пространства и времени в симулированных средствах а-реальности, превращение культуры в локальную подсистему глобального информационного обмена и т.д). Ничего не предлагает. Подтверждает «невозможность иначе избежать смерти, кроме как умереть».

*И.М. Бобков*".

Дарэчы, калі Аляксандр мне сказаў пра артыкул у энцыклапедыі, я з ім быў яшчэ, лічы, незнаёмы. А пасля мы ссябраваліся. Ён дарыў мне свае новыя энцыклапедычныя выданні і дзівіў неверагодна плоднай *мыслядзейнасцю*. Ды не толькі гэтым... Аднойчы ў прыватнай размове прызнаўся, што ўжо колькі год тры разы на дзень сам сабе робіць уколы інсуліну, бо ў яго дыябет першай ступені. Паколькі я і па сёння што тое дзіця баюся ўколаў, дык гэтым ён мяне ўразіў яшчэ болей...

А потым нехта (і блізка не ведаю, хто), груба кажучы, "кінуў" Аляксандра на грошы, і той патрапіў за краты. Мог атрымаць палёгку, аднак не саступіў дзеля праўды. А як вярнуўся на волю, дык адразу зноў ухапіўся за сваю ношку...

Аляксандр быў радыкальным антыкамуністам і беларускім нацыяналістам. А вось з мовай у яго не заладзілася. Ён працаваў у нашым калегіюме (між іншым, заўсёды ганарыўся гэтым) і на пачатку кожнага новага курса выбачаўся перад студэнтамі, што пакуль у яго аніяк не атрымліваецца прамаўляць на мове. Тады я суцяшаў: затое ты вучыш расейцаў сусветнай філасофіі, якую ў тваіх энцыклапедыях па-руску выкладаюць беларусы. І гэта куды больш важна, чым твой персанальны спосаб маўлення.

Магутны дойлід сышоў з жыцця ў 54 гады, і я ўпотайкі моцна плакаў!

***

Дарэчы, пра мову. Якраз у дзевяностыя гады жарсны нацыянал-дэмакратычны рух падзяліў адукаванае беларускае грамадства паводле стаўлення да мовы. Той, хто размаўляў (ці хаця б спрабаваў размаўляць па беларуску), – быў *наш*. Усе астатнія зрабіліся чужымі, нават калі яны палымяна дэманстравалі свой антыкамунізм. У тую пару ніхто нават не здумляўся, што гэта трагічная аблуда. Безальтэрнатыўна панавала думка: без мовы нацыя загіне. Таму кожны, хто мовы цураецца, – выпадковы прыблуда на нашай зямлі.

А з іншага боку заставалася ладная плойма беларускіх інтэлектуалаў, якія зацята не жадалі *прачынацца* ў Беларусі. Акрамя пашпарта і жытла іх па ранейшаму нішто не яднала з нашай краінай. Начавалі яны ў Беларусі, а прачыналіся ў расійскім культурніцкім топасе і ў ім жа засыналі. Пра гэтую сітуацыю Алесь Анціпенка надрукаваў выдатны артыкул "Рэпрэсіўныя інтэлектуалы і Беларусь" у часопісе "Партызан" (№7, 2008 г.). Я з вялікім задавальненнем перадрукоўваў бы яго сюды, бо лепшай аналітыкі на гэтую тэму не сустракаў. На жаль, ён залішне ёмісты і самадастатковы, каб уціснуць яго ў гэты кантэкст хаця б фрагментамі.

Вайна "белай" і "чырвонай" ружаў доўжылася недзе палову стагоддзя. Вайна беларусаў з "рускім светам" (такога выразу тады не існавала) лішне не задоўжылася. Рускаміраўцы пакрысе запэўніліся, што ніхто ім тут рук выкручваць не будзе, а зацятыя нацыяналісты змірыліся з тым, што спехам пакуль нічога не

пераробіш і застаецца адно чакаць, што мова сама з сябе набрыняе такой моцай, якая вырашыць праблему на нашу карысць.

Бадай, першымі сістэмна адсланіліся ад згаданай непамыснасці якраз філосафы. Прынамсі тыя, хто акрэсліваў сябе досыць умоўным *Мінскім філасофскім колам.*

Да месца заўважу, што філасафічнае ўз’яднанне “беларусаў” з “рускімі” адбылося на подзе нашай, беларускамоўнай прасторы. Бо на той час менавіта тут быў *цэнтр сілы.* Мы стваралі газеты, часопісы, альманахі, выдавалі кнігі, перакладалі замежных філосафаў... Карацей, нас, як хваля, узносіла прага ўласнага інтэлектуальнага мыслення. І разумнейшыя з *рускіх* не маглі гэтага не заўважыць. Асабліва выразна тое было бачна на фоне ўласна рускамоўнага філасофскага дыскурсу, які без Масквы абмяк, што той дзіравы балонік. І нават асобныя цікавыя праекты, як ЕГУ з дэпартаментам філасофіі і ўнікальным часопісам “Топас” (перадусім заакцэнтую прозвішча Тацяны Шчытцовай), не ратавалі сітуацыю.

Неўзабаве па пятніцах у офісах “Эўрафорума”, а пазней “Беларускага калегіюма” досыць рэгулярна пачалі хаўрусавацца рознамоўныя інтэлектуалы, і ніхто не ўпікнуў хоць каго не за тую мову. Трохі пералічу тых хаўруснікаў: Алесь Анціпенка, Ігар Бабкоў, Уладзімір Абушэнка, Сяржук Санько, Аляксандр Грыцанаў, Уладзімір Мацкевіч, Вольга Калацкая, Мікола Кацук, Андрэй Фядорчанка...

Між іншым, да свайго здзіўлення я досыць хутка заўважыў, што нашыя рускамоўныя сябры ставяцца да маіх *беларускамоўных* тэкстаў з большай увагай і павагай, чым нацыянальна заангажаваныя. А тады гэта было для мяне надзвычай істотна, бо за сціплай кампліментарнасцю апошніх цяжка было зразумець, за што яны ўхваляюць мяне – за мысленне ці за адданасць мове?

***

А далей падоўжу перапыненую сагу пра магутных дойлідаў беларускага рэнесансу.

У адрозенне ад Аляксандра Грыцанава, **Уладзімір Абушэнка** не быў апантаным антыкамуністам, як і беларускім нацыяналістам. Ён быў проста беларусацэнтрычным інтэлектуалам. Натуральным, глыбокім, разважлівым і ўдумлівым. Аднак мова, як і Грыцанаву, яму не далася. Хаця ён і любіў раз-пораз выслаўіцца асобнымі беларускімі слоўкамі ці выразамі. І кожны раз у такі момант на ягоным твары з’яўлялася неверагодна сімпатычная ўсмешка.

Не ведаю нават, чаму я іх тут задзіночыў. Бо хаця паводле адукацыі абодва былі кандыдатамі філасофскіх навук і яднала іх мноства супольных праектаў (акрамя ўсяго іншага, разам яны напісалі дзве кнігі: “Мішэль Фуко” і “Карлас Кастанэда”), хлопцы былі *канцэптуальна* рознымі. Грыцанаў не саромеўся называць сябе ўсяго толькі “папулярызатарам філасофіі”, а Абушэнка з уласнага імператыву апынуўся чысцейшага гарту мысліўцам. Тое ж і экзістэнцыйна: Грыцанаў увесь час бурапеніў, а Абушэнка толькі назіраў, як ападае пена пасля грымотных бураў (наш буддыст, жартавалі мы). Відаць, менавіта апошняе і дазволіла яму нейкі час нават выконваць абавязкі дырэктара інстытута сацыялогіі НАН Беларусі.

І ўсё ж такі не гэта было галоўным. Наўрад ці хто калі дакладна падлічыць тыя сотні і сотні артыкулаў у навуковых зборніках, энцыклапедыях, калектыўных манаграфіях, слоўніках, што ён напісаў за жыццё, якое да таго ж лішне не задоўжылася... Толькі інтэлектуальная актыўнасць як такая таксама не была загалоўнай у яго мыслядзейнасці. Найбольш ён хацеў быць настаўнікам. І застаўся перадусім Настаўнікам у памяці сваіх шматлікіх студэнтаў, якія яшчэ задоўга да смерці натавалі яго лекцыі з мэтай некалі выдаць іх кнігамі. Хаця мой апошні сказ не вельмі ўдалы. Не думаю, што Уладзіміра хвалявала памяць як такая. Ён верыў, што яго жывое слова перастворыць маладых людзей у рэальных наступнікаў, якія без хоць якой містыкі падоўжаць яго існаванне за далягляд.

Дарэчы, мне феномен настаўніцтва цалкам чужы. Я ніколі нікога не вучыў і нават баяўся вучыць. Можа таму, што ўжо вельмі даўно зразумеў: не бывае правільных адказаў – правільнымі бываюць толькі пытанні. Хаця здаралася неаднойчы, што нехта з былых студэнтаў называў мяне сваім настаўнікам. Тады я далікатна тлумачыў яму, што гэта толькі сімпатычная мне аблуда. Бо насамрэч я нічога іншага не рабіў, акрамя як апантана распавядаў студэнтам пра мысленне, як самае прыгожае, што ёсць у чалавеку, і прасіў іх не стамляючыся самім разважаць, рэфлексаваць і мысліць, мысліць, мысліць...

Відаць таму і пісаў адно толькі эсэ – самы *безадказны* жанр, – з якіх і складвадліся ўсе мае кнігі. (Мой маніфест "Эсэ пра эсэ" канцуюць словы: "Калі ты напісаў эсэ, ты напісаў нічога".)

Уладзімір сышоў з жыцця ў 58 год (2015), не маючы ніводнай уласнай кнігі. Але ён недарма спадзяваўся на вучняў. Не прамінула і года, як яны надрукавалі першую яго кнігу – «Основание культурсоциологии: избранные труды». А ў жніўні таго ж 2016 года наступную, знатную і аб'ёмам – «Современная социология». (Наколькі я разумею, перадусім і ў першым, і ў другім выпадку трэба адзначыць шчыраванні Андрэя Камароўскага.)

А далей тры эпізоды з удзелу Уладзіміра ў інтэлектуальным рушэнні беларусаў.

Недзе напрыканцы дзевяностых яны разам з Ігарам Бабковым арганізавалі філасофскі семінар "Беларускае мысленне: генеалогія, кантэкст, перспектыва...". Дзеля семінара Уладзімір запрапанаваў месца ўласнай працы ў Акадэміі навук (Інстытут сацыялогіі). Там і збіраліся вечарамі, калі супрацоўнікі разыходзіліся па хатах. А скончыўшы апрацоўваць абраную тэму рушылі разам да вулічных шапікаў насупраць "Акадэмкнігі", дзе яшчэ гадзіну-паўтары смакавалі піва і, натуральна, таксама не маўчалі.

Фармальна гэтыя сустрэчы не пакінулі значнага следу, бо спробы фіксаваць разважлівыя сумоўі і жарсныя інтэлектуальныя палемікі так і засталіся не зрэалізаванымі. Але той факт, што семінар ладзіўся ў стадоле Акадэміі навук і на яго пераважна збіраліся філосафы з прафесійных інстытуцыяў, засведчыў радыкальную змену нашага статусу – мы ўжо выбраліся з катухоў і скляпенняў на *шырокі прастор* і нават з пэўнай пыхай пазіралі на *акадэмікаў*.

Ці не найбольш актуальнай і палемічнай у тых нашых спрэчвах выглядала праблема інтэлектуальнай і публічнай занядбанасці беларусаў у агульным кантэксце еўрапейскай філасофіі. Інакш кажучы, само з сябе актуалізавалася пытанне: што трэба зрабіць, каб еўрапейскія мысліўцы звярнулі на нас увагу?

Якраз з гэтага Уладзімір і прачытаў нам асветніцкую лекцыю, у якой распавёў пра досвед вызвалення лацінаамерыканцаў ад дыктату еўрапейскага філасофскага наратыву.

*Філасофія Вызвалення* лацінаамерыканцаў мяне (і не толькі) трохі нават агламошыла і захапіла. Найперш тым, што яна адмовіла логіка-спекулятыўнаму мысленню ўсіх гэтых гегеляў-кантаў-гайдэгераў у праве на абсалютызацыю філасофскага спазнання быцця.

"Хопіць падобіцца еўрапейскім тэорыям ды інстынктам (Каса)". "Індзеец глыбейшы за Хрыста (Кайзерлінг). І хаця мы самі былі еўрапейцамі, аднак ужо адчувалі, што навязаная нам *класічная еўрапейская* метадалогія мыслення калі для нас і не чужая, дык і не свая...

Моцна шкадую, што не запытаўся ва Уладзіміра, як і з чаго ён заангажаваўся менавіта "лацінасамі" – ды настолькі аддана, што зрабіўся найбольшым знаўцам іх спосабаў філасафавання (прынамсі ў Беларусі; хаця, мяркую, і не толькі ў нас).

Пазней Уладзімір надрукаваў у часопісе "Фрагменты" (№7) вялікі і надзвычай грунтоўны артыкул "Філасофія лацінаамерыканскай сутнасці". (Скарочана –

ФЛС.) Мне пашэнціла яго перакладаць. Дазволю сабе працытаваць некалькі вельмі істотных абагульненняў аўтара гэтага артыкула.

Паводле Уладзіміра Абушэнкі лацінаамерыканскія філосафы лічылі, што “Зрабіцца сучаснікамі ўсяго чалавецтва... можна толькі звярнуўшыся да рэальных праблемаў лацінаамерыканскага чалавека і ягонай культурнай сітуацыі”. Яны акцэнтуюць “Наяўнасць у кожнага народа ўласнай ісціны і ягонага права на яе”.

І далей: “Еўрапейскія дыскурсы (за рэдкімі выключэньнямі, да прыкладу Артэга-і-Гасэт) успрымаюцца як нешта, што нясе ў сабе метадалогію прымусовага і герархізуючага розуму, што ёсць нічым іншым, як культурным імперыялізмам, які характарызуецца татальнасцю, закрытасцю, аднамернасцю, маналагічнасцю”.

Асабіста для мяне, ужо як літаратара, надзвычай істотнымі былі і наступныя фрагменты: “...збудаванасць самой “ФЛС” як прынцыпова адкрытай, свабоднай (у выбары асноваў і тэмаў) напаўэсэісцкай рэфлексіі, цесна звязанай з лацінаамерыканскай літаратурай”.

“Больш за тое, некаторыя творы гэтак званага “новага лацінаамерыканскага рамана” (“магічнага рэалізму”) выглядаюць як ілюстрацыі ці нават арыгінальныя “навароты” ў “ФЛС” (М. Астурыяс, К. Фуантэс, Г. Маркес ды інш.)”.

Рэч у тым, што эсэістычнасць (літаратурнасць) ад самага пачатку заклалася як базавая форма маіх спробаў мыслядзейнасці. Але прыкладна тое ж самае было ў Ігара Бабкова, Максіма Жбанкова, Адама Глобуса, Юрася Барысевіча, Сяргея Дубаўца... І таму заканстытуяваны эсэістычна-літаратурны досвед лацінаамерыканскай філасофіі стаўся выразным знакам падтрымкі нашых высілкаў ісці ўласным шляхам. І калі адзіночыцца з еўрапейскім кантэкстам, то ўжо з яго “некласічным варыянтам” (пачынаючы з Ніцшэ).

Трэці эпізод з жыццяпісу Уладзіміра, які я хачу нагадаць, таксама звязаны з Паўднёвай Амерыкай, але ўжо не з яе філасофскім дыскурсам, а з сацыяльна-культурным. Вядома, што нашчадкі гішпанцаў там, незалежна ад іх жадання, менаваліся *крэоламі* і адносна метраполіі лічыліся чалавекамі ніжэйшага гатунку...

Дык вось, абсалютна нечакана ўкраінец Мікола Рабчук скарыстаўся гэтым феноменам, каб пераінтрэпаваць яго стасоўна ўкраінскай сітуацыі. Ён пазначыў метафарай крэольства тую частку ўкраінскага грамадства, якая, палітычна арыентуючыся на незалежнасць краіны, па сутнасці не прыняла ідэю *ўкраінскасці*. Метафара моцна ўразіла ўкраінскіх думаннікаў, а паследам і беларускіх публіцыстаў. Яны пачалі прыстасоўваць яе да ўласнай сітуацыі і гуляліся з ёй, пакуль не надакучыла. (Сёння тую інтэлектуальную забаўку ўжо мала хто згадае.)

Наш сябра Уладзімір, наслухаўшыся тых прафанацый, не вытрываў і пачаў пісаць тэкст, каб патлумачыць недарэкам, што тут насамрэч да чаго. І напісаў.

Але нешта ў ім развярэдзілася такое, што ён з гэтага парывання стварыў галоўны тэкст (трактат) свайго жыцця.

Безумоўна, гэта класіка. Прынамсі, пакуль мы не маем больш поўнага, глыбокага, усеахопнага тэкста, які б настолькі ўніверсальна і крэатыўна аналізаваў ды інтрпрэтаваў у гістарычнай дынаміцы праблему суадноснасці нацыянальных ускраін з цэнтрам метраполіі. І хаця фармальна аўтар асягае праблему ва ўсёй яе татальнасці, не цяжка заўважыць, што перадусім гэта тэкст пра Беларусь і для беларусаў.

У іншым месцы ды часе я б разгарнуў аналітыку гэтага шэдэўра на дзясятак старонак, аднак тут і цяпер ужо і так моцна зацягнуў. Таму раю самім прачытаць і ацаніць тэкст Уладзіміра Абушэнкі “Крэольства і праблема нацыянальна-культурнай самаідэнтыфікацыі”. (“Анталёгія сучаснага беларускага мысьленьня”. Санкт-Петербург. “Невский Простор”, 2003.)

*P.S.* У нашых водных вандроўках па рэках айчыны Уладзімір заўсёды плаваў са мной у адной байдарцы, і спалі мы ўдвох у маім старэнькім намёце яшчэ з

*брызентавай* эпохі спартовага турызму. Свой выбар партнёра ён тлумачыў проста: а дзе яшчэ я змагу з Акудовічам нагаварыцца?

І сапраўды, у нас не было звычкі сустракацца ў горадзе сам-насам, нягледзячы на неабдымную сімпатыю адзін да аднаго і агульныя справы, хаця я не стамляўся чапляцца да яго, каб ён хутчэй падрыхтаваў сваю беларускамоўную кніжыцу для серыі Беларускага калегіюма, а ён заўсёды адказваў адно і тое ж: спачатку напішу кніжыцу пра цябе. (Не паспеў ні адно зрабіць, ні другое.)

З мноства эпізодаў той валацужнай пары перадусім просіцца быць згаданым гэты.

Бураломная рэчка Котра. У каманды нечакана скончыліся хлеб і гарэлка. Мы з Уладзімірам селі на байдарку і пераплылі рэчку да бліжэйшай вёскі. Набылі хлеба і – пашчасціла, – нябёснага смаку выробленай у Налібоцкай пушчы гарэлкі. Адну пляшку адлічылі сабе ды за вёскай на выгане прылеглі пад пракаветным дубам. Глядзелі ў высокі-высокі блакіт з анёльскімі пёркамі аблачынак, аб нечым сцішана размаўлялі, і нам абодвум было так хораша, быццам мы ўжо ў Бога за пазухай.

***

Але рушым далей. На чарзе магутных дойлідаў у мяне **Валерка Булгакаў.** Хаця, калі мы пазнаёміліся, ён ніяк не выглядаў на дойліда, тым болей – магутнага.

Неяк падчас аднаго з шматлюдных мітынгаў апазіцыі ля Опернага тэатра да мяне падышоў яшчэ зусім малады хлопец і сказаў, што прачытаў усе нумары літаратурна-філасофскага сшытка “ЗНО” (тыднёвік “Культура”) і хацеў бы далучыцца да хаўруса нашых аўтараў. Можа перакладаць з нямецкай філасофскую літаратуру.

Я ўзрадаваўся, і мы дамовіліся, што на пробу ён падрыхтуе адну з лекцыяў Зігмунда Фрэйда (паводле Валеркі – “Фройда”). Праз нейкі час хлопец завітаў у рэдакцыю “Культуры” з гатовым тэкстам. Збольшага пераклад быў неблага зроблены, але...

Тут мусова трохі адхіліцца. На тую пару сярод *свядомых* беларусаў назіраўся росквіт “тарашкевіцы” – найперш у тым сэнсе, што “тарашкевіц” было шмат, і кожны з літаратараў, калі не ленаваўся, меў свой персанальны варыянт граматыкі Тарашкевіча. Валерка захапіўся бясконцымі моўнымі круцялямі Янкі Станкевіча, якога цудоўны паэт Жылка назваў “Шашалем беларускай мовы”. Гэта значыць, спачатку патрэбныя былі немалыя высілкі, каб расчытаць *Станкевіча*, а потым ужо заглыбіцца ў Фрэйда (таксама не самага празрыстага з мысляроў).

Хаця на тую пару ў “ЗНО” была граматычная вольніца (бедныя карэктары), але я стаў прасіць Валерку хоць трохі сцішыць піянерскі імпэт, каб не адвярнуць ад тэкста і так нешматлікага чытача. Толькі Валерка ўпарта трымаўся свайго, не раўнуючы як той анекдатычны партызан. Хаця такое мне думалася адно на пачатку знаёмства. Бо праз наступныя гады я зразумеў, што яго ўпартатасць (упёртасць) не капрызлівая прыхамаць, а вызначальная рыса характару (кону). Абраўшы шлях – ён не збочвае.

Вось ужо два дзесяцігоддзі Валерка Булгакаў выдае часопіс “Arche” (заснавальнік Андрэй Дынько). Гэта самае яркае і адметнае інтэлектуальнае выданне нашай краіны. За гэты час на старонках “Arche” адзначыўся ці не кожны, хто меў схільнасць да мыслiўных рэфлексій (а многія дык шматкроць).

На сённяшні час мы маем 160 важкіх і інтэлектуальна грунтоўных нумароў часопіса. Надзвычай істотнымі для для беларускай культуры сталіся і кнігі, выдадзеныя ўпаасобку (ужо маем 94 кнігі). Некалькі з маіх любімых пералічу: Янка Станкевіч (2 тамы), Адам Бабарэка (2 тамы), Адам Адамовіч, Юры Туронак, Алег Латышонак...

Не спынілі майго героя і рэпрэсіі ўладаў. У 2009 годзе часопіс патрапіў пад

закон аб экстрэмізме. Валерка на нейкі час нават схаваўся ў Вільню, дзе мы з Алесем Анціпенкам яго выпадкова сустрэлі. (А так можа б і не згадаў той эпізод з рэпрэсіямі, паколькі тады іх было не злічыць.) Аднак потым усё неяк абышлося – хаця і не без стратаў.

Ужо даўным-даўно і зусім натуральна Валерка Булгакаў падаецца мне падобным да Ежы Гедройца (дарэчы, народжанага ў Мінску), які колькі дзесяцігоддзяў выдаваў слынны польскі часопіс "Культура" ў эміграцыі (Францыя). І хаця фармальна мы заставаліся ў сваёй краіне, але адносна дзяржавы таксама былі эмігрантамі. І тое, як Валерка ўсе гэтыя гады ўпарта, без праклёнаў і стомы рабіў ды рабіў сваю справу, мяне заўсёды поўніла радасцю. Ёсць жа такія людзі/чалавекі!

А на заканчэнне гэтага фрагмента адзін нечаканы і для мяне самога эпізод. Перагортваючы архівы, я зусім выпадкова натрапіў на тэксцік аўтарства маладога Валеркі Булгакава пад назвай "Словы В. Акудовіча "мяне няма" і беларуска-расейская інтэграцыя ("Наша Ніва", 1999 г.)

"Эсэ беларускага філёзафа В. Акудовіча «Хто я? альбо Мяне не было, няма, ня будзе» якраз і прыцягвае ўвагу пераламленьнем велічыні першапачатковага камунікацыйнага пасланьня ў прызьме яго ўспрыманьня рэцыпіентамі. Вырванае адтуль з кантэксту (нагадаем, што ў сваім досьледзе Акудовіч аналізуе дыскурсійныя фармацыі, закранае пытаньні экзыстэнцыі чалавека ў сучасным сьвеце, і праца мае выразна нігілістычныя падтэксты «канца чалавека і чалавецтва»), вульгарна пераасэнсаванае і, нават, адвольна дадуманае выказваньне «мяне няма», за якім нібыта стаіць аўтарства В. Акудовіча, неспадзявана часта замільгацела на старонках беларускага друку.

Такая частасьць ужываньняў красамоўна сьведчыць аб тым, што гэтым словам надаецца новы непаўторны сэнс. «Мяне няма», прамоўленае ва ўмовах палітычнай рэакцыі, калі існаваньне нацыі зноў пастаўлена пад сумнеў, гучыць як калектыўны выдых, як канстатацыя паразы, як адмова ад якіх-любя дзеяньняў на ўмацаваньне незалежнасьці.

Параноя расейскай інтэлігенцыі «што рабіць?» і «хто вінаваты?» праз стагодзьдзе згукнулася ціхім беларускім «мяне няма»".

Дарэчы, Валерка ці не першым вырваў маё "мяне няма" з метафізічнага кантэксту і ўлучыў яго ў кантэкст сацыяльна-палітычны. Потым такое будзе сустракацца досыць часта, і я з гэтым ужо даўно змірыўся...

Што праўда, ягоная інтэрпрэтацыя "мяне няма" абсалютна супрацьлеглая маёй уласнай візіі гэтай канцэптуальнай метафары, якую прыкладна ў той самы час я ўпершыню агучыў у эфіры радыё "Свабода" ("Няма").

Парменід сцвярджаў, што ёсць адно тое, што ёсць, і ніякага няма — няма, але чалавек на свае вочы бачыць, як усё былое пакрысе некуды знікае. Вось чаму ў кожнай мове значыцца слова "няма", але, бадай, ніводнае з іх не параўнаецца з нашым...

І не спяшайцеся мяне ўпікаць за местачковы патрыятызм. Залішне шмат беларускае «няма» ўвабрала ў сябе таго, што не здарылася, не адбылося, не знайшлося. Залішне шмат у ім таго, што добра распачыналася, але спакваля знікла дазвання ў невараці.

Пакуль іншыя народы прырасталі здабыткамі, мы мацаваліся стратамі. І цяпер мы багатыя на «няма» як ніхто. У нас няма гісторыі, няма мовы, няма свабоды, няма ладу і, магчыма, зноў не будзе сваёй дзяржавы. Ды і пра саміх беларусаў хто ўпэўнена скажа: ці то яны ёсць, ці то іх няма?..

Аднак хто ведае, можа, слова «няма» ўвабрала ў сябе не толькі нашу долю, але і наш лёс? Можа, самім лёсам нам наканавана адбыцца праз Няма, якое мы выношваем у сярэдзіне саміх сябе ўжо цэлае тысячагоддзе. Колькі за гэты час

вусцішнае Нішто праглынула імперыяў, народаў, культураў, якія ганарліва раскашавалі сярод сваіх здабыткаў і перамогаў? Ад іх ужо даўно і знаку не засталося, а мы, збіральнікі стратаў і паразаў, затуленыя сваёй адсутнасцю, перакрочваем у трэцяе тысячагоддзе, магчыма, якраз дзеля таго, каб засведчыць нашае Вялікае Няма як самы надзейны шлях праз час і быццё.

*P.S.* Ян Пятроўскі даслаў Валерку з Амерыкі тры кнігі сваіх перакладаў Платона. Валерка прачытаў і перадарыў іх мне. Гэта быў неверагодна каштоўны падарунак. Найперш таму, што там быў дыялог “ПАРМЕНІДЭС”, які мне моцна прыдаўся ў працы над “Кнігай пра Нішто”.

(...)

Пасля разгону адной з маніфестацый сядзелі мы гурмой у прыцемках нейкага офіса і бралі чарку “За абаронцаў незалежнага дыскурса”. А калі ваярскі імпэт трохі аціх, філосаф Сяржук Санько агледзеў *кола сяброў* і з усмешкай сказаў:

– Вось пераможам мы разам Лукашэнку, тады і пачнем калатнечу міжсобку.

Гурма трохі развесялілася з гэтага як бы парадоксу і забылася на яго, а я не забыўся, бо зразумеў, што Сяржук мае рацыю. Так бы яно і было. *На нашае шчасце* Лукашэнка перамог нас усіх разам ды адразу. А інакш бы гора-бяды не абраліся...

Пра што гэта я? Як надарылася незалежнасць, дык, натуральна, паўстала пытанне пра ідэалагічны грунт, на якім яна мусіць трымацца. І тут усчаўся вэрхал. Акрамя прыхільнікаў да вяртання былога савецкага ладу і нацыянал-дэмакратаў адразу заявілі пра сябе яцвягі, ліцвіны, заходнебеларусы, вялікалітоўцы, крывічы... Усіх з улёту і не згадаю, ды гэтым разам яно і без патрэбы. Цяпер мяне цікавяць адно *крывічы*.

Сёння прозвішча Вацлава Ластоўскага спакваля займае пачэснае месца ў пантэоне самых вялікіх беларускіх адраджэнцаў (сярод Багушэвіча, Купалы, Коласа...). І гэта абсалютна справядліва. Толькі гістарычны нарыс пра *Власта* тут будзе не да месца. Таму з усяго ягонага наробку я вылучу толькі Крыўскую ідэю, якую ён рэанімаваў з цьмяных міфаў былога і надаў ёй такую канструктыўную моц ды хараство, што яна рэальна пачала прэтэндаваць на месца ў палітычным дыскурсе. З гэтага нават бальшавікі не змаглі яе знішчыць, а толькі змусілі схавацца на эміграцыі.

Паводле гэтай тэорыі Крывія яшчэ ў дахрысціянскую даўніну пакрысе склалася як вялізная супольнасць, што ахоплівала цэнтральныя землі ўсходнеславянскага пасялення і летапісную Літву. У “Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі” Вацлаў Ластоўскі піша: “Крывія, Русь, Літва – патройны вузел, трохпаверхі лабірынт, у якім блудзіла і дагэтуль блудзіць нашае нацыянальнае “я”, наша зборная душа. У меру таго, як пачынае гаснуць прастары вечавы ўклад грамадзянскага жыцця, адыходзіць удаль, але не замірае імя Крывія, Крывічы. У сферы культурна-рэлігійнага нашага жыцця ўмацоўваецца імя Русь, а ў сферы дзяржаўнага – Літва, Русь-Літва. І недзе ў мінуўшчыне, а такжа глыбока ў народнай свядомасці жыве і пакутуе, чакаючы свайго ўваскрашэння, напаўмістычнае імя Крывія, якому прызвана ў жыцці народу замкнуць круг гісторыі, быць ачышчаючым агнём, гаючай і жывучай вадой Адраджэння Народу”.

Як трывала *крыўства* на эміграцыі – гэта асобная і месцамі фантастычная гісторыя. Але на Бацькаўшчыну яно вярнулася толькі пасля “гарбачоўскай перабудовы” і зведала тут чарговае Адраджэнне. Загалоўнымі аўтарамі гэтай падзеі сталіся філосаф **Сяржук Санько** і мастак **Тодар Кашкурэвіч**, заснавальнікі Цэнтра Этнакасмалогіі “KRYUJA”. Яны пачалі ладзіць канфэрэнцыі, выпускаць альманахі ды часопісы, арганізоўваць *палявыя даследзіны* і святы сакральнага календара...

Карацей, былі актыўнымі, упёртымі, агрэсіўнымі і ці не галоўнае – інтэлектуальна эўрыстычнымі. (Прыкладам: “Беларусы – славянамоўныя балты”.) Усё гэта разам

вабіла нацыянальна заангажаваную моладзь, якой палітычны нацыяналізм хутка надакучыў сваім прымітывізмам.

Але, адчуўшы поспех, *крывічы* самі патрапілі ў пастку палітычнага. Яны вымудрылі, што каб насамрэч рэалізаваць крыўскую ідэю, патрэбна пачаць змагацца за ўладу. Смак улады, хай сабе і прывідны, іх і загубіў. Такая прыгожая інтэлектуальная ідэя заканцавалася брутальным скандалам. Пра што ў публічнай заяве і распавёў Тодар Кашкурэвіч.

## Заява Цэнтра Этнакасмалогіі "KRYUJA"

Цэнтр Этнакасмалогіі "KRYUJA" ў асобе заснавальнікаў Цэнтра Сяргея Санько і Тодара Кашкурэвіча маюць выступіць з наступнай ПУБЛІЧНАЙ ЗАЯВАЙ.

ЦЭК "КРЫЎЯ" на працягу больш за дваццаць гадоў працаваў у галіне даследвання традыцыйнай культуры, міфалогіі, рэлігіязнаўства, этнаграфіі, фальклору і інш, удзельнічаў у стварэнні шэрагу праектаў у сферы адраджэння этнічных каранёў у музыцы, візуальнай культуры, традыцыяналісцкага філасофскага мыслення, у пастаноўцы і вырашэнні пытанняў этнічнага паходжання беларускага народа (у балцкай перспектыве), працаваў у накірунку стварэння новых актуальных ідэалагічных парадыгмаў беларускага грамадства, фармавання адметнага стылю, які грунтуецца на дахрысціянскіх і традыцыйных элементах...

ЦЭК заўсёды і прынцыпова стаяў на пазіцыях суверэннасці і незалежнасці Рэспублікі Беларусь як з боку Усходу, так і Захаду. За Дыктатуру традыцыі, маралі, рэлігійнасці, высокага стылю, арыстакратычных прынцыпаў...

Відавочныя поспехі ў дасягненні пастаўленых мэтаў... На жаль, не гэтак, як уяўляецца стэрыльна і чыста ў задуме.

ЗДРАДА падкрадаецца схавана і непрыкметна. Яна заўсёды пускае карані ў людскіх слабасцях, комплексах, жыццёвых складанасцях.

"Русь і Крыўя", тэкст напісаны ў межах праекту "Цытадэль" Аляксеем Дзермантам і Ягорам Чурылавым, ставіць чальца ЦЭК "КРЫЎЯ" А. Дзерманта па-за межамі ідэалагічных установак ЦЭК.

Русь, Расія, няўцямныя Барэальныя Імперыі НІКОЛІ не былі і не будуць у падмурках крыўскай ідэалагічнай мадэлі. Усе спробы ўпісаць "КРЫЎЮ" ў расійскія геапалітычныя схемы ЦЭК успрымаюцца як варожыя і здрадніцкія.

КРЫЎЯ заўсёды была полюсам, сакральным цэнтрам індаеўрапейцаў, балтаў, якім так злачынна распарадзілася Расія.

Забыць "все былые обиды"? А можа быць недаравальныя злачынствы? (палова знішчанага беларускага насельніцтва ў 17 ст., вынішчэнне ўсходнім суседам на працягу 400 гадоў тысячаў простых людзей, мяшчанаў, арыстакратыі, гарадоў, святыняў, дзяржавы...) і паляцець у космас на Марс усім белнародам разам з Я.Ч.?

НЕ – гэта не смешна. Смутна.

А. Дзермант так высока ўзняўся на крыўскія вышыні – і так глыбока затаптаў сябе ў гразь.

Дзякуй вялікі калегу за пражытыя разам годы супольнай працы, смуткуем за ягоныя слабасці і здраду... Але!

"КРЫЎЯ" застаецца служыць ІДЭІ, а гарматы мусяць страляць трапна.

У сувязі з дзейнасцю чальца Цэнтра Аляксея Дзерманта ў межах праекта "ЦЫТАДЭЛЬ", якая пярэчыць падставовым устаноўкам і ідэям ЦЭК, парушэнне этычных і ідэалагічных прынцыпаў, ЦЭК "Крыўя" не бачыць магчымым працяг дзейнасці Аляксея Дзерманта як асобы Цэнтра. Таксама забараняецца выкарыстанне сімволікі Цэнтра (знак і лагатып Крыўі, альманаха "DRUVIS", графічныя інтэрпрэтацыі арнаментальных знакаў, гербу "Пагоні" ў графічнай інтэрпрэтацыі Т.К., візуальных шэрагаў, выкарыстаных у альманаху, славесных

сімвалаў (Крыўя, Крывец, Друва, Друвінг і інш.), як інтэлектуальнага набытку ЦЭК.

Мяркуецца часовае прыкрыццё сайта Крыўі з далейшым рэбрэндзінгам.

Альманах ЦЭК "Крыўя" "DRUVIS" працягне сваё існаванне ў змененым рэдакцыйным складзе.

Заява будзе распаўсюджаная сярод калегаў і аднадумцаў у Беларусі і Прыбалтыцы".

*P.S.* Пасля публічна агучанага ліста Сяржук Санько адмовіўся ад свайго суаўтарства ў ім (*В.А*).

*P.P.S.* Як бы ні скончылася гэтая гісторыя, змаганне за Крыўе значна ўзбагаціла інтэлектуальны кантэкст новай Беларусі. Але на пытанне, ці верагодна яшчэ хоць калі наступнае адраджэнне ідэі Крыўскай цывілізацыі, я не маю пэўнага адказу. З фармальнага боку залішне далёка *адскочыў* сённяшні час ад тых старадаўніх ідэалагемаў, а з футурыстычнага – будучыня надта вялікая і хто можа ведаць, што там яшчэ наперадзе здарыцца?

***

Не думаю, што самі крывічы верылі ў магчымасць практычнай рэалізацыі свайго праекта. (Проста гэта было прыгожа і велічна!) Таму, нягледзячы на яго папулярнасць ды плённы этналагічны набытак, праект так і застаўся хутчэй інтэлектуальнай гульнёй для няўрымслівых маладзёнаў.

А вось *Беларуская нацыянальная ідэя* – гэта ўжо зусім іншае. І хаця яе слушнасць падтрымлівалася не столькі самімі беларусамі, колькі доўгім шэрагам краінаў, вызваленых ад камуністычных путаў і наўзамен зацугляўшых сябе нацыяналізмам. Таму амаль у момант у нас таксама з'явіліся свае палітычныя рухі і лідэры. (Як вядома, тут першым сярод іх хутка стаў Зянон Пазняк.) Яны і склалі палітычную праграму нацыянальнай (і незалежнай) Беларусі.

Толькі гэтая праца з праграмай аказалася самай простай. Куды цяжэй было ўцямна патлумачыць людзям, што гэта такое *твая ўласная Беларусь*? Але найбольш складаным было падахвоціць абыякавае насельніцтва да любові. Менавіта так, захапіць яго сваёй краінай і пераканаць, што яна вартая нашай любові. За гэтую справу ўхапіліся сотні, тысячы людзей: пісьменнікі, гісторыкі, музыкі, мастакі, філосафы, культурныя дзеячы...

Немагчыма аб'ектыўна вылічыць, каго тут назваць паперадзе другіх, як у палітыкаў? Хаця я на гэтым месцы бачу **Уладзіміра Арлова**. Адметны празаік, паэт, эсэіст, прамоўца, нястомны папулярызатар айчыннай гісторыі, ён зачараваў сваім красамоўным словам невядома колькі люду. Спашлюся толькі на адзін канкрэтны прыклад. Для паступлення ў Беларускі калегіюм трэба было запоўніць анкету, дзе сярод іншых было і такое пытанне: "Хто (што) паўплывала на ваш выбар навучання ў нашай інстытуцыі?" І з году ў год тут дамінаваў Уладзімір Арлоў!

Тварам, барадой, мудрай усмешлівасцю Уладзімір Арлоў нагадвае мне біблейнага чалавека. Я не маю ні каліўца сумневу, што ён таксама гатовы 40 год цягаць беларусаў па гіблых балотах ды хмызах, пакуль яны не вывучаць на памяць гісторыю сваёй Айчыны.

Пачыналася яго разлеглая слава з эсэ "Незалежнасць – гэта..." (1990). Потым адмыслоўцы падлічаць, што тое эсэ надрукавалі не толькі ў Беларусі, але яшчэ больш як 30 разоў у самых розных краінах на самых розных мовах. Я выхаплю з яго некалькі фрагментаў.

"Незалежнасьць – гэта калі ты пойдзеш у школу і цябе будуць вучыць на тваёй мове (а дзяўчынку Гражынку, якая падабалася табе ў дзіцячым садзе, – на яе мове, а твайго суседа хлопчыка Мішу, тату якога завуць Ісакам, – на ягонай,

а другога твайго суседа хлопчыка Алёшу, бацькі якога прыехалі сюды, бо ў іхнім горадзе на Волзе, каб купіць малому малака, трэба займаць чаргу а пятай гадзіне раніцы, – на ягонай).

Незалежнасьць – гэта калі ты будзеш студэнтам і на лекцыі па вышэйшай матэматыцы твой смуглявы раўналетак з Мадагаскару, які вучыцца за грошы сваёй, а не тваёй краіны, нахінецца да цябе і запытае, што значыць слова «імавернасьць», і ты па-француzку растлумачыш яму.

Незалежнасьць – гэта калі твая дзяўчына кажа, што хоча на выходныя ў Вену, і ты з чыстым сумленьнем абяцаеш ёй, што ў суботу вы віп'яце кавы насупраць палацу Шонбрун, і ведаеш, што перад вашай вандроўкаю ніхто не будзе высьвятляць у цябе, ці быў ты ў дзяцінстве габрэем, а таксама, ці быў ты раней за мяжою і калі вярнуўся адтуль, дык зь якой мэтаю.

Незалежнасьць – гэта калі на Дзяды, у Дзень памяці продкаў, ты ідзеш на могілкі й ведаеш, што паставіш сьвечку й пакладзеш кветкі, а ня станеш удзельнікам выпрабаваньня балёнчыкаў з нэрвова-паралітычным газам ці новае мадэлі гумовага дручка.

Незалежнасьць – гэта калі да цябе завітае сьпявак зь Нью-Ёрку, і ты вып'еш зь ім добрую чарку вішнёўкі, і пасьля ветлівыя дзяцькі ў цывільным не запрапануюць табе падрабязна напісаць, дзе й што вы пілі й каго пры гэтым лаялі.

Незалежнасьць – гэта калі ніхто ня страшыць цябе, што твой народ ня зможа выжыць без вялікага старэйшага брата, бо ня мае сваіх баксітаў альбо алмазаў, і ты разумееш, што зусім дарэмна шкадаваў гарапашных галяндцаў ці бэльгійцаў, якія ня маюць ні баксітаў, ні алмазаў, ні нават старэйшага брата.

Незалежнасьць – гэта калі на Божай пасьцелі ведаеш, што пасьля таго, як ты памяняеш гэты сьвет на лепшы, на месцы царквы ці касьцёла, дзе цябе хрысьцілі і дзе ты вянчаўся, ня выкапаюць сажалку з брудным лебедзем і не пабудуюць басэйн імя XXVIII зьезду КПСС.

Незалежнасьць – гэта калі ад нараджэньня да скону пачуваесься сваім чалавекам на сваёй зямлі.

Я веру, што калі-небудзь так будзе.

Бо іначай проста ня варта жыць".

(Цікава, што напрыканцы 2019 года Уладзімір Арлоў зноў прачытае сваё неўміручае эсэ – цяпер на Кастрычніцкай плошчы перад маніфестантамі, якія пратэставалі супраць яднання з Расіяй. За гэта яго выклічуць у суд, дзе Арлоў заявіць, што яго судзяць за літаратурны твор, зноў агучыць эсэ, сарве апладысменты прысутных і атрымае ў якасці "ганарару" больш як 500 рублёў штрафу.)

Мы з Уладзімірам лішне не назалялі адзін аднаму, але пачуццё сяброўства было рэальным. Здаецца, яго можна было нават памацаць.

Праміналі гады, слава Уладзіміра расла, выдаўцы палявалі за ягонымі рукапісамі, бо кнігі (шматлікія) не залежваліся на паліцах кнігарняў. Таму ён быў ці не адзіным беларускім літаратарам, які мог жыць з плёну ўласнай творчасці.

Усё, здаецца, было добра, аднак неўпрыкмет я пачаў усё мацней адчуваць за яго трывогу, толькі не ведаў, як яму пра гэта сказаць. Тады, нічога не кажучы, напісаў і надрукаваў эсэ "Вечныя дзеці Беларусі". Гэта была вострая крытычная рэфлексія паводле яго творчасці апошніх гадоў. Шчыра прызнаюся, я зусім не быў пэўны, што пасля гэтага тэксту нашае "пункцірнае сяброўства" (ягоны выраз) будзе мець працяг. Але ж я яго любіў і не мог не папярэдзіць пра небяспеку.

"Перадусім згадаю прэзентацыю кнігі Уладзіміра Арлова для дзяцей «Адкуль наш род». У паўнюткай зале амаль не было ні бабулек з дзядкамі, ні іхніх унукаў

ды ўнучкаў, для якіх і стваралася гэтая кніга – зала поўнілася рознаўзроставым, хаця ўвогуле звычайным для *дарослых* літаратурных вечарынаў, народам.

«Што яны тут робяць?» – дзівіўся я ды з гэтага дзіва ўпотайкі зыркаў па тварах аматараў прыгожага беларускага пісьменства, пакуль неўзабаве не зразумеў: тут адбываецца не сустрэча пісьменніка з чытачамі, а казань першасвятара да набожных вернікаў.

Якая містычна напружаная цішыня панавала ў зале, як аднолькава натхнёна свяціліся вочы прысутных самага рознага веку, як малітоўна варушыліся іхнія вусны, замацоўваючы словы казані ў памяці! Але найбольш мяне ўразілі тыя моманты, калі Арлоў выказваўся пра нейкую падзею (гістарычную ці сучасную) такім чынам, які абуджаў патрыятычны гонар (альбо патрыятычны гнеў) ягоных слухачоў. Тады яны прасветлена-радасна пачыналі пераглядацца паміж сабой (не парушаючы трапяткой цішыні – крый Божа!) і ўзнагароджвалі адзін аднаго ўсмешкамі ціхіх вар'ятаў...

У адну з такіх хвілінаў калектыўнага псіхозу мой твар пакутліва сказіўся, бо я раптам зразумеў, чаму гэтыя людзі не выправілі сюды сваіх дзяцей ды ўнукаў...

Яны самі – дзеці. І гэта не для малалеткаў, а для іх Уладзімір Арлоў стварыў нацыянальны катэхіз пад назовам «Адкуль наш род», паводле якога яны будуць жыць, любіць і маліцца за Беларусь.

Мне зрабілася млосна.

Яны ўжо не паспеюць вырасці, – скрушна падумаў я, – яны ніколі не вырастуць у дарослых. Гэта вечныя дзеці Беларусі!

***

Чалавецтва стварала міфы ў сваім дзяцінным веку – у такую ж пару іх і натуральна чытаць асобнаму чалавеку. Малалетак экзістэнцыйна тоесны гераізаваным версіям жыццяпісаў Еўфрасінні Полацкай, Вітаўта Вялікага, Кастуся Каліноўскага... *Message* у выглядзе патрыятычна міфалагізаваных сюжэтаў ён успрымае як чаканы выклік быцця, на покліч якога яму немагчыма не адгукнуцца. І ён рушыць у накірунку покліча – але чым болей прыспешвае хаду, тым далей аддаляецца ад мэты...

Міф – феномен статычнага свету. Таму ўсялякі рух – гэта тое, што аддаляе ад міфа, нават калі ты рухаешся яму насустрач. Сталеючы ў сваёй хадзе, за дзівосамі новых даляглядаў, малады чалавек нават не заўважае, як покліч міфа неўпрыкмет ператвараецца ў ягонае рэха, якое адно зрэдзьчас падымаецца на паверхню з глыбіняў падсвядомасці, дзе міфу толькі і ёсць належнае месца.

Дзіцячыя кніжкі трэба чытаць у дзяцінстве. Іх небяспечна чытаць тады, калі ты прайшоў ладную частку адмеранага табе шляху і патэнцыялу застаглага руху ўжо не заўсёды хапае, каб, патрапіўшы ў царства міфаў, зможыцца і выслізнуць з іх вечна статычных прыцемкаў у рэальнае, жывое і заўсёды дынамічнае жыццё...

Разрыў паміж дыскурсамі міфа і тэкстам рэальнасці паводле азначэння непераадольны. Гэта навідавоку – але толькі не для вечных дзяцей Беларусі. Яны і на каліўца не маюць сумневу ў магчымасці перайначання явы пад жаданыя формы намысленай уявы. Трэба адно з'адзіночыцца і добра вымагчыся, гэта значыць улегчыся ў штукаванне запрудаў, каб запыніць жывое жыццё ў нерухомую фігуру таго міфа, пра які яны даведаліся з дзіцячых кніжак.

Нядобра ў дарослыя гады чытаць дзіцячыя кніжкі. Але што рабіць, калі ў нашым дзяцінстве ў нас не было *нашых* дзіцячых кніжак?

***

Гэтае эсэ запачаткаванае трывожным пытаннем пра вечных дзяцей Беларусі... Яны ёсць усюды: у Мінску і Стоўбцах, Мсціслаўі і Полацку, Гомелі і Вілейцы, Старых Дарогах і Капылі... Яны стаяць у пікетах і ходзяць на мітынгі, ладзяць шэсці і запісваюцца ў сябры ТБМ, малююць на плакатах «Жыве Беларусь» і носяць ля сэрца значкі з «Пагоняй». Яны зусім не падобныя адзін да аднаго, належаць да розных партыяў і рухаў, жывуць у разбэрсанасці па ўсёй Беларусі, аднак ці не ўсім ім аднолькава карціць сустрэцца з Уладзімірам Арловым, каб праз таемства наўпростага з'адзіночання, нечым падобнага да таемства святой эўхарыстыі, трохі адужыцца ад ягонай *плоці і крыві* і тым самым здабыць хвіліну ўцялесненай у рэальнасць нацыянальнай мроі...

І Уладзімір Арлоў выпраўляецца ў Друцк і Вільню, Ружаны і Плешчаніцы, Бабруйск і Нясвіж... Рухомы, як місіянер, чаканы, як месія (адначасна яго можна параўнаць і з гандляром уласнымі кніжкамі Францішкам Скарынам), ён увесь час у дарозе да тых, каго навярнуў у нацыянальны міф сваімі казанямі.

(...)

Дзяцей натуральна любіць. Усялякіх і заўсёды. Грэшны: адзін раз не залюбіў і ў нейкі момант нават моцна. Адбылося тое прыкрае здарэнне напрыканцы нейкай ужо значна пазнейшай прэзентацыі, калі ў малітоўнай цішыні залы я здагадаўся пра сумнае – валхвец з ахвяравальніка ўласным лёсам, які ён кінуў у вечна ненажэрную пашчу молаха Адраджэння, ператварыўся ў ахвяру нацыянальных перарасткаў, што нахабна зацугнялі яго жалеззем сваёй любові і веры, каб займець сабе алібі жытва ў свеце міфа, дзе спрэс пануе нежытва.

Дык што – атрымліваецца, я знелюбіў гэтых, самім творцам створаных адэптаў беларушчыны за іхнюю любоў і павагу да свайго стваральніка? Нейкае абы што! Ці адмысловая (а мо і самая звычайная) рэўнасць?

Можа і рэўнасць, але хутчэй – крыўда. Бо гэта яны, вечныя дзеці Беларусі, адабралі ў мяне майго пісьменніка, які з сярэдзіны васьмідзесятых да сярэдзіны дзевяностых (і трохі яшчэ пазней) пісаў менавіта для мяне, з якім я прамінуў ягоны (як свой) шлях ад гістарычнай белетрыстыкі і папулярызатарскай гістарыяграфіі да вытанчанай эсэістыкі, актуальнай прозы і гэткага ж эстэтычнага вымеру паэзіі. А потым з'явіліся яны, тыя, каму ўжо не патрэбныя былі ні адмысловая стылістыка, ні складаныя культуралагічныя алюзіі, ні, тым болей, вольнае мысленне – даволі было адно граматыкі ў дзесяці параграфах Вячоркі і катэхізіса ў дзесяці гераізаваных міфах Арлова.

Натуральна адсланіцца ад нядобразычліўца, лагічна забыцца на няўдачу, абачліва размінуцца з дурнем, але як сысці ў ростань ад таго, хто цябе любіць за тваю справу ды яшчэ сваёй любоўю гарантуе твой прафесійны поспех і грамадзянскі чын? Дый увогуле, пра якую ростань можа ісці гаворка, калі наперадзе ўсіх нас разам чакае вольная і незалежная Беларусь...

Творчасць – гэта вечны сыход упрочкі ад тых, хто цябе любіць. У гэтым сэнсе творца радыкальна супрацьлеглы палітыку, шлях якога заўсёды наадварот – да тых, хто яго любіць. І рэч тут вось у чым: творца застаецца творцам, пакуль ён кажа тое, што хоча сказаць сам, палітык застаецца палітыкам, пакуль ён кажа тое, што ад яго хочуць пачуць іншыя... Поспех і любоў неўпрыкмет ператвараюць пісьменніка ў палітыка, калі ў яго не атрымліваецца пераадолець цягу любові чытача. Вось чаму я занелюбіў вечных дзяцей Беларусі, якія, як трэску, зацягнулі ў магутны вір сваёй любові Уладзіміра Арлова і ўжо колькі часу не выпускаюць яго з сваіх пругкіх абдымкаў...

...Не выпускаюць найперш да самога сябе, а гэта значыць і да мяне, паколькі *мой Арлоў* каштоўны мне не ў статычным падабенстве са мной, а ў кінетычным

разрозненні – бо чым далей ён аддаляецца ад мяне ў тую краіну, дзе ніхто, акрамя яго, не жыве, тым болей паміж намі прасторы, памерамі якой, уласна, і вызначаецца мая патрэба ў ягонай творчасці. Зрэшты, у чым яшчэ для нас можа быць сэнс творчасці іншых, як не ў бясконцым велічэнні дыскурсу быцця за кошт сыходу творцы «наўзбоч шасці тысяч футаў чалавека і часу» (Ніцшэ). Гэта значыць – наўзбоч мяне, вечных дзяцей Беларусі і, калі атрымаецца, самой Беларусі".

## *ГОРАД ЯКОГА НЯМА*

*Валянціну Акудовічу*

ты сцвярджаеш
гэтага гораду няма
бо ён не вабіць мітамі і
не абавязвае мэтамі
напэўна таму
адусюль я вяртаюся сюды
гэта так файна:
піць віно
цалаваць жанчыну і
пісаць вершы
ў горадзе, якога няма
як няма ні лепшых
ні горшых
часін і гарадоў
ні для паэзіі
ні для кахання
ні для нашага з табой
пункцірнага сяброўства

бо ты сцвярджаеш
цябе таксама няма
а я маю нахабства
сумнявацца ў гэтым
ў горадзе
якога няма

*(Працяг будзе.)*

кнігапіс

Зміцер Паўлавец



...Скарына, як і іншыя дзеячы Адраджэння, узяў верх у змаганні з часам...

# Пра Скарыну па-новаму і нечакана

***Сяргей Абламейка. Нечаканы Скарына. (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе) – Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2018. – 328 с.: іл.***

Сярод кніг па скарыназнаўстве, надрукаваных да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання, прыкметнай з'явай стала праца Сяргея Абламейкі . Выдаўцы гэтай кнігі на апошняй старонцы вокладкі коратка і вельмі ёмка характарызуюць яе так: "Нечаканы Скарына" Сяргея Абламейкі – новы погляд на загадкавую асобу тытана беларускай гісторыі. Галава кружыцца". З гэтым цяжка не пагадзіцца. Насамрэч названая кніга – добрае чытво для гурманаў айчыннай гісторыі, для тых, хто ўмее адчуваць прастору і час, хто захапляецца сваімі і чужымі таямніцамі. Ну і, канечне, для тых, хто не баіцца глядзець на вядомае па-новаму, хто шукае нетрывіяльных падыходаў да традыцыйных, усталяваных поглядаў на тую або іншую з'яву, тую або іншую падзею. Я асабіста не знаёмы з С. Абламейкам, ведаю яго толькі праз знаёмства ў сеціве ды ягоныя публікацыі. Аднак падаецца, што гэта чалавек




дапытлівы, апантаны, з шырокім светабачаннем, што дало яму магчымасць адкрыць нешта новае. Ён уварваўся ў Скарыніяну з дыпломам гістарычнага факультэта Белдзяржуніверсітэта, каб стаць ні да кога не падобным крытыкам усталяваных поглядаў на ролю Скарыны, мову ягоных твораў, расшыфроўку гравюраў. Можна сцвярджаць, што "Нечаканы Скарына" – унікальнае даследаванне для айчыннага скарыназнаўства. Думаю, што для некаторых чытачоў яна будзе ашаламляльнай, надзвычайнай. Здзіўляе здольнасць аўтара ахапіць працэс, аналізаваць тагачасную культурна-гістарычную прастору і правесці крытычны агляд вядомага пра Скарыну, прываблівае манера адшукваць рацыянальнае зерне і рабіць уласныя высновы.

Чым жа прыцягвае да сябе рэцэнзаваная кніга? Бясспрэчна, найперш рысамі аб'екта даследавання, неардынарнасцю вучонага, яго ўменнем убачыць інтэлектуальную прастору таго перыяду, перадаць яго энергетыку, адчуць яе пульс. Працу даследчыка мінуўшчыны Люсьен Феўр бачыў у тым, каб, кіруючыся сваім светапоглядам, сваёй гістарычнай парадыгмай, гісторык фармаваў, ацэньваў і падбіраў факты, прымаючы рашэнне – якія з іх можна лічыць сапраўднымі, а якім неабходна адмовіць у існаванні. Ён сцвярджаў: "Кожная гісторыя – гэта выбар. Гісторык сам стварае матэрыялы для сваёй працы, сам стварае аб'екты для свайго назірання... Высветліць факт – гэта значыць апрацаваць яго". С. Абламейка цалкам адпавядае гэтым патрабаванням.

Кніга добра структураваная, у ёй вытрыманыя аптымальныя прапорцыі размеркавання матэрыялу, аб'яднанага ў 25 невялікіх па аб'ёме, але ёмістых эсэ-пытанняў і адказаў на іх, якія чытаюцца на адным дыханні. Стыль, метадалогія, спосаб інтэрпрэтацыі і рэпрэзентацыі даследавання С. Абламейкі скіраваны на стварэнне адпаведнай рэцэпцыі чытача. Спалучаючы навуковую карэктнасць і эмацыянальнасць выкладу, аўтар імкнецца развеяць туманнасць Скарыніяны. Кніга перапоўнена асобамі, абліччамі сучаснікаў Францыска Скарыны і тымі, хто больш за два стагоддзі вывучае ягоную спадчыну, адшуквае ў ёй невядомае, пралівае святло на патаемнае, недаследаванае. Уражвае той факт, што на трохстах старонках згадваюцца прозвішчы 230 аўтараў – сучаснікаў Скарыны і даследчыкаў ягонай спадчыны, называюцца 104 месцы – дзяржавы, гарады, мясцовасці, так або інакш звязаныя са Скарынам, яго жыццёвымі дарогамі, кніжніцамі Скарынавых старадрукаў.

Акрэсленыя задачы даследчык рэалізуе ў лагічна пабудаваных эсэ, назва кожнага гаворыць сама за сябе, напрыклад: *На якой мове ён выдаў Біблію. Чым загадкавая абарона ў Падуі. Ці ўсю Біблію ён пераклаў. Ці хацеў ён атруціць Лютэра. Куды вядзе сымболіка ягонага партрэта. Хто ён – русін, ліцьвін ці беларус* і іншыя. Чытач падарожнічае з аўтарам па ўсёй Еўропе, наведвае краіны і гарады, бібліятэкі і архівы, знаёміцца з разнастайнымі меркаваннямі пра мову выданняў Скарыны, пра яго гравюры, даведваецца пра асабістыя аўтарскія погляды. Сутыкненні думак і прапаноў, выкладанне сваіх пазіцый – усё гэта зацікаўлены чытач знойдзе на старонках кнігі, якая чытаецца як навуковае даследаванне і адначасова як займальны дэтэктыў.

Абапіраючыся на ўласныя гіпотэзы, С. Абламейка выбудоўвае свой пункт гледжання на мову пражскіх выданняў Скарыны. Ён пераглядае ключавыя для беларускага савецкага скарыназнаўства погляды і вылучае сваю канцэпцыю. Так, узважыўшы ўсе pro і contra А. Жураўскага і яго вучняў, ён не пагаджаецца з высновай складальнікаў кнігі "Мова выданняў Ф. Скарыны", якія аднеслі яе (мову)

да беларускага варыянта царкоўнаславянскай мовы. Прынамсі, крытыкуе іх за празмернае захапленне статыстычнымі выкладкамі ў галіне марфалогіі, арфаграфіі, якія не дазваляюць больш шырока аналізаваць мову Скарыны, амаль зусім ігнаруючы беларускі лексічны складнік. А, як вядома, лексіка – гэта адлюстраванне менталітэту, культуры, светапогляду народа. Многія словы Скарынавых старадрукаў даюць ключ для разумення нацыянальнай моўнай карціны свету. Таму, зірнуўшы глыбей і падоўжыўшы лінію Л. Шакуна, выкарыстаўшы апошнія даследаванні І. Будзько, С. Абламейка называе мову "пражскіх выданьняў Скарыны адным з варыянтаў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы" (с. 18). Сапраўды, галоўная мэта тытанічнай працы Скарыны – стварэнне такой свецкай літаратурнай мовы, што *"всякий человек простый и посполитый, чтучи их (кнігі) или слухаючи можетъ поразумети что есть потребно к душному спасению его"*. Як бачым, "Скарына разумеў важнасць роднай мовы як фактару, які спрыяе захаванню цэласнасці народа, яго адзінства і нацыянальнай самабытнасці. Таму ён замацаваў родную мову ў высокай літаратуры сусветнага значэння, выдатным помнікам якой з'яўляецца Біблія, як раўнапраўную, «боскую» побач з класічнымі агульнапрызнанымі кананічнымі (лацінскай, грэчаскай, старажытнаяўрэйскай) мовамі. Ён даказаў яе права на свяшчэннасць" [1, с. 27].

Папраўдзе, друкаваная Скарынава кніга дазволіла нашаму продку ўпершыню "ўбачыць" вымаўленае, мову, на якой ён размаўляе, якую чуе. Такім чынам людзі змаглі зрабіць бачным сваё нацыянальнае адзінства, злучыўшы яго з адзінствам моўным. Далучыўшы беларускую мову да мовы Святога Пісання, Скарына паказваў яе жыццяздольнасць, даводзіў, што Божы храм і народ павінны размаўляць адной мовай – моваю гэтай зямлі. У творах Скарыны даволі шмат беларускіх словаў, у якіх заключаны прыродны каларыт і водар нашай мовы. Гэта словы, народжаныя ў полі, на сенажаці, прамоўленыя за бяседным сталом і на сценах цвярдыні, якія вырастаюць і спеюць на ніве. Яны паўтараліся дзень пры дні, па некалькі разоў, без якіх не абыходзіліся тады ў сваім жыцці, каб і хацелі, нашы продкі. Усе гэтыя адзінкі былі арганічнымі для беларускай самабытнасці, гучалі дакладна, выразна, спеўна, краналі патаемныя струны душы, рабілі біблійны тэкст больш зразумелым, блізкім. Разгортваючы Біблію і сустракаючы ў ёй словы *збіраць, паланянка, паслядоўнік, прыдзвернік, смачнейшы, страха, страва, сенажаць, святкі, сукня, сцежка, тхор, уцякаць, узгорак* і шмат іншых, чытач адразу апынаўся ў роднамоўнай стыхіі, быў захоплены жывым струменем, перад ім адчувальна паўставала роднае наваколле, пах стравы, водар сенажаці, знаёмы жывёльны свет.

Такім чынам, Скарына камень за каменем мураваў велічны хорам літаратурна-пісьмовай мовы, ставіў яе на службу свайму народу. Родным словам асветнік не толькі аздабляў царкоўнаславянскі тэкст, рабіў яго больш зразумелым, прыземленым, простым для ўспрымання свету беларускага краявіду, сугучным душэўнаму настрою, а і выклікаў адгалосак у душы чытача. Друкуючы кнігі, Скарына пашыраў магчымасці для выражэння ўнутранай мовы і думкі, бо ў рукапіснай культуры яны былі вельмі абмежаванымі: "паэт, пісьменнік не мог выкарыстоўваць сваю родную мову як сістэму звароту да публікі. Якраз са з'яўленнем кнігадрукавання адбылося адкрыццё нацыянальнай мовы як сістэмы звароту да публікі" [2, с. 285]. Акурат гэта паспяхова прадэманстраваў Скарына, кнігавыдавецкая дзейнасць якога – зварот да прадстаўнікоў розных узростаў, ступеняў ведаў, рознага сацыяльнага стану, розных разумовых і маральных якасцей на зразумелай ім мове. Нельга поўнасцю адмаўляць і той факт, што, спалучаючы розныя моўныя плыні, Скарына напаўняў тэкст шматгалоссем, узаемапераплятаў блізкія мовы, надаючы своеасаблівае гучанне сэнсу. Сапраўды, праз перакладчыцкую дзейнасць Скарыны старабеларуская мова зведала плённы ўплыў царкоўнаславянскай, пазычыла выключную культуру біблійнага слова,

узбагацілася вобразна-выяўленчымі сродкамі. Аднак чуццё вучонага падказвала яму, што Біблія будзе больш зразумелай, блізкай, калі напоўніцца вобразамі з мясцовага жыцця, побыту, прыроды.

Заўважым, што разважанні пра мову С. Абламейкі грунтуюцца на супастаўленні розных поглядаў і падыходаў. Мусіць, варта нагадаць, што за савецкім часам, асабліва ў 30-я гады, пра Скарыну стараліся не згадваць увогуле. Толькі ў 1945 годзе з'явілася некалькі артыкулаў Ц. Ломцева, а ў канцы 40-х раман М. Садковіча "Георгий Скорина", цікавасць да скарынаўскай спадчыны як у Беларусі, так і за яе межамі абудзілася ў 60-я гг. у сувязі з падрыхтоўкай да святкавання 450-годдзя беларускага кнігадрукавання. На жаль, дагэтуль не складзена поўная бібліяграфія скарыназнаўства, якой блізу двухсот гадоў. Гэта задача не вырашана і ў дзвюх персанальных энцыклапедыях [3, 4].

У эсэ "Хто ён – русін, літвін ці беларус", разглядаючы пад слоўным мікраскопам тэрміны "рускі" і "ліцьвін", С. Абламейка небеспадстаўна даводзіць: "Беларусы не павінны баяцца тэрміну "рускі" ў розных гістарычных прыкладаньнях і, адначасова, не павінны забывацца на этнонім (і палітонім "ліцьвіны"). Гэта дзьве складовыя часткі сучаснай беларускай ідэнтычнасьці, важныя гістарычныя маркёры этнічнага развіцьця нашага народу.

У гістарычным і этнічным сэнсе "Русь" і "Літва" – дзьве крыніцы, зь якіх выцякае паўнаводная рака сучаснай беларушчыны" (с. 163).

Шмат увагі ў гэтым эсэ ўдзяляецца разгляду тэрмінаў *rutenus, русін, рускі*, іх сэнсавай напаўняльнасці за часамі Скарыны і цяпер і робіцца выснова – нішто сёння не замінае перакладаць іх як беларус і беларускі, а на Украіне як украінец і ўкраінскі. Украінскі мовазнавец П. Зволынськi ў свой час адзначаў, што этнонімам *ruteni* ў Заходняй і Цэнтральнай Еўропе карысталіся для агульнай назвы беларусаў і ўкраінцаў як адрозненне ад *moschovite* 'маскавіты, велікарусы' (Падрабязней пра гэта гл. [5]). Існаванне адметнай пісьмовай мовы ў ВКЛ к. XV – п. XVI ст. пацвярджаецца тым, што ў перапісаных з беларускіх перакладаў маскоўскімі пісцамі кніг "Пакуты Хрыста" і "Аповесць аб трох каралях-валхвах" зроблены істотныя змены і праўкі беларускіх форм і слоў [6, с. 109-113]. Маскоўскі перакладчык "Арыстоцелевых варот, або "Тайны тайных" (таксама з старабеларускага спісу) XVI ст. заўважыў: "*Тебе ради, чадо нам любезнейшее о сихъ любопремудрых книгах много потрудихся и удобнейшаго ради познания* ***из белороссийского діалекта, сии речь гласъ, преложишася во словенскую речь*** (выдзелена мною. – *Зм. П.*) *елико по возможному нашему малоумию, кроме странныхъ речей, ихже не подлежить разумению*" [6, с. 97]. Адсюль вынікае, што ў Маскоўскай дзяржаве створаныя на Беларусі ўжо ў XV – першай палавіне XVI стагоддзя літаратурныя помнікі разглядаліся як узоры асобнай, самастойнай, незразумелай маскоўскаму чытачу мовы. Маскоўскі перакладчык эксплiцытна супрацьпастаўляе мову, на якой піша, мове, з якой перакладае, што сведчыць пра пашырэнне грамадскіх функцый беларускай на тэрыторыі ВКЛ нават у такой дакліваі сферы, як рэлігійная. Адзначым, што пераклад зроблены не на расійскую і не на маскоўскую мову, а "во словенскую речь" (царкоўнаславянскую) праз неразуменне "странных речей". Таму не выпадкова аўтар рэцэнзаванага выдання даводзіць, што "беларуская навука і публіцыстыка маюць поўнае права адмовіцца ад тэрмінаў "русін" і "простая мова", замяняючы іх, за выключэньнем сьпецыяльных выпадкаў, тэрмінамі "беларус" і "беларуская мова" (с.164). Безумоўна, толькі ў такім, як падаецца, "пазітывісцкім" накірунку і можна праводзіць падобнае даследаванне, праўда, праблема заключаецца ў тым, што ў межах гэтага жанру вельмі цяжка ўтрымацца, каб твае меркаванні не ўспрымаліся як канчатковая ісціна.

С. Абламейка, спасылаючыся на працы Вольгі Шутавай, пытаецца: "Чым загадкавая абарона ў Падуі?" – і паслядоўна, крок за крокам раскрывае яе

таямніцу, развейвае міф пра яе неардынарны характар, паказвае, што экзамен не быў надзвычайным, як пра гэта сцвярджалася раней, а праходзіў у адпаведнасці з тагачаснымі патрабаваннямі ў тры этапы: прашэнне аб міласці – *gratia*, пробны экзамен – *tentativum* і асабісты экзамен – *privatum* (с. 44).

“Нечаканы Скарына” пралівае святло на шмат якія таямніцы Скарынавага жыццяпісу. Даследчык называе Скарыну “трубадурам загіблага саслоўя” – мяшчанства, з якога ён сам паходзіў, і пераканаўча даводзіць, што дзейнасць Скарыны была “вельмі раньняй ідэалягічнай і культурнай кульмінацыяй гістарычнага быцця мяшчанства, якое ў Беларусі ў выніку неспрыяльных палітычных умоваў загінула, так і ня здолеўшы выканаць сваю гістарычную ролю” (с. 113). Тлумачачы размяшчэнне Скарынам свайго партрэта ў Бібліі, С. Абламейка даводзіць, што тут “можна гаварыць ня толькі пра рэнэсансную самапавагу, але і пра самарэкляму, самапіяр, выкліканы ўсьведамленьнем значнасьці сваёй працы” (с. 115). Гэта дало яму падставу назваць Скарыну ні больш ні менш як першым беларускім “піяр-мэнэджарам” (sic!). Аналізуючы выказванні Скарыны пра родную мову, любоў да Радзімы (прадмова да Кнігі Юдзіф), даследчык робіць выснову (з якой цяжка не пагадзіцца), што перад намі “маніфэст раньнемадэрнай беларушчыны, непераўзыдзены ўзор Скарынавага патрыятызму, запавет нашчадкам, генетычны код культуры і нацыянальнага духу” (с. 170).

Не менш цікавыя і разважанні ў эсэ “Ці ўсю Біблію ён надрукаваў”. Сапраўды, сучаснае скарыназнаўства не валодае дастатковай інфармацыяй на гэты конт. Ёсць толькі асобныя канкрэтныя звесткі і здагадкі. С. Абламейка, прыкладаючы пільны клопат пра сціслаць выкладу, абапіраючыся на паведамленні з разнастайных крыніц, а таксама з прадмоў самога Скарыны, выказвае меркаванне, што Скарына пераклаў увесь Стары і Новы Запаветы, і мае спадзеў, што “некалі будуць знойдзеныя новыя тэксты Скарыны, якія дапамогуць нам лепш ацаніць абсяг яго перакладчыцкага і выдавецкага подзьвігу” (с. 80). Дай божа, каб гэта калісьці здарылася!

Як сапраўдны Шэрлак Холмс, сп. С. Абламейка, услед за чэшскім прафесарам Пэтрам Войтам, дзякуючы якому атрымаў “новую оптыку і новы прынцып пошуку”, раскрывае таямніцу схаваных партрэтаў першадрукара. Аповеды пра крыптапартрэты на скарынаўскіх гравюрах – гэта ўжо нешта з разраду сенсацыйнага, падобнага да выбуху. На старонках 120 – 154 кнігі разгортваецца сапраўды неверагодна захапляльны аповед. Тут і цікавыя разважанні пра сімволіку Скарынавага партрэта, яго загадкі, дэшыфроўка асобных партрэтаў. Некаторыя сцверджанні, накіраваныя ў самую глыбіню чытацкага ўспрымання, выклікаюць жаданне найхутчэй дабрацца да ісціны, а часам і супраціў занадта катэгарычным высновам. Гэта, як падаецца, тычыцца расшыфроўкі асобных гравюраў. Так, С. Абламейка не баіцца адкрыта абвясціць, што гравюра “Ісус Навін вядзе людзей Ізраілевых праз Ярдан” “без сумненьня зьяўляецца калектыўным партрэтам найбліжэйшай радні беларускага асьветніка і можа з поўным правам называцца ”Сям’я” (с. 150). С. Абламейка, даводзіць, што на гэтай гравюры “можа быць уся сям’я Скарынаў: два дзяды, дзьве бабулі, бацька, маці, брат Іван з жонкай і маленькім сынам Раманам” (с. 149), – і спрабуе пераканаць у гэтым чытача. Праўда, даследчыкам невядомы ніводзін партрэт продкаў асветніка, ягонага брата ці пляменніка. Думаецца, што прафесійныя гісторыкі, мастацтвазнаўцы будуць спрачацца з аўтарам, крытыкаваць яго за максімалізм. Аднак, з другога боку, такія погляды правакуюць дыскусіі, змушаюць шукаць альтэрнатыўныя падыходаў, заахвочваюць да новых пошукаў Скарынавай спадчыны, адкрыццяў таямніцаў ягонага жыццяпісу.

Не псуюць ураджанне і 13 гутарак-інтэрв’ю з вядомымі айчыннымі і замежнымі навукоўцамі пра час, мову, знаходкі і таямніцы скарыназнаўства. Кніга завяршаецца нечаканымі 100 пытаннямі пра тое, што хацелася б яшчэ пачуць, пачытаць, даведацца пра Скарыну ў будучыні.

Без перабольшання заўважу, што кніга чытаецца з пожадам, без натугі, натуральна, яна напісана добрай мовай, густоўным стылем. Яе аўтар здолеў давесці, што Скарына, як і іншыя дзеячы Адраджэння, узяў верх у змаганні з часам, вызначыў арыенціры развіцця не толькі беларускай, але і ўсходнеславянскіх культур, натхніў іх на плённае развіццё, далучыўшы да галактыкі Гутэнберга – кнігадрукавання на роднай мове, навечна пакінуўшы свой след у народнай памяці. Кніга прываблівае сваёй навуковасцю, глыбінёю, арыгінальнасцю і свежасцю думкі. Даробак С. Абламейкі надзвычай вялікі і каштоўны, пажадана, каб ён стаў пачаткам новай старонкі ў скарыназнаўстве і канцэптуальнай размовы па складаных пытаннях гэтай галіны айчыннай навукі. Праца С. Абламейкі самастойная і карысная не толькі з навуковага, але і пазнавальнага боку. Ён не столькі нагадвае нам пра здабыткі скарыназнаўства, колькі садзейнічае бесстароннаму аб'ектыўнаму падыходу да разгляду малавывучаных пытанняў Скарынавай спадчыны, яе паглыбленым і ўсебаковым даследаванні. Галоўная мэта кнігі – падаць шырокаму колу грамадскасці поўнае, нагляднае, навукова выверанае і нечаканае пра Скарыну – дасягнута поўнасцю.

Л і т а р а т у р а:


1. Францыск Скарына: Зборнік дакументаў і матэрыялаў / [Прадм., уклад., камент., паказ. В.І. Дарашкевіч]. – Мн.: Навука і тэхніка. 1988. – 349 с.
2. Маршалл, Мак-Люэн. Галактика Гутенберга: Сотворение человека печатной культуры / Мак-Люэн Маршалл. – К.: Ника-Центр, 2003. – 432 с.
3. Францыск Скарына і яго час: Энцыклапедычны даведнік. / Рэдкал. І.П. Шамякін [Гал. рэд. і і інш.]. – Мн.: Бел. Сав. Энцыклапедыя; 1988. – 608 с.: іл.
4. Францыск Скарына: Энцыклапедыя. / Рэдкал.: У.А. Андрыевіч [гал. рэд. і і інш.]. – Мн.: Бел. Эн. Імя Петруся Броўкі, 2017. – 508 с.: іл.
5. Зволинськiй, П. Погляди европейських граматистив XV–XIX ст. на українську та білоруську мови / П. Зволинськiй – Мовознавство, 1969. – N4. – С. 57 – 61
6. Жураўскі, А.І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 1 / А. Жураўскі – Мн.: Навука і тэхніка, 1967. – 372 с.

кнігапіс

Леанід Галубовіч



...няшмат каму баліць, што незаўважна "сыходзіць вёска з новай явы", і разам з ёй яе людзі, быт, традыцыі, этнаграфія, нацыянальная культура так званых *крэсаў*...

# Святло высокай поўні

***Міхась Андрасюк. Поўня. — Беласток: Праграмная рада тыднёвіка "Ніва", 2018.***

Чытаючы кнігу "Поўня" Міхала Андрасюка, я адчуваў паступовае нарастанне белай зайздрасці да аўтара, бо заўжды самому (і не мне аднаму, мяркую) хацелася напісаць нешта падобнае... Гэткую родавую (крэўную) лінію зямнога жыцця са сваімі ўласнымі зноскамі і тлумачэннямі. Зазірнуць у сарцавіну свайго чалавечага лёсавызначэння. Але гэта вельмі складаная задача. Тут пісьменніку, апроч жыццёвага вопыту, трэба мець адпрыродны талент і навыкі адмысловага літаратурнага майстэрства. Як на маё меркаванне, у М. Андрасюка ўсё гэта, менш ці больш, супала і ў пэўнай меры адбылося.

Для неабазнанага чытача коратка скажу, хто такі Міхал Андрасюк. Гэта літаратар з польскай (некалі беларускай) Беласточчыны, які стаіць на парозе свайго шасцідзесяцігоддзя. Калі канкрэтней, дык нарадзіўся ён у вядомым сваёй беларушчынай




мястэчку Гайнаўка, але дзяцінства і маладосць правёў у пушчанскай вёсцы Войнаўка, дзе і жыве цяпер. Працаваў Міхал і настаўнікам, і каменячосам, а таксама паралельна супрацоўнічаў з беларускамоўнымі медыямі. З дэбютнымі публікацыямі з'явіўся ў друку ў 1979 годзе, найперш у беластоцкай "Ніве". Андрасюк выдаў такія кнігі прозы, як "Фірма", "Мясцовая гравітацыя", "Белы конь" (да гэтай пары найбольш вядомае і заўважанае нашай крытыкай выданне). Выходзілі ў яго кнігі і ў перакладах на польскую мову, а некалькі на гэтай мове ён напісаў і сам ("Wagon drugiej klasy", "Krzyzyk"). Пісьменнік узнагароджаны "Залатым Апострафам" часопіса "Дзеяслоў" (2009), а таксама прэміяй прэзідэнта Беластока імя Веслава Казанэцкага (2011).

І вось – яго новая кніжка "Поўня", жанрава не акрэсленая (раман, аповесць, цыкл аднатэмных метафарычных прыпавесцяў?). Я прачытаў тэкст, і вось што пасля доўгіх роздумаў закарцела сказаць. Па-першае, парадавацца за калегу, які напісаў кнігу беларускага нацыянальнага жыцця, апынуўшыся на яго водшыбе па волі палітычных інтрыг (той момант, калі частка народа ў выніку прымусовай дзяльбы больш магутных суседзяў пакідаецца за межамі Айчыны разам з часткай сваёй радзімнасці). Па-другое, сказаць, што твор гэты па-мастацку адметны, таленавіты і варты шырокай чытацкай увагі. Па-трэцяе, паспрабаваць з уласнага пункту погляду распавесці пра неардынарную форму кнігі, яе медытатыўна-метафарычны стыль, ідэйны змест і мастацкую выбітнасць. А таксама звярнуць увагу на яе нязначныя хібы, аўтарскія пралікі і недагляды.

Расповед пачынаецца ў лірыка-рамантычным ключы; аўтар кіруецца ў своеасаблівую вандроўку з *крэсаў* (Беластока) на *Айчыну* (Менск), а па сутнасці – з сучаснасці ў прамінулае свайго роду. Па прыездзе ў сталіцу ён сутыкаецца з дзяўчынай, да якой у яго ўспыхвае пачуццёвая закаханасць і жарслівае жаданне. *"Я чакаў Юлію ў краіне, што пазней нарадзілася шэсць гадоў пазней за яе. З'явілася, калі ніхто на тое не спадзяваўся, калі ўсе валадары свету прызналі Еўропу старой завалокай, стэрылізаванай, з завершанай гісторыяй, запісанай на вялікім трыбуху, з канчатковай кропкай, пастаўленай на абвіслай фалдзе скуры, што жывым прабоем замыкае вагіну. Шчыльна і назаўсёды. Тады нарадзілася Беларусь".*

І вось тут яго – амаль на роўным месцы – пачынаюць даймаць унутраныя праблемы свайго чалавечага *места* і айчыннасці... Горад аказваецца завялікім і чужакаватым для яго душэўнай малой бацькаўшчыны. І сам ён не ўпісваецца ў абсяг вялікай радзімы са сваім адгароджаным мяжой кавалкам *ампутаванай* беларушчыны...

*Вялікі шэры горад у завялізнай шэрай вопратцы круціўся вакол сваёй восі, не здзіўляючыся сланечніку, не звяртаючы на яго ўвагі. Ён даўным даўно згубіў свае агароды, выціснуў натуральныя колеры... (...) Кожны дзень пасля Мінска ўпэўніваў мяне, што Беласток усё-такі скроены на маю фігуру, сядзіць на мне як уліты і дастаткова расплюшчыць вочы і вушы, каб убачыць знакі і пачуць іх галасы. Прынеслі іх такія людзі, як я.*

Ён патрапляе ў гістарычна-псіхалагічную яму і пачынае духоўную медытацыю, вандруючы шляхамі нацыянальнай родавай памяці... Аўтар пачынае вяртанне назад, каб дайсці да сябе сённяшняга. Вяртаецца да мінуўшчыны (прадзедаў, дзядоў, дзядзькоў, бацькоў, аднавяскоўцаў), якая крэўнай сэрцавінай да гэтай пары не дае яму пачувацца паўнавартасным у тым месцы жыцця, дзе ён ёсць *Дома*. І гэты дом (як і хата), і яго насельнікі – першааснова выспявання чалавечай душы

і самасвядомасці. Свой узведзены куток для жыцця, як Богам дадзеная азнака Бацькаўшчыны (і малой, і вялікай):

*...ластаўкі лепяць гнёзды, – пасміхнулася бабуля. – І не з сухой травы. Яны іх уюць з памяці праластавак, што адляцелі ў векавечныя выраі. А ведаеш, дзе запісаная гэта памяць? Не ведаеш. А яна і пёркамі ў белых воблаках запісаная, і кіпцюрамі ў падсохлых старарэччах, і ў песнях птушыных, што нясуцца панад лугамі ў сенажаць. Глядзяць у яе і лепяць. Так і мы ляпілі хатку, пыталіся ў твайго прапрадзеда Уладзіміра, дзе пакласці камяні на фундамент, раіліся, дзе стане комін, дзе гліняная печ. Пад пільным вокам твайго прапрапрадзеда Цімафея ўзводзіліся сцены з круглякоў... (...) ...трэба ведаць, што кроме гэтых сцен, кроме ложка і печкі, існуе яшчэ іншы свет. Ён схаваны ад нашых вачэй і ў далоні яго не ўзяць, але чалавек без яго, усяго паўчалавека...*

Аднак жа ўсё старыцца і адмірае і па часе кожнае новае пакаленне правіць альбо стаўляе новую хату – большую, цяплейшую, святлейшую і надзейнейшую. Дзеля такой хаты і матэрыял трэба адмысловы, аднак фундамент і падруба яе павінны засноўвацца на метадах, ужо выпрабаваных папярэднікамі, таму дзед Алімпей дае такі наказ:

*З падрубаў пачынаюць дом. Разумнейшыя за нас прыдумалі парадак свету і трэба нам яго трымацца".* Больш за тое, ён робіць замову дрэву, якое будзе спілаванае на падрубу дома, ставячы крыжыкі на ствале яго на ўсе чатыры бакі свету: *"Вочы не бачаць, вушы не чуюць, і ты, сэрца, запавольвай крок, няхай жоўтая кроў, не спяшаючыся, сыходзіць у зямлю. Вырастуць з яе новыя дрэвы, – рука дзеда Алімпея зноў заціскаецца на тапарышчы, плячо бярэ ўзмах і наносіць першы ўдар. – Цяпер можна пілой, – кажа. Падносіць сякерку да вачэй, прыглядаецца і з халоднага ляза злізвае кроплю цёплай жывіцы.*

Аўтар уводзіць у свой лёсавы расповед памерлых менавіта ў тыя моманты, калі яму самому цяжка вызначыцца, альбо калі ён вагаецца ў выбары таго ці іншага дзейства падчас прыняцця знакавых і важных рашэнняў. Вобразы продкаў як бы ажываюць (паўстаюць жывымі з памяці аўтара) і прыходзяць у яго сучаснае рэальнае жыццё са сваім мінулым:

*Хтосьці скажа – поўная лухта, надуманае, але ж засела ў галаве, муляе. Даваць у кнігу? Не даваць? Не ведаю – спаглядаю на дзеда, ён не аспрэчвае мяне. Зусім нечакана заходзіць у аповед лёгкім крокам, як у сваю хатку ў лесе на беразе возера, навобмацак знаходзіць газавую лямпу і запалкі, запальвае, падкручвае кнот і хісткага святло дастае з вечаровага паўзмроку словы вядомыя толькі мне.*

Скажам, пры пабудове новага дома давялося спілоўваць старую ліпу. Вельмі натуралістычна і ў той жа час метафарычна вымалёўваецца гэты акт згубы старабытнай сямейнай ліпы – сімвала цэлага родавага жыцця: *"Сякера паўтарае сваю чорную справу раз, другі і трэці, і чарговы, сталёвае лязо ўядаецца глыбей і глыбей у ліпавую мінуўшчыну. Жоўтыя трэскі адшчапляюцца ад пня, рассыпаюцца ў траве, як непатрэбныя, дарэмна пражытыя дні".* (Які магутны і цэльна згарманізаваны натуральна-метафарычны вобраз!) *"Хопіць", – ківае галавой стары цясляр. Укленчвае па адзін бок ліпавага ствала, памочнік займае месца на другім баку, іх далоні злучае доўгая піла. (...) Далоні сінхранізуюцца, знаходзяць рытм, мядзведзевы сківіцы, пачуўшы водар ліпавай крыві, паскараюць тэмп і сталёвыя зубы ўгрызаюцца глыбока ў горла старога дрэва".*

Напэўна, такія карціны не надта будуць чапляць і застрэмваць пачуцці маладзёнаў, бо яны не да канца ўразумелыя і ўсвядомленыя вопытам іх жыцця, якое часцей за ўсё мае віртуальныя сэнсы і ўласную напоўненасць. Папросту кажучы,

сёння натуральнае жыццё не так уплывае на іх, як тэхніка жыцця. Мала каго чапляе і няшмат каму баліць, што незаўважна *"сыходзіць вёска з новай явы"*, і разам з ёй яе людзі, быт, традыцыі, этнаграфія, нацыянальная культура так званых *крэсаў*; паланізуецца і ўрэшце амаль знікае з ужытку жывая, родная некалі мова. Хто сёння па гэтым будзе плакаць? Андрасюк ды яшчэ колькі дзясяткаў "прышчэпленых" да крэўнай радзімы людзей... Тых, для якіх, бы зарубкі на сэрцы, такія на першы погляд сентыментальныя, аднак пры ўчытванні не толькі ўсвядомленыя, але і глыбока ўцялесненыя згадкі, са *сваімі колерамі* і адценнямі. Да прыкладу, як тыя знакі (*бел-чырвоныя*), што рабіў аўтар у пушчанскім лесе, каб не зблытаць дарогу са школы: *"...складаў свае таемныя знакі, завязваў белыя і чырвоныя стужачкі на прыдарожных дрэвах. Пакідаў адбіткі слядоў і прыглядаўся, параўноўваў, як з кожным годам павялічваецца, вырастае мой след. Аднае восені сасняк перарос вышку і яна знікла за зялёнай сцяной, вятрак спапяліўся ў пажары, а я надалей знаходзіў зваротны шлях дадому. Урэшце, упэўнены, што ніколі не падвядзе мяне мая памяць, пакінуў стаўляць знакі"*.

І дарма, бо, чым далей па часе, тым усё больш заблытваўся жыццёвы шлях, губляючы і заглушаючы ў будзённа-прагматычным хаосе свае кірункавыя родавыя адметы (на тое былі і дзяржаўныя, і грамадска-палітычныя, і аб'ектыўныя, і суб'ектыўныя чыннікі і прычыны). Пачалося гэта адразу ж пры змушаным ад'ездзе з вёскі, фізічным аддаленні ад тутэйшага атачэння. Вось дыялог перад выездам у Беласток, колькі ў ім глыбока прыхаванай айчыннай сімволікі!

*– Міхал паедзе ў Беласток, Міша застанецца дома, – кажа маці.*

*– Міша застанецца, Міхал паедзе, – падцвярджае бацька.*

*– Гэта як? Можна падзяліць сябе, крыху паехаць і крыху застацца?*

*– Ёсць свой свет і ёсць чужы. Пакуль той, чужы, свет не прыручыш, пакуль ён не стане тваім, так трэба, – тлумачыць маці. – Мішам тут месца, а Міхалам там. Не хвалюйся, і Толік тут застаецца, і Ваня, і Жэнік, і Валодзік, і Васік.*

*– Не хвалюйся, – супакойвае баба Вера. – Іншая справа, ці калі-небудзь удасца вам сустрэцца"*.

Альбо вось гэты фрагмент пра вызначэнне радзімнага. Дзед Дзмітрый "прыходзіць" да аўтара Міхала-Мішы ў Беласток:

*– У Беластоку, кажаш, твой дом. Значыць, няшмат змянілася, не трымаюцца нашы сцены за сваю зямлю. Або, іначай – сцены трымаюцца, а людзі не – словы "пішу кніжку" праходзяць міма, не закранаючы ягонай увагі нат на кароткі міг вачэй. – Мала мне вядомае месца Беласток. Праўду кажучы, зусім чужое. Ніколі ніякія справы ў той бок не кіравалі, хутчэй у Вярховічы, Мелянец, зрэдку ў Брэст. Пасля мяжу паставілі за Старынай і дарогі перакрыліся. Мяне гэта, праўда, няшмат абышло. Пакуль паспеў адвыкнуць ад старых напрамкаў, адмянілі мне ўсе межы. Так і не паспеў прывыкнуць да новых"*.

Але разам з гэтымі перыядамі душэўных ваганняў не менш цікава і заўважна наступнае. Чытаючы, мы не ўпадаем у ідэалагічнае раздражненне, бо аўтар па-майстэрску пазбягае націскнога накруту – "імперскай савецчыны" і "вялікапольскасці". Бо найперш, свет – гэта не ідэалагічныя *"скрэпы"*, а – людзі і іх духоўныя повязі. Так, праз метафізічную адстароненасць, узвышаную, хай і не заўжды ўразумелую містычнасць, што складаюць агулам стылёва згарманізаваную прастору пісьма, праз успрыманне людзей аўтар даводзіць тыя ці іншыя гістарычныя рэаліі, якія змушалі іх апынацца і прыстройвацца да жыцця ў тых ці іншых варунках. Пры гэтым губляючы сваё крэўнае як фізічнае, так і духоўнае, натуральна страчваючы былую моц і магчымасць, каб захоўваць яго... І ў такіх выпадках аўтар звяртаецца да сімвалаў, наўпроставых і прыхаваных. Ён не апісвае фактычныя дзеі, учынкі

і жудасць прыхадняў, якія, так ці іначай, разбуралі альбо ганьбілі роднае гняздо, а падае пра тое ў кантэксце (як бы між іншым), хоць вобраз імперскай і бальшавіцкай Расіі выяўляецца адназначна захопніцкім і цемрашальскім. Вось як яно вымалёўваецца ў дыялогу яго дзеда і бабы:

*"Новага нічога. Расія прыйдзе", – з уласцівым сабе спакоем адказвае дзед Алімпей. "Зноў? У каторы раз?" – у блакітных вачах бабы Веры мільгае чырвонай птушкай сполаху яе другая Расія. Смешная і змрочная, ні свая, ні чужая, заходзіць апоўдні ў лясную хатку і да апошняй кроплі жлукціць пякучую самагонку. Адвячоркам, пад гукі гармоніка падпявае сумныя песенькі пра вясёлае калгаснае жыццё. Раніцой забівае дошкамі дзверы ў сінію царкоўку і груба чысціць нос аб сінюю хустачку, вышытую дзеду на добры шлях. Той шлях, куды адпраўляюцца ўсе мужыкі, хто ў голас пасумняваўся ў перавагу новага зямельнага парадку над старым, спрадвечным. Праз кароткі час адступала хутка і далёка пад гул нямецкіх самалётаў. Здавалася – назаўсёды. "Калі прыйдзе?" – баба паўтарае пытанне і прыводзіць на памяць сваю трэцюю Расію. Заскочыла ў яе вясковы двор, пакінула дзеду Дзмітрыю высокія хромавыя боты, на ляту прыхапіла кусок сала і пагналася далей, на захад. А чацвёртая – больш сваёй, ці чужой сябе пакажа? Што возьме? Што пакіне?" "А хто яе там ведае, калі ёй зноў заманіцца пахадзіць туды-сюды?" – дзед Алімпей напаўняе тытунём місачку люлькі, прытоптвае тытунь вялікім пальцам, утыкае ў рот цыбук, запальвае запалку. (...) Я рускіх не прычакаю, але тыя, хто дажыве, хай памятаюць: як толькі дзьмухне з усходу халодным ветрам, запальваць трэба грамнічныя свечы і стаўляць у вокнах праваслаўныя іконы. І крыжы высокія ў пачатку вёскі.*

Іншая наглядна-павучальная гісторыя з сімвалічнай пазнакай – пра цыганскі табар. Сцэны з праездамі якога праз вёску падтэкстава прачытваюцца як пераходы крэсавых тэрыторый ад адной дзяржавы да другой, што мела месца напрыканцы XIX і пачатку XX стагоддзяў – *"ад Сямятычаў, праз Кашчэлі і Палічну, да нас і далей, у Старыну. І ніхто ніколі не бачыў, каб вярталіся назад. А за Старыной мяжа, усе дарогі абрываюцца"*... І напраўду, з кожным чарговым пераездам гэты цыганскі табар радзеў людзьмі і падводамі, пакуль у рэшце рэшт ад яго не застаўся адзін толькі Пятро са сваім верным канём Сокалам; той Пятро, які вучыў бацьку аўтара і галоўнага героя кнігі мацаваць кроквы пры будоўлі хаты, каб тыя як найдаўжэй трымалі дах яго *сямейна-айчыннага* дома. Пры апошняй сустрэчы Пятро, сустрэўшыся з гурмой памерлых, што шукаюць выйсця да свету жыцця, кажа пра трагічны вырак цыганскага табара: *"Дарога нас забіла. Бетонам забіла, асфальтам і камянямі. Я ўжо прабачыў дарозе, бо як не прабачыць часціне сябе?Але з вамі не пайду, не ў той бок"*. І сам аўтар у размове з Пятро піша так: *"...паўтараю словы, жэсты і крокі – бацькі, дзядзькі Рамана, дзядзькі Мікалая. Паўтараю і ўпісваюся ў агульны партрэт месца і людзей, замкнёных у дужкі мінулага часу"*. І нават месяц, выкаваны цыганамі па боскім даручэнні, становіцца іх Кругам лёсу і своеасаблівым наказам Звыш: *"не будзе ў вас сваёй айчыны, няхай будзе акно ў прошласць і прышласць. Яно – ваш хлеб"*. Амаль тыя ж словы паўтарае і дзед Дзмітрый: *"І пакуль жыве хаця б адзін чалавек, хто старэйшы за тваю памяць, жыве тваё перакананне ў несмяротнасць"*.

Хіба недастакова сімвалічных намёкаў падае аўтар чытачу, каб давесці свой адчай, звязаны з пошукам згубленага, але яшчэ не дарэшты страчанага беларускага месца ў гэтым свеце?!

Вось маладая цыганка з таго ж табара, што па волі аўтара мае адно і тое ж імя з яго мінскай дзяўчынай, радзіць яму з'ездзіць у Рым ды наведаць Сабор Святога Пятра і касцёл Санта-Марыя дэль Попала, ды пабачыць там карціну "Тры грацыі" (хоць дзед Дзмітрый і кажа, што дарма ён шукаў *трох грацый* у Італіі). І

насамрэч – напрыканцы кнігі аўтар выяўляе іх у вобразе *трох жней*, што жнуць траву забыцця на лузе ў Аконшчыне, якраз там, дзе калісьці ў яго дзяцінстве касіў *тую ж траву* ягоны бацька. Да таго ж, як заўважае аўтар, "залатавалосая на буланым кані", якая падняла людзей з праху і вядзе да "трох грацый", – гэта *"алегорыя. Бесцялеснае, мастацкае ўвасабленне свабоды"*. Агулам развагі пра свабоду, пра тую традыцыйную беларускую свабоду з'яўляюцца ў тэксце перыядычна.

*"Што такое свабода", – пытаю. "Свабода, калі ў цябе свой дом і зімою ён цёплы",– кажа бацька і выходзіць на ганак пачытаць вечаровае неба.*

*"Свабода, калі няма голаду, – дапаўняе маці. У каструлі на кухоннай пліце даварваецца бульба, на патэльні скварыцца сала з пакрышанай цыбуляй, і яна сочыць, каб не прыгарэлі ні скваркі, ні цыбуля".*

Але ўжо напрыканцы кнігі аўтар кажа: *"Праўда і каханне выжывуць толькі на свабодзе. Але дзверы свабоды не адчыняюцца за так. Мячом і крывёй трэба дабівацца. Іначай, што была б вартая свабода?"*

Але разам з тым, аўтар, ужо ведучы памерлых *да фінала*, выслухвае словы-сумненні дзеда Алімпея: *"Пасядзім яшчэ век-два ў сваім замкнёным коле, пайторым адзін аднаго і кожны сябе. Насамрэч, нічога страшнага, мы прывыклі – супакойвае дзед Алімпей. "Будзе, што будзе – падштурхоўвае знаёмы хор бабуляў і цётак"*.

Ці не добра знаёмыя і нам гэтыя словы старэйшых людзей з нашага сённяшняга прыўладнага электаральнага шэрагу...

Разумею фэнтэзійна-мройлівы бессюжэтны расповед, стылістыка і форма якога трымаюцца на родавай лініі з пэўнымі падтэкстамі і падказкамі для чытацкіх разваг і дадумак, з карцінамі містыкі і фантасмагорыі... Таму няма асаблівага здзіўлення, што ў расповедзе з'яўляюцца "паўсталыя з мёртвых".

*З зямлі выходзіць трава, з сонечных промняў завязваецца кветка, птушка вяртаецца ў неба. А некаторыя людзі кажуць, што нерэальнае бярэ верх над рэальным і першы чалавек устае з мёртвых. (...)*

*– А дзе шукаць вас, калі б у мяне да вас была справа?*

*– У думках сваіх. Бо дзе яшчэ, калі не там? – кажа Владзё.*

*– Толькі там. Падумаеш, будзем, – ужо на выхадзе падцвярджае Марэк. І зачыняе дзверы.*

І ўсё ж па-сапраўднаму ўражвае не толькі выпісаная карціна містычнага футбольнага матча, але сама гэтая аўтарская задума, – каманда памерлых сяброў гуляе з вечнасцю, уражвае і сам вынік матча: *"І згулялі ўнічыю", – дзесьці з глыбіні воблакаў далятае Славікаў голас. "Нармальна. З вечнасцю ні прайграць, ні выйграць у яе, толькі ўнічыю можна згуляць з вечнасцю", – хачу сказаць, але воблакі стаяць ужо вышэй галавы і згортваюць у цішу усе словы".*

Нездарма, перш чым весці памерлых, згіблых, замучаных і забітых да вёскі Тапіла, а насамрэч да луга Аконшчына, аўтар пытае ў іх, ці прабачылі яны тым, хто спрычыніўся да іх зямнога сыходу, *"бо не для помсты ідзём"*... Гэта вельмі важная аўтарская рэмарка, якая падкрэслівае і сцвярджае хрысціянскія запаветы *пушчанскага* народу. І што ж яны бачаць, прыйшоўшы на згаданы луг? Трох жней травы забыцця: першую на імя Не-Прыгажосць, якую згвалтавалі рускія і якая нарадзіла камень, другую – Не-Нявіннасць, якую згвалтавалі палякі, і яна таксама нарадзіла камень, і трэцюю, якая называе сябе шэптам, а яе імя нельга расчуць... Гледзячы на іх, мужчынскі віртуальна-жывы гурт маўчыць, *"нераступаючы з нагі на нагу. Ці ёсць у мужчынскім маўчанні прызнанне сваёй віны? Так, адчуваю сябе вінаватым",* – адказвае за ўсіх галоўны герой кнігі і яе ж аўтар.

І калі ўрэшце, адчуўшы, што застаецца **адзін**, герой у містычным парыве выходзіць на дрэва, у якім распазнае тое, што сталася падмуркам іх родавага дома,

яго сустракае дзед Алімпей... і пачынае зачытваць старонкі яшчэ не выдадзенай аўтарам кнігі: *“...людзі гукаюць сябе, не знаходзяць і разбягаюцца па ўсім свеце. Там, таксама не знаходзячы сваіх слоў, плачуць па іх. Плачуць па іх на чужой мове, а калі на чужой мове пачынаюць адкрыта з гэтых забытых слоў смяяцца, губляюць сябе канчаткова. Калі сядлаюць коней уладары злых вятроў, трэба пільна сачыць за сваімі, трымаць адзін аднаго за рукі і вартаваць свае словы. Няўжо сапраўды не ўпільнавалі мы сябе, аддалі і словы, і ўсё астатняе і разбегліся хто куды? А ці яшчэ плачам па загубленых словах? І якой мове зразумелы наш плач?”*

Ды аўтар і сам пачынае разважаць услых пра свае задумы і сумненні ў звязку з уласнай літаратурнай творчасцю, бо *“новая кніжка слізгае ўюном, выкоўзваецца з рук, радкі непадуладныя думкам, гучаць глуха, як патрэсканы звон, другі раз калечыць вуха фальшывым пафасам. Пачынаю шкадаваць, ці не лепш было застацца там, у вёсцы, дзе кожнае слова ляжыць на сваім месцы, паміж травінкай і птушыным шчэбетам, дзе кожны вобраз чакае напагатоў, бяры, перайтварай у літары”.*

Няпростая для чытання, але глыбокая для разумення кніга. Адчуваецца ў ёй нейкая намоленая мастацкая сіла слова, што яшчэ не мае пэўнасці і веры ва ўласнай трываласці... Не спрыяюць падобнаму адчуванню, праўда, моўныя хібы (даволі шмат русізмаў і паланізмаў), хоць нярэдка яны дадаюць сэнсавага і метафарычнага шарму моўнай стылістыцы аўтара; сустракаюцца каструбавата выбудаваныя сказы; ёсць паўторы блізкіх альбо аднатыпных сцэнаў; напрошваецца жаданне прарэдзіць і *прасвятліць* некаторыя містычна-загадкавыя месцы, каб не губляць чытача на вузкіх і заблытаных сцежках сюжэта... Але ўсё гэта не змяншае важкасці і ўзнятай вышыні “Поўні” Міхала Андрасюка. Яна, як па мне, – адна з лепшых кніг часоў нашай суверэннасці (супастаўная з вядомым раманам Ю. Станкевіча “Любіць ноч – права пацукоў”). Варта толькі пры перавыданні ў Беларусі (а гэта зрабіць менавіта **варта**) даць папрацаваць над тэкстам *нашым* больш вопытным рэдактару і карэктару.

І наастатку мне ўсё карціць па-кансерватыўнаму зрабіць нейкую важкую выснову з прачытанага. Доўга яе вышукваў і не менш часу вагаўся.

Скажу так: падалося мне, што ў вобразе Юліі аўтар стварыў своеасаблівы сімвал жаданай лучнасці з Беларуссю, неабходнасці захавання яе духоўнай і нацыянальнай цэласнасці, а сам намёк пра магчымае нараджэнне ёю сына (якога яна назаве Мішам, як назвалі бацьку яго бацькі, Міхалам, як запісаны бацька ў польскім пашпарце, ці Міхаілам, як яго ахрысцілі ў царкве па-стараславянску), – канчатковым сфарміраваннем ПОЎНІцы ўласнага беларускага жыцця...

Кім застанецца яго магчымы нашчадак – Мішам, Міхалам ці Міхаілам? Ці будзе ён свабодным і шчаслівым? Як для мяне – гэта галоўныя пытанні кніжкі. Менавіта пытанні, а не адказ...

# Тым часам...

***Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»***




**Януш Леон Вішнеўскі. Канец адзіноты. Пер. з пол. Кацярыны Мацiеўскай, Ганны Янкуты. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2020. – 460 с.**

Новы раман вядомага польскага пісьменніка Януша Леона Вішнеўскага – пачуццёвы працяг легендарнага рамана «Адзінота ў сеціве». Яго галоўныя героі — новае пакаленне, сучасная моладзь, перад якой адкрыты ўвесь свет. Якуб і Надзя, як і персанажы папярэдняй гісторыі, знаёмяцца дзякуючы інтэрнэту, але... у кляштары, і іх адносіны таксама некаторы час падтрымліваюцца з дапамогай гаджэтаў.

Усіх герояў твора нечакана аб'ядноўвае адна кніга, дзіўным чынам звязаная з жыццём рэальных людзей. Надзя пачынае амаль дэтэктыўнае расследаванне і спрабуе разабрацца ў таямніцах, якія ў рэшце рэшт прыводзяць яе да падзей дваццацігадовай даўніны. Пераклалі раман Кацярына Мацiеўская і Ганна Янкута.




**Анатоль Вярцінскі. Тым часам... – Мінск: Кнігазбор, 2020. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 124). – 208 с.**

Кніга «Тым часам...», якая складаецца з трох раздзелаў (вершаванага, эсэістычнага і публіцыстычнага), раскрывае тэмы сучаснага жыцця ў яго шматгранных філасофскіх і сацыяльных вымярэннях. Творам Анатоля Вярцінскага ўласцівыя высокі грамадзянскі пафас, лірычная шчырасць, аналітычнасць, вострая публіцыстычнасць, увекавечванне маральных каштоўнасцяў жыцця і ўслаўленне духоўнай велічы чалавека.

Выданне кнігі сталася вынікам рашэння журы літаратурнай прэміі Міхася Стральцова, якая была прысуджана Анатолю Вярцінскаму «за захаванне класічных літаратурных традыцый, метрычную разнастайнасць паэтычнай мовы, афарыстычнасць і грамадзянскасць паэзіі і эсэістыкі».




**Леанід Дранько-Майсюк. «...Усе бачылі нястачу віна...»: аповесць пра Адама Станкевіча. — Мінск: Кнігазбор, 2019. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; выпуск 123). – 168 с., XXIV с. іл.**

“...Усе бачылі нястачу віна...” — архіўна-дакументальная аповесць,

прысвечаная постаці рэлігійнага мысляра, літаратара, палітыка, гісторыка, але перадусім – нацыянальнага дзеяча, які марыў пра такую незалежную беларускую дзяржаву, якая адпавядала б узору заходнееўрапейскай дэмакратыі.

Леанід Дранько-Майсюк вынайшаў новы навукова-мастацкі стыль, калі поруч са скрупулёзнай уважлівасцю да дэталяў ды дакументальных крыніц чуваць голас аўтара – апантанага і захопленага даследніка невядомых старонак беларускай гісторыі.




**Старагрэцкая драматургія: Эсхіл, Сафокл, Эўрыпід, Арыстафан, Менандр (Драматургі свету). – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2020. – 460 с.**

Зборнік уключае шэраг найбольш вядомых твораў такіх выдатных майстроў трагедыі, як Эсхіл («Персы» і «Прыкуты Праметэй»), Сафокл («Эдып-цар», «Антыгона») і Эўрыпід («Бакханкі»), а таксама камедыі – Арыстафан («Люсістрата» і «Жабы») і Менандр («Адлюднік») – у перакладах Лявона Баршчэўскага і Юльяна Дрэйзіна (Пераклады Ю. Дрэйзіна 1920-х гадоў выйшлі ў абноўленай рэадкцыі Л. Баршчэўскага). Кніга змяшчае грунтоўную прадмову Алеся Жлуткі і такія ж грунтоўныя каментары, падрыхтаваныя Лявонам Баршчэўскім.

У такім прадстаўнічым аб'ёме, на 460 старонках, драматургія Старажытнай Грэцыі па-беларуску выходзіць у свет упершыню за ўсю гісторыю айчыннай перакладной літаратуры. Анталогія выйшла пры спрыянні Саюза беларускіх пісьменнікаў.




**Людміла Шчэрба. Я пакідаю сонца тут... — Мінск: Кнігазбор, 2020. — 112 с.**

У кнігу ўвайшлі выбраныя вершы розных гадоў — з 1990-х па 2020-ты. Разнастайныя па тэматыцы, гучанні і настроі, яны ўтвараюць цэласны мастацкі свет — пранізліва шчыры і прачулы, у якім кожны знойдзе праменьчык для сябе.

*Кніга паэзіі Людмілы Шчэрба вельмі камерная, вельмі лірычная, напоўненая непадробнай шчырасцю. Яна патрабуе ўнутранай засяроджанасці, суперажывання і сцішанай мелодыі ўласнай душы таго, хто дакрануўся да радкоў паэткі, якая хоча падараваць нам сонца* – адзначае ў прадмове паэт Навум Гальпяровіч. Аздобіла гэтае сонечнае выданне сваімі малюнкамі мастачка і паэтка Кацярына Массэ.

# Нашыя аўтары

**Акудовіч Валянцін** – філосаф, эсэіст. Аўтар кніг «Мяне няма. Роздумы на руінах чалавека», «Разбурыць Парыж», «Код адсутнасці». Лаўрэат прэміі Беларускага ПЭН-цэнтра (Прэмія імя Алеся Адамовіча) (2001), літаратурнай прэміі «Гліняны Вялес» (2007), прэміі «Залатая літара» (2012). Нарадзіўся ў 1950 годзе ў мястэчку Свіслач на Гарадзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Бараноўскі Міхал** – паэт. Аўтар кнігі «Volumen.1». Лаўрэат прэміі «Дэбют» імя М. Багдановіча (2017), пераможца літаратурнага конкурсу «Экслібрыс» (2019). Нарадзіўся ў 1984 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Ваганаў Сяргей** – журналіст, эсэіст, паэт. З 1961 года працаваў у газетах «Чырвоная змена», «Сельская газета», «Знамя юности». У 1976–2008 гг. – уласны карэспандэнт газеты «Труд», галоўны рэдактар газеты «Труд» в Беларуси». Аўтар шматлікіх эсэ і публіцыстычных нарысаў, частка якіх друкавалася ў розных тэматычных зборніках, а таксама ўвайшла ў кнігу «Мосцік над вечнасцю». Двойчы лаўрэат конкурсу «Вольнае слова». Нарадзіўся ў 1941 годзе ў Казані, у эвакуацыі. Жыве ў Мінску.

**Васілевіч Алена** – празаік. Аўтарка кніг «Шляхі-дарогі», «Блізкія знаёмыя», «Падслухала сэрца», «Шурка Рэмзікаў», тэтралогіі «Пачакай, затрымайся...», «Люблю, хвалююся, жыву» і інш. Лаўрэатка Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1976). Нарадзілася ў 1922 годзе ў засценку Даманшчына (цяпер вёска Ліпнікі) на Случчыне. Жыве ў Мінску.

**Галубовіч Леанід** — паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары», «З гэтага свету», «Поўня». Лаўрэат прэміі «Залаты Апостраф» (2013). Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Глобус Адам (Адамчык Уладзімір)** — празаік, паэт, эсэіст, мастак, выдавец. Аўтар кніг паэзіі «Парк», «Скрыжаванне», кніг прозы «Адзінота на стадыёне», «Дамавікамерон», «Толькі не гавары маёй маме», «Post scriptum», «Браслаўская стыгмата», «Сшыткі», «Дом», «сУчаснікі», «PLAY.BY», «Зваротная перспектыва» і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Дзяржынску. Жыве ў Мінску.

**Далідовіч Генрых** — празаік, публіцыст. Аўтар кніг «Міг маладосці», «Дажджы над вёскай», «Цяпло на першацвет», «Міланькі», «Станаўленне», «Гаспадар-камень», «Пабуджаныя», «Кліч роднага звона» і інш. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Івана Мележа (1987), дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа (1996). Нарадзіўся ў 1946 годзе ў вёсцы Янкавічы на Стаўбцоўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Дранько-Майсюк Леанід** — паэт, празаік, эсэіст, перакладчык. Аўтар кніг «Вандроўнік», «Тут», «Над пляцам», «Акропаль», «Стомленасць Парыжам», «Гаспода», «Цацачная крама», «Анёлак і я», «Кніга для спадарыні Эл», «...Натуральны, як лінія небасхілу», «...Усе бачылі нястачу віна...», «Кветкавы край Беларусі» (разам з А. Клешчуком) і інш. Лаўрэат прэміі «Залаты Апостраф» (2005). Нарадзіўся ў 1957 годзе ў Давыд-Гарадку. Жыве ў Мінску.

**Казько Віктар** — празаік, публіцыст, кінасцэнарыст. Аўтар кніг прозы «Добры дзень і бывай», «Суд у Слабадзе», «Высакосны год», «Цвіце на Палессі груша», «Выратуй і памілуй нас, Чорны бусел», «Неруш», «Дзікае паляванне ліхалецця» і інш. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1982), прэміі «Залаты Апостраф» (2013), прэміі імя Ежы Гедройца (2014). Нарадзіўся ў 1940 годзе ў Калінкавічыах на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Клінаў Артур** — мастак, празаік, публіцыст, фатограф. Галоўны рэдактар часопіса «pARTisan». Аўтар фотаальбома «Горад СОНца», альбома «Дванаццаць», раманаў «Малая падарожная кніжка па Горадзе Сонца», «Шалом», «Шклатара». Нарадзіўся ў 1965 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Кустава Валерыя (Валярына)** – паэтка, сцэнарыстка, вядоўца аўтарскіх тэлепраграм. Аўтарка кніг «Кроў Сусвету», «Каб неба сагрэць...», «Тамсама». Лаўрэатка прэміі «Залаты апостраф» (2009), пераможца літаратурнага конкурсу «Экслібрыс» імя Р. Барадуліна (2015). Стыпендыятка міжнародных цэнтраў пісьменнікаў і перакладчыкаў у Швецыі, Нямеччыне, Латвіі. Пераможца конкурсаў журналістыкі «Твой стыль» і «Вольнае слова». Нарадзілася ў Мінску, дзе і жыве.

**Любецкі Павел** – паэт, матэматык-праграміст. Фіналіст конкурсу сучаснай паэзіі фонду Роберта Боша. Выпускнік Ліцэя БДУ. Нарадзіўся ў 1993 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Лянкевіч Уладзь** – паэт, перакладчык. Аўтар кнігі «70% вады». Фіналіст конкурсаў Беларускага ПЭН-Цэнтра імя Ф. Петраркі (2004), памяці К. Шэрмана (2009) і Ч. Мілаша (2011). Нарадзіўся ў 1987 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Малішэўскі Сяргей** – мастак. Выставы праходзілі ў ЗША, Галандыі, Швецыі, Літве, Італіі, Эстоніі, Расіі, Польшчы, Германіі ды інш. краінах. Быў чальцом аб'яднання мастакоў «Арцель». Нарадзіўся ў 1956 годзе ў Маскве. Памёр у 2020 годзе.

**Мароз Уладзімір** — празаік, паэт, публіцыст, сцэнарыст. Аўтар кніг «Голас», «Рэй», «Хутаранская зорка», «Беларускі храм» і інш. Аўтар сцэнарыяў больш як 60-ці дакументальных фільмаў. Фільм «Успаміны пра Міколу Равенскага» адзначаны Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь (1994). Нарадзіўся ў 1953 годзе ў Косаве на Берасцейшчыне. Жыве ў Мінску.

**Някляеў Уладзімір** – паэт, празаік, эсэіст. Аўтар кніг паэзіі «Адкрыццё», «Вынаходцы вятроў», «Наскрозь», «Прошча», «Так», «Лісты да Волі», «Знічы кахання» і інш., прозы «Цэнтр Еўропы», «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без» і інш. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы (2000), прэміі «Залаты Апостраф» (2008), прэміі імя Ежы Гедройца (2013), прэміі імя Наталлі Арсенневай (2017) і інш. Нарадзіўся ў 1946 годзе ў Смаргоні на Гарадзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Паўлавец Зміцер** – мовазнаўца. Аўтар публікацый пра моўную спадчыну Ф. Скарыны, пра граматыкі М. Сматрыцкага, І. Ужэвіча, пра ролю Б. Тарашкевіча і Я. Лёсіка, С. Некрашэвіча і В. Ластоўскага, І. Насовіча і А. Ельскага і пра іх унёсак у даследаванне беларускай мовы. Быў суаўтарам першага «Русско-белорусского словаря спортивных терминов», «Фалькорнага слоўніка Гомельшчыны». Нарадзіўся ў 1950 годзе на Піншчыне. Жыве ў Гомелі.

**Сіўчыкаў Уладзімір** – паэт, празаік, публіцыст, перакладчык, драматург, мастак. Аўтар кніг «Гульня ў тастамант», «Лісты да брата», «Высакосны год», «Бювар», «Уладзевы гісторыі», «Багоўка», а таксама альбомаў «Жодзінцы» і «Рыцары Пагоні і Арла» (сумесна з А. Марачкіным). Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Жодзіне. Жыве ў Мінску.

**Спрынчан Аксана** – паэтка, празаік. Аўтарка кніг «Вершы ад А.», «Хата для Моўчы», «ЖываЯ», «Смачная кніга» і інш. Пераможца конкурсу «Літаратура — дзецям» (2009). Нарадзілася ў 1973 годзе ў Лунінцы. Жыве ў Мінску.

**Хадановіч Андрэй** — паэт, перакладчык. Аўтар кніг паэзіі «Лісты з-пад коўдры», «Старыя вершы», «From Belarus with love», «Сто лі100ў на tut.by», «Бэрлібры», «Несымэтрычныя сны», «Нататкі таткі», «Цягнік Чыкага-Токіё» і інш. Перакладае з ангельскай, французскай, польскай, украінскай і інш. моваў. Лаўрэат прэміі «Залаты Апостраф» (2007), прэміі імя Карласа Шэрмана (2017). Нарадзіўся ў 1973 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Чаропка Вітаўт** – празаік. Аўтар гістарычнага рамана «Храм без бога», кніг «Імя ў летапісе», «Уладары Вялікага княства», «Гісторыя нашага імя», «Перамога ценю» і інш., артыкулаў па гісторыі Беларусі. Нарадзіўся ў 1961 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Эрнштрэйтс Валтс** (Valts Ernštreits) – латвійскі паэт, філолаг, актывіст ліўскага моўнага адраджэння. Заснавальнік Цэнтра ліўскай культуры. Вядзе даследчую прачу ў Тартускім універсітэце. Кавалер Ордэна св. Олафа, Ордэна Крыжа зямлі Марыі, Ордэна Льва Фінляндыі і інш. Нарадзіўся ў 1974 годзе.

**Эціс Кірылс** (Kirils Vilhelms Ēcis) – латвійскі паэт. Стваральнік літаратурнага часопіса «Ķīlis» («Клін»). Нарадзіўся ў 2000 годзе ў Рызе, дзе і жыве.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**

### Лаўрэаты літаратурнай прэміі «Залаты апостраф» — за лепшыя публікацыі ў часопісе «Дзеяслоў» у 2019 годзе:

***«Паэзія».*** **Вольга ГРОНСКАЯ. За нізку вершаў «заВершанае», №98.**

***«Проза».*** **Алена БРАВА. За апавяданне «Карыятыда ў маціцовых кліпсах», №102.**

***«Дэбют».*** **Кацярына ЯНЧЭЎСКАЯ. За нізку вершаў «Белае шматкроп'е», №101.**







**«Дзеяслоўцы» шчыра віншуюць новых лаўрэатак!**


Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры перадруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Анатоля Клешчука, Яўгена Коктыша, Уладзіміра Крука, Джона Кунстадтэра, Марыны Міклашэвіч, Сяргея Скібінскага, Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.